# Наталка Бабіна



## Шкельцы, шкельцы...

Мая жонка звар'яцела. Гучыць, як назва камэдыі, праўда? Але не да сьмеху мне было, калі гэта здарылася.

У адказ на пытаньне доктаркі: «Ну, бачыце, каго нарадзілі, мамаша?» — Яня прамармытала нешта кшталту «шкельцы, шкельцы...», выцягнулася і аціхла.

Прыгаломшаны, я сядзеў у паўцёмным калідоры й марна ўглядаўся ў напаўпразрыстыя дзьверы радзалі, ня ведаючы, радавацца мне ці баяцца, мацаючы ў кішэні скрыначку са смарагдавымі завушніцамі, якія, насуперак звычаю, купіў да родаў, каб падараваць жонцы адразу, як яна падорыць мне сына. І раптам мяне працяў востры страх — я сурочыў.

Неўзабаве выйшла доктарка і выразна, з дакладнымі доктарскімі інтанацыямі, патлумачыла,

---

**Наталка Бабіна**

нарадзілася ў Берасьці. Літаратарка, сталая аўтарка «Нашай Нівы». Радыкальная паляшучка. Маці траіх дзяцей.

што роды прайшлі без складанасьцяў, хлопчык нарадзіўся абсалютна здаровы, ягоны стан, як і фізычны стан парадзіхі, у норме. Адно што мая жонка згубіла прытомнасьць і вярнуць яе да змыслаў пакуль не ўдалося. Такое часам здараецца. Хваляваца ня трэба, жонку перавядуць у пасьляродавую палату, дзе да яе будзе прыстаўлены пост, а я змагу даведацца пра яе стан па тэлефоне. Заўтра можна будзе наведаць жонку, папярэдне патэлефанаваўшы.

Пакуль ехаў дадому, толькі дзякуючы звычцы тармазіў на чырвонае і павяртаў, дзе трэба. Перад вачыма былі ня вуліцы й сьветлафоры, а жудасныя падрабязнасьці гэтых родаў «без складанасьцяў» і малюпасенькі чырвоненькі сын. Чым бліжэй пад'яжджаў да дому, тым мацнела трывога. Паўлінка кінулася да мяне, ледзьве я выйшаў зь ліфту.

«У цябе брацік, Паўлінка, у мамы ўсё добра».

Яна паляцела да тэлефону распавесьці пра навіну бабулям-дзядулям, родзічам, сябрам і ўсім-усім.

Я набраў жончын мабільнік, ён маўчаў. Набраў нумар раддому. Мне стрымана адказалі, што пакуль зьменаў няма. Пасьля набраў нумар Ліды.

Потым наліў сабе трохі каньяку і пад шчасьлівае шчабятаньне Паўлінкі заплюшчыў вочы.

...Я знайшоў сабе жонку ў вёсцы. Маці ад гэтага шалела. Ад падкрэсьлена рацыяналістычных разважаньняў («Але мяркуй сам. Табе, з тваёй будучыняй...») яна перайшла да вульгарных гістэрык з крыкамі «Няўдзячная скаціна!» ды размазваньнем па шчаках сьлёзаў і шмінкі. Апошнім аргумэнтам было: «І каб я гэтай сучкі тут ня бачыла!». Яна цьвёрда спадзявалася, што,



пазбавіўшы жытла, верне свайго марнатраўнага сына. Але пра гэта ўжо не магло быць мовы.

Упершыню я пабачыў Яню пасьля дажджу. На зямлі яшчэ заставаліся нястойкія рэчышчы, пракладзеныя нястойкімі ж дажджавымі ручаінамі. Бутоны на язьміне набрынялі да апошняй магчымай кропкі і, здавалася, чакалі нейкай каманды, каб разам параскрывацца зь лёгкім храбусьценьнем. З-за гэтага куста язьміну якраз і вывернулася Яня.

Мне падалося, што я зачапіўся за яе позіркам, як чапляецца гачок за багавіньне. І ўжо ня мог адарваць вачэй.

Прыгожых жанчынаў вельмі няшмат. А ейная прыгажосьць была ідэальнай, бездакорнай, надзвычайнай. На Яні была кароткая крымпленавая сукенка, безумоўна модная гадоў дваццаць таму, калі яе й пашылі на кагосьці ў два разы шырэйшага станам за дзяўчыну. На нагах пляскалі разьбітыя мужчынскія басаножкі прыкладна аднаго веку з сукенкай, а на руках сядзела саплівае, да немагчымасьці запэцканае глінай дзіця. Здавалася, ад ейных загарэлых ног, растрапаных валасоў, твару ішло зьзяньне.

Яна стала маёй жонкай.

Пазьней мяне часам паколвала пачуцьцё віны: Яня магла б праславіцца сваёй прыгажосьцю на ўвесь сьвет. Я трымаў каганец пад сподам. Але ў вёсцы зьявіліся не прадстаўнікі мадэльнага бізнэсу з Парыжу, а студэнты зь Менску. Лёс, значыць, распарадзіўся так — супакойваў я сябе.

Стрыманая і маўклівая, нецікаўная, яна ніколі нічога не пыталася і трымалася халодна. Слова зь яе было ня выцягнуць. Ужо пазьней, увосень, калі я пачаў прыяжджаць кожныя выходныя, яна

часам разгаворвалася. Балбатала гадзінамі. Я ўжо ведаў, што яна з «тройкі» на «тройку» скончыла дзесяцігодку. Яе маналёгі не былі ані сьвецкімі, ані бліскучымі: аўталаўка прывезла чакаляду, а крупаў не прывезла; парася зваліла загародку; Юзіка пакусалі пчолы; Хавялючка з Маўручкай павадзіліся на сенажаці з-за дзялак; выбухнула грубка; бярозаўскія хлопцы пабіліся з-за Тані, а Таня ўцякла на матацыкле з гаршункоўскім Грышкам... Усё ейнае жыцьцё было як на далоні, але мне здавалася, што нешта таемнае праглядае зь яе вачэй.

Яня хацела за мяне замуж. А ейныя бацькі былі супраць. Дакладней, супраць не былі, але ня радаваліся. Ейны брат Віцька, бацька таго малога замурзача, зь якім я пабачыў Яню ўпершыню, вылезшы з-пад трактара, стукнуў мяне па сьпіне (павіншаваў) і спытаўся, дзе мы будзем жыць. Вядома, у Менску! Дый Ліда прапанавала мне ў карыстаньне сваю аднапакаёўку.

Вясельля не рабілі. Маці не даравала мэзальянсу і не прызнала такой нявесткі, а ў бацькі, ясная штука, не ставала духу пярэчыць. Бацькі Яні хацелі былі зрабіць вясельле ў вёсцы, але тут не пагадзіўся я. Яны не разумелі, як гэта так: безь вясельля, не пабачыцца са сватамі, але маўчалі. Сівым лістападаўскім днём мы вярнуліся з ЗАГСу ў Лідзіну кватэру на дванаццатым паверсе, дзе ў трубах гула вада, за сьценамі — вецер, а на кухні вольна гулялі прусакі.

Непрыгляднасьць зашмуляных сьценаў для нас была няўзнач. Так у першую ноч, і ў нашыя першыя дні, і месяцы, і гады...

Госпадзе Божа, як незаўважна прабеглі дзесяць гадоў! Цяпер, седзячы ў фатэлі, я шукаў



злом, якога, магчыма, не заўважыў недзе сярод гэтых незаўважных гадоў.

Ліда неяк сказала мне: «Ёлуп ты стары. Хіба ты ня бачыў, што яе нельга адтуль вывозіць? Прадукт не падлягае транспартаваньню. А зараз, — яна прыкурыла ад недапалка новую цыгарэту і зацягнулася, — зараз або давядзецца выкідаць сапсаваны прадукт, або спажывец, які яго пакаштуе, атруціцца».

Ліда заўсёды вызначалася душэўнасьцю, цынічнасьцю, вострым падбародзьдзем, магутнай душой і трапнаю мовай. Размова гэтая адбывалася тады, калі мы зь Лідай дайшлі да мяжы, за якой нашае доўгае, вернае, яшчэ са студэнцтва, сяброўства павінна было або зрабіць нас палюбоўнікамі, або скончыцца. Мы абралі першае.

...Паўлінка, зьзяючы, прыбегла са слухаўкай: на тым канцы дроту гарэлі жаданьнем павіншаваць мяне са спадкаемцам. Тэлефон не аціхаў увесь вечар.

З раніцы, адвезшы Паўлінку ў школу, я скіраваўся ў шпіталь. Доктарка прыняла мяне сур'ёзна: «На жаль, у вашай жонкі маюцца ўсе прыкметы псыхічнага захворваньня. Яна неадэкватна рэагавала, у яе распачалося сапраўднае буйства. Пры такіх сымптомах паказаная шпіталізацыя ў спэцыялізаванай установе. Нам давялося адвезьці яе ў Навінкі...» Яна зрабіла паўзу, каб даць мне магчымасьць запытацца, але паколькі я маўчаў, працягвала: «З хлопчыкам усё нармальна. На зайздрасьць здаровае дзіця. На працягу пяці дзён мы патрымаем яго ў нас, як гэта і прадугледжана дамовай. Калі спатрэбіцца, можам патрымаць да месяцу, але вам давядзецца дадаткова заплаціць. Наконт коштаў зьвярніцеся ў бухгальтэрыю».

У Навінках мне не дазволілі ўбачыць жонку і не зрабілі ніякіх прагнозаў. Доктарка, ня гледзячы ў вочы, абцякальна параіла прыехаць заўтра, а лепш — пазаўтра або пры канцы тыдня. Тады будзе відаць.

Я прыехаў на наступны дзень, хоць мог гэтага не рабіць. Пабачыць Яню мне дазволілі толькі праз тыдзень. Яна ляжала ў ложку, прывязаная рамянямі, і пуста глядзела ў столь. У палаце сьмярдзела. Пад расшпіленай казённай кашуляй у Яні праглядаліся бінты.

— Малако прыбыло, — патлумачыла доктарка ў адказ на мой запытальны позірк. — Пачаўся мастыт, давялося ўскрыць гнайнік. Мы зрабілі тугую перавязку, каб спыніць лактацыю.

— Хто вырашае пытаньне аб выпісцы?

— Загадчык аддзяленьня, але вашу жонку нельга выпісваць. Ня можа быць і мовы.

На працягу ўсёй маёй тырады загадчык аддзяленьня не ўзьнімаў вачэй ад стала. Гранічна адсутны чалавек, якому гранічна надакучыла кожны дзень чуць і гаварыць адно і тое. Ён толькі адмоўна пахітаў галавой. Яшчэ хвіліна — і, каб зьвярнуць на сябе ўвагу, я шпульну яму ў галаву... ну, хоць бы гэты стос тэчак.

Загадчык аддзяленьня ўважліва паглядзеў на тэчкі.

— Вы не разумееце, што вас чакае. Вашай жонцы патрэбна лячэньне і прафэсійны дагляд.

— Палатная доктарка сказала, што верагоднасьць адужаньня мізэрная. Дык пра якое лекаваньне вы гаворыце?

— Яна вар'ятка. Яе трэба паўстрымваць.

— Выпісвайце!



Яню выпісалі па загадзе галоўнага доктара клінікі. Яе везьлі на шпітальнай машыне, я ехаў сьпераду, паказваючы дарогу, і размаўляў праз мабільнік зь Лідай. Ліда ня выказала ніякіх эмоцыяў, толькі сказала, каб я не хваляваўся. Яна, Ліда, усё зробіць.

Калі Яню на насілках уносілі ў пад'езд, з таксоўкі выйшла сядзелка. Дома яна перш-наперш памыла рукі ды пераапранулася, а потым, адхіліўшы мае прапановы дапамагчы, узялася парадкаваць Яню.

Ліда знайшла сапраўдную прафэсіяналку. Пра гэта сьведчылі і габарыты, і каменны выраз твару. Сядзелка зьняла перавязку зь Яніных цыцак. Адна зь іх, вялікая, зь сінімі жылкамі, пырскала малаком, а другую, невялічкую, наўскасяк перакрэсьлівала агіднае шво. Хутка і зграбна сядзелка абмыла й пераапранула Яню. А калі тая раптам з крыкам ускінулася з ложка, перахапіла яе брывом не варухнуўшы, і трымала, пакуль тая не звалілася бязь сілаў. Потым жанчына прывязала Яню да ложку рамянямі, якія прынесла з сабой.

Цяпер трэ было бестэрмінова адпрасіцца з працы і забраць дадому хлопчыка.

Я быў настроены пры патрэбе наагул звольніцца, але ніяк не чакаў, што шэф — гэты скнара, які за рубель шашу носам прапора, а справай гонару лічыць хоць на даляр абдурыць кожнага кліента, — выйдзе з-за стала і працягне мне капэрту:

— Займайся, колькі будзе трэба. Дапамогу ў памеры месячнага заробку будзеш мець штомесяц. Трымайся, і віншую з сынам!

— Чаму вы не купілі дзіцячай сумесі? — спыталася сядзелка, калі я прынёс дадому скрутак

пялюшак і коўдрачак, у якім паварушваўся хлопчык.

— Бо яго будзе карміць мама.

— Вашай жонцы прызначаныя лекі. Яны пашкодзяць маленькаму.

— Мы ня будзем даваць ёй лекаў. Яня будзе карміць сына, пакуль будзе малако.

— Вы самі вар'ят, — сказала мне сядзелка. — Кармленьне цыцкай супрацьпаказанае пры псыхічным захворваньні. Вы мусіце зважаць на правілы.

— Я вас наймаў не для таго, каб вы крытыкавалі мае паводзіны.

Яна памаўчала.

— Мяне завуць пані Алімпія. Зараз я сцаджу малако вашай жонкі — пасьля лекаў гэта неабходна. Пакуль хлопчык сьпіць, паежце. Я згатавала амлет.

Пані Алімпія зьнікла.

Я сеў каля дзіцячага ложачка, узіраючыся ў маленькі тварык. Мой хлопчык, мае чатыры кілі вагі, ты пачынаеш сваё праўдзівае існаваньне, перавярнуўшы маё жыцьцё, а я нават ня ведаю, якія эпітэты прыдатныя, каб яго акрэсьліць. Я ня ведаю, як дапамагчы тваёй маме, і навобмацак, у цемры іду там, дзе можна насьмерць забіцца і пры поўным сьвятле. Але я іду, і ты, маленькі, дапаможаш мне... Бомкнуў званок. Вярнулася са школы Паўлінка.

* * *

Паступова жыцьцё ўвайшло ў каляіну. Пані Алімпія пераехала да нас. Я навучыўся спавіваць малога і выціскаць сок зь яблыка. А мая дзевяцігадовая Паўлінка зьдзіўляе мяне ўсё больш і больш: такой пяшчоты, такой сапраўднай любові да Даніка я ад яе і не чакаў. Яна лёгка супакойвае малога, калі ў мяне нічога не выходзіць. Прыемна глядзець, як Данік пасьміхаецца, махае ручкамі-ножкамі і ўсімі сіламі выказвае задавальненьне, калі Паўлінка падыходзіць да ягонага ложачка. Да маці Паўлінка не падыходзіць, ніколі пра яе не гаворыць, нават не набліжаецца да дзьвярэй пакою, дзе тая ляжыць, — абарончая рэакцыя на незразумелае, непераноснае для дзіцяці гора.

А Яня ў тым самым пер'і. Стабільна. Колькі разоў у яе былі гэтыя прыпадкі шаленства, калі яна некуды ірвецца, б'ецца, крычыць. Я з парога — пані Алімпія катэгарычна не падпускае мяне ў такія часы да жонкі — услухоўваюся ў яе трызьненьне, марна імкнуся адшукаць у ім сэнс. Рэшту часу яна абыякава, адстаронена, моўчкі сядзіць або ляжыць, і ейны погляд не скіраваны нікуды, а часам — быццам усярэдзіну, у сябе. У такія хвіліны я пачынаю спадзявацца, што яна ўсё ж адужае. Але такія моманты нячастыя.

* * *

А яшчэ я не магу есьці тое, што тут ядуць. Мы зь Віцькам, як былі малыя, чапляліся да бабулі: «Бабо, мы есьці хочам!» Яна, бывала, занятая, стомленая, са злосьці кідала: «Насяру вам у горла!» Дык і гэта было б смачней за тое, чым тут жывяцца і за што аддаюць грошы.

Яны тут мыюцца па тры разы на дзень ды пудраць дупы, а самі з бруду не вылазяць. Купкі сабачага ды чалавечага гаўна скрозь — такая сталіца. Плююць і ў модных ботах ходзяць па напляваным. Труны павапненыя. Як і гэтая Ліда.

Нядаўна я прысьніла бабулю. На нейкім зьзяючым вечаровым полі яна падышла да мяне і, пакланіўшыся, як нейкаму аграному, запыталася, ці пара ўжо жаць жыта. І працягнула мне тры каласкі. Нічога страшнага не было ў гэтым сьне, наадварот, твар бабулі быў такі чысты і лагодны, якім ніколі не бываў пры жыцьці, але сэрца маё закалацілася ад страху.

Калі б бабуля зь дзедам усталі, яны не пазналі б гэтага сьвету, бо нічога іхнага не засталося. Ня так гавораць, не такую ежу ядуць, надвор'е іншае, зямля адмянілася. Няма мяжы, дзе была мяжа; няма зімы, дзе была зіма. Няма хаты, няма царквы. Яны не зразумелі б, пра што гавораць, ніхто не зразумеў бы іх. Драты, машыны, людзі, якіх стала так многа, што немагчыма запамятаць іх імёны... Апошнія магікане — гэта яны. Мы — ужо чужынскага племені. Ня ведаем замоваў, насьмяяліся з прымхаў, а цяпер яны будуць сьмяяцца з нас, перастрэўшы ноччу на брукаванцы, пад старой яблыняй, дзе быў хутар ля балота...

Але што я тут раблю? Не адкрываю рота, не кірую сабой. Позіркі, якімі мяне акідваюць, драпаюць мне скуру. Навошта мне гэта? Навошта я друзьвею тут, а час хуценька-хуценька плыве з пальцаў, калюжыны яго перасыхаюць, пакідаючы спарахнелы пыл... Час паскараецца, і я не пасьпяваю за ім, падаю. І толькі выпіўшы тры чаркі, перастаю заўважаць, як круціцца зямля, а разам зь ёю — будаўнічы кран у акне. Я перастаю чуць агідную мэлёдыю гораду, але я забылася і на ціхую мэлёдыюісьляндзкага моху ды шчырага пяску, і хутка мяне пачынае ванітаваць...

Мой позірк затрымліваецца на негабляваных дошках плоту вакол новае будоўлі, на трэсачках і камячках бруду, і, пакуль тралейбус кружляе вакол плошчы, я адчуваю, як па чарзе адмаўляюцца слухацца сэрца, ныркі, вантробы, паддышша, лёгкія, цягліцы, ставы... Урэшце пачынае бунтавацца дзіця, варушыцца і варушыцца ў бруху, я чую ягоныя стогны — стогны істоты, якая ня можа выпрастацца, якую я нараджу невядома для чаго, невядома для каго... Апошняй мяне пакідае душа, і перш чым адысьці, яна жаліцца: «А гэтая Ліда? Яна так многа гаворыць, а я нават не магу адкрыць рота, бо не хачу, каб зь мяне сьмяяліся. А я ж намнога прыгажэйшая за яе!..»

* * *

Гуляючы з Данікам або падперазаўшыся хвартушком у кухні, ля піяніна з Паўлінкай або за кавай з пані Алімпіяй, я ўвесь час думаў пра Яню. Толькі цяпер, калі яе і чалавекам можна было назваць даволі ўмоўна, я зразумеў, што яна для мяне значыць. Праз нашу кватэру прайшлі тлумы псыхатэрапэўтаў, іглакалольнікаў, гамэапатаў, прафэсараў і дацэнтаў. Часта, калі ніхто ня бачыў, я падоўгу ўглядаўся ў абыякавы да неправанікліваcьці Янін твар. Ці хавалася там, за ім, у чырвонай цемры цела, незаўважная субстанцыя духу? Ці жыў ён таемна там, закуты хваробай, ці пакінуў яе? А калі жыў, што цяпер бачыла перад сабой мая жонка?

Ня ведаю, што мяне падштурхнула патэлефанаваць. Можа, тое, што ў паўсядзённасьці прынята называць «лёсам» або «богам», а можа, што іншае. Так ці інакш, я набраў 8-гудок-01522253143, і Віцькаў басісты голас адказаў «Слухаю!», а назаўтра швагер званіў у нашыя дзьверы.

Час ня быў літасьцівы і да Віцькі. Сам ён азызнуў, твар стаў шырокі, голас — глухі. Аднак, пачуўшы гэты голас, Яня павярнула на яго галаву, а такога не было ўжо многа месяцаў.

Цяпер я ведаю: калі розум вяртаецца да чалавека, гэта падобна да таго, як хмара спаўзае з сонца.

Віцька, заўважна хвалюючыся, зайшоў у пакой.

— Яня, глянь на мяне, — сказаў ён.

— Віцька.

І гэта было пачаткам выздараўленьня. Амаль адразу Яня папрасілася «дадому», у вёску, і квола ўсьміхнулася. Я не пасьпеў стрымаць Паўлінкі, якая зь енкам кінулася да маці і гучна заплакала. Упершыню за гэты час заплакала і Яня — а толькі што ж пасьміхалася, таксама ўперша... Мы пераглянуліся з Алімпіяй, і ў выразе ейнага твару я пабачыў... Пабачыў тое, што можна было пабачыць. Пасьля доўгіх дзён і бясконцых гадзінаў шаленства, калі жылы на лобе хворай напіналіся ад напругі так, што здавалася — лопнуць, пасьля тупой зацятай маўчанкі Яня зноў вярталася да нас. І самае дзіўнае — як імкліва гэта адбывалася.

Мяне яна таксама пазнала.

«Гэта добра, так і трэба», — нібы замову, паўтарала пані Алімпія.

Я павёў Віцьку вячэраць.

— Ясна, — шаптаў мне Віцька ў кухні, — ясна, яе трэба адвезьці да нас! Хата вялікая, — Віцька расчырванеўся і раз-пораз абціраўся сіняй насоўкай, заўважна радуючыся, што яна ў яго ёсьць, — хочаце — у нас жывіце, хочаце — у старых. Ясна, трэба ехаць, пра што мова! — ён ніяк ня мог вярнуцца да раўнавагі пасьля пабачанага і інстынктыўна намагаўся спрасьціць усё, каб дайсьці да ладу. — Вельмі проста! Пажывеце на сьвежым паветры, вясна ідзе, цёпла, сырадою пап'еце, карысна ж і ёй, і дзецям.

Я добра разумеў: насамрэч гэта ня вельмі проста і нават вельмі няпроста. Як мы перанясем гэтае дзікае жыцьцё з заўсёды бруднымі рукамі і празьмерным сонечным апраменьваньнем? Але быў пэўны, што ехаць трэба. Чаму быў пэўны? Ну, як сказаць... Хутчэй за ўсё, таму, што кахаў жонку.

Позна ноччу, калі ўсе, акрамя бяссоннай Алімпіі, спалі, я выйшаў з дому. Ледзьве не сказаў «з хаты», але пакуль што гэта не адпавядала праўдзе жыцьця. Гэтая самая праўда жыцьця пагнала мяне праз горад да Ліды — я мусіў прасіць прабачэньня. На зваротным шляху прыпыніўся на мосьце і выйшаў з машыны. Пад чорнай вадой, якая адблісквала начнымі агнямі, ня бачна было тоўстага слою мулу на дне, але ён там быў. Туды, у мул, да невынішчальных сьвіслацкіх рыбаў, жабаціньня і найпрасьцейшых, я кінуў спачатку адну, пасьля другую завушніцу са смарагдамі — шкельцы, тандэта, фэтыш, ня варты назвы. Туды ж паляцеў і футаральчык.

Я заводзіў машыну і пасьміхаўся, як дурань, уяўляючы сябе за стырном трактару.

Дома было ціха. Алімпія заснула, а Яня, выпрастаўшыся на ложку, ня спала — чакала мяне.

*Надрукавана ў «НН» № 19 у 2001 годзе.*

## Тацяна Янаўна і яе агава

— Як тэн час леці! — стагнаў мой польскі партнэр Марак. — Халера! Панове! Таньчымы на вулькане! — і, зашпіліўшы гузік марынаркі, запрашаў на танец каго з прадавачак.

Тацяна Янаўна пасьміхалася, гледзячы на ягоны зьбіты набок гальштук і чыста польскія абцасы.

У рэстарацыі на дваццаць другім паверсе гатэлю «Беларусь» мы адзначалі маё саракагодзьдзе. Я ведаў, што прадавачкі зьбіралі грошы мне на падарунак, і вырашыў замест звычных сабантуяў у задніх пакоях магазынчыкаў запрасіць усіх у гэтую рэстарацыю, якая так шыкоўна плыве над горадам. Тацяна Янаўна спачатку была адмовілася:

— Што вы, Юрачка, мне гэта ўжо не па гадах — у рэстараны хадзіць!

Але калі я падкрэсьліў, што хацеў бы бачыць яе абавязкова, прычым у якасьці сваёй дамы і гаспадыні вечару, пагадзілася. Пра жонку і не папыталася — пра мае праблемы з жонкай ведалі ўсе, хоць і ня ўсё. Зрэшты, што там ведаць. Сучка. Плятынавая сучка. Ідыётка. Быў час, калі на маіх грашах яна так увайшла ў сілу, аж аднойчы абвясьціла мне, што, маўляў, пакахала другога і сыходзіць да яго. Я па-сяброўску — разумееце, па-сяброўску — здушыў яе за шыю, трошкі падняў над падлогай і прыціснуў да сьцяны:

— Толькі дрыгні мне, толькі дрыгні! — сказаў я тады.

Яна абмачылася са страху, літаральна.

Я думаў, што дзеля дзяцей сям'я павінна захавацца. Мне цяжка апісаць тую агіду, якую зь цягам часу стала выклікаць жонка: яе расфарбаваная морда, пах, скура. Успаміны пра нашу фізычную блізкасьць правакавалі паўнавартасны прыступ ірвоты. У поўнай згодзе з законамі філязофіі мая агіда ад асобнага перайшла да агульнага: ірвотны рэфлекс пачалі выклікаць у мяне ўсе жанчыны. Усе, здавалася, былі падобныя да жонкі. Доўгі час я ня мог наняць на працу прадавачку ў новы магазын, хоць па аб'яве кожны дзень зьяўляўся тузін кандыдатак — сучак і ідыётак. Мяне ад іх перавяртала зь сярэдзіны — бліскучыя маечкі, дупкі, абцягнутыя джынсамі, распушчаныя валасы, распусныя манеры, абсалютна тупыя пысы й прагныя вочы. У аб'яве было пазначана, што батанічная адукацыя і досьвед працы з кветкамі абавязковыя, але ніводная не магла адказаць нават на самае просьценькае пытаньне, што тычылася догляду расьлін.

Тацяне Янаўне на той час, калі мы пазнаёміліся, было семдзесят восем гадоў. Адчыніліся дзьверы, і маленькая ссохлая старая, уся ў зморшчках, у хустачцы пад цыганку, у кедах і з кіёчкам, заявіла, што яна па аб'яве наконт працы.

Сеўшы, дастала зь невялічкага клуначка гаршчэчак з кволай расьлінкай, паставіла на стол і

паглядзела на мяне запытальна, як экзамэнатар на абітурыента.

Мы паразумеліся адразу ж.

— Вы прынятыя, — сказаў я. — Заўтра прыходзьце а дзявятай.

Яна кіўнула і паднялася, каб ісьці. Гаршчэчак забрала з сабой.

У гаршчэчку тым, бачыце, сядзела агава жоўта-бурая. Я чуў, што гэтая расьліна ў некага ў Менску ёсьць, але дасюль ня бачыў. Яна страшэнна рэдкая, бо мае адну дзіўную для сьвету расьлінаў якасьць. Звычайна, калі чалавек пачынае даглядаць дзікія расьліны, яны робяцца пышнейшымі, прыгажэйшымі і большымі, чым у прыродзе. Вядома, калі чалавек можа забясьпечыць ім патрэбныя ўмовы. А вось агава жоўта-бурая, у дзікім выглядзе абсалютна непатрабавальная, нават аскетычная, як і ўсе пустэльнікі, у гаршчку расьце зь вялікай неахвотай, як бы яе ні песьцілі. Гэтая непрэзэнтабэльная на выгляд агава ў калекцыі — сьведчаньне найвышэйшага кветкаводчага пілятажу, а таксама і нечага большага.

Хутка я на траціну падвысіў Тацяне Янаўне заробак: яна прадавала кветак многа, як ніхто. Я часта прыяжджаў у яе павільёнчык ля вакзалу. Мне падабалася назіраць, як старая гаворыць з пакупнікамі (якіх яна, падобна, бачыла навылёт), а калі нікога няма — завіхаецца каля расьлін, абразаючы сухія кончыкі пальмавых лістоў, зразаючы адцьвілыя галоўкі гардэніі, нашмароўваючы воскам магутныя лісты манстэры. Старая звычайна рабіла мне каву, і я бязьдзейна сядзеў з кубкам ля прылаўку; яна ж ні хвіліны не губляла ўпустую. Паступова мы зрабіліся сябрамі — побач зь ёй мая агіда да жанчын меншала.



Аднойчы я запытаўся: — Дык скуль жа ў вас агава жоўта-бурая, Тацяна Янаўна?

Яна пасьміхнулася.

— У саракавым годзе яе прыслалі ў наш батанічны сад па абмене з Мадрыду, а я якраз тады прыйшла працаваць у аддзел сукулентаў лябаранткай. Калі пачалася вайна і стала зразумела, што аранжарэі зімой ацяпляць немагчыма, супрацоўнікі разабралі па дамох найбольш каштоўныя экзэмпляры расьлін. Мне дасталася гэтая агава.

— Ого, дык яна такая доўгажыхарка? З саракавога году?

— Не, гэта ўжо прапраўнучка той гішпанкі, цьвіла чатыры разы.

У агаваў ёсьць яшчэ адна дзіўная асаблівасьць: кожная расьліна цьвіце толькі раз у жыцьці, даючы суквецьце сапраўды фантастычнай прыгажосьці, а пасьля памірае. Затое вакол памерлай маці зьяўляюцца маладзенькія атожылкі — дочкі.

Тацяна Янаўна падабалася мне з кожным днём усё больш. Але ведаў я пра яе зусім няшмат, калі запрашаў на свой дзень нараджэньня ў рэстарацыю, што плыве над Менскам. Яна зьявілася туды без традыцыйнай хустачкі — у чорным шаўковым касьцюме. Нагавіцы вельмі ёй пасавалі, як і модная стрыжка. Калі я знаёміў яе з Маракам, той замілавана пацалаваў Тацяне Янаўне ручку і запрасіў на вальс.

Мы з Маракам супрацоўнічаем ужо шмат гадоў, а сышліся на глебе непрызнаньня галяндзкай тэхналёгіі. Кветкі ў галяндцаў, канечне, адна ў адну, але праз гэта яны і прайграюць. Дзе тая адрабінка няправільнасьці, неідэальнасьці, сапсаванасьці, у якой і хаваецца душа кветкі, яе

сапраўднасьць? Ня думайце, што гэта рамантычная бязглузьдзіца: для майго бізнэсу гэта важная частка маркетынг-пляну. Я паставіў на сапраўднасьць і не прайграў, дазволю сабе крышку пахваліцца. Марак якраз прыехаў да мяне, каб дамовіцца пра павелічэньне пастаўак кветак зь яго гаспадаркі.

Пры канцы вечару я ўзяўся адвезьці маю даму дадому.

— А можа, крыху пакатаемся па горадзе, Тацяна Янаўна? Куды вас павезьці?

— Ведаеце што, Юрачка, — яна на імгненьне задумалася. — Калі так выйшла, давайце паедзьдзім па Старажоўцы — я тут не была даўно-даўно, а гэта ж маё дзяцінства.

Я завёў матор. Начны бязьлюдны горад праплываў за вокнамі машыны з сваімі агнямі — адданымі службе ліхтарамі, нэрвовымі рознакаляровымі шыльдамі, самотнымі асьветленымі вокнамі.

— А цяпер сюды, калі ласка, Юрачка, і прыпыніцеся. Вось тут стаяў наш дом. Так-так, здаецца, тут: насупраць інфэкцыйнай больніцы, а вось і плот парцалянавага заводу. Тут была яшчэ рэчка, праўда.

Яна трошкі памаўчала, аглядаючыся.

— Дзіўна гэта, вось так, праз столькі гадоў... На гэтым лужку мы пасьвілі карову.

— А ў вас і карова была?

— А як жа! Але яе забіла падчас першай бамбёжкі, і брата, які яе і пасьвіў, таксама. Вось там — бачыце? — расла яблыня, там ён і пахаваны.

—???

— А што ж вы зьдзіўляецеся, пачыналася вайна, кожны дзень бамбілі, шалёная неразьбярыха, а душна ж было... Тут і закапалі... Адсюль я хадзіла на работу — пехатой, напрасткі, праз Балотную станцыю, у Батанічны сад... Вы калісьці пыталіся пра маю агаву... У сорак трэцім годзе яна зацьвіла. Я так радавалася тады! Мне карцела паказваць яе ўсім. Я яшчэ кепска знала яе нораў. Наш сусед працаваў у «Беларускай газэце», дык сфатаграфаваў яе і мяне каля кветкі. Здымак зьмясьцілі ў газэце з тэкстоўкай: чароўная беларуская дзяўчына Таньця Катлярчэўская з чароўнай кветкай, якую яна сама выгадавала. А потым мяне арыштавалі за супрацоўніцтва з акупантамі: а як жа, маё фота было ў фашыстоўскім лістку! У лягеры я прабыла да пяцьдзясят трэцяга...

Я бачыў, што яна стараецца стрымацца ад сьлёз, і ўзяў яе худзенькую зморшчаную лапку ў свае рукі.

— Вы, Юрачка, рэдкі чалавек... — памаўчаўшы, яна працягвала.

— Зь лягеру я вярнулася з маленькай дачкой — так выйшла. Ляля нарадзілася за два гады да майго вызваленьня, і мне непраўдападобна пашанцавала, што я не страціла яе, — звычайна ж лягерных дзяцей адпраўлялі ў дзіцячыя дамы. А можа, і трэ было аддаць? Яна заўсёды была кволенькая, ня тое, што я, сяміжыльная. Можа, там яе лепш даглядалі б? Але не, і там дзеці, расказвалі, пухлі з голаду... І я, натуральна, ніколі больш яе не пабачыла б. А яна маленькая была такая пацешная... Не, не магла я яе аддаць. Але калі яна захварэла і дактары сказалі, што хвароба — ад такога дзяцінства і што больш за год яна не працягне, я вінавацiла сябе. Ёй ішоў дваццаць шосты. Перад яе сьмерцю агава зацьвіла, і, лежачы на

ложку, зьбітым з дошак, мая дачушка ў апошнія дні глядзела на яе чырвона-жоўтае суквецьце. А дачка яе, мая ўнучка, поўзала па падлозе...

Пакуль я была ў лягеры, памерлі мае бацькі, і суседка, якая жыла ў другой палове хаты, заняла і нашы пакоі. Яна, ясна, не пусьціла мяне, але аддала сякія-такія рэчы і агаву таксама. Мне ўдалося ўладкавацца на маторны завод, у ліцейку, нам далі закуток у бараку. Там мы і жылі. Ляля была такой ціхай, напалоханай... Працавала швачкай на «Камсамолцы». Ня ведаеце, што гэта? Цяпер «Мілавіца». Ня знаю, хто бацька яе дачкі, як у яе там адбылося, проста стала заўважаць, што Ляля стала яшчэ больш бледнай, яшчэ больш напалоханай, а потым аднойчы расплакалася і сказала, што ў яе будзе дзіця... А Гапка ўдалася ў мяне — жвавая, выжла проста. Яна стала спартоўкай, вядомай — Агрыпіна Крыжакова па мужу, чулі? Яна і тварам да мяне падобная, і ростам. Гэта яе касьцюм цяпер на мне. Ведаеце, Юрачка, — старая паглядзела ня мяне запытальна, і яе выцьвілыя вочы ненатуральна бліснулі ў цемры, — мы можам да яе заехаць, вы паглядзіце самі.

Я сумеўся: сьветлы змысл, падумалася мне, здрадзіў Тацяне Янаўне. Старэчыя правалы ў памяці? Я знаў з газэтаў, што біятляністка Крыжакова ня так даўно загінула ў аўтакатастрофе разам з сваім мужам.

— Паехалі ў другую больніцу, — спакойна прапанавала старая.

У больніцы яе ведалі. Дзяжурны на ўваходзе ветліва кіўнуў нам і падаў два халаты.

Скляпеністыя калідоры былога манастыра, аркі, таўшчэзныя сьцены, цьмянае начное сьвятло.

Агрыпіна Крыжакова ляжала ў асобнай палаце. Яна сапраўды была падобная да сваёй бабулі. Безжыцьцёвы твар. Вочы заплюшчаныя. Белая рука зь сінімі жылкамі. Вялізны жывот. Халодныя блікі на кафляных сценах. Але гэта не магіла.

Я прыгаломшана зіркаў то на маленькую старую ў чорным, то на яе белую-белую ўнучку.

— Калі пасьля аварыі я прыехала ў больніцу, Саша быў ужо мёртвы. А пра Гапу дактары сказалі: жыць ня будзе, траўмы несумяшчальныя з жыцьцём. Па сутнасьці, яна ўжо нежывая. Але ёсьць магчымасьць падтрымліваць у арганізьме жыцьцёвыя працэсы, пакуль не падгадуецца дзіця. Тады ёй зробяць кесарава. Тады мая ўнучка памрэ яшчэ раз. Але яе дачка, мая праўнучка, будзе жыць. Доктар, які да мяне выйшаў, сказаў, што рашэньне трэба прымаць неадкладна, — і я пагадзілася. І адразу ж пайшла наймацца на работу, бо дактарам давялося заплаціць амаль усё, што было ў Сашы з Гапай...

Усё ідзе нармальна, кажуць мне дактары, калі тут дарэчы такое слова. Засталося два тыдні. Але ведаеце што, Юрачка? — старая прыцішыла голас. — На агаве зьявіўся кветканос. Яна зьбіраецца зацьвісьці. Я так і не зразумела гэтай расьліны. Ведаю толькі, што яна цьвіла перад самымі страшнымі падзеямі ў маім жыцьці. Але што гэта было? Помсьціла яна мне за сваю няволю? Ці, наадварот, была ўдзячная за жыцьцё і папярэджвала, каб я рыхтавалася? Ня ведаю. Цьвіла перад тым, як мяне пасадзілі, перад сьмерцю Лялі, незадоўга перад аварыяй, а цяпер зусім маладая расьліна зноў зацьвітае... Яна вястуе мне сьмерць.

— Тацяна Янаўна...

— Не, Юрачка, ня трэба нічога казаць.

Старая падышла да ложка і ціхім, нязграбным рухам, старэчай ссохлай рукой пагладзіла па

шчацэ сваю Гапку — атожылак, які паміраў раней за мацярынскую расьліну, пупырышак, які, сьмерцю сьмерць зваяваўшы, веставаў жыцьцё — усё тое ж таямнічае, цудоўнае, невыноснае, аскомнае, тупое жыцьцё, якое, калі ўсё будзе нармальна, пачнецца праз два тыдні для праўнучкі Тацяны Янаўны Катлярчэўскай.

* * *

Старая сапраўды памерла. На яе дамавіну я паклаў зрэзаны кветканос агавы — зіхатлівы чырвона-жоўты прамень пад нізкім зімовым небам. Не стае мне яе. Не стае яе працы, яе спакойнага розуму, не стае яе на экране — звычайна яна была ў першых шэрагах фронтаўцаў-мітынгоўцаў і трапляла ў тэлевізійную карцінку.

Праўда, яе мова не памерла разам зь ёю: я ўвёў надбаўку за карыстаньне беларускай і цяпер мае прадавачкі дзекаюць як адна. Дарэчы, гэта, здаецца, пайшло на карысьць іміджу фірмы.

А дзяўчынку я ўзяў за дачку, выправіўшы ўсе неабходныя дакумэнты яшчэ пры жыцьці Тацяны Янаўны. Жонка ўсчала была вэрхал, і я яе напёр. Хай, блін, ідзе да свайго хахаля (уяўляю, як ён узрадуецца!). Агаву аднёс у Батанічны сад. Некалі мне хацелася мець яе ў сябе, я нават спадзяваўся, што старая падорыць мне атожылак на дзень нараджэньня, але пасьля ўсяго, што я цяпер ведаў... Ну яе. Падыходзіць кожны дзень з страхам да падваконьня і заглядаць у вазон... Хай лепш вяртаецца ў Батанічны сад, куды яе калісь прыслалі па абмене з Мадрыду.

*Надрукавана ў «НН» №39 у 2003 годзе.*



# Вольга Бабкова



## Крумкач і Франка

Штораніцы малая Франка хадзіла па сьвежыя булачкі на Койданаўскую. Ад яе двара на Нямізе да крамы сьляпога Мацея зусім недалёка, але Франка шторазу выбірала іншы кірунак, каб паблукаць па няміскіх лябірынтах, ці, наадварот, шыбавала напрасткі, абмінаючы вуглы ды выгбіны.

Найцікавей было вызначаць тую кропку на вуліцы, адкуль пачынаўся водар гарачага цеста. Кожнага разу ён адчуваўся крыху ў іншым месцы. То каля газавай крамкі Тамаша-пеюна, то ля крывой ліпы, што ўзбоч сядзібы Закрэўскіх, то адразу за зэдлікам халоднага шаўца, які вельмі рана раскладаецца са сваімі трантамі на скрыжаваньні трох вуліц. Шавец ніколі на адказвае на «дабрыдзень» — можа, ён проста глухі?

---

**Вольга Бабкова**

нарадзілася ў Менску. Літаратарка, працуе ў гістарычным архіве, дасьледуе старажытныя дакумэнты XVI ст. Сталая аўтарка «Нашай Нівы».

Яшчэ Франка любіць хадзіць паўз выгіны ў дамох. У іхнай прысені вільготна і халаднавата, як, напэўна, бывае ў мураваным калодзежы. Крокі гучаць гулка, а любы ўзгалос адбіваецца ад тынкаваных сьценаў чужым нутраным галасам. Дзіўная рэч, але ў гэтым змрачнаватым месцы скрозь брукоўку прабіліся дзьмухаўцы. Іхныя кветкі не такія вялізныя і яскравыя, як у Гарадзкім садзе, дый сьцяблінкі занадта даўгія і тонкія. Гэтыя дзьмухаўцы нагадваюць саму Франку. Такая ж яна кволенькая і худзенькая, з пушыстай бялявай грыўкай ды коскамі.

Франка жыве з бабуляй у каморцы на паддашку старой нямiскай камяніцы. Франка — сірата: маці памерла, толькі пасьпеўшы падараваць ёй жыцьцё, а бацька загінуў год таму ў вязьніцы, разам зь сябрам, дзядзькам Альгердам Рыжэвічам, так і не звадзіўшы сваю Франку на майскі кірмаш, каб паказаць там розныя дзівосы.

Дый не да забавак цяпер. Такі бядотны час ім выпаў, як кажа Франчына бабуля. Зрэшты, як каму. Увечары па вуліцах разьяжджаюць экіпажы, у Гарадзкім садзе гуляюць дарослыя дзеўкі і хлопцы. А тым часам у Бэрнардынах, на другім паверсе, жаўнеры вартуюць зьняволеных. Шмат іх і ў іншых менскіх вязьніцах. Яны паўсталі супраць цара, а цар аказаўся мацнейшы. Ён нават злавіў і забіў у Вільні самага галоўнага паўстанца. Так казалі... Хоць для Франкі самым галоўным быў татка. І Франка памятае, як было ёй добра разам зь ім. Вось і па булачкі яна ходзіць штодня таму, што так было за татам. Яна вярталася з лаўкі, а гарбата ўжо чакала на стале...

Цяпер гарбату запарвае бабуля, калі толькі пасьпявае ўправіцца да ранішняй імшы. Яна штодня цягнецца на Кальварыю, ажно за сем вёрстаў ад гораду — добра, калі хто падвязе. На Кальварыі добры ксёндз і зручны пагорак для апошняга прыстанку, да якога бабуля даўна прыглядаецца, нібы спадзеючыся прызвычаіцца. Там ціша і спакой, пагоркі і лугі навокал, а да Залатой Горкі, дзе таксама могілкі, вецер даносіць грукат і ляскат гораду.

Дзе сапраўды ціша, дык гэта на Нямізе зранку. Не з таго боку, дзе плюскоча пасьля дажджоў рэчка, а ў глыбіні двароў, дзе трэба задзіраць галаву, каб пабачыць, як бязгучна плывуць аблокі. Бывала, гарадзкі певень раней часу сьцягваў нецярплівай дзюбай празрыстую апону цішыні з крывых дахаў дый агаломшваў соннае наваколле хрыплаватым вітаньнем. І тады пачыналі рыпець драўляныя сходы і колы, бразгатаць замкі і клямкі, фыркаць коні, лопаць крыламі жаўнерскія порткі на вяроўцы ля шпіталю.

Франка мусіла сьпяшацца, бо калі бабуля сёньня ня пойдзе да Кальварыі, то абавязкова распавядзе гісторыю. Бабуля сапраўды засталася дома, бо дужа ламіла сярэдзіну. Яна мякка тупатала па рыпучых масьнічынах, і Франка думала, што старая падобная да дрэва, на якім вецер пакідае свае сьляды. Варта толькі ўгледзецца ў яе твар, рукі, паставу. «Адкуль, бабуля, бярэш моц так далёка хадзіць, мяне даглядаць?» — неаднойчы пыталася ўнучка, і тая заўжды ўсьміхалася ў адказ: «Кожнага ранку клічу да сябе ў госьці Сьпешку ды Ахвотку».

Пасьля сьняданку бабуля разгарнула Біблію ды пачала чытаць уголас, водзячы пальцам па радочках: «...Ной чакаў сорак дзён. Адчыніў акно зьверху каўчэгу, выпусьціў крумкача, вялікую

чорную птушку, назад крумкач не вярнуўся...» Франка разоў сто чула гэтую гісторыю і ўсе сто разоў думала пра крумкача. Ягонае невяртаньне, палёт у нікуды хваляваў яе і дужа захапляў. Яна думала не пра ягоную сьмерць, а, хутчэй, пра тую бязьмежную прастору, якая адкрылася яму і якую ён нёс на сваіх крылах.

Тым часам у дзьверы іхнай каморкі гучна пагрукалі. Франка кінулася адчыняць ды неўзабаве прывяла да бабулі ў кухню старога Хаіма Старыфурмана, суседа насупраць, аматара пагутарыць з разумнай пані ды падзяліцца апошнімі навінамі.

— Шаноўная пані Домна! Каб я так жыў рэшту свайго жыцьця! Навошта слухаеце сьляпога Мацея, а ня ходзіце ў кандытэрыю Фогеля на Зборавай? Ягонае цестка па апошніх варшаўскіх рэцэптах! З макам, цукатамі, цынамонам! А ягоны струдзель, а халы з цыбуляй! Смаката! Бо мой стары нос чуе дух Мацеевай лаўкі на вашай кухні.

— Ну дык у чым справа, Хаім? Сядай частуйся. А сьляпы Мацей нас ніколі ня крыўдзіць. Заўжды ўсё сьвежае прадае, а то й так дае, у памяць аб Якубе...

— Так, так, алаў ашалом, добры быў Якуб-чалавек... А ці чулі вы тое, што чуў сёньня я на рынку? У Менску — неспакой. Заўчора зноў выносілі агромністыя скрыні з кнігамі з Бэрнардынаў, усё ім месца мала. А ў той пакой ізноў хлопцаў напхалі што селядцоў, дый камісія там ужо засядае, усё судзіць ды радзіць, што зь імі рабіць. А шыбеніцаў, кажуць, за Ляхаўкай новых панарабілі, проста жах! І салдаты нышпарaць па месьце, як тыя ганчакі, усё некага вынюхваюць... Ды вы не палохайцеся так! Даруйце старому Хаіму за балбатню... Лепей паслухайце, што скажу: у нядзелю — кірмаш. Губэрнатар загадаў рыхтаваць пляц на Траецкай. Бачыў ужо сёньня: на мосьце мора вазоў з таварам. Усе туды пруць! Купцоў панаехала адусюль. Бо як жа — майскі кірмаш у Менску. А дзе фэст, там і я ест! А пані ці пойдзе?

— Мусіць, не, Хаіме, расхварэлася я нешта. А вось Франку пушчу — няхай на дзівосы кірмашовыя пагледзіць. Баюся толькі, каб чаго ня сталася зь ёй у такі час...

Франка з радасьці ўскочыла з нагамі на ложак і троху пагойсала па мяккай коўдры. Настрой вырас да нябёсаў.

А неўзабаве надышла й тая раніца.

Франка як звычайна выправілася з дому, але пайшла троху іншай дарогай, напрасткі да Верхняга гораду, мінаючы знаёмыя квартальчыкі. Нават халоднага шаўца пабачыла толькі здалёк. Хацела памахаць рукой, ды схамянулася й ледзь не засьмяялася: ён жа і зблізу сядзіць насупам ды, мусіць, і ня ведае, як тая Франка выглядае. Нарэшце цесныя дворыкі засталіся ззаду, і Франка ўвайшла ў цень велічнай маўклівай спаруды, ля якой стаяла вежа з гадзіньнікам і пачынаўся пляц з прыгожымі камяніцамі і храмамі. Калі перакрочыць яго нацяньکі, акурат трапіш на мост — пераход да Траецкай гары. Гадзіньнік паказваў сёмую раніцы, і горад ужо прачнуўся. Дахі былых касьцёлаў адкідвалі вострыя цені, і Франка з болем пазнала вежы Бэрнардынаў. Як можа яна радавацца сёньняшняму дню, калі ведае, што там чакаюць на сьмерць такія самыя, як яе тата, маладыя мужчыны, у якіх, мажліва, таксама ёсьць дома малыя Франкі?

Але натоўп людзей падхапіў яе на мосьце і вынес на Траецкую гару. Каля самае макаўкі тоўпіліся калёсы й экіпажы, а за імі на роўнай пляцоўцы стаялі сталы і крамкі, яткі ды шапікі. Шумлівы вір людзкога гоману толькі набіраў моцы і гнязьдзіўся пакуль уверсе, учапіўшыся за верхаліны старых дрэваў. Празь якую гадзіну ўсё зьмяшалася і перакулілася. Крыкі гандляроў і музыка, іржаньне спалоханых коней, звон бітага посуду, галёканьне натоўпу ўтварылі разам віхуру, якая падхапіла Франку, панесла кудысьці ўсярэдзіну, дзе мякка апусьціла, зачараваную, на лапік пустога бруку. І яна ўжо ня ведала, у якім баку Няміга, а ў якім Камароўскае балота.

Раптам Франка пачула праз гоман птушыныя крыкі і праціснулася ў той бок. Ля клеткі з крумкачом і папугаем стаяў хударлявы мужчына і паказваў такія чаканыя Франкай дзівосы. Папугай нема крычаў розныя словы, а крумкач моцнай дзюбай ахайна падымаў патрэбныя карткі зь лічбамі, калі хударлявы задаваў яму арытмэтычныя задачкі. Потым крумкач вітаўся і кукарэкаў, называў рыпучым голасам чалавечыя імёны і нават сьмяяўся. І Франка сьмяялася разам зь ім. Яна ўжо не адыходзіла ад гэтага месца — гэтак ёй спадабаўся хударлявы і ягоныя дасьведчаныя птушкі.

Франка не заўважала, як праз натоўп да яго час ад часу праціскаліся нейкія людзі, штось таемна перадавалі і хавалі ў скінутае да кучы рызьзё. Абудзіў яе жаночы лямант і стрэлы. На хударлявага накінуліся ўзброеныя салдаты. Франка не пасьпела духу перавесьці, як мужчына ўжо ляжаў на бруку, а салдаты выцягвалі з кучы рызьзя стрэльбы й пісталеты. Натоўп сышоўся, паглынаючы ахвяру з катамі, а ля ног Франкі засталася ляжаць перакуленая клетка з памятымі, расхрыстанымі птушкамі, ды парадругая пёрак, кружляючы, павольна апускалася на зямлю...

Дзяўчынка дрыготкімі рукамі паставіла перакуленую клетку і расчыніла дзьверкі. Яна раптам вырашыла, што салдаты могуць вярнуцца і забраць птушак. Агаломшаны папугай узьляцеў на блізкае дрэва і, учапіўшыся за сук, зьнерухомеў усёй паставай, утаропіўшы вочы ўніз на зыбучае мора галоў. Крумкач, зрабіўшы кола, рашуча ўзьняўся ў неба і зьнік з вачэй.

Франка панура вярталася на Нямігу. У яе трэсьліся рукі, а вочы нібыта развучыліся міргаць і тым больш штосьці бачыць. Дома было ціха і маркотна: бабуля, відаць, выправілася да Кальварыі. Францішка забралася пад коўдру і доўга ляжала амаль бяз руху. На вуліцы хутка сьцямнела. Сутоньне ў пакоі неўпрыкмет загусьцела, і рэчы страцілі свае абрысы. «Чаму няма бабулі?» — усхапілася Франка, але супакоіла сябе думкай, што тая магла застацца на ноч у Кальварыйскім прытулку. Давялося ўстаць, запаліць лямпу, ізноў сесьці на ложак, падціснуўшы калені. Цені варушыліся, і знаёмыя прадметы рабіліся зыбучымі, выцягваліся ўдоўжкі й ушыркі.

Пагляд упаў на жалезную скрынку на камодзе. Франка ведала, што ўсярэдзіне яе шчэ адна скрынка, а ў ёй іхныя галоўныя скарбы: тэстамэнт бабульчынага бацькі Вінцэнта Вайновіча ды залатая манэтка. На пачатку зжаўцелага пэргамэнтнага аркушу дробнымі літаркамі яе прадзед напісаў: «... і жэ ўсе рэчы на сьвеце створаныя нішчэюць і ку выкананьню прыходзяць. Ня

толькі зямля, але і ўвесь округ нябесны, сонца і месяц са ўсімі аздобамі сваімі зьнішчаюць і адмену меці мусяць...»

Дзіўныя словы... Якім быў яе прадзед? Тэстамэнт быў напісаны тады, калі Франкі не было на сьвеце, яшчэ доўга не было. А што адбывалася зь ёй у гэты час? Аднойчы яна прысьніла прадзеда. Яны доўга размаўлялі аб нечым. Прачнуўшыся тады, Франка распавяла сон бабулі: «Я бачыла твайго бацьку. Ты мне верыш? Гэта было ня тут, а на небе, яшчэ тады, калі нават ты не нарадзілася на сьвет...»

У тэстамэнце згадваўся Франчын тата, дзедаў унук Куба. Паводле тэстамэнту сям'я Вайновічаў мела двор на Юр'еўскай і аптэку «каля ратушы». На іхнай кухні да сёньня служаць некалькі шкляных квартаў і бутэлек нязвыклай формы сіняга і зялёнага колеру, а таксама медзяная ступка з таўкачыкам. Болей нічога няма. А галоўнае — няма цяпер і таткі.

Франка ўздыхнула, паклала ўсё на месца, згасіла сьвятло і заснула. Прачнулася ад шоргату падэшваў, глухіх галасоў, няёмкага пахекваньня ля іхных дзьвярэй... На парозе стаялі якіясьці людзі. Франка пазнала Хаіма Старыфурмана. Зь ім быў высокі мужчына ў доўгай чорнай вопратцы — ксёндз з Кальварыі, пра якога столькі добрага чула ад бабулі...

Усё, што адбывалася далей, нагадвала сон-багну, зь якога немажліва выкараскацца. Здранцьвелую ад пачутай горкай весткі Франку павезьлі за горад, туды, дзе сярод лесу, балот і лугоў стаяў стромкі кальварыйскі касьцёл. Бабулю пахавалі на тым самым пагорку, які яна запрыкмеціла. Адно, чаго ня ведала Франка, — ці пасьпела бабуля прызвычаіцца да свайго новага прыстанку. Потым яны сядзелі ў Кальварыйскім прытулку для ўбогіх, і ксёндз Лаўрыновіч угаворваў яе застацца тут назаўсёды. Франка хітала галавой і ніяк не магла расчапіць зьбялелыя пальцы.

Старыфурман павёз яе назад да пустога дому на Нямізе. Некалькі дзён Франка не выходзіла на двор. Ела леташнія сушаныя грушы і ссохлы хлеб. Яна засталася адна ў агромністым сьвеце, толькі пранізьлівыя скразьнякі гэтага дарэшты пустога сьвету праціналі яе наскрозь. На трэці дзень да яе прыляцеў крумкач.

* * *

Па мерках свайго племя крумкач быў яшчэ малады. Ад моманту, калі ён вылупіўся з плямістага зеленаватага яйка, мінула мо гадоў пяцьдзясят, і большую частку свайго жыцьця ён пражыў у месьце. Ягоная шматлікая радзіна дасюль гнязьдзілася ў гаі, што атачае Татарскае балота, і зрэдку ненадоўга залятала ў места. Крумкач жа, наадварот, любіў дух гораду.

Першым ягоным прытулкам быў дах старой ратушы, дзе ён меў вялікі схрон бліскучых рэчаў, якія дбайна засоўваў у шчыліны між дахоўкай. Тут былі шкельцы, манэткі, згубленыя ў бруку, ўпрыгожаньні, і цьвікі ад падковаў, гузікі. Вабіла яго гэтае месца і мажлівасьцю чуць музыку, якой часам струменіўся ўвесь будынак і якая выцякала праз вокны ды дахавыя акенцы вонкі, уздымаючы нават леташнюю лістоту, што кружляла вакол крумкача ў рытмах мазуркі й вальсу.

Але музыка ў ратушным тэатры гучала ўсё радзей, будынак усё часьцей заставаўся пустым, сам-насам пасярод шумнага пляцу. Менскаму

губэрнатару, відаць, надакучыла штодня бачыць з акна свайго кабінэту годную маўклівую паставу ратушы. І аднойчы да яе прывялі роту арыштантаў. Загучалі каманды, затрашчалі дошкі, пакаціліся камяні, зазьвінела шкло, перуном грымнула медзяная бляха, і крумкач паляцеў, нават не пасьпеўшы забраць свае бліскучыя скарбы. Такая музыка была яму недаспадобы.

Ужо ня першы раз пакідаў ён наседжанае месца. Гадоў дзесяць таму давялося ратавацца ад пажару, што ахапіў і зьнішчыў палову двароў на Францысканскай і Захар'еўскай. Ён нават бачыў таго апойка-фур'ера, які, шукаючы ў цемры манэты, што выкаціліся зь ягоных кішэняў, запаліў пук саломы. Вецер, які немаведама адкуль бярэцца на месцы пажару, разьнёс вогнішча па гарачых ад дзённай сьпякоты дахах, адтуль яно сыпалася і лілося на драўляныя хлявы і платы, лізнуўшы нават вялікі будынак Палаты дзяржаўнай маёмасьці.

Аднойчы, перацягваючы свае цацкі зь месца на месца, крумкач пачуў сьпевы з-пад даху вежы Бэрнардынаў. Мужчынскія галасы выцягвалі мэлёдыю, ад якой чорныя льсьняныя крумкачыныя пёры, здаецца, зіхацелі вясёлкай. У мужныя інтанацыі ўпляталася такая пяшчотная нота, што ўпару было згубіць сэрца. Сьпевы чуліся з закратаваных вокнаў былога кляштару. З таго дня крумкач часта сядзеў на яго даху.

Менавіта там і адбылося зь ім прыкрае здарэньне. Было ціха і сонечна. Павута, як улетку пух, заварожваючы і закалыхваючы, павольна плыла ў паветры. Крумкач павадзіў дзюбай і нібыта зьнік, праваліўшыся ў сон. А прачнуўся ад бляску ў вачох. На зямлі пад глыжаком штосьці прывабліва зіхацела. Ён нячутна зьляцеў уніз, згубіўшы на імгненьне пільнасьць, і тут жа з рэзкім ускрыкам пакаціўся па бруку. У яго пацэліў цапком нейкі дурнаваты стары, які, сам кульгаючы, пашкандыбаў да параненай птушкі.

Бездапаможны крумкач намагаўся абаперціся на дзюбу, каб узьняцца на лапы, але тая няўдала сасьлізгвала з пукатых камянёў. Стары набліжаўся, і намер ягоны быў відавочны. Раптам моцныя рукі падхапілі крумкача і, асьцярожна склаўшы ягоныя крылы, засунулі пад куртку — туды, дзе білася цёплае сэрца. Высокі хударлявы чалавек аднёс уратаваную птушку ў сваю камору ля Ігуменскай заставы, і яны пачалі жыць разам.

Хударлявы ня толькі лекаваў крумкача, але й навучаў яго ўсю зіму розным дзівацтвам. Крумкач быў цямкі, зь лёту паўтараў навуку за чалавекам. Заўважаў і таямніцу, якая жыла ў гэтай каморцы. Крумкач услухоўваўся ў нягучную гамонку сяброў хударлявага, калі яны сядзелі за сталом, чуў пах жалеза і пораху, калі хударлявы чысьціў уначы зброю. А аднойчы пачуў ад ягоных гасьцёў знаёмую песьню, якую пялі зьняволеныя ў бэрнардынскіх мурах. Усё было добра тут: і ежа, і навука, і вясёлая птушка-папугай побач, адно што не хапала неба, ягонага бяскрайняга абшару.

Пры канцы вясны хударлявы пасадзіў сваіх гадаванцаў у самаробную клетку і панёс у горад, у самую гурму жыхароў. Яны галёкалі, махалі рукамі, зазывалі, чаплялі за вопратку, гучна сьмяяліся. Выбраўшы месца, хударлявы распачаў прадстаўленьне. Крумкач спраўна цягаў карткі зь лічбамі, гукаў словы, махаў у такт жалейцы

крыламі. Папугай таксама завучана паўтараў сьмешныя фразы, і ўсё ішло як сьлед.

Сярод натоўпу крумкач заўважыў бялёхенькую галоўку з ружовай хустачкай на шыі. Дзяўчынка гадоў дзесяці заварожана глядзела на яго і радасна ўсьміхалася. Падыходзілі і адыходзілі дзядзькі і цёткі, зрэдку прабягалі дзеці, а дзяўчынка ўсё стаяла і глядзела на іхнае прадстаўленьне. Краем вока крумкач заўважаў і старых знаёмцаў хударлявага, што падыходзілі да яго і ўпотайкі хавалі нешта пад груду рызьзя. Крумкач ведаў, што яны хаваюць.

А далей адбылося зусім недарэчнае. Постаці ў мундзірах зьявіліся як з-пад зямлі. Ружэйны стрэл сыпануў угору сьціжмы вераб'ёў. Крумкач пабачыў толькі валтузьню, тупаценьне, цела хударлявага на зямлі і нерухомую дзяўчынку ў ружовай хусьцінцы з шырока расплюшчанымі вачыма.

Ад гвалтоўнага штуршку клетка звалілася з услончыка, і папугай з крумкачом, ляснуўшыся дзюбамі адзін аб аднаго, распласталіся ўскудлачаным камяком на драцяных прэнтах. Важданіна, усчатая колькі хвілінаў таму, патроху сьцішалася, але да птушак ніхто не падыходзіў. Ногі ў размаітым абутку шоргалі ўзбоч клеткі, уздымаючы ў паветра пыл і шалупіньне, а ратунку ўсё не было. Раптам клетка нерашуча варухнулася і стала на ранейшае месца. Тонкія пальчыкі разблыталі матузок на дзьверцы, і птушкі, губляючы пёркі, узьняліся ў паветра. Крумкач, зірнуўшы яшчэ раз уніз на натоўп, скіраваўся ў бок Верхняга гораду.

Пралятаючы над Сьвіслаччу, ён раптам згадаў, што раней бачыў тую дзяўчынку з кірмашу.



Яна калісьці шпацыравала па Койданаўскай у бок Нямігі, несучы ў кошыку гарачыя булачкі, а ён тым часам сядзеў на балясьніку ў прысені гарошкавага дрэва, чакаючы якой скарынкі ад памагатага сьляпога Мацея. Самотніка-крумкача прывабліваў дух сьвежасьпечанага хлеба, які, далятаючы разам зь ветрам да вежы, казытаў ягоныя прыкрытыя вусікамі ноздры, настройваў заўсёды на гераічны лад.

Ад падзеяў на кірмашы прайшло колькі часу, але ні хударлявага, ні дзяўчынкі крумкач ня бачыў. Камора на Ігуменскай заставе стаяла пустая, на даху гадзіньнікавай вежы пасяліліся іншыя птушкі, і крумкач вырашыў знайсьці дзяўчынку ў ружовай хустачцы.

Некалькі дзён запар ён лётаў уздоўжкі Нямігі, што нагадвала зьверху пярэстага цмока. Стракатыя дахі дыбіліся крывымі лініямі, расьсякаючы межы квартальчыкаў і ўнутраных двароў. На трэці дзень крумкач знайшоў дзяўчынку.

* * *

Франка адразу пазнала разумную птушку хударлявага і амаль не зьдзівілася. Проста ёй стала крыху цяплей. З таго часу крумкач штодня прылятаў да знаёмага дому. Спачатку ўладкаваўся на гаўбцы насупраць ейнага акна, зазіраючы за цёмнае шкло, потым перабраўся на цаглянае падваконьне. Франка адчыняла фортку, і крумкач часам сядаў на яе, разгойдваючы сваім цяжарам рыпучую аканіцу. З пакойчыка цягнула жытлом, але жытлом убогім, пакінутым... Ягонае зоркае пільнае вока разгледзела нават залатую манэтку, якую Франка часам даставала з жалезнай скрынкі.

На свае скарбы крумкач забыўся, неяк згубіў да іх цікавасьць. Палову лета яны з Франкай прабылі разам. Яна зноў пачала хадзіць па булачкі і потым з крумкачом (яна — за сталом, а ён — за шклом на падваконьні) сьнедаць. Бабуліны прыпасы скончаліся, грошы таксама, але Франка ня думала пра заўтра. Ёй дапамагаў стары Хаім, іншыя суседзі, а галоўнае — тут быў ейны дом, і яе штодня наведваў незвычайны сябра. Аднойчы яна паехала на Кальварыю да бабулі, і ён ужо чакаў яе там, а калі вярталася на вазку добрых людзей да Менску, пазнала яго ў небе над галавой і нават махнула хусьцінкай. Кальварыйскі ксёндз ізноў умаўляў Франку застацца ў прытулку, але яна адмовілася.

Аднаго разу крумкач бачыў праз шыбу, як да Франкі ў пакой завіталі незнаёмыя людзі. Пасьля дзяўчынка хадзіла смутная і плакала. Незнаёмцы прыходзілі яшчэ колькі разоў, а пасьля Франка зьнікла. Ён прылятаў, але фортка не адчынялася і за шклом была цямрэча.

Мінала рэшта лета. Франка не знаходзілася. Толькі пад сярэдзіну восені ён выпадкова сустрэў яе. Па Аляксандраўскай у бок Ракаўскага прадмесьця цягнуўся шэраг дзяўчат у правейных шарых палітончыках. Гэта былі выхаванкі прытулку для дзяцей-сіротаў. Сярод іх крумкач і згледзеў Франку. Сумная працэсія ціха ўлілася ў весьнічкі перад драўляным дамком з флігелем, які належаў Менскаму дабрачыннаму таварыству, і дзьверы нячутна зачыніліся. Крумкач пасяліўся побач.

Ягоным домам сталася старая ліпа насупраць будынку. Дом меў паддашак, але з дрэва лепш былі бачныя вокны, і час ад часу ў іх была відаць Франка. Вечарамі, калі ў пакоях запальвалі высока павешаныя газавыя лямпы, крумкач бачыў голыя сьцены, пафарбаваныя алейнай фарбай, зялёную кахляную печ, якая выходзіла топкай у пакой, кушэткі зь сеньнікамі. На ноч перад уваходам запальвалі ліхтар, у сьвятле якога ўбогасьць двара чароўным чынам ператваралася ва ўтульнасьць, нягегласьць — у прывабнасьць. І доўжылася гэта, пакуль на золку тутэйшы вадавоз не гасіў таго сьвятла.

Аднойчы крумкач заўважыў, што Франка затрымалася ў пакоі, калі астатнія дзяўчынкі выйшлі. Яна вынесла штосьці зь цёмнай глыбіні пакою да аконнага сьвятла і пачала разглядаць. Якой прыгожай яна зрабілася! Тым часам Франка разгарнула пэргамэнтны аркуш, пачала ўглядацца, ды раптам страпянулася, схавала яго ў жалезную скрыначку разам з манэткай, скокнула да печы і, прыўзьняўшыся на дыбачкі, паклала свой скарб у адтулінку за кафляй. Ледзьве пасьпела — у пакой увайшла кабета і злосным голасам паклікала Франку. Дзяўчынка доўга не заўважала крумкача, збольшага таму, што цяпер заўжды хадзіла ўнураная, мала глядзела па баках. Але аднойчы яна пазнала яго! З таго дня яе перасталі пазнаваць астатнія. Сьвет навокал памякчэў, і ягоныя куты ўжо не здаваліся такімі вострымі.

Ішоў час. Аднаго разу, пралятаючы над плянцам, дзе калісьці ён жыў на ратушы, крумкач заўважыў мітусьню і пэўныя зьмены. Вайсковы аркестар настройваў інструмэнты. Па дамах, дрэвах і слупах людзі разьвешвалі ліхтары, праз вокны нацягвалі транспаранты. Ля будынку губэрнскіх прысутных месцаў сярод лета пахла хвояй, сталі вазы зь яловымі галінкамі, зь якіх спрытныя

рукі сплятали гірлянды й тут жа, з дапамогай драбінаў, разьвешвалі па сьценах разам з рознакаляровымі сьцяжкамі. Такімі самымі гірляндамі былі спавітыя слупы на тратуары ля дому губэрнатара. Працай на пляцы кіраваў тузін жаўнераў, беганіна якіх зьверху нагадвала мурашыную мітусьню.

Крумкач вярнуўся да Франкі пад вечар і заўважыў ля ейнай кушэткі двух незнаёмцаў у мундзірах і кіраўнічку. Размова была даволі доўгай. Франку на штосьці намаўлялі, горача ўгаворвалі, пераконвалі. Тая спачатку нерухома сядзела на сваім ложку, потым адмоўна хітала галавой і ўрэшце расплакалася. Дзядзькі ў мундзірах спачатку разгубіліся, потым раззлаваліся, а кіраўнічка доўга крычала і махала рукамі над ніцай Франкай.

Крумкач пераляцеў зь ліпы на бэльку над ганкам, дзе мацуецца на ноч ліхтар, і стаў чакаць нязваных гасьцёў. Тыя неўзабаве выйшлі ў двор, спатнелыя й узбуджаныя. «Гэта ж трэба быць такой натурыстай!» — «Упорніца!» — «Стаіць пры слове і ўсё тут!» — «Але ж вашая праўда, Францішка Вайновіч — гожая як ніхто!»

З размовы крумкач дазнаўся прычыну Франчыных сьлёзаў. У месьце рыхтаваліся ўрачыста адсьвяткаваць каранацыю й тэзаімяніны імпэратара. Увесь цэнтар быў ахоплены падрыхтоўкай, але галоўная падзея мусіла адбыцца ўвечары ў гарадзкім тэатры. Са сталіцы імпэрыі ўжо везьлі незвычайных памераў партрэт цара ў залачонай раме, які мусіў быў стаяць на сцэне. Абапал жа яго, як увасабленьне чысьціні й прыгажосьці, арганізатары задумалі паставіць дзьвюх найпрыгажэйшых мясцовых сіротак у белых вопратках, зь вяночкамі на галовах. Яны мусілі нерухома стаяць, увасабляючы анёлаў-ахоўнікаў свайго імпэратара. Гэтую ролю і прапанавалі выканаць Францы людзі ў мундзірах. Але Франка была непахісная. Сьцішылася, змоўкла, на вачах стала мізарнець і ўрэшце расхварэлася. Жнівень яшчэ быў на сярэдзіне. Францы рабілася ўсё горай і горай. Крумкач страціў спакой. Ён ведаў, як баліць падбітае крыло ці парваная лапка, як цяжка лётаць, калі губляюцца пёры. Вось і Франка падавалася яму істотай, якая пакрысе згубіла ўсе пёркі і цяпер ня можа ўзьляцець.

Гадзінамі ён лётаў над горадам напярэймы ветру, робячы ўсё большыя колы. Кружляў над Пярэспай, гарой Пяценкай, потым ізноў вяртаўся да старых валоў, Верхняга гораду, Нямігі... Аднойчы, вярнуўшыся пасьля свайго лёту, убачыў карэту, якая кацілася ў бок гарадзкога шпіталю. Там ён згубіў Франчыны сьляды. Часта сядзеў ён цяпер проста на дрэвах, не хаваючыся ні ад залевы, ні ад вятрыскі.

І вось прыйшоў той дзень, калі ліхтары і шкалікі запаліліся на Саборнай плошчы, а гучная музыка вайсковага аркестру заліла зь бліскучых трубаў вуліцы Менску. Крумкач узьняўся і паляцеў.

Плошча нагадвала зіхоткае мора агнёў. Паміж імі рухаліся постаці гараджанаў. Два зырка асьветленыя вэнзэлі імпэратара гарэлі ў сярэднім акне Дому губэрнатара і насупраць, у будынку гарадзкой канцылярыі. Дзе-нідзе ў вокнах мігцелі запаленыя сьвечкі. Музыка чулася і з боку Гарадзкога саду.

Зьнянацку наляцеў вецер, нагнаў на горад студзянцоў, што гнязьдзіліся над Камароўкай, і ўсчалася залева. Гуляньне імгненна разьмялося

па кутох. Змрочны, мокры крумкач ляцеў туды, куды так не жадала ісьці Франка. Музыка з Гарадзкога саду раптоўна сьціхла, калі ён падляцеў да будынку тэатру.

З расчыненых вокнаў была бачная асьветленая заля, бітма набітая шыкоўнай публікай. Роўны гуд час ад часу выбухаў жаночым сьмехам, чуліся воклічы: «Слава! Слава! Ура!». Ім заўжды не стае Неба, падумаў Крумкач, залятаючы ў душную крыклівую залю.

Увесь чыста чорны, цяжка махаючы набраклымі крыламі, ён нізка- нізка, амаль над галовамі, пераляцеў усю залю, узьняўся ля сцэны вышэй і ўсьсеўся на залачонай раме агромністага партрэту. Запанавала цішыня. У адной зь дзяўчынак-анёлаў зваліўся з галавы вянок, гэтак яна задзёрла галаву ўгору. Мокры крумкач ня стаў чакаць спалоханых воклічаў, а сам выдаў рэзкім голасам: «Каррр-Каррр». Некалькі дамаў страцілі прытомнасьць, астатнія, спруцянелыя, не былі здольныя нават варухнуцца. Партрэт пад цяжарам птушкі зварухнуўся і пасьля гучна зваліўся плазам проста ў здранцьвелую залю...

* * *

Стаяла восень 2002 году. Звыкла білі званы на Нямізе, і звыкла гудзела вуліца. Адзінае, да чаго ня мог прызвычаіцца крумкач, — да занадта слабога гуку падземнай рэчкі. Праўда, ён усё яшчэ чуў яго, хоць быў вельмі стары. Чуў і нават памятаў, якая на смак няміская вада, калі яна вырываецца на волю і залівае вуліцу ўвесну, памятаў і смак булачак сьляпога Мацея. Крумкач даўно сядзеў на высачэзнай тапалі, пільна пазіраючы ўніз. Ён баяўся прапусьціць, ня ўбачыць...



Хлопцы з рыдлёўкамі і шуфлікамі поркаліся ў зямлі. Перабраная, чорная — яна капцамі атачала месца працы. Асобнай купкай ляжалі знойдзеныя рэчы: гліняныя і шкляныя аскепкі, рэшткі зялёнай кафлі, скуранога абутку, косткі хатняй жывёлы. Раптам хлопцы ўнізе ажывіліся, гурмою стоўпіліся вакол чарговай знаходкі, загаманілі. Хтосьці адзін ахайна счышчаў зямлю з адкапанай жалезнай скрынкі, баючыся пашкодзіць. Астатнія назіралі праз галовы. Крумкач пераляцеў на больш зручнае дрэва: толькі б не прапусьціць, убачыць... У скрынцы ляжала залатая манэтка і скрутак паперы. Манэта выклікала небывалы ўсплёск эмоцыяў. Папера ж, калі яе разгортвалі, рассыпалася ў руках...

Крумкач цяжка ўзмахнуў крыламі і паляцеў. Чым далей ад гораду, тым лягчэйшымі яны рабіліся... Яснота дня зьмянілася на цемрадзь ночы, і тады ён раптам страціў усе арыенціры. Зямля і нябёсы, ягоныя вечныя прыстанкі, — пераблыталіся і зьніклі. Сьвет быў такі бязьмежны, такі непадзельны...

*Надрукавана ў «НН» № 48 у 2002 годзе.*

# Зося Баброўнік



## Шэсьць цудаў Лунінца

Сябры мае ўсьміхаюцца: ты, Зосечка, заўсёды так пра Лунінец распавядаеш, нібы там пуп зямлі. А хіба ж ня так?! Тут ён, гэты пуп, недзе пад навакольнымі балотамі. Здаўна людзі марылі адшукаць яго і, як толькі на сьвеце зьявіліся магутныя машыны, адразу ўзяліся за справу. Панакапалі канаваў, каб тыя балоты асушыць ды зямлю за пупок памацаць, але, дзякаваць богу, пакуль ня здолелі. Але і без таго пупа ёсьць многа цікавага ў Лунінцы і ягоным наваколльлі, а я заўсёды радая пра гэта распавесьці.

### Астраномія і ружы

А зоркі ў Лунінцы вялізныя-вялізныя. Зь яблык кожная, і зьзяюць вельмі. Пад імі добра закаханым гуляць.

— Любая, калі зорачка падаць будзе, ты якое жаданьне загадаеш?

---

Гэтае густоўнае эсэ трапіла ў газэту з рэдакцыйнай поштай.



— Загадаю, каб іх як болей падала!

І месяцу добра між зорак каціцца. Ён — як вялікі ліхтар над горадам: асьвятляе вулачкі і завулкі, размалёўвае срэбрам лісьце на дрэвах, камяні старога бруку і траву ў дварах. Кожны яблык у траве — як маленькі срэбны месячык. А кроплі расы на ружах на плошчы — як маленькія зорачкі.

Гэтыя ружы — адзін з шасьці цудаў Лунінца. Яны квітнеюць тут кожнае лета, і іх хапае на ўсіх лунінецкіх дзяўчат. Калісьці ля кветак нават ставілі варту. Але ёсьць тая варта ці няма — усё адно атрымліваюць лунінчанкі цудоўныя букеты.

І я, вядома, атрымала ружу з кроплямі-зоркамі. І тое, чаго я не разумела ў студэнцкай аўдыторыі, зрабілася вельмі зразумелым тут. Добра сузіраць Млечны шлях з кубкам малака ў руцэ, разглядаць сузор’е Ганчакоў пад брэх калматага рудога сабакі.

А самыя вялікія астраномы — гэта каты. Яны ўзлазяць як мага вышэй — хто на плот, хто на дах, іншыя сядаюць на галіны, — і пачынаецца ў іх зорная «катфэрэнцыя».

### Феадосія

Паклаліся аднойчы Міхась зь дзецьмі спаць пасьля абеду, а мы з матуляй засталіся посуд мыць. Аж тут госьць прыйшоў нечакана. Бачу я: матуля адным вокам вельмі ўзрадавалася, а другім — так сабе. Бо частаваць госьця не было чым: мы ўсё пад’елі. Вось яна мне й кажа ціхенька:

— Ты, Зосечка, зь ім пасядзі, пагавары з паўгадзінкі, а я на гароды ды ў краму схаджу.

Ніколі я гэтага чалавека ня бачыла, а матуля не пасьпела расказаць, хто такі й пра што зь ім гаварыць. Селі мы на канапу і разглядаем адно аднаго вельмі прыхільна.

— Жонка мая ў Феадосію паехала, — кажа раптам госьць. — Я сёньня званіў у Феадосію! Па міжгорадзе! Не дазваніўся... Пайшла кудысьці... А Вы Насьціна дачка будзеце? ...Ага, нявестка...

Патроху высьветлілася, што ён, як і мой Міхась, працуе ў тутэйшым ліцэі. Вось і ламаю я галаву, што б такое ў яго пра ліцэй спытацца, каб ён сам надоўга разгаварыўся. Трэба ж ведаць, пра што пытаць.

Сама я толькі некаторыя словы ведаю. Напрыклад, «вучэбны плян». Ці «нагрузка». Яшчэ «прэміяльныя надбаўкі», «акадэмічная гадзіна»...

Склаўшы ўсё гэта разам, я пачала пытацца:

1) А які ў вас вучэбны плян?

Адказаў.

2) А якая асабіста ў Вас нагрузка?

Адказаў.

3) А ці ёсьць у ліцэі прэміяльныя надбаўкі?

Адказаў.

4) А колькі хвілін у Вас акадэмічная гадзіна?

Адказаў. І зноў маўчыць. Я зьбянтэжылася. А госьць:

— Я званіў сёньня ў Феадосію. Па міжгорадзе. Жонка мая туды да дачкі паехала. Не дазваніўся. З дачкой пайшлі кудысьці...

Тады я падышла да размовы крыху зь іншага боку. Цяпер мае пытаньні гучалі так:

1) Хто ў вас складае вучэбны плян?

2) Ці задавальняе Вас нагрузка?

3) Ад чаго залежаць прэміяльныя надбаўкі?



4) Якія перапынкі паміж акадэмічнымі гадзінамі?

Госьць радасна адказаў. А потым дадаў:

— Вы, я бачу, трошкі разумная жанчына. Ва ўсім разьбіраецеся.

Я ніколі такіх дзіўных словаў ня чула. Мяне заўсёды лічылі, у залежнасьці ад абставінаў, альбо поўнай дурніцай, альбо надзвычай разумнай бабай. А госьць сказаў:

— А вось мая жонка — у Феадосіі...

Ну, далей вы ведаеце.

Тут матуля прыйшла. Ежу прынесла. Я — да яе, кажу, давайце я прыгатую, а вы з госьцем пабудзеце, а то я ўжо ня ведаю, аб чым зь ім гаварыць. А маці:

— А я ж чула праз акно, як ішла, дык надта вы добра зь ім гутарыце, відаць, яму вельмі падабаецца. Давай гэтак яшчэ хвілінаў пятнаццаць, а я пакуль зьбяру на стол.

Наступны варыянт пытаньняў гучаў так:

1) Якія дадатковыя спэцкурсы ўваходзяць у вучэбны плян?

2) Ці не зьяўляецца такая нагрузка цяжкой для вучняў?

3) Колькі гадзінаў у тыдзень займаюцца ліцэісты?

Пра прэміяльныя надбаўкі я больш пытаць ня стала, бо заўважыла, што для госьця гэта наагул складанае пытаньне. А тут і матуля пачала на стол несьці. Госьць вельмі ўзрадаваўся. Ён — для матулі — распавёў ізноў пра Феадосію і міжгорад, а матуля растлумачыла, які наш госьць цудоўны чалавек:

— Ён жа даў нам каня бульбу пасадзіць, а што мы безь яго рабілі б?!

Выпілі за госьця. Паслухалі пра Феадосію. Выпілі за госьця.

За дзьве гадзіны я пасьпела трохі адпачыць ад ролі ветлівай гаспадыні й цікавай суразмоўніцы. Госьць аж зіхацеў. Ён добра падгуляў і быў ня супраць паўтарыць размову пра нагрузку і вучэбны плян. На шчасьце, са спальняў палезьлі дзеці, і я хуценька падсадзіла іх да госьця з абодвух бакоў, а сама ціхенька зьбегла, ня маючы больш моцы слухаць пра Феадосію. Матуля працягвала несьці на стол, але я ўжо была ёй не памочніца.

Зазірнуўшы гадзіны празь дзьве ў залю, убачыла поўную ідылію. Госьць, у якасьці баявога каня, поўзаў вакол стала з малым на карку і весела ржаў, а малая цягнула яго за цуглі, зробленыя з паяска і прывязаныя чамусьці за вушы.

...Вячэралі разам. Слухалі пра міжгорад і Феадосію. Калі госьць зазьбіраўся дахаты, маці, добрая душа, сказала:

— Пайду падвяду яго, каб нідзе не збадзяўся...

Ня бачыла я ніколі той Феадосіі і наўрад калі ўбачу. Але ўспаміны аб гэтым горадзе ў мяне ўжо ёсьць!

## Кінабізнэс

Прывезьлі ў Лунінец «Шляхціца Завальню». Убачыўшы на дзьвярах кінатэатру афішу, я падгаварыла Міхася й дзяцей пайсьці ў кіно ўсім разам. Я хацела забіць адразу двух зайцоў — разгледзець зь сярэдзіны тое, што дагэтуль бачыла толькі звонку, — кінатэатар, а таксама пабачыць экранізацыю ўлюбёнага твору.

Увечары мы прыбраліся і пайшлі ў кіно. На пляцоўцы ля кінатэатру гуляла басаногае дзіцянё і спаборнічалі ў сьпевах два каты. Непадалёк на лаўцы сядзелі дзьве кабеткі. Дзьверы былі зачыненыя.

— Мы першыя, — сказала я. — І, заўваж, апошнія.

— Пачакай, пачакай, яшчэ прыйдуць, — няўпэўнена супакойваў Міхась.

Кабеткі спыталі нас: «Вы на фільм? А вось калі пяць-шэсьць гледачоў набярэцца — тады адчынім!» — і радасна зарагаталі. Да іх далучылася яшчэ таварка, якая прынесла ім батон. Мы зразумелі, што гэта касірка, кінамэханік і, відавочна, адміністратарка.

Прайшло хвілін дзесяць — іншыя гледачы не зьяўляліся. Кабеткі далі нам параду — пайсьці лепей на плошчу Леніна, там якраз пачынаецца гарадзкое сьвята і падвезьлі прадукты. «Туды заўсёды пасьпеем!» — адказалі мы. Жанчынам вельмі хацелася на плошчу, але і нас нельга было пакінуць ля неадчыненых дзьвярэй («Яшчэ скардзіцца пойдуць...»).

І вось — дзіва!

Як яны ішлі! Не ішлі — павольна ляцелі да нас, як два анёлы, — гэтыя хлопец зь дзеўчынай. І з кожным іхным крокам усё больш выцягваліся твары касіркі, кінамэханіка і, відавочна, адміністраткі. Нас было ўжо чацьвёра! Нам нельга было не адчыніць!

— Які аншляг! — аптымістычна заўважыла дзяўчына, і мы зрабілі ля касы чаргу, далучыўшы да яе нашых дзяцей.

— Нас ажно шэсьць — давайце квіткі!

Але дасьведчаная касірка сказала, што рэшты ня мае. А калі мужчыны пайшлі ў краму разьменьваць грошы, увогуле ўзьнялася:

— Ня буду чатыром квіткі прадаваць (дзеці ня ў лік). Трэба пяць гледачоў, інакш невыгодна — сьвятла больш напалім.

А мы параіліся і кажам:

— Давайце пяць квіткоў — вось!

Як нас у кіназалю праводзілі! І дзьверы ў вэстыбюль урачыста адчынілі, і эскорт таксама быў: касірка, кінамэханік і, відавочна, адміністратарка.

Добра адпачылі... І фільм прыгожы, і дзецям было дзе пабегаць-пагуляць. І паветра ў залі вельмі шмат. Пасьля сэансу мы вырашылі, што кінабізнэс у Лунінцы — найлепшы ў сьвеце. Толькі да яго трэба падыход мець.

### Порна

Гэтае задавальненьне атрымаць зусім лёгка. Дастаткова сесьці на правым беразе Прыпяці ў сонечны дзень, узброіўшыся тэатральным, а яшчэ лепей — вайсковым біноклем. А глядзець трэба на левы бераг, што бліжэй да Лунінца. Пільнаму назіральніку пэўна пашанцуе, бо ахвотныя скокнуць у ваду галяком заўжды знойдуцца. Мясцовыя такім не займаюцца: усе ж адзін аднаго ведаюць, потым усё Палесьсе пальцамі паказваць будзе! Гэта прыежджыя параспранаюцца — і зь віскам у ваду. Якая ж тут эротыка? Порна сапраўднае!

### Шанхай

Мы сядзім ля вогнішча на левым беразе Прыпяці і з задавальненьнем пазіраем на шэрыя пасмы туману, што цягнуцца ад вады ў наш бок, — камароў уначы ня будзе. Нягледзячы на суботу, у Шанхаі вельмі ціха, толькі недзе ледзь чутна брынкае гітара. Шанхаем, патлумачу, тут ласкава называюць лецішчы, густа насыпаныя ля вады. Ня ведаю, чаму яны яшчэ не сплылі ў паводку.

Наш вагончык на колах стаіць далей ад вады, на лузе ля хутару. Адсюль мы бачым усё навокал. Вунь статак каровак, пераблытаны з туманам, павольна цягнецца да нас, вунь коні ў загоне вырашылі адзначыць каханьнем зьяўленьне першай зорачкі, вунь заяц, перапалоханы грукатам матацыклу, уцякае ў высокую траву. Рыпіць калодзеж-журавель пад спрытнымі рукамі гаспадыні. Тут, на хутары, толькі і жыхароў — дзед ды баба, гаспадарка ў іх добрая, ёсьць ўсё, што трэба: хата, хлявы пад стрэхамі з чароту, калодзеж і вялізны дуб, на якім начуюць гаспадарскія індыкі.

Хвілінаў сорак мы назіраем, як птушкі ўзьбіраюцца на дрэва. Спачатку самы вялікі індык ўзьлятае на ніжнюю галіну дуба. Крыху адпачыўшы, перабіраецца на наступную, а на ніжнюю ўжо цяжка плюхаецца ніжэйшы рангам родзіч — індык нумар два. Астатнія птушкі чакаюць сваёй чаргі, і ледзьве індык нумар адзін пералятае вышэй, а індык нумар два займае ягонае месца, трэці нумар апынаецца на ніжняй галіне. Усё ішло вельмі арганізавана і гладка, пакуль нумар першы ня зрынуўся раптоўна зь нейкай галінкі, пазьбіваўшы па дарозе ўсіх, хто ўжо ўзьлез на дрэва. І ўсё пачалося спачатку... Ужо амаль зусім сьцямнела, калі вялізныя птушкі канчаткова застылі паміж лісьця й галінаў.

Дабранач, Шанхай.

**Кароб'е**

Маршрут Шанхай — Кароб'е кожны пераадольвае згодна з асабістым густам і магчымасьцямі. Маеш човен — трапіш у вёску сухі. Маеш сілу — плыві цераз Прыпяць. Маеш час — вяртайся на Лунінецкі вакзал і чакай цягніка, а потым — празь лес, заліўныя лугі, чыгуначны мост, заліўныя лугі... І літаральна хвілін за пятнаццаць трапіш на станцыю Прыпяць. Адсюль шпацыруй назад да ракі.

Вёска завецца Кароб'е, бо раней хаты ў ёй плялі з галінаў, нібы карабы, а потым абмазвалі глінай. Цяпер дамы ў вёсцы драўляныя, а іхныя дахі даюць прытулак буслам. У вялікую паводку жыхары, як і сто гадоў таму, езьдзяць адзін да аднаго на сяло ў чаўнах.

...Мы сядзім ля вогнішча на правым беразе Прыпяці і дыхаем водарам траваў, які зрабіўся асабліва моцным пасьля навальніцы. З гадзіну Пярун грукатаў, кідаючы на спалоханую зямлю маланкі, ільючы дождж. Аж раптам ён зьнік — і запахлі цудоўна травы, і зьявілася ў небе вясёлка, ды якая! Пад ёю былі дзьве ейныя сястры, такія ж яскравыя, такія ж прыгожыя.

Неўзабаве да нас далучыліся буслы з дваімі ўжо даволі вялікімі бусьлянятамі. Яны паглядзелі ў наш бок, а потым пачалі танчыць: сталі ў кола, узьнялі крылы і то сыходзіліся разам, то разыходзіліся, прыгожа перабіраючы тонкімі чырвонымі нагамі...

Зьявіліся на небе першыя зорачкі, падаліся буслы на свой родны дах, трэба й нам пасоўвацца дахаты, карміць дзетак ды прыблуднага вожыка, які вельмі ласы на малако.

*Надрукавана ў «НН» № 15 у 2002 годзе.*



# Тацяна Барысік



## Каханьне ў нашым кусьце

### Жадаю вам

Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Вашу праграму слухаю даўно, а вось напісаць адважылася ўпершыню. Сучасная моладзь часта скардзіцца на адсутнасьць матэрыяльнага дабрабыту й шчасьця ў асабістым жыцьці. А я вам вось што скажу: кожны сам гаспадар сваёй долі.

Ужо дваццаць пяць гадоў жыве ў вёсцы Вялікія Пацукі цудоўная сям'я — Вера Сямёнаўна і Сьцяпан Данілавіч Казулічы. У гэтых людзей можна шмат чаму павучыцца: жыцьцёвай стойкасьці, непераможнаму аптымізму, каханьню, пранесенаму праз гады цяжкіх вы-

---

**Тацяна Барысік**

нарадзілася ў Магілёве. Мае спэцыяльнасьць сацыяльнага пэдагога, працуе ў «Водаканале». Сталая аўтарка «Нашай Нівы». Піша вершы і прозу. Уладальніца адмысловага пранізьлівага аўтарскага слыху.

прабаваньняў. А найперш — здольнасьці будаваць уласны лёс.

Ужо на што лахудрай урадзілася Вера Сямёнаўна — ні тварам, ні розумам, ногі самыя крывыя ў сельсавеце, — а вось жа сустрэла на сваім шляху другую палавінку. Сьцяпан Данілавіч застаўся ў вёсцы пасьля вольнага пасяленьня. За прыкладныя паводзіны атрымаў датэрміновае вызваленьне. Працавіты, чулы, уважлівы чалавек. Калі бывае цьвярозы, з ахвотай корпаецца ў градах, ходзіць у калгас на палявыя работы. Жонка завіхаецца па гаспадарцы. Да баптыстаў прыладзілася, зрэдчас наведвае малітоўны дом, адтуль цягне гуманітарныя транты. Так што купляць адзежу ў краме ня трэба.

У сям'і пяцёра дзетак. Хоць грашовая дапамога на іх невялікая, але ўсё ж такі капейчына ў дом. Двое старэйшых ужо пайшлі на свой хлеб. Вова адседзеў тры гады. Цяпер ляжыць у абласной псыхбольніцы — інваліднасьць зрабіць сабе хоча. Марынка, матульчына радасьць і надзея, робіць на БАМе цялятніцай. Грошы плацяць рэдка й мала, затое штодня мае торбу камбікорму. Замуж сабралася, у чацьверты раз. Малодшыя — Наста, Сярожа і Андрэйка — ходзяць у школу. Там іх бясплатна кормяць двойчы на дзень як малазабясьпечаных. Бацькі з малых не нацешацца. Вучацца дзеткі абы-як, але здаровенькія і апэтыт добры.

У сям'і пануе каханьне, узаемаразуменьне ды згода. А калі нават паб'юцца ці нажамі паржжуцца — з кім не бывае? Дык ужо назаўтра пахмеляцца, паміруцца й шпацыруюць па вуліцы ў абдымачку.

Маці, бацька й меншыя дзеці разам у будні й сьвяты. У дзень палучкі ўпяцёх ідуць у кантору. Потым — у краму па віно й цукеркі.



Здараецца, хтосьці зь вяскоўцаў запросіць Казулічаў жаць жыта, капаць картоплю. Вера Сямёнаўна абавязкова бярэ з сабой дзяцей, каб змалку да працы прывыкалі. Бацькі робяць, малыя побач бегаюць. Пасьля гаспадыня кліча на бяседу.

— Цёця сёньня ўсіх частуе! — радасна абвяшчае маці.

Наста, Сярожа і Андрэйка навыперадкі бягуць да стала. Спрытныя, халеры, пасьпяваюць ня толькі наесьціся ўволю, але й тое-сёе з хаты вынесьці.

— Ну й дзеці ў цябе, Вера, не ўкорміць! — шчыра дзівіцца гаспадыня, выпраўляючы Казулічаў дадому. Нехта з гасьцей цішком прамаўляе:

— Бач ты, п'юць, б'юцца, зімой пад плотам валяюцца, дзеці расхрыстаныя й мурзатыя. І ніякая трасца не бярэ гэтых недаробкаў!

Добра, што не бярэ. Сам Бог ахоўвае іх сямейнае шчасьце й здаровейка. Бо менавіта на такіх людзях і трымаецца вёска.

Дарагія Вера Сямёнаўна й Сьцяпан Данілавіч, жадаю вам жыць доўга-доўга, дачакацца паболей унукаў і праўнукаў. А ў якасьці музычнага падарунка папрашу ўключыць у праграму песьню Ларысы Долінай пра пагоду ў нашай хаце.

### Тэлегісторыя

Каханьне, мае даражэнькія, — рэч сур'ёзная. Гэта вам ня сьмешачкі. Праз нешчасьлівае каханьне некаторыя нават вар'яцеюць ці сьпіваюцца. Зрэшты, вар'яцтва Тамары не пагражала. Яна й так была, як кажуць, пыльным мехам пацопаная. Жыла сабе спакойна ў вёсцы Камен-

цы, усё адно якога раёну. У кожным раёне ёсьць свая Каменка. А ў кожнай вялікай вёсцы — дзеўчына з дыягназам, ад родных брата й сястры народжаная. Але ня кожная дуркаватая мела такую прыбытковую працу, як Томка. Цётка ўладзіла яе пасудамыйкай у гарадзкую больніцу. Заробкі, на вясковыя меркі, неблагія. Уга — паўтары стаўкі ды дваццаць пяць адсоткаў прэміі! Да таго ж на кухні заўсёды можна пад'есьці, што таксама важна. Асабліва для Томы, якая з маленства ела як не ў сябе, і цяперака ўкарміць дачку для маці было вялікай праблемай.

Кожную раніцу Тамара, апранутая ў сінія спартовыя штаны, белую кашулю (а ў сьвяты — з гальштукам-матыльком), сядала ў аўтобус і ехала на любімую працу. Увечары вярталася з батонам, катлетамі й двухлітровай бутэлькай кампоту.

Дома клалася на канапу, спажывала булку ці яшчэ што там з работы прывезла, глядзела тэлевізар. Аднойчы, пераключаючы каналы ў сваёй скрынцы, натрапіла на праграму абласнога тэлебачаньня. І тут на блакітным экране Томка ўпершыню ўбачыла Яе — вядучую віншавальнай праграмы Вольгу П. Убачыла й закахалася. Як прозьвішча вядучай? А вам навошта? Таксама закахацца хочаце? Ды ў яе й так ужо тузін вар'ятаў закаханы. А Вользе ад гэтага ня горача не халодна: работа ў чалавека такая.

Для Тамары ж прагляд «Сьвята ў вашым доме» стаў сэнсам жыцьця. За два месяцы яна вывучыла прыпевы ўсіх песень. Зрабіць гэта нават разумова адсталай было нескладана: песьні перадавалі з дня ў дзень адны й тыя. Насамрэч, што можа быць лепей, чым ляжаць на канапе, спажываць дармавы батон, слухаць гарадзкую музыку й пазіраць на сваю каханую.

Пасьля пачаліся тэлефанаваньні на тэлебачаньне, лісты з процьмай артаграфічных памылак. Толькі вядучая размаўляць не жадала, на лісты не адказвала. Тады Тома вырашыла даслаць ёй падарунак. Але як? У райцэнтры на карпункце абласнога тэлебачаньня пасылку чамусьці не прынялі. Давялося самой каробку мармэляды зьесьці.

Тым часам у Каменку прыслалі маладых настаўніц. Томка пазнаёмілася зь імі ў аўтобусе, напрасілася ў госьці. А як даведалася, што адна зь дзяўчат — з абласнога цэнтру, пачала прыходзіць штодня. Распытвала, ці прыгожы будынак студыі тэлебачаньня, ці ня бачылі яны Вольгу П., прасіла перадаць падарунак. Дзяўчаты сумавалі ў вёсцы. У першыя часы Томчына балбатня іх забаўляла. Да таго ж Тамара прыносіла з сабою магнітафон. А за гэта, пагадзіцеся, можна шмат прабачыць. У госьці заходзілі хлопцы з закускай і выпіўкай, перападала й Томачцы.

Пакрысе сьветлы вобраз вядучай адыходзіў на другі плян. Тома рэгулярна дасьцёбвалася да настаўніц, а адной зь іх нават прапанавала стварыць сям'ю, але тая праз сваю маладосьць і легкадумнасьць прапановы не ацаніла.

Неўзабаве дзяўчаты зьехалі з Каменкі, так і не перадаўшы пасылкі Вользе П.

За гэты час Тома прызвычаілася цягацца па хатах і кампаставаць людзям глузды расповедамі аб няспраўджаным шчасьці. Асаблівым стымулам для шчырага плявузганьня стала выпітая чарка.

Толькі цяпер ужо ніхто не налівае. У калгасе не плацілі заробку, маці вытрасала з кішэняў

астатнія рублі. Грошай на гарэлку ды новы падарунак для Вольгі не ставала. Вар'яцець далей ужо няма куды. Сыпіцца празь нешчасьлівае каханьне ніякай магчымасьці. Гора.

### Пра любоў і «Дружбу»

За трыма лясамі, за трыма ўзгоркамі й трыма канавамі на ўскрайку невялічкай вёсачкі жыў чалавек. І была ў яго карова зь мянушкай Малюта. Чалавек вельмі любіў сваю карову й ганарыўся ёю. Як жа — такая тлустая, гладкая, рабая! А малака давала на зайздрасьць суседзям — аж па пятнаццаць літраў у дзень!

Штораніцы гаспадар навязваў Малюту на паплоўчыку, штовечар размочваў у даёнцы бохан хлеба. Купляў крадзены камбікорм ажно ў саміх Асіповічах! Карацей, насіўся з сваёй кароваю як дурань зь пісанаю торбай і быў шчасьлівы сваім клопатам. Малюта аддзячвала шчодра: спраўна даілася, паслухмяна скубла траўку, не рабіла ў хляве ніякае шкоды.

Ні раней, ні пазьней мне не даводзілася бачыць такой любасьці й паразуменьня паміж чалавекам і жывёлінай. Сапраўднае ўзаемнае каханьне — моцнае, выпрабаванае часам, вольнае ад усялякай рэўнасьці. Але ў гэтыя чыстыя ўзаемаадносіны дваіх нечакана ўмяшаўся трэці.

І не абы-хто, а вядомы ў раёне чалавек — старшыня калгасу. Ён загадаў разараць паплоўчык. Цяпер гаспадару не было дзе пасьвіць рабенькую Малюту.

Сьветлай верасьнёвай ранічкай карова пакорліва выйшла з хлява ўсьлед за гаспадаром. Падымаючыся ў кузаў грузавіка, яна прадчувала



нядобрае, зь вялікіх вільготных вачэй жывёлы беглі сьлёзы...

Каханьне, як звычайна, скончылася здрадай, продажам другой палавінкі дзеля ўласнага спакою. Гаспадар здаў Малюту на мяса, а на атрыманыя грошы купіў бэнзапілу «Дружба», рэч у гаспадарцы патрэбную.

А вы што, чакалі нечага іншага?

*Надрукавана ў «НН» № 6 у 2004 годзе.*

## Навіна тыдня

І надышоў вечар. І сьцішыў ліпкі пры вуліцы, і цукровачкі ў садзе сьцішыў. Нават занядбаныя сьліўнякі, смароднікі пачалі здавацца гушчарамі ад прыцемку гэтага. Засыналі калодзежы, засыналі хаты жылыя і кінутыя. Толькі цётцы Любе ня спалася. Кульгаючы, яна сунулася кудысь па вясковай вуліцы. Спынілася ў задуменьні, нагу хворую пачухала. От, халера ясная, млее, хоць ты што хочаш! Каб не нага гэтая, штодня ў грыбы лётала б, свайго не ўпусьціла б. А як жа інакш — маладая, спрытная баба, шчэ толькі сем гадоў на пэнсіі, ніхто ў вёсцы зь ёй не зраўнуецца. Ды няма беднай тутака разгону. Яшчэ гадкоў пяць таму штовечар шпацыравала па вуліцы, па гасьцёх швэндалася. І пад'ясі, і пагамоніш, усё выведаеш: у каго кура здохла, хто колькі гуркоў выбраў, якія госьці на кірмаш прыяжджалі. А цяперака сумна. Паўміралі, папазьяжджалі. Тыднямі не чуваць нічога. Хіба што хуткую хто выкліча, дык і тое размоваў на паўгоду. Зьвяліся людзі, зьвяліся й навіны.



Але сёньняшняя навіна хоць куды! Гады ў рады такое надарыцца. Мо да Савончыкавых забегчы, пакуль спаць не паўлягаліся?

Прайшлася Любка яшчэ трохі, зноў нагу пачухала, здаля на вокны свае цёмныя зірнула.

«Ат, чорт яго бяры, не ўцячэ хата», — вырашыла цётка і рушыла да Савончыкавай хаты. Адчыніўшы дзьверы ў сенцах, угледзела ўкручаную ў кабат старую Савончыху, засакатала з парогу:

— Ці чулі вы дзіва?

— Якое, Любачка? — шчырая зацікаўленасьць у голасе межавала зь неспакоем, з-пад стракатае хусткі дапытліва глядзелі на госьцю вочы. Баба баялася прапусьціць хоць слова.

— Ета ж сёньня прыйшоў з поля віхор, — працягвала Любка. — Падняў Васілёў стажок саломы, расьцерушыў паўсюль, а плёнку з грузікамі, каторую стажок накрывалі, на два шматкі парваў і на правады кінуў. Во як!

— Віхор ды Васілёву салому раскідаў? — для пэўнасьці перапытала Савончыха ў чаканьні новых падрабязнасьцяў.

— Ага, і раскідаў за якую мінуту. А Васіль з жонкаю сядзелі на лаўцы і на еты цуд глядзелі.

— А што ты зробіш, галубка мая, рады не дасі.

— Вось дык на табе! У нас жа на двары фіранкі сохлі і не зварухнулася ні адна, — падаў голас з-за грубкі стары Савончык.

— А ад чаго ж гэта можа быць, га? — не супынялася Любка.

— Розьніца ў атмасфэрных цісках, — патлумачыў Савончык, былы настаўнік фізыкі.

Змрок за акном гусьцеў, але тэлевізара не ўключалі, размова не спынялася, навіна каштавала таго.

— Можа, вы і правільна кажаце пра ціск еты. Толькі калі ў той віхор нож кінуць, дык кроў зьявіцца, бо ведзьма!

— Я такое па відзіку бачыў! — далучыўся да дарослай гамонкі Савончыкаў унук.

— Раз у кіно паказвалі, значыць, нешта такое было! —узрадавалася нечаканай падтрымцы Любка.

Пытаньне бабы Савончыхі раптоўна прымусіла сьціхнуць усіх:

— А на нашым кладзьбішчы сьвежыя магілы е?

— А як жа, Хведаркову цешчу хавалі, каторая ў горадзе жыла, — першая знайшлася з адказам Любка.

— Ну дык вось, — павучальна прамовіла Савончыха, — усю восень і зіму нябожчык спакойна ў зямлі ляжыць. А вясною і ўлетку зь яго фосфар выходзіць. Круціцца белы слуп, а ўнутры агеньчыкі бліскаюць. Убачыш такое — стой на месцы і ня дыхай, бо прыйдзе да цябе і задушыць. Я, як у школе рабіла, аднаго разу бачыла...

— Ей-богу, з кладзьбішча! — Любіны вочы аж заблішчэлі: трэба будзе запомніць, каб канцавым дачнікам пераказаць, — ім такое спадабаецца.

Дужа карцела пра што дазнацца ці хоць бы наконт націрак параіцца, але гадзіньнік паказваў палову на адзінаццатую — далей гуляць не было як.

— Ну, то я пайду. Позна ўжо.

Добрай ночы, — па-хуткаму разьвіталася Любка і пакіравалася да дзьвярэй.

Бразнула клямка. Начная цемра пагрозьліва дыхнула ў твар. Зорак не відаць. Цішыня наўкола, хоць задавіся. «Белы слуп круціцца, а ўнутры яго агеньчыкі бліскаюць», — прыгадаліся Любе бабіны словы. За тры хаты ісьці, а могілкі ж зусім побач. Страшна! Словы замоў перамяшаліся з мацернымі. Бедная цётка басаног бегла дахаты, кленучы па дарозе і сябе, і Васілёву салому, і сваё позьняе гасьцяваньне. Паздаравеўшы ад сполаху, забылася ня толькі на хваробу ў назе, а і на тапці ў Савончыкавых сенцах.

Адгарэў яшчэ адзін дзень у адміраючай вёсцы. Недзе далёка-далёка, за самым небакраем, у паралельным сьвеце незьлічоную колькасьць разоў запускалі касьмічныя спадарожнікі ды працягвалі змагацца з тэрарызмам.

*Надрукавана ў «НН» № 5 у 2005 годзе.*

## «Усю жызьню узьніца»

22 чэрвеня 2003 году, пятая гадзіна раніцы. На гаўбцы шматпавярховіка стаіць паўнаваты дзядзька і галёкае на ўвесь двор:

— Вайна! Вайна!

З вокнаў высоўваюцца заспаныя спалоханыя суседзі. Убачыўшы такую зацікаўленасьць, дзядзька на хвіліну сьціхае і, набраўшы паветра ў грудзі, працягвае яшчэ гучней:

— 62 гады таму пачалася вайна!

Гэткім чынам псыхічна хворы інвалід па мянушцы Кампутар вось ужо два гады запар нагадвае сваім сучасьнікам аб векапомным дні ў гісторыі Бацькаўшчыны.

60 гадоў, як няма вайны, а беларуская прымаўка «Хай тое немцу» ніяк ня зьнікне з ужытку.

Летам 1992 году магілёўскія дзеці разам з выхавальнікамі выехалі на аздараўленьне ў Нямеччыну. Падчас адпачынку вырашылі зладзіць канцэрт. Адзін хлопчык вызваўся чытаць верш, запэўніўшы, што верш вучылі ў школе і ён добра яго памятае.

Выйшаў на сцэну. Выкананьне сапраўды было нічога сабе, але тэматыку твору для вечарыны



хлопец падабраў няўдала. На ўсю глядзельную залю загучалі палымяныя радкі, прысьвечаныя барацьбе з фашысцкімі акупантамі.

Дзьве бабулькі, што ня дужа ладзілі міжсобку, выпадкова зайшлі да суседкі ў адзін і той час. У адной зь іх унучка выйшла замуж у Нямеччыну. Ну, тая і хваліцца суседцы:

— Вой, добра ўладзілася мая ўнучка! І дом у яе вялікі, і вучыцца яна там, і машыну сама водзіць. І муж у яе харошы, і сьвякрова харошая...

— А ўсё адно фашысты! — не стрывала хвальбы непрыяцелька. ваўся на матчыну пэнсію. А калі старая памерла, давялося парабкаваць на падворках пэнсіянэраў. У вайну маці была вязьнем канцлягеру. Прыйшлі маркі. Брат запатрабава ў палову:

— Гаварыць буду ўсё, пра што памятаю, толькі вы не пра ўсё пішыце, — папярэджвае вэтэран карэспандэнта раёнкі.

60 гадоў страху?

У другой палове 80-х напярэдадн і чарговага 9 Траўня наведалі прадстаўнікі мясцовай улады вясковага вэтэрана і пытаюць:

— Якую вам патрэбна аказаць дапамогу?

— Нічога мне ня трэба. Толькі вазок гною, агарод засеяць.

— Гэтага мы ня можам.

— Ну, калі ўжо гаўна даць ня можаце, то й няма пра што гаварыць.

— Ета і нашая матка. Мы каня купілі.

Другая палова засталася Геню. Цяпер можна было не працаваць на пэнсіянэраў. Ён і не працаваў, увогуле амаль нікуды не выходзіў. Здаралася, наймаў машыну, каб езьдзіць у мястэчка па гарэлку і піва. Піць самагон цяпер ён лічыў

ніжэй свайго гонару. Найчасьцей купляў разьведзены сьпірт. У апошнія свае дні піў, не ўстаючы з ложка. Так і памёр, стаўшыся апошняю ахвярай вайны.

— Ета узьніца — канешне, узьніца, усю жызьню узьніца, замужам за паліцаем! — камэнтуе пажылая настаўніца знаёмае прозьвішча ў сьпісе вязьняў, дасланым у школу.

«Ніхто не забыты, нішто не забыта», — гавораць па тэлебачаньні.

«Усе забыты, усё забыта», — не згаджаецца вэтэран.

8 траўня 2002 году ў адным зь сельсаветаў на поўдні Магілёўшчыны арганізавал і сьвята ў гонар Дня Перамог і. Шмат хто пасьля афіцыйнай часткі баляваў за сталом. Дзябнуўшы, па хатах паразыходзіліся. Забыліся тольк і на вэтэранаў з далёкіх вёсак. Давялося гаротнікам зьдзейсьніць пераход даўжын ёй у 5—8 кілямэтраў.

У другой палове 80-х напярэдадн і чарговага 9 Траўня наведалі прадстаўнікі мясцовай улады вясковага вэтэрана і пытаюць:

— Якую вам патрэбна аказаць дапамогу?

— Нічога мне ня трэба. Толькі вазок гною, агарод засеяць.

— Гэтага мы ня можам.

— Ну, калі ўжо гаўна даць ня можаце, то й няма пра што гаварыць.

Гаварыць буду ўсё, пра што памятаю, толькі вы не пра ўсё пішыце

*Надрукавана ў НН № 12 у 2005 годзе*



Марыя
Вайцяшонак



## Мы з аднаго поля

Прадчуваньне радавога гнязда, вёскі Грыдзек, нарастае навальніцай: бунтуецца кроў, зь дзікай сілай пераплятае ногі крутабярозка, мышыны гарошак — клубамі аж да паясьніцы, як у маленстве, калі мяне засьпела бура ў полі. І цяпер, успамінаючы, няможна адрозьніць, ці гэта кветкі, трава вакол былі пасінелі ад хмары, ці гэта акрайчык навальніцы агаркам быў зваліўся на зямлю. Але ніколі не ўспамінаюцца грымоты ці по-

---

**Марыя Вайцяшонак**

нарадзілася ў Змяінагорску Алтайскага краю ў сям'і высланага з Беларусі польскага асадніка. Выхоўвалася ў дзіцячых дамах. Завочна вучылася ў Беларускім дзяржаўным універсітэце на філалагічным факультэце,працуючы прадзільшчыцай на Менскім камвольным камбінаце. Пасьля заканчэньня працавала ў вясковых школах, выхавацелькай дзіцячага сада ў Менску, журналісткай у «Сельской газете», часопісах «Неман», «Беларусь», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Сталая аўтарка Нашай Нівы.

шум ветру — навальніца ў полі ідзе звычайна пехатой, сапучы, сьціхаюць нават конікі — гучней за ўсё шуміць кроў увушшу. Прадчуваньне радавога гнязда нарастае плёскатам халодных ручаёў, спрадвечным пытаньнем: а ці разьлілíся? а ці сышлі? Пільнуешся, бо трэ будзе пераходзіць, скінуўшы абутак, вада са скрылямі лёду, ногі чырвонымі дракамі на сьнезе.

Сьляды маленства сьвецяцца і ў цемры, мы ходзім па іх, зьлізваючы сьлёзы, усё жыцьцё.

Збочваю з гасьцінца, іду напрасткі.

— Куды ідзеш? — пытаецца, сустрэўшыся, малады мужчына зь сякерай — пэўна, вяртаецца з далёкага лесу.

— Дамоў! — адгукнулася з тае скрухі, што век бадзяешся па чужым завугольлі, з тае весялосьці й палёгкі, што першы раз магу сказаць гэтае слова ўзапраўду — дамоў!

Ён стаіць, ня можа даўмецца: калі ў Соўкі, дык трэба па гасьцінцы, калі ў Ваўкі, дык налева, а я паказваю ў чыстае поле, анідзе ні дамоў, ні агнёў. Ён зусім малады, ён ня ведае, што вунь там, на пагорку, дом стаяў. Цяпер нават камяні з падмурку сьцягнулі ў лагчыну. Ужо я сама не намацаю зарослага ганку, дзьвярэй, прайду празь сьцены, як у даўнім сваім сьне: у хаце прыбрана сьвежай рукой, сьвятло ня з вокнаў і не ад лямпы, усё праменіцца само на сябе, кароткім сьвятлом, як старое асінавае дрэва ў цемры. Раптам заўважаю рабую котку на ўслоне, добра памятаецца, што ў доме ўжо даўно анікога — хрышчуся на абразы, але прывіды не зьнікаюць. І поўны катух праораслай бульбы ля парогу, юлёвыя храсткі аж да столі... Сон ня гасьне, набывае новую рэальнасьць — тая праорослая бульба потым рупіць увесь час. Мне ў горадзе сьніцца нашае неўзаранае поле, асот з малачаем, як павучыньне. І наранiцу пачуцьцё невытлумачальнага разладу, няўпраўкі. Калі ўдалося гэтак моцна заснавацца, жыла ж у вёсцы ўсяго некалькі гадоў? Па сьлядах маленства лячу, лезу цераз плот і... узьбіваюся на адкінутую дагары шылаватым зубаўём барану босай нагой. Дзядзька Стах запрагае каня, якраз сабраўся баранаваць, кладзе мне лейцы ў рукі, каб ня плакала. Конь лёгка ходзіць, хто хоч патрапіць ззаду за ім. Лейцы слабка ў руках, перабіраеш, як аснову, седзячы за матчынымі кроснамі, пасма да пасмы, ззаду цябе пільнуюцца птушкі, уплятаючыся ў малюнак. Пах разгорнутай, паручай зямлі казыча храпы і каню, і чалавеку, яго чуе, пэўна, і праорослая бульба ў катуху, дыхаеш, амаль усхліпваючы, і не ад болю — умомант загойваецца балючая пята. Не заўважаеш, як дзядзька Стах даганяе, лагодна адымае лейцы: «Досыць, — кажа, — табе досыць», — каб не захлынулася. Ён ведае сілу духаў зямлі.

Вымурзаўшыся, прыняўшы сялянскае прычасьце, як той казаў, ляту ў лазьню. І толькі распранаешся: «Выходзь! Выходзь! Воўк ідзе!» — і ўсе, хто мыецца, і дзеўкі, і дзеці (акрамя старых, ім, маўляў, ужо анічога не зашкодзіць) — усе вон! Бо ў дзьвярах стаіць баба, у яе наход[1] на бялізьне, яна павінна ўвайсьці ў пустую лазьню, каб анікога голага, інакш перакінецца табе ейнае кругамі, рабаціньнем на твар. Высьлізгваеш на холад прылазьніка, саступаючы дарогу сталай бабе. І зноў трэба выходзіць: прыйшла Глікера. Нядаўна скінула, не хацела дзіцяці, наўмысьля

[1] месячныя (паўн.-зах.)

скочыла з высокага возу. Аж прысела да зямлі, казалі бабы, казалі сьцішана, не перамываючы дужа ейнага парожняга, грэшнага цела. Злосная Глікера, і ня з нашай вёскі прыйшла замуж. Урачыста разьмінаемся за ёй у парозе, і ніхто ані слова дакору, ані касога вока на яе. Сталыя жанчыны баранілі нас, малых дзяўчат, і ад зьнявагі, грэблівасьці, пагарды грэшным чалавекам, ня тое што... Пэўна, улада цемры над ейнай душою ўжо і ёсьць прысуд. Толькі потым прыціскаеш блізка да сябе ўсё жыцьцё адну таямнічую навуку: «крыві не павідна быць відна».

Лазьня, Чысты Чацьвер, Вялікдзень, прыбраная хата — прывіды ўнутранага сьвету. Сьветла ад тонкага палатна ручнікоў, настольнікаў, як ад плашчаніцы. І вызваленьне рук, рухі павольныя: доўга, не сьпяшаючыся, выціраць талерку, церніцу, здымаць парушынкі, каб аж блішчала, і раптам пачуць з вуліцы: «Сонца грае! глядзіце, людцы, сонца грае!» На сёньня ўся работа парobленая, нават хату месьці нявольле[2]. І ўсё, што нацярушылася за сьвяточны дзень, ужо не прыбіраецца і не замінае воку, быццам гэта пажухлыя пялёсткі ў садзе, — сад адцьвітае пад вечар. Пахне прасам на вугалях, прасавацца можна, гэта, маўляў, не работа, гэта як твар яйкам памыць ці косы расчасаць.

«Куды ідзеш?» — пытаецца чалавек на дарозе. Ён мяне быццам пабудзіў — гэта пароль людзей з нашай вёскі. Чаго? да каго? што? дзе? як жывеш? — у каго хоч могуць запытацца. Вось і ў мяне проста на дарозе запыталіся, але я спадзяюся, што маладзён пазнаў мяне, незнаёмку, па

[2] грэх, табу (паўн.-зах.)



нейкіх выхілках, характэрных толькі для нашых бабаў. І наагул, мы зь ім «з аднаго поля», як у нас кажуць, і радняцца паміж сабой толькі во з гэтае нагоды. І нават калі іншы раз іду па чужой, незнаёмай вёсцы, мне, як у маленстве, хаты выдаюцца вялікімі, дрэвы высокімі, дол апускаецца, я спадаю са сваіх ног, са сваіх гадоў. Нешта змушае разглядацца, паварочвацца да вокнаў, круціць галавой, як сярод знаёмых, хай сабе на вуліцы анікога. І як мне лёгка прывітацца! Бы ступіўшы на вясковую вуліцу, ступаеш на тую дарогу, якая вядзе ў Грыдзькі. Вёскі ўсе на сьвеце зьвязаныя дарогамі-стужкамі, і адзін канец у маіх руках — я як наважаная ўвесь час на шаўковую аброць, бы біблійная авечка.

З духамі зямлі я і не разлучалася.

Іду па сваіх Грыдзьках. Старая вёска: бярвеньне адно да аднаго ўкладалася гадамі, месьцілася, нешта ўсыхала, тачылі мышы, пацукі, шашаль, нешта падгнівала, на тое месца ссоўваліся іншыя бёрны, ціснуліся — зьмяніліся абрысы вокан, абрысы дзьвярэй. Іду па Грыдзьках, быццам я ня мела дагэтуль глебы пад сабой: ногі падымаеш высока, ідзеш хістка, целяпаешся, як сядун-гадаванец. Пачуцьцё, што я першая ад людзей бачу зямлю, першая каштую ваду, чую ейны смак.

— Згубіла пуцінку да нас... — кажа адна сястра.

— У мяне раптоўна на вокнах вазоны расьцьвілі, на нейкую вялікую навіну варожаць, падумалася, аж во ты дасталася... — кажа другая.

— А мая ж ты сястрыца, а што адчуралася, а ня едзеш, а не паказваешся, — трэцяя сястра бы вершык прачытае па памяці і зараз жа адвернецца — яна мне ніколі нічога не выбачала.

— Ну як там Лукашэнка ў Менску маецца? — пытаецца суседка Гроня і раптам аж зайшлася. — А-а-ай! Во як! Ляцела да цябе пагаварыць, а гавару пра палітыку! Калі ж устаеш? Калі ж спаць кладзешся? — амаль галосячы. — А ці цёплая ж твая гэтая нажутка[3]? — падымае палу курткі, мацае, углядаючыся, яна мне шыла калісьці каптан у школу, і цяпер выдаецца заціснуты гаплік у ейных вуснах, каб стачыць фастрыгу.

І сьцішыліся. Углядаюцца, позірк невідушчы, доўгі, бы глядзяць перад сабой у цемры, лежачы на печы, калі сон не бярэ, глядзяць ці то прыпамінаючы, ці то забываючыся.

— Так цяперака ў вёсцы маркотна — усе разам пастарэлі... — кажа адна сястра.

Суседка Лідзя Васілёва падышла да мяне, узяла маю галаву ў абедзьве рукі, паварочвае да акна: «Дрэнна, — кажа, — бачу, а ці зьмянілася ж ты, хачу паглядзець...»

Во што ў іхных старых галовах, дзівіўся б чужы чалавек: не пра хлеб, не пра кілбасы гаворка, ім яшчэ весялосьць наўмя. Яшчэ яны зьбіраюцца на Купальле ў паджыцьці. Дзе б яны сабе ні былі ўдзень, што б ні рабілі пільнае і ўтомнае, увечары, пабраўшыся západрукі, ідуць у поле. Увесь май пазьбіраюць, што на Тройцу пад бэлькі торкалі, — і на карчашку. Шугае полымя, сьпяваюць: «Сяньня Іван, заўтра Ян». Ходзяць сівыя жанчыны каля маладога жыта па сваіх дзявоцкіх сьцежках. Дрыготкія, белыя постаці, бы сышлі яны зь белага месяца, што пустым чоўнам гойдаецца ў небе далёка ад берага.

---

[3] нажутка — верхняя кароткая адзежына



Сястра разьбірае мне нанач на лепшай палове хаты пасьцелю, нечапаную, можа, ад той восені. Зімой старыя людзі быццам адыходзяць у нябыт, гурбамі ляжаць падушкі на дзявочым ложку, замятаюцца завеямі сьцежкі з гораду — дзеці рэдка прыяжджаюць. Завея ходзіць па нашым полі, гуляючы, спыняецца ў вёсцы, укладаецца адпачыць, брывом пад самыя стрэхі. І вось нарэшце — да яе вясна ў хату, кажа. Куляюся ў сьцюдзёнае ад зімы кочава, чую праз сон ейны голас: «Я жыла як вялікая грэшніца, такі ўжо быў мой мужык благі да мяне... вараўны чалавек бязь меры... ну памёр.... во, думаю, хоць пажыву... ды раптам мае ногі сталі адказваць — і тут, бачу, ён мяне даганяе... што такое лёс, як ты думаеш?..» Хачу адазвацца, а словы то запякаюцца на вуснах, то стыгнуць, зьляцеўшы, — токі крыві, пэўна, маюць зусім іншую мову, якая не перакладаецца. Мне гэты начны зацішак — самы надзейны прытулак, куды вяртае лёс за руку самых шчасьлівых.

Слабкае сьвятло выхоплівае зь цемры рэальныя рэчы, насычаючы іх ранішнім галубовым колерам: вугал стала, услон на ўсіх чатырох, фіранка ў буйныя кветкі замест пераборкі, прасьніца за шафай. Хутка сястра і ўстане, можа, так і не прыснуўшы, падцепліць печ, бразьне вечка на вядры з чыстай вадой, грукне чапяла, кожны гук разьмеркаваны, усё па сваім часе — па сонцы, па зорах, па месяцы. Штодзённае шэрае покрыва расхінецца і мне пакажацца іхнае нібыта марнае жыцьцё жыцiем.

Ледзь расчапляю, адымаю ад сябе іхныя рукі — стрыечных сёстраў, суседак, — іду да сваёй сям'і, на могілкі. «Наведай і майго чалавека, —

кажа сястра, — во цукерак занясі, бяры, бяры, я ўжо салодкага не люблю і смаку ня чую». «Не забудзься, табе ж трэба яшчэ кветак купіць», — напаміналі мне ў Менску перад дарогай. Маўляў, кветкі абавязкова. Але сарваныя кветкі мяне засмучаюць. Вы яго не любілі, хочацца сказаць у вочы, калі жывы чалавек, успамінаючы роднага, побач зь ягоным імем ставіць зьмярцьвелае слова — пакойны. Гэта ўжо калі памерламу няма побач з вамі месца, калі вы зьмірыліся са стратай, на людзях, успамінаючы, кажаце гэтае слова ўголас, бы той яшчэ стаіць за вашымі дзьвярыма, і гэта яму напамінак, каб не трывожыў, не пераступаў жывога парогу. І фарбуюць помнікі алюміневым пазасьветным колерам. Не магу вымавіць, успамінаючы: няхай зямля яму катораму будзе пухам. Я зь імі ўвесь час, я ня маю ім замены. А калі і жаль бярэ іншы раз, дык толькі з тае прычыны, што, адышоўшы заўчасна, яны гэтым самым былі адлучаныя злым рокам ад сьвяточнага стала на гэтым сьвеце, ад шумнай, вясёлай бяседы.

Сонца праз туман, буйныя кроплі падымаюцца ад зямлі ўверх, бы нехта марудна падхоплівае спушчаныя вочкі ценкіх карункаў. Гай яшчэ празрысты, дрэвы яшчэ не сышліся галовамі: віднеецца наскрозь, бы ў пустым памяшканьні, калі вокны адно напроці другога і сонца сьвеціць праз усю хату навылёт. Скрозь гальлё, скрозь небыцьцё — птушыным поглядам — пералётам. У нас на Асяніны, прыкладаючы сьвежае захаваньне, кладак да могілак не кладуць — мы палянцы[4], — цёпкаешся па талай вадзе, крок запа-

[4] жыхары вёскі, што стаіць на высокім месцы, не каля возера ці балота (паўн.-зах.)



вольваеш, як яно і дарала б[5]. Думалася, прыйдзеш нечакана, незаўважаным, прыйдзецца будзіць, аж усе твары павернутыя якраз да дарогі — помнікі стаяць, бы сыходзячы з пагорку, толькі калі хвоі катораму замінаюць.

Тут надзіва зямлю не сьціскае параза нематы.

— Во калі аказалася... — чую ад даўняй пары голас дзядзькі Антося, цяпер ён ужо тутака.

Здавалася б, чужы чалавек, аж з таго канца вёскі, але і ён цешыць мяне сваім правам на папрок, маўляў, яны клікалі, а я не адзывалася. Быццам аніхто ў Грыдзьках не зашчапаў дзьвераў нават на ноч, спадзяваліся, што вернешся, што парой яшчэ, ня позна, што не ўзлаваліся на цябе — яшчэ чакаюць, як зь вечарын пад раніцу. Да кожнага трэба падысьці, дакрануцца да агароджы з сухімі кветкамі, як да гародчыка перад хатай. Цётка Кленя... Клеапатра?! — напісана на помніку. Мы паблажліва зь ёй перасьміхаемся — жарт, царскае імя! А я і ня ведала, і ў вёсцы ці хто чуў. Цётка Гірына... «а гэтых старых пара ўжо ў сасоньнік халадацца!» — увесь час сьмяялася са сваёй старасьці. Глікера... дзед Мацейка, дзядзька Імполік, дзед Валерык, нідзе болей ня чула, каб так ласкава клікалі старых... Франя? У цёмнай хустцы, але ж ты ніколі хусткі не насіла? Ты ж намнога маладзейшая за мяне! Жалобным покрывам ахінуўся на момант сасоньнік. Гэтыя твары... Па іх я жыла, як па аракуле, і далёка адсюль вызначала сваіх прыяцеляў, сяброў па розных позірках, і давярала толькі падабенству. Лавіла па сьвеце інтанацыю іхных галасоў і толькі тады адзывалася. Паўтараю іхныя рухі, хай сабе

[5] як яно і сьлед было б (паўн.-зах.)

і ня тку абыдзённага намёту: гэта калі за адзін дзень і намяць ільну, і спрасьці, і выткаць, каб абнесьці яго каля скаціны, першы дзень выганяючы ў поле. Хай сабе і не кладу ў рот журавіны, каб сьліны прыбавіла, прадучы воўну. І спыну ня маю ў горадзе: «нібыта ля млына завозна, — няма каня паставіць дзе», як сказаў адзін паэт.

Падыходжу да сваіх. Цётка Марылька, дзядзька Стах... Раптам, быццам зусім побач адымаюць, вось ужо адшчапілі ад зімы падвойную раму ў акне ці то торгнулі ўмерзлыя за ноч дзьверы, тыя, што ад ганку, — гэта запрацаваў на хваіне дзяцел, зацерушыў вочы. Матыль прачнуўся, абляцеў круга і вярнуўся. Прыбіраю, хаджу вакол, не заўважаючы, што сонца зьвярнулася, цені пасталі з другога боку, бы зьмянілася варта. Затрашчала запаленая сьвечка, весела, ярка, бы ў камін нехта падкінуў сьвежыя дровы і сеў побач — пацягнула цялесным духам.

— А ці ведаеш ты, жанчынка, чыю магілку прыбіраеш, га? — голас моцны, лёгкі, падымаю вочы...

Цётка Адэля? Пра яе казалі: нешта зь ёй сталася на маладзіку, мяне не пазнае.

— Гэта ж асадніцкая дачка... жонку асаднік узяў з нашых, вясковых... сям'ю саслалі... бацькі тамака загінулі, а дзяўчаты вярнуліся з таго пекла, з тых маразоў... мароз што скаціна, адзін куст абыдзе, другі затопча, ага-ага-ага... старэйшая доўга не пажыла, во гэтая... а меншая і цяпер жывая, недзе ў горадзе... палякі, тыя і дзялоў ня мелі, ня сыскавалі малой, во як, ага-ага-ага... гадавалася ў беднай матчынай радні, сярод нас, у вёсцы... рэдка наведваецца, я б яе ўжо і не пазнала... а што ўжо жонка асадніка была добрая людзіна... і ён чалавек справядловы, грэх сказаць... але задужа ганарысты, бясконца... як жаніўся Стах, родны жончын брат, дык на каленьках ледзьве дапрасіўся асадніка прыйсьці на ягонае вясельле... ага-ага-ага...

Адэля адыходзілася, зноў вярталася, прыносіла мае цукеркі, сабраныя па магілках: «на, пасаладзі ў роце». Во калі я даўмелася, успомніўшы словы старога Антося, калі была наведаўшыся: «Дзякуй, што зайшліся, дзякуй, што не паганьбавалі...» Не паганьбавалі?! І на «вы»? Гэта, пэўна, ужо ён не да мяне, пэўна, дзед бачыў побач са мной тое, што не ўспрымаецца зрокам — майго бацьку, польскага асадніка. А мне дык хапае таго гонару роўна на гэтулькі, каб ні ад чога не адрачыся, ня зганьбіць, ня страціць, пабраўшы крошкі ня тое што зь сялянскага стала, але і пад сталом...

Намацаўшы карэньне, ногі амаль не ішлі. «Сьвет вельмі вялікі, жыцьцё ўтрапёна кароткае, навошта прывучацца да чужога дому, навошта спробы палюбіць яго» — калісьці гэта былі чыесьці чужыя словы, але зараз яны ўжо сталі маімі — маім сумневам...

*Надрукавана ў НН № 52/53 у 2001 годзе*

## Кавярня «Стары Менск»

Што да мяне, то я тут на вуліцах пераступаю нават цені, і ня толькі цені людзей, але і гарадзкіх дрэў. І раптам, сустрэўшыся на скрыжаваньні, Вольга запрашае нас з Франкай у кавярню. Я з торбамі, накупляла прагавіта, трапіўшы ў супэрмаркет, быццам ізноў вярнуся ў вёску, адкуль толькі ўчора прыехала (дэкрэтны адпачынак, усё лета гадавала там дзіця). І наагул, мы з Франкай скрозь вясковыя, мы ня ходзім па рэстаранах-кавярнях, ня маем такой звычкі. Мы ж зь ёй, атрымаўшы калісьці «вид на жительство», не здавалі іспыт на менскі лад жыцьця. Пераскокваю ўнутраную мяжу, згаджаюся, Франка цягнецца за мной.

Сяджу ў кавярні, раз-пораз кратаю нагой торбы пад сталом, ці яны яшчэ тут. Франка, бачу, насупраць дранцьвее, застыгла, акругляе свае біблейскія вочы, потым дастае з валізкі шкляныя дзіцячыя пацеркі, зробленыя трэцяй — меншай дачкой, і, як ахоўны амулет, чапляе сабе на шыю, маўляў, уратуй нас Божа ад гэтай распусты, ня дай увайсьці ў вялікі кошт. Я ведаю ейны тубыльскі ваяўнічы характар, і мяне гэта забаўляе, вызваляе ад нязвыкласьці стану, я сьмялей разглядаюся, бы вылезшы з канапель.

Кавярня маленькая, на сьценах выявы старых дамкоў, яны выцягваюцца пад столь, аб'ядноўваючыся ў мяне над галавой пад агульнай страхой, расчыняюцца сьляпыя вокны, адтуль вее варывам, печывам, кавай. Шыльды з надпісамі: аптэка доктара Жаўкуна, майстэрня гравёра Жаркевіча, незнаёмыя прозьвішчы гаспадароў мінуўшчыны магічна заступаюць вочы, і я нарэшце забываюся пра свае торбы, з асалодай выпростваю ногі, бы толькі што зьлезла з фурманкі, прывязаўшы ля кавярні каня. Я ў гасьцях у старога гораду, як у старога чалавека, пра якога нічога ня ведаю, а ўжо сяджу за ягоным сталом, ужо ў мяне пытаюцца, што мне згатаваць, чым частаваць. «Можна ў вас паліць? Не?» — пытаюся. Тады я запальваю сьвечку на стале, каб бачыць жывыя водбліскі ў вачох Вольгі і Франкі, як у вокнах насупраць, бо ўжо сьцямнела. Заўважаю каля ўваходу плецены куфэрак, у ім цёплыя пледы-апінанкі на той выпадак, калі каму-небудзь з нас стане зімна. Покрывам нябескім ахінуў спакой, той рэдкі спакой, калі наведваешся да старых людзей, якія ўжо анікуды не сьпяшаюцца.

Я толькі тут і зразумела, што ў гэтага сучаснага горада яшчэ жывая даўніна, жывыя ня толькі ягоныя дзяды.

Наведнікаў пакуль што мала. Маладзенькая гаспадыня сядзела за свабодным сталом і засяроджана, пільнуючыся ўзору, рабіла нешта на прутках. Вочка за вочка, і я сяджу, як маладая котка, укрыпаўшыся, скінуўшы на падлогу клубок. Той клубок нескончаны, коціцца аж да млы-

на волата Мянеска, які перамолваў на сваіх жорнах ня зерне, а каменьне. Ад яго і пачаўся радавод Менску? Нешта спрабую ўспомніць, тое, чаго і ня ведала, Вольга старанна разьбірае маю крыпаніну, распавядае пра іншыя міты ўзьнікненьня гораду, яна гараджанка, замаўляе каву яшчэ і яшчэ, перагортвае падзеі і зьявы назад, бліжэй да нашага часу. Вось ужо мы ўсе разам у доме Ваньковічаў, спускаемся ў каменныя лёхі пад падлогаю, знаходзім белую мармуровую статую, але хто яна, ня ведае нават сама Вольга. У катэдры стаім каля капліцы зь целам сьвятога Фэліцыяна, рыцара і пакутніка, на сьценах касьцёлу цені Пятра I, Мазепы, цара Мікалая II, яны сюды наведваліся калісьці. Мікалай выдаўся маленькім, як па мне, дык проста сабе царок. У Сьвята-Духаўскім саборы нас абступаюць манашкі. Яны хрысьцяцца, не пазнаючы ў нас жывых людзей — мы абсыпаныя пылам стагодзьдзяў. Што, напачатку гэта быў касьцёл кляштара бэрнардзінак?! Перад намі ў кавярні ўжо варушыцца стол, бы ў час сьпірытызму. Матка найсьвентша! Мы з Франкай хаваем вочы, мы нічога гэтага ня ведаем — мы ня вывучылі ўрок і не здамо іспытаў. Я пачынаю разумець, што нас з Франкай цікавіць толькі горад сёньняшні: гарачая вада, крамы, мы ня можам яшчэ нацешыцца выгодзьдзем, для нас спыніўся час. Спыніўся гадзіньнік у горадзе, калі я прыехала, мне ўсё даспадобы, мне мусова патрэбна толькі тое, што бачу, тое і спажываю, сьпяшаюся спажыць. Мы сьвяткуем сваю перамогу, што ўдалося абсталявацца ў горадзе, для нас кожны дзень — сьвята. Мы напінаемся, апрануўшыся з раніцы ў вячэрнія строі, размалёўваем твары, калываемся на



абцасах каленькамі наперад, пятамі назад, са скуркі вымыкаемся, мяркуючы, што менавіта так мы здолеем быць падобнымі да гараджанак.

Але што дзіваваць? Калі ў мяне іншы раз нехта пытаецца: як я дасталася да гораду? дзе жыла? з кім? — я бунтуюся, я маўчу, бо не памятаю нават сваёй асабістай «даўніны», не памятаю тых гадоў, тых знакаў.

Я бегла, як гончая: ці мне палацы, ці памыйныя ямы, мне трэба было кожны дзень дабегчы да ночы, да прытулку — дзьверы ў горадзе для мяне былі зачыненыя. Бегла па доўгіх калідорах інтэрнатаў, шукала прытулак на прыватных кватэрах, жывучы недзе за шафай, каб патрапіць хаця гаспадарам, сьціснуцца, сьцішыцца. Губляла свой сьлед, свой нюх, спала на вадастокавых люках, яны не замярзаюць. Я сабака, узрост якога — адзін год за сем чалавечых гадоў.

Нас лёгка распазнаць. Некаторым вяскоўцам хутка ўжыўляецца «штучны» кляпан у сэрца, і яно лёгка б’ецца ў гарадзкім рытме. Маё сэрца адрыне, ня прыме. Мая кватэра на восьмым паверсе, грубастае маё карэньне ветрае, ня можа замацавацца ў глебе. Іншы раз выдаецца, што я ў горадзе як на заробках: нажыўшы ўсё тут, забяру зробленае і зьеду назад дамоў.

Што з нас дзіваваць?..

Вольга дапівала каторы ўжо кубак. За наш столік села старая жанчына. Каракулевая шапачка, каракулевы паўбурносік, ня тое што ўсё старое на ёй, даўнейшым строем, а лепей было б сказаць, зьляжалася ў шапе — захаваліся вострыя плечыкі вешака, заламаныя складкі на крысе. Рухі няпэўныя, бы яе нехта ўзяў за руку і вадзіў сілком. Вольга раптам ажывілася, страсянула

кучарамі, чыста белая пані з каменных лёхаў пад мурам Ваньковічаў, Вольга адразу зразумела: жанчына прыйшла... прыйшла на паверку зь сёньняшнімі гараджанамі. Вольга загаварыла пра нешта нязначнае: надвор'е, смак кавы, які цяпер месяц, які год, якое стагодзьдзе, пра тое, што надавала аддуху пасьля нашых «вандровак», — як пераслала настольнік. Мы бавілі час, мы адчулі ягоную асалоду пад языком.

Нарэшце разумею: кавярня — гэта маленькі асабісты тэатар; кавярня — гэта вылюдзьдзе, кавярня «Стары Менск» — гэта маленькія госьці ў вялікага гораду. І калі сюды ты зайдзешся адна, да цябе падсядзе старая жанчына, і ты ня будзеш адчуваць адзіноты...

У гораду ня сьцёртыя з твару ўспаміны.

Мы разьвіталіся са старой, як з прыяцелькай. Вядома, яна яшчэ засталася, вядома, што ёй тут побач — яна з таго будынку, што на сьцяне кавярні, дзе аптэка пана Жаўкуна.

Ідзем па вуліцы, якія харошыя машыны, думаю сабе, бы пра коней. Вольга прапануе пагуляць, але мы з Франкай сьпяшаемся дамоў. Я ня ўмею гуляць па горадзе: да непрыстойнасьці зазіраю ў вочы кожнаму стрэчнаму, бунтуюся, не пазнаючы ані ў кім сваіх аднавяскоўцаў. Мы разьвітваемся. Вольга пайшла на свой прыпынак. Мы з Франкай стаялі, глядзелі ёй усьлед, і яшчэ раз, і яшчэ абарочваліся, ідучы ў свой бок. Вольга не азірнулася. Мы спыніліся, быццам баяліся згубіць яе ў натоўпе і хацелі хоць крыху затрымаць каля сябе, пабыць разам даўжэй. Яна не азірнулася — такіх поўны горад, такіх, як мы. Глядзелі ўсьлед, як праз плот, вечны плот. Мы, прыежджыя, нарэшце ўпершыню пазналі гаспадыню гораду і даўмеліся, што свае хатулі яшчэ і не разьвязвалі, зьняўшы з плячэй: мы толькі вельмі сьпяшаліся ўскочыць, ушчаміцца ў дзьверы, як бежанкі. Мы быццам яшчэ і не сустракаліся з Вольгай, нідзе і ніколі, і гэта стрэча будзе магчымая празь якіх сто гадоў майго жыцьця ў горадзе, калі мы адчуем, што прыехалі сюды назаўсёды.

Азірніся на нас, Вольга, мы прывезьлі з сабой тое, пра што і самі забыліся, прыехаўшы: мы прывезьлі... Мову, Мову лясоў, палёў, зямлі. Мы прывезьлі валачобныя калядныя песьні... Мы маем падараваць гораду найкаштоўнейшы скарб...

Азірніся, Вольга...

*Надрукавана ў НН № 48 у 2006 годзе*

Ева
Вежнавец



## Візыт Архіварыюса

Прыходзіў у госьці Архіварыюс і распавядаў, як людцы замаўляюць у архіве радаводы. Там усё ёсьць, у тым архіве, што не пагарэла ў войнах. Запісвалі нашых продкаў у касьцёлах, цэрквах, судох ды мэтрыках розных: хто нарадзіўся, памёр, ажаніўся, хрысьціўся, украў, забіў, данос напісаў. І мастак ёсьць, які вам ваш радавод намалюе ў выглядзе разлапістага дрэва. Толькі грошы плаці.

І расказваў мой сябра, што ўсе людзі, нават салідныя бабры, уяўляюць сваіх продкаў як людзей добрых. Ніхто ня хоча пра сваіх зладзюганаў ведаць.

Прыходзіць раз мужчына, пыхаты, натапыраны ўвесь, і гаворыць з выкшталтам расейскім: «Я

---

**Ева Вежнавец**

нарадзілася пад Любанем. Сталага месца жыхарства ня мае. Піша спарадычна. Заробкі выпадковыя і цьмяныя. Біяграфіі няма. Чакае свабоды як цуду. Сям'я — ёсьць, толькі людзі ў ёй увесь час мяняюцца.



потомственный учитель, все в моём роду были учителя. Из поколения в поколения передаются у нас рассказы о прапрадеде. Мы все равняемся на него. Он был директором гимназии в 18-таком-то году, известен как человек большой души, помогавший бедным и убогим, заботившийся об учениках, философ, знал пять языков, красавец с аристократическими чертами. Я прошу вас всё-всё разузнать о нём». И сышоў кліент, духоўнасьцю тамімы.

Такія замовы завуцца «тэматычны запыт» і каштуюць грошай. Сталі мы капацца, а былі яшчэ нявучаныя горкім досьведам і не ўзялі авансу. XIX стагодзьдзе — лічы, нашыя дні, яшчэ дыхаюць, і нам з судовых архіваў стала ўсё вядома пра гэтага гіганта духу. Нават літаграфія захавалася.

Выявілася, што:

а) прапра быў фіскалам, які пісаў даносы на вучняў і выкладчыкаў у «пяты аддзел», выкрываў «польскую крамолу» і «вольнодумство»;

б) быў завэрбаваны пасьля рэвізіі, якая выявіла, што «отец-благодетель» краў у гімназістаў-пансыянэраў «коровье масло» фунтамі;

в) знайшліся лісты гімназістаў, якія скардзіліся на прыставаньні й гвалты з боку дырэктара;

г) зь пяці моваў ён ведаў па пяць словаў, да якіх жыўцом прыточваў расейскія афіксы; даносы ягоныя абсалютна непісьменныя;

д) твар меў таўстаносы й нізкалобы, глядзеў з дурною пыхаю, і літаграфіст гэта сумленна адбіў.

Дырэктарка вынесла нашчадку пульхную тэчку і ўрачыста прамовіла: «Віншую Вас! Нам удалося знайсьці небывала шмат матэрыялу. Ваш продак сапраўды выявіўся незвычайнаю асобай». Настаўнік пагартаў тэчку, адсунуў яе і

невыразна прамовіў: «Я этого не видел». Ён сышоў, не заплаціўшы за двухтыднёвую працу цэлага аддзелу. Напэўна, і зараз заклікае сваіх дзетак раўняцца на ідэал.

Архіварыюс кажа, што подласьць, дабрыня, вар'яцтва перадаюцца з пакаленьня ў пакаленьне. У кожным родзе раз на пакаленьне нараджаецца «падлюга» і «сьвяты», «вар'ят» і «вучоны», «дзялок» і «летуценьнік». Мала таго, ланцуг роду замкнёны і мае паўторныя зьвёны. Так, сынам і дочкам даюцца аднолькавыя імёны. Так, у адным родзе старэйшых дачок падсьвядома называлі Касямі аж з XIX ст. — Катарына, Katarzyna, Екатерина. У іншай сям'і малодшыя сыны былі Язэпы, Ёсіпы, Иосифы альбо Jozefy й паміралі ў маленстве. Супрацоўнікі архіву параілі маладой жанчыне, што замовіла радавод, пазьбягаць гэтага імя. У трэцім родзе на працягу чатырох пакаленьняў маткі трацілі левае вока.

Людзі, якія лічаць сябе «истинными русскими дворянами», з горыччу даведваюцца, што да 1830 г. тут такіх не было. А былі літоўскія нобілі, магнаты, шляхта, зямяне (дробная шляхта) ды земляробы-сяляне. Шмат хто адпрэчвае радавод, калі выяўляецца, што продкі ў Сярэднявеччы былі ня нобілі, не магнаты, ня шляхта і не зямяне. Многія перажываюць шок, зьведаўшы, што ў родзе былі сэрыйныя забойцы, каты, зладзеі, прасталыткі, славутыя канакрады й фальшывам анэтнікі. Славянафілы млеюць ад таго, што іхныя продкі пераважна габрэі.

Пра ўсё гэта архівы адстаронена паведамляюць. Будзьце гатовыя, ідучы замаўляць радавод.

Пара старых НКВДыстаў, якія (парадокс!) ганарыліся сваім дваранствам, вырашылі зрабіць сыну-кадэбісту падарунак у выглядзе радаводу. Сям'я вылучалася фэнамэнальнай нянавісьцю да ўсяго беларускага. Выявілася, што іхныя продкі, уніяты й каталікі, жылі пад Улою, акуратна бралі ўдзел ва ўсіх антырасейскіх войнах і закалотах, а зваліся Марцінамі, Цыпрыянамі, Дамінікамі, Крыстынамі, Малгрэтамі, Схалядкамі, Філямэнамі й да т.п. Сантымэнтальныя каты дрыготкаю рукою адсунулі радавод і прашалясьцелі: «Вы ошиблись».

Архіў ня можа памыляцца. Там усё строга, у архівах. Нашчадкі ўсё ўведаюць, а значыць і нам трэба быць лапачкамі. Зь іншага боку, ня ўсё ад нас залежыць. Мы толькі зьвёны ў ланцугу, мы бездапаможныя дзеці перад лічылкаю: лялечка, балетніца, каралева, сплетніца, падлюга, сьвяты, вар'ят, вучоны, дзялок, летуценьнік, здраднік і герой, прасталытка й мадонна, ну, вы зразумелі маю думку.

Такая своеасаблівая рэінкарнацыя.

Нехта адпрэчыць сваё дрэва, на якім расьлі атрутныя дулі, а нехта прыме — Бог усім бацька.

Стаяць без каранёў ці цягнуць імі з глебы гной і лой? Глядзі сам.

Сыходзячы, Архіварыюс сьмяецца — адна бабулька даслала запыт на радавод: «Я нічога ня ведаю пра сваіх продкаў, але вы лёгка знойдзеце іх па тым факце, што на іхнай зямлі пад ігрушаю Марыя нарадзіла Езуса».

Сьвятыя Дзяды, хадзеце сюды!

*Надрукавана ў НН № 5 у 2002 годзе*

## Сьвята вяртаецца

Парасон чалавека ў чорным плашчы,
Нібы чорны човен, плыве ўначы.
Доўгі шлях перад тварам тваім пралёг,
І ніхто не пускае цябе на парог.
Зрэшты, хай не пускае. Патрэбна, каб ты
Паблукаў і абмокнуў сярод цемнаты,
І шыпастых зор, і шумлівых лоз,
Каб растраціў усё, што у сэрцы нёс.
Для вандроўніка ўночы галоўны максым —
Сваё сэрца заўсёды насі пустым.
Каб у момант, калі разыходзіцца мгла,
Цябе радасьць напоўніцу заліла.
*З ірляндзкага*

Мікола прачнуўся позна, вочы ў вочы зь ім стаяла нерухомая раніца. Дрэвы, хмары, дзіцячыя крыкі на двары застыглі, і дом застыг, ніхто ня гойсаў за сьцяною ці па лесьвіцы. «Вось яно, — падумаў Мікола, — праз тое, што я тыдзень не выходжу, навакольле адмерла за непатрэбнасьцю. Нашто круціць фільм перад гледачом, які дрыхне? Тэлефон адлучаны, усе гадзіньнікі сталі, вады ў кранах няма. Лядоўня



грукоча пустымі паліцамі. Дык чаго ж я прачнуўся здаровы й вясёлы?» Мікола перабраў у памяці магчымыя прычыны радасьці. Скончаны пераклад? Не, яшчэ тыдзень трэба пасядзець. Прыйшлі грошы на картку? Не, праз два дні толькі. Так і не ўзгадаўшы, ён зірнуў на каляндар: 27 ліпеня, нядзеля. І гэтая дата нечым яго ўзрадавала. Відаць, спалучэньнем трох сямёрак — сёмы дзень тыдня, сёмы месяц, сямёрка ў лічбе... Так у роздумах Мікола і сабраўся. Пара была ехаць на летнік.

Ад Міколавага дому да вакзалу едзецца тралейбусам. Грошай не было нават на талёнчык. Трэба праехаць зайцом. Мікола сеў, унутрана рыхтуючыся да скандалу. Але кантралёры, заўсёднікі гэтай лініі, не зьявіліся. Дый сам тралейбус, пусты й ціхі, нічым не нагадваў звычайную юдоль журбы й жарсьцяў. Раніца йшла безь ніводнага падвоху, радасьць не пакідала, і Мікола падумаў, што непрыемнасьць дня будзе асабліва буйной.

Аўтобус да братавай вёскі якраз адыходзіў. Мікола прыладзіўся на першым сядзеньні з двума пачкамі семак і зборнікам вэнэцыянскай прозы. Дзьвюхгадзінная дарога абяцала адны асалоды. Мікола сёк семкі з хуткасьцю аўтамата «ўзі» і чытаў Генры Джэймза. «Сталая плыннасьць» Джэймзавага стылю супадала з мэлянхалічным калыханьнем ня надта разнастайнай прыроды за акном. У аўтобусе было вобмаль народу, і Мікола хуценька ўсіх абгледзеў. Двое мужчын, тры дзяўчыны і дама бальзакаўскага веку. Дзяўчаты глядзелі ў вокны, абыякавыя да ўсяго, апроч уласнага прыгажства. Мікола жанчын увогуле не любіў. Асабліва яму не спа-

дабалася дама. Той не сядзелася. Вострымі вачыма яна ўзіралася ў спадарожнікаў, вышукваючы, да каго б прычапіцца. Амбітны рот аж палымнеў чырвонай шмінкай, быццам у людаеда, што пад'еў мяса зь перцам. Мікола хутчэй прыкрыўся фаліянтам. Адзін з мужчынаў, гадоў трыццаці, быў з выгляду вясковец, што выбраўся ў Менск пагуляць. Прыгожы, але зношаны цяжкай працай твар, вочы дубальтоўкай, танны пах «патройнага адэкалёну». Карацей — безграшоўе, натуральная гаспадарка, пакарабачаныя чаравікі мажа лоем... Другі, трохі падпіты 50-гадовы дзядзька, моцны, з поўным камплектам зубоў ва ўхмылцы, з тых, хто пад маскай жыцьцялюба й зубаскала хавае хцівы й хваткі розум.

Крануліся. Панылы кіроўца на ўвесь салён наракаў на прыватнікаў, якія забіраюць пасажыраў: у Менск ехала двое і назад — сем. «Вось паскарачаюць праз вас рэйсы, тады папляшаця! А часьнікі адразу цэны ўзьвіньцяць. І вазіць будуць так: хачу — павязу, а хачу — не». Пасажыры маўчалі. Не змаўчаў толькі Агнявы Рот, завёў прамову на такой трасянцы, што Мікола аж прыўзьняўся паглядзецць: няўжо яе хапіла на сарказм? Не, жанчына вяшчала «на скоцкім сур'ёзе».

— Ва ўсём должан быць парадак, езьдзіць нада на аўтобусах. А аўтобусы далжны хадзіць па расьпісанію. У вас ваабшчэ парадак, Вы далжны быць давольны Вашым прэзыдэнтам...

І панеслася...

Мікола прыўзьняўся яшчэ раз: лёгкая шаўковая сукенка, залатыя акуляры, капялюшык. Добры дарожны саквояж. Хто ж гэта? Спэцагентка, пасланая правакаваць народ? А мо бухгальтарка? Бізнэсоўка? Яна гаварыла самаўпэўнена, відаць, прывыкла да пачцівай увагі. Мікола ў дыскусію не палез, хоць і сьвярбела. Ён уважаў, што культурнаму чалавеку сорамна ўступаць у дэбаты на такі банальны тэмат. Тры маладыя чубаткі таксама пагардліва маўчалі, рэючы вейкамі. Зрэагаваў толькі дзядзька: пераrнуўся цераз парэнчу свайго седзіва і завёў кокетаваньне.

— Правільна кажаце, дамачка, люблю дамачак, што разьбіраюцца ў палітыцы. Дазвольце руку пацалаваць? Якая культурная жэншчына, разумнейшая за мяне, хаця я й старэйшы гадоў на дзесяць.

Дама рукі цалаваць не дала, а ўлешчана сказала:

— Ашыбаецесь. Мне ўжо шэсьцьдзесят адзін, а вам жа гдзе-та пяцьдзясят?

Дзядзька зрабіў выгляд, што ўражаны. Пацалаваў-такі ручку, і прамовіў:

— Вы, наверна, работаеце на харошай рабоце? Цьвяцёце, як макаў цьвет, ня тое што мы — сельскія тружанікі. Праўда, Хахол?

Малады мужчына ня даў старэйшаму сябру пераvесьці размову, абурана забурчэў сабе пад нос:

— А што мне ваш Лукашэнка добрае зрабіў? За што мне яго любіць? Зарплата дваццаць тысячаў, і тае паўгоду ня плацяць, жонка кінула. Толькі на чарніла хапае...

— А Вы ня пейце! — падхапіла дама.

— Дык я і ня п'ю.

— А хазяйства сваё есьць?

— Ёсьць...

— Так што вам ешчо нада?

— А я не хачу за сала з малаком гарбаціцца зь пяці раніцы да ночы! — з выклікам сказаў Хахол.

— Вот відзіце. Как работаем, так і палучаем.

— А ў вас, відзіма, тожа сваё хазяйства? — зь ледзь заўважным зьдзекам запытаўся старэйшы.

— Зачэм мне хазяйства? Я работаю ў Сургуце, у меня там восем тарговых точак. Сібір, нефць, прыродны газ. Не нада і вам сідзець на месьце. Будзьце акціўны, мабільны, ішчыце другую работу. Да і дваццаць тысяч, маладой чалавек, у нас нікто не зарабатывает, вы што-та путаеце. Ішчыце харошую работу.

— А вот мяне на пенсію па выслузе выпіхваюць, — сказаў старэйшы.

— Дзе мне тую работу іскаць?

— А са мной баяцца расстацца. Просяць: Зінаіда Трафімаўна, не брасайце нас, — павучальна сказала дама. — Работаць нужна з душой.

— Сібірачка! Вот пачаму ў вас такі цьвет ліца. Нашы жэншчыны — самыя красівыя ў міры! — зноў перавёў стрэлкі дзядзька.

Тры красуні ледзь заўважна варухнуліся. Усе памаўчалі.

— Вот, маладой чалавек, — зьвярнулася дама да Хахла, — а мама мая жывёт у дзярэўні зьдзесь. І я ей памагаю, но ей нічыво не нужна: есьць гарод, кароўка, сьвіней дзержыт, курачак...

«Мацеры гэтай чувырлы ня менш за 80—90 гадоў, а яна дагэтуль арэ як нанятая, — абурыўся Мікола. — Відаць, Хахол баіцца якраз такой пэрспэктывы». І ня вытрымаў:

— Вы жывяце ў Сургуце і нічога тут ня ведаеце. Дык і не хваліце. Тут калгасьнікі па 10—20 даляраў зарабляюць. А за што людзям зубы паставіць, дзяцей у школу адправіць, адзецца?

— Урэмя сейчас такое, а Лукашэнка тут ні пры чом, он стараецца, не дал расташчыць страну, как у Расіі. Каб не он, была бы хужэ.



— Сволач ён, усім век заядае, — падвёў высснову Мікола і ўткнуўся зноў у кніжку.

— Да он жа бээнэфавец! — закрычала дама, апэлюючы да публікі. — А? Ты ж бэнээфавец?

— Ня тыкайце, я з вамі сьвіней ня пасьвіў, — сказаў Мікола, не падымаючы галавы.

— Дык ты бээнэфавец ці не? — спытаў Хахол.

— Я журналіст і ў партыі не ўступаю, — адказаў Мікола.

— А, журналіст! — сказала дама. — Ім толька сенсацыі падавай і жараныя факты. Ім праўда неінцярэсна, сенсацыі ішчут.

Міколу ледзь не званітавала. Ён не трываў баналітэту. Ну нашто ён улез у народную гушчу? Ёсьць жа сейбіты й асьветнікі, якія любяць простага чалавека і ўмеюць пагаварыць зь ім. А плюгаваму Міколку лепей маўчаць, ня моцны ён у палеміцы. Яго народ яшчэ ў школе ганяў як шчура.

Дама, расчысьціўшы поле бітвы, вяла далей:

— Харошая у нас страна! І крэдзіт маладым на страіцельства дают, а в Германіі такога нет. Мая доч там жывёт шэсьць лет, так самім прышлось дом пакупаць.

Мікола ня вытрымаў зноў:

— Дык чаго яна сядзіць у той абарванай Германіі? Хай бы сюды прыехала і за крэдзіт пастроілася.

Дама задыхнулася ад злосьці, але вяла далей:

— Вы вот спрашываеце, как я так сахранілась. Я внімацельна атнашусь к сваему здароўю. Дома всегда баня, зімой в сьнег ныраю. А паеду к дочке — выкупаюсь в мінеральнам басейне с пузыркамі, масаж прыму. Всё там есьць, всё харашо, жыві — не хачу. Но я вечарам включу «Бе-

лае солнца пустыні», сматру і плачу — скарэй бы дамой. Гергечут што-та па целевізару, што, зачэм — не пайму.

Мікола:

— А чаму Ваша маці ў восемдзесят гадоў сьвіней даглядае, а ня плешчацца ў мінэральным басэйне?

Усе змаўчалі. Але Чырвоны Рот не здалася, нанесла апошні ўдар: дастала з валізы шыкоўную каробку цукерак і пачаставала ўсіх, аж да кіроўцы. А Міколку дэманстратыўна абнесла. Яго разабраў дурнасьмех: зноў цукерачак не атрымаў за доўгі язык. Мікола адкінуўся назад і заплюшчыў вочы. Сядзеньне побач зь ім прагнулася, бліжэй залунаў пах «патройнага адэкалёну». «Хахол. Пагаварыць хоча. О Божа, зноў думай, як гаварыць, каб яму было «панятна». Мікола моўчкі павярнуўся да суседа.

— Сама не жыве тут, а мяне вучыць, як жыць, — паскардзіўся Хахол. І дадаў: — Зачэм ты пытаешся гаварыць па-беларуску, у цябе не выходзіць. Палавіна словаў рускіх, палавіна беларусіх, і па-польску што-та.

— Пра мой язык гаварыць ня будзем. Што ты хочаш ад мяне?

— Напішы стацьцю ў «Савецкую Беларусію» вот пра што: мне карову няма куды здаць. Можна толькі гасударству здаць. А яно дае 150 тыс. за карову. У мяне на пракорм цяляці ў 3—4 разы больш пайшло. Што мне рабіць?

— Шукай іншую работу. Цётка правільна сказала.

— Наш райспалком прыказ іздаў, каб калхозьнікаў у горад ня бралі. Панімаеш, я як у турме. Лепей бы ў турме. Я еду зь Мінска. Два дні водпуску было, а пагуляць няма за што. Я нідзе ў жыцьці ня быў. Толькі на ірана-аўганскай граніцы і ў Чарнобылі. Адправілі маладога ў Чарнобыль. Кажуць, едзь, ты вучыўся за гасударсцьвенны шчот. Аддавай даўгі гасударству. Я ж ужо аддаў, так? Дык чаму я як у турме?

— Шукай працу. Загад выканкаму незаконны, — сказаў Мікола і сам адчуў фальш: якія тут законы? — Я напішу пра гэта, але такіх «стацьцёў» тысячы. Яшчэ адна табе нічым не дапаможа.

— Лукашэнка ж пра гэта знаў, так? Ён хлусіць, што ня знаў. Пра гэта ж у газетах гадамі пішуць, так?

— Так.

— Што ж мне рабіць? Нічога не мяняецца. Гадамі нічога не мяняецца. Я люблю зямлю, я не хачу ўхадзіць, а больш так не магу.

— Я ня ведаю, што табе рабіць. Сам думай.

Хахол пайшоў на сваё сядзеньне. А дзядзька абазваўся да Міколы:

— Што ж ты замаўчаў? Зачапіўся за слова, а потым зноў ад нас адвярнуўся. Гэтыя журналісты як міліцыянеры: прычэпяцца, пакрычаць — і стой як абасраны. Уткнуўся ў сваю кніжку, не каб пагаварыць зь людзьмі.

— Пра што? — пытае Мікола, павярнуўшыся, і заўважае, што адна зь дзяўчат пільна глядзіць яму ў вочы. У яе такі выраз, быццам ён яе прыемна зьдзівіў. І Мікола засаромеўся, быццам і сапраўды перамог. І зноў незразумелая радасьць заварушылася ўнутры.

— Можна з табой сустрэцца? — запытаўся Хахол.

— Можна, толькі я пасьлязаўтра еду адпачываць на дзесяць дзён. Вазьмі тэлефон, сазвонімся.

— А я раз у Самаркандзе адпачываў, — сумна сказаў Хахол.

Мікола вылез з аўтобуса на прыпынак раней і пайшоў да летніку пешкі. Адчыніў хату, трохі паеў. Выкасіў газон і трымэрам абабіў вакол альтанкі быльнёг. Працуючы, Мікола згадаў аўтобусны інцыдэнт і, можа, упершыню добра падумаў пра простых людзей. Учора пад піва якраз гаварылі пра гэта зь сябрам.

Мікола:

— Дапусьцім, у Беларусі сто тысяч няпобытавых людзей...

Сябра:

— Якіх? Мікола:

— Няпобытавых.

Сябра:

— Некалькі дзясяткаў тысяч. Астатнія — паліпы. Я зьдзіўляюся, калі крычаць: «Людзі, адумайцеся!» Народ ёсьць зьявай жывой прыроды. Той, хто прыйдзе на пляж, стане над крабам і паўтарацьме: «Адумайся, ідыёце! Кама паўзешы?», даб'ецца большага посьпеху, чым любы народнік.

Цёмнае піва, цёмны вечар, цёмная злосьць. Скаргі на закрыцьцё газэтаў, інстытуцыяў, тэлевізіі. Усё менш грошай у альтэрнатыўным грамадзтве, усё цяжэй зарабіць капейку. Жыцьцё наперадзе — як палярная ноч. Пісаць няма куды.

Пераклады няма як выдаць. Знаёмыя ўцякаюць за мяжу й звозяць грошы. Наперадзе — трыдзясяты рэфэрэндум. Дык чаму ж на душы так сьветла?

Пад гэтыя думкі Мікола ледзь заўважыў, што на пасе трымціць тэлефон. Ён спыніў трымэр і прыклаў апарат да вуха. У слухаўцы біўся вясёлы, расхмелены голас сябра:



— Дзе ты, пудзіла? Мы ў нашай лазьні, 27 ліпеня адзначаем. Цябе аднаго няма.

Мікола сказаў, што не прыедзе, павіншаваў бяседу і павольна пайшоў у дом. Вось яно. Сёньня 27 ліпеня. Ён згадаў, як шмат год таму ў чорна-белым іхным тэлевізары паказвалі абвяшчэньне Незалежнасьці. Гэта было дзівам. Пахмурны Дземянцей, разгубленыя міны вэтэранаў і камуністаў у ВС, змрочна-ўрачысты твар Пазьняка і табло галасаваньня, на якім высьвечваўся сэнсацыйны, нікім ня мроены вынік галасаваньня: Беларусь стала незалежнай і набыла свае адвечныя пазнакі — сьцяг і герб. Мікола ўзгадаў, як маці з бацькам пілі віно й плакалі, і бацька сказаў: «Усё. Цяпер у нас ёсьць свая краіна».

Некалькі гадоў пасьля абвяшчэньня Незалежнасьці Мікола хадзіў на дэманстрацыі й мітынгі. Ён памятае, якія па-сапраўднаму сьвяточныя былі калёны, калі сьвята яшчэ не было забароненае й забытае, як сьпераду йшоў генэрал Грыб у белым касьцюме, колькі было сьцягоў і кветак. Мікола ніколі ня быў згодзен зь сябрам, які лічыў, што 27 ліпеня — толькі бледны адбітак 25 сакавіка. Маўляў, беларускі каляндарык склаўся, і праз некалькі старонак прасачыліся барвы, кроў і радасьць 25 сакавіка 1918г.

Рэспубліка Беларусь для маладога Міколы Кахановіча заўсёды была большай рэальнасьцю, чым БНР. 25 сакавіка — сьвята ягоных бацькоў, якія памяталі пра БНР нават за часамі шматпудовай БССР. 25 сакавіка асьвечанае, але й абцяжаранае загінулымі жыцьцямі і надзеямі. 27 ліпеня — новае, сьвежае сьвята маладых, якія сфармаваліся (альбо нават нарадзіліся) ў Рэспубліцы Беларусі. За 27 ліпеня ніхто не паміраў.

Мікола прынёс са склепа і паставіў на ганак паўтузіна піва. Віна няма, будзем сьвяткаваць півам.

Мікола адсалютаваў келіхам і згадаў увесь сёньняшні дзень, гутарку ў аўтобусе, і ўласная радасьць падалася яму не такой ужо і беспрычыннай. Упершыню за дзесяць гадоў Мікола адчуў пэрспэктыву.

Тыранія напачатку мела шык і бляск, агідны адным і мілы іншым. Цяпер гэты бляск згас незваротна. Лукашэнка быў патрэбны хоць бы на тое, каб сплюндраваць небясьпечныя паняткі кшталту «Расеі» ды «саюзу». Чалавек нямала зрабіў для незалежнасьці, але ягоны час мінае. Самы момант для новай хвалі рэнэсансу.

Мікола сербануў піва і дзелавіта пабіў воблінай аб прыступку. Упершыню за многія гады ён сьвяткаваў 27 ліпеня бяз каліва горычы.

*Надрукавана ў НН № 27 у 2003 годзе*



## Хутка вылупіцца цмок

прачытаўшы першыя ж літары,
пачынай разам са мною
думаць аб радасьці й літасьці.
Гэтая арка і ёсьць тым блакітным выйсьцем.
Пакажы сваё сэрца і атрымаеш свабоду ад
*corpus delicti.*

А сёмай чышчу зубы і слухаю дыялёг па суседзкім радыё.

Карэспандэнтка (з той самай лісьлівасьцю, зь якой белрадыё ходзіць у любімы народ): — Вы будуеце дамы, адраджаеце вёску... Вам, напэўна ж, гэта вельмі падабаецца? (Ну напэўна ж, каровішча ты!)

Сельскі будаўнік: — Я сам атсюда родам. Нравіцца, канешна.

Карэспандэнтка: — І за колькі дом можаце паставіць?

Сельскі будаўнік: — За пару нядзель, есьлі мацерыялы будуць падвозіць воўрамя... (А будоўелька ідзе ўжо паўгоду — матэрыялаў не падвозяць. А вы п’яце на сонейку і робіце дзяцей тамтэйшым даяркам.)

Карэспандэнтка: — Харошыя домікі будуеце? (Сама ня бачыш, дурніца?)

Будаўнік: — Як для сельскіх жыцяляў — дык харошыя.

Карэспандэнтка: — Ды яшчэ бясплатныя!

Будаўнік: — Ну.

Дыктар (яловым голасам на тле нейкага тэхнакратычнага выцця й буханьня): «Праграма «Адраджэньне вёскі»!

Каб вы задушыліся. Я, між іншага, з народам такая ж хлусьлівая і лісьлівая, як гэтая каляжанка-выляжанка. Таму мне наканавана лёгка сыходзіцца з розным ахвосьцем, быццам мы плавалі ў адной балеі. Нядаўна я пераехала, спадзеючыся пазбавіцца ад сацыяльнага балясту, які штовечара набіваўся піць са мною чарніла, — ад Раі- дворніцы, Славы-самалётамыйніка і ад Гены, які хацеў са мною «сысьціся і жыць». У першы ж вечар на новай хаце я заліла суседзяў. Прыйшла маладая алькагаліца з кватэры ўнізе і запатрабавала 20 тысячаў «на рамонт». Што ж, дала.

Учора зноў званок у дзьверы. На кілімчыку стаіць тоўстая баба ў бэрэце і ў байкавым халаце. Тоўстая, сапе.

— Ванда Вінцэнтаўна, — прадстаўляецца яна і сьцягвае бэрэт. Я бачу лысіну.

— Учора гэтая сука, мая нявестка, прапіла твае 20 тысяч, а потым і мой парык. Схадзі у краму па гарэлку, бо мне цяжка, я інвалід другое групы.

Разумеючы, што гэта мая новая прыяцелька, я бяру грошы і іду па гарэлку. Ванда Вінцэнтаўна хоча мне заплаціць 5 тыс. за паслугі. Я не бяру, зьбягаю па лесьвіцы, і старая кідае мне пяцітысячнік. Фіялетавая купюра зьлятае да ног, я падымаю яе і бягу далей. Па прыступках гарохам коцяцца словы: «Бо я буду часта пасылаць цябе па гарэлку!»

У мяне крыза ідэнтычнасьці. У мяне паражэньні мозгу ад гэтай рэчаіснасьці. У мяне даўно не было прыгодаў. Мне б хацелася вырушыць у горад і пагнацца за нейкім чалавекам або ідэяю. Так захапіцца, каб і на працу неісьці. Але няма ідэяў і людзей, за якімі я б пабегла. І я іду ў сваю рэдакцыю. Мне трыццаць з хвосьцікам, на пачатку кар'еры я друкавала на машынцы, цяпер у мяне «Пэнтыюм», а ў краіне нічога не зьмянілася. Адно ачапяткі ўскрываюць схаваныя сэнсы.

«Астмасфэра».

«Калекатывізм» — калека і атавізм.

Але найгорш дастаецца краіне — «Бедарусь», «Бедларусь» (намёк на бэдлам), а аднойчы і «Быдларусь» атрымалася.

І нарэшце — «ветралёт», як поцяг да мары.

Тым днём шэфы даручылі мне напісаць тэкст на тэмат «Чарнобыль: асэнсаваны беларускай літаратурай ці не?». Абяцалі выдатна заплаціць. За тыя грошы я магла перасадзіць кветкі, занавесіць новым хусьцем вокны і яшчэ заставалася на збор Грынуэя. Надзейныя, правераныя рэчы — пералік я набрала на кампутары, раздрукавала і стала чытаць, пакуль стымуляцыя не загусьцее нагэтулькі, каб мне ўзяцца за працу. Адзінае, што я магу напісаць на вялікія тэмы (Хатынь, Чарнобыль, Вялікая Перамога, Бацькі й Дзяды, Мір і Стабільнасьць), — «fuck-fuck-fuck». Гэта не аплачваецца. Давядзецца выціскаць сябе, як цюбік. Цікава, што я не абыходжуся ні з кім так, як з сабою. Чарнобыль. Ня пішацца. Я пайшла на лесьвіцу і папаліла для стымуляцыі. Сапраўдны рыцар павінен сустракаць непазьбеж-

насьць, узьняўшы забрала і не адводзячы сталёва-шэрых вачэй (простых, як корд!). Я склала сьпіс творцаў, што асьвятлялі тэмат «Чарнобыль», і рушыла тэлефанаваць кампазытару Бульбульбулькіну, які напісаў ці то кантату, ці то араторыю пад назваю «Горкі палын» (банал — у анал!).

— Алё, — сказаў Бульбульбулькін.

Ня даўшы яму й пікнуць, я лісьліва залапатала:

— Выбачай-што-я-цябе-турбую-але-мне-патрэбна-твая-дапамога!

На гэтую фразу клююць ня толькі капрызьлівыя творцы, а нават свалачныя чыноўнікі.

— Хто гэта? — зьдзіўлена запытаў Бульбульбулькін.

Я назвалася і не пасьпела разявіць рот для наступнае фразы-пасткі, як Бульбульбулькін прамовіў:

— А, гэта ты, цынічнае, прадажнае, халоднае й самазакаханае стварэньне, якое маскуецца пад эксцэнтрычную кабетку?

Я люблю Бульбульбулькіна, ён не падобны ні на кога і ні на што, гэта адзіны чалавек на сьвеце, зь якім я магу палаяцца.

— Каго я пракінула гэтым разам?

— Я прасіў цябе надрукаваць штосьці пра мае гастролі, а ты мне як адмовіла? Ты пяеш, пакуль табе чалавек патрэбен, а потым разварочваешся.

— Гэта праўда. Ня будзем прыкідваць яе вецьцейкам. Але ТЫ мне заўсёды будзеш патрэбен.

— Я стаю на вакзале і чакаю машыны, каб забраць перадачу зь Вільні. Я ў адным касьцюме, мерзну. Калі ты прыедзеш за 10 хвілінаў, я табе скажу ўсё, што трэба, і ты паедзеш са мной у госьці да добрых людзей.



— Ужо апранаюся. Слухай, як мабілка зашуршыць у рукаве...

Я нырнула ў байку, у калідор, у таксоўку. Я абыдуся без Бульбульбулькіна як інтэрвіюэра, але не пражыву безь яго самога. Ня будзе як сказаць і пачуць праўду.

Ягоную шыракаплечую і танкастанную постаць я ўбачыла здалёк. Ён мёрз у зялёным гарнітуры, зялёным гальштуку і блакітнай кашулі, а ля ног стаяла брыдкая чырвоная торба. Бульбульбулькін — дасканалая карцінка, лішнія толькі торба й вакзальны натоўп.

Ён пайшоў насустрач, шырока ўсьміхаючыся, я працягнула руку і хацела абняцца, але ён адсунуў мяне і стаў аглядаць. Любая працоўная жанчына за трыццаць скажа вам, што ня варта так пільна разглядаць яе ў бязьлітасным сьвятле поўдня.

— Я думаў, раз вясна, ты будзеш у нечым аблягальным, яркім, ногі будуць, грудзі там...

Я зьдзівілася. Гадамі я хаджу ў джынсах, байках і тапках, зь вялікай чорнай торбаю. Ён абвіў мяне доўгімі рукамі, спрытна прайшоўся па ўсіх ляндшафтах, а потым узяў за руку і павёў да тралейбуса. Ён быў сіняваты ад холаду, пёр вялізную торбу. Я моцная, люблю перарасстаўляць мэблю, насіць торбы. Таму я вырвала руку, пераняла яму дарогу і паспрабавала хапянуць торбу. Ён спрытна выкруціўся. Але лекцыі пра жаноцкасьць не чытаў, і на тым дзякуй.

У тралейбусе я слухала яго як праз туман, бо непакоілася, ці правільна ён зразумеў словы «дарагі» і «я люблю цябе». Ці трэба сказаць яму, што я жаноча-мужчынскімі справамі не цікаўлюся? Але Бульбульбулькін вядомы экс-

цэнтрык, мо для яго пацалункі-абдымункі — норма?

Я падняла забрала і паглядзела простым, як корд, сталёва-шэрым позіркам у ягоны смуглы й падрапаны твар:

— Андрэй, перастань. Я ня маю на ўвазе нічога такога.

Пасажыры з усіх бакоў сунулі да нас круглыя вушкі і вострыя пыскі, і я спрабавала адсунуцца ад Бульбульбулькіна, але з-за тпрулейбуса з размаху торкнулася тварам у ягоную шыю. Я прывыкла ўсім глядзець у пераносьсе ці на макаўку, але Бульбульбулькін аказаўся вышэйшы. Ён прыціснуўся да мяне і сказаў, што яму на ўсё пляваць, ён зьмёрз і хоча пагрэцца. Мне так спадабаліся ягоныя правільныя, эрганамічныя і натуральныя абдымкі, што я вырашыла так і даехаць, а вылезшы, сказаць, каб заторкнуў сабе рукі куды-небудзь.

Мы выйшлі ля супэрмаркету і на прыступках сустрэліся з Ганнай, невысокай, моцна зьбітай, жвавай. У яе быў гомельскі твар — смуглы, цемнавокі, трохі дзятлікавы. Ганна грае на скрыпцы, мы пойдзем да яе ў госьці. Сталі раіцца, што набыць. Ганна хацела шампанскага, я — віна, а Бульбульбулькін хацеў чакаць на ганку апазыцыянэра Міколу, каб перадаць яму скрутак (праклямацыі). Бульбульбулькін дастаў з кішэні дробную купюру і даў на закупы. Я дакінула сваіх і зайшла ў краму. З пункту гледжаньня сьвінства, курэчаства і кароўства чалавечая крама выглядае жахліва! Я купіла сыру, кменнага хлеба, чылійскага віна, савецкага шампанскага, бісквіт і набор цукерак для дамы. На гэтым грошы скончыліся. За мной, схаваўшыся за стэляжамі, цікавалі ахоўнікі. Таму што я нагадваю Ульрыку Майнгоф, а не шляхетнага рыцара.

Апазыцыянэр Мікола ўжо забраў у Бульбульбулькіна торбу (добра, што гэтая разьлезлая пачвара была не Андрэева!) і стаяў-гаманіў. У яго быў учэпісты й недаверлівы позірк, бледна-блакітныя вочы і макабрычныя сьветлыя вусы. «Ясна, кахэпіст!» — угадала я. Шырокая душа Бульбульбулькін ужо запрашаў Міколу пайсьці з намі. Але Коля палічыў за лепшае паклеіць улёткі. Мы рушылі на гулянку. Шляхетны Бульбульбулькін адабраў у мяне пакет зь пітвом.

Андрэй і Ганна ішлі сьпераду і гаманілі пра сваё музычнае, а мне было так утульна плесьціся ззаду. У Ганны былі высокія сіняногія фужэры, мы пачалі піць зь іх шампанскае і заядаць бісквітам. Галодная і стурбаваная, я хутка адчула, як у галаве шуміць касьцёр. Андрэй дастаў Ганьніну скрыпку і пачаў граць урыўкі зь ягонае кантаты ці там араторыі. Мне стала сорамна — музыка была сапраўдная. Яна аджыўляла зацёртыя паняткі. Бадай, заўтра я здолею напісаць пра Чарнобыль. Ганна з Андрэем гралі па чарзе і паказвалі здымкі са сваіх бясконцых гастроляў. Андрэй зьбегаў яшчэ па пляшку. Не такі й сквапны. Потым мы гаварылі пра Беларусь. Я ёрнічала, распавяла пра Беларусь, Бедларусь і Быдларусь. За што расейскамоўная Ганна дала мне па пысе. За Беларусь — мне — па пысе! Я не магла нарадавацца на гэтую поўху.

Перайшлі да размоваў пра сэкс.

— Жанчына не павінна быць нічыйнай, — пераконваў нас з Ганнаю Андрэй.

— Летась, — падхапіла Ганна, — як мы езьдзілі ў Арабскія Эміраты, я ледзь ня выйшла замуж. Я

была гатовая прыняць іслам. Я адчула сябе такой абароненай, свабоднай ад страху, трывогі. Па законе ён абавязаны глядзець мяне ўсё жыцьцё, нават калі мне там нагу, руку адарве ці рак прыкінецца. Гэта і ёсьць сапраўдная свабода для жанчыны.

— Нічыйная жанчына вяне і сохне, — сказаў Андрэй, абняў мяне й пачаў гладзіць твар, да якога месяцамі не дакраналіся нічые рукі, апрача маіх. Ганна гладзіла мяне па сьпіне над джынсамі.

Але я хачу радасьці й свабоды, а не размнажэньня ў няволі.

Я дапіла келіха і сказала пра гэта. Я разумею: гэта сьмешна. Ды ўсё ж думаю, што чалавек большы за гэты сьвет.

— Ясна! – сказала Ганна. – Яна яшчэ маленькая. Ідзі смажыць бульбу.

І я пайшла на кухню. Скрэбці бульбу. Яны прыйшлі за мной. З новай пляшкай, якую Ганна выцягла з антрэсоляў. Гэта ўжо была сяброўская пляшка. Мы абдымаліся, елі бульбу, плакалі, гаварылі языкамі- паплятайкамі. Потым Ганна пайшла нас праводзіць, і мартэнсам, нібы амонавец, выбіла фанэрныя дзьверы.

— Вось! — сказала яна.

Мы залезьлі ў той самы тралейбус, і Бульбульбулькін абняў мяне гэтак жа натуральна. Ён гладзіў мой твар, а мяне больш цікавіў маладзён зь вішнёвымі вачыма, што неадрыўна глядзеў на нас і прагна слухаў. І было незразумела, па чым ссумаваўся гэты юнак, — па п’янай жанчыне ці па жывой беларушчыне.

Я вярнулася непапэцканая, я адамкнула свае дзьверы, з палёгкай скінула торбу, тапкі, байку, майку, станік, шкарпэткі. У адных джынсах выпіла на кухні нагбом. Хто я — недалюбленая нічыйная жанчына? Нарцыс? Андрагін? Недалесьбійка, перагетэрасэксуалка? Не. Няма ні жанчыны, ні мужчыны, ні эліна, ні юдэя. Я рыцар Граэлент з адкрытым забралам і сталёвым кордам.

У суседзяў па радыё завыў гімн.

Я палезла ў лядоўню, дастала яйкі з надпісам «С Пасхой!», выдзьмухала іх і пафарбавала на памаранчовае. Паклала іх у гняздо малінаўкі, якое знайшла летась (у мяне пекная калекцыя птушыных гнёздаў). На яйкі я пасадзіла памаранчовага пеўніка-сувэнірка.

Хай вылупіцца аранжава-залацісты цмок. Мы ўсе зачакаліся.

*Травень 2005*

*Надрукавана ў НН № 20 у 2005 годзе*

# Джэці



## Язьмінчыны Калядкі

Аднойчы Язьмінцы, якая адна жыла ў лесе, на Каляды не было чаго рабіць, то й пайшла яна калядаваць. А за ёй пайшла Схаваная Дзеўка[1] з двума малаткамі, толькі Язьмінка пра гэта ня ведала.

Падышла Язьмінка да дому Кірыка, ганчара, які гарлачы рабіў, і сьпявае нейкую бязглузьдзіцу — ну ня ўмела яна калядаваць.

Вызірнуў Кірык з-за дзьвярэй, а Схаваная Дзеўка лясь яго малатком па галаве! Зазьвінела ў Кірыка ўвушшу, і кажа ён Язьмінцы:

— Чараўніца мая, прыгажуня, скрозь за табой пайду — не магу безь цябе жыць! Прагоніш — памру!

Язьмінка яго пашкадавала й кажа:

— Пачакай паміраць. Лепш прыходзь да мяне заўтра, як сьцямнее, тады й пагутарым.

**Вера Бурлак (Джэці)**

нарадзілася ў Кіеве. Культавая постаць сучаснай беларускай літаратуры. Кандыдатка філялягічных навук. Сталая аўтарка Нашай Нівы.



Пайшла далей Язьмінка, а Схаваная Дзеўка падзьмула ёй на галаву, яна й забылася, што Кірыку сказала.

Прыйшла Язьмінка да бачара Бембеля, засьпявала ў яго пад вокнамі (ат, гэткае ж глупства, як і ў Кірыка, — ня ўмела яна сьпяваць). Бембелю жонка кажа: хадзі цікні, што за людзі на вуліцы. Той выйшаў, а Схаваная Дзеўка яго малатком па галаве трэсь! Бембель траха не самлеў, але ўтрываў і адразу ж Язьмінцы кажа:

— Надта ж вабная ты, ясачка. Заходзь да мяне, пагуляемся ў ладачкі.

— Не, зараз я не магу, — адказала Язьмінка. — А заўтра, здаецца, у мяне вечар вольны. Прыходзь да мяне, тады й пагуляем.

І зноў падзьмула Схаваная Дзеўка на галаву Язьмінцы, і тая пайшла да наступнай хаты.

А там судзьдзя Павіргон й фэльчар Нязіпер у дурня рэзаліся, ажно чуюць — нехта ў іх пад вокнамі пяе срэбным голасам нейкую лухту. Судзьдзя з вэранды выйшаў паглядзець, а Схаваная Дзеўка размахнулася і трэснула яго па галаве, ажно малатком шыбу ў акне за ім высадзіла. Ён пабачыў Язьмінку і ўвогуле зынепрытомнеў. Але й Язьмінка напалохалася й давай яго сынегам адціраць. Судзьдзя Павіргон вочы расплюшчыў і прастагнаў:

— Ты сьнішся мне, дзівоснае стварэньне?

— Не, — сказала Язьмінка. — Ты што, зусім мяне ня памятаеш?

[1] Схаваную дзеўку ўсе знаюць: яна паўсюль з двума малаткамі ходзіць і як пабачыць дзяўчыну й хлопца разам — аж ня толькі дзяўчыну й хлопца, але й жанчыну з мужчынам і нават дзеда з бабкай, — то можа абаіх па галовах малаткамі цюкнуць — яны й закахаюцца. А можа аднаго цюкнуць, а другога ня цюкнуць, а можа наагул міма прайсьці. Яна на ўсё здатная.

— Сынішся, — расчулена паўтарыў Павіргон.

— Язьмінка я! Вось прыходзь да мяне заўтра ў госьці ў лес, як сыцямнее, то й пабачыш, што ня сынюся.

— Заўтра ўвечары, — паўтарыў судзьдзя летуценна, зноў ніякавеючы, — заўтра ўвечары!

Тут да іх фэльчар падышоў (зразумела, Схаваная Дзеўка й яго малатком дзеўбанула, а Язьмінцы хутчэй дзьме на галаву) і нечакана для сябе сказаў:

— Навошта табе гэты маркотнік? Давай я да цябе заўтра ўвечары прыйду.

— Прыходзь, — пагадзілася Язьмінка — яна ж пра судзьдзю ўжо ня памятала. Дый на Нязіпера-фэльчара з дапамогай Схаванай Дзеўкі хутка забылася.

Пайшла яна па вёсцы, пагойдваючыся ўжо, бо ня памятала нават, навошта з дому выйшла. Памятала толькі, што хацела да ўсіх завітаць. Пайшла да наступнага дому, а насустрач ёй жабрак Парошка. У яго было адно вока так сьляпое, а другое яму нехта калісьці выбраў, таму Парошка запхаў туды анучку й так хадзіў. Схаваная Дзеўка й тут часу дарма не губляе — б'е яго па галаве. А той небарака нават ня ведае, да каго яго раптам такой прыхільнасьцю прасякнула. Падумаў, можа, чараўніца якая перад ім, гіпнацізёрка — то яна, мусіць, і пра замоўленыя скарбы ведае.

— Ці не чараўніца ты часам? — так і кажа жабрак Язьмінцы. — Ці ня ведаеш пра якія скарбы? Я б на іх сабе новыя вочы набыў.

— Не, я не чараўніца, — адказала Язьмінка жаласьлівая. — Пра скарбы ня ведаю і нават грошай у мяне з сабой цяпер няма. Ты прыходзь да мяне заўтра ўвечары, тады я табе дам штосьці й пачастую.



— Прыйду, — Парошка кажа й адчувае, што не пачастункі яго цікавяць.

А Язьмінка ўжо далей пабегла. Выплыла да яе з паўцемры прыгожая хатка, на даху зь пеўнічкам, а па аканіцах кветачкі ды сэрцайкі, а на сьценах — шкада, у цемры не відаць — розныя ўзоры бульбінай выціснутыя. Жыў тут мастак на ўсю ваколіцу вядомы, Аверка. Язьмінка пагрукала да яго ў дзьверы, ён адчыніў. Зусім адзін ён жыў і даўно хацеў прывесьці жонку, але не мастацкія ўсё яму натуры трапляліся. А тут Дзеўка Схаваная са сваім малатком дасьпела — дык адразу Язьмінка Аверку вельмі мастацкай натурай падалася. І ён ёй гэта адразу й выказаў:

— Мілая дзеўчына, памятаю я цябе — ты ж у лесе жывеш. Чаму я цябе раней не заўважаў? Ты ж за барвачку чэрвеньскую ярчэйшая, вочы ў цябе кобальтавыя, ніколі такіх ня бачыў. Заходзь да мяне, я твой партрэт намалюю.

Язьмінка ўсьміхнулася — ёй прыемна было, што так яе хваляць. Але яна памятала, што ёй няма калі.

— Прабач, ня сёньня, — адказала яна. — Разумееш, я вельмі сьпяшаюся. Але калі заўтра ўвечары ты прыйдзеш да мяне са сваімі фарбамі, то малюй мяне колькі хочаш. Добра?

Засумаваў Аверка, але пагадзіўся. А Язьмінка пайшла далей. Наблізілася яна да цёмнай хаты, пра якую зь дзяцінства нешта страшнае чула, але незразумелае, бо ня ўсё ж чалавеку ў сьвеце разумець. Думала Язьмінка абмінуць тую хату, але зь яе выйшаў юнак Дабад — прыгожы, як сонца, — і паклікаў дзеўчыну. Ён яе насамрэч напалохаць хацеў, але тут Схаваная Дзеўка да яго нябачна ззаду падскочыла й шарганула сваім

малатком. Дабад вачыма залыпаў і адразу ж перахацеў Язьмінку палохаць.

— Значыцца, вось яно — каханьне зь першага погляду! — усклікнуў ён. — Значыцца, вось тая, якую я чакаў усё жыцьцё! Падыдзі да мяне, ня бойся. Скажы мне, як імя тваё, хто ты?

— Я Язьмінка, жыву ў лесе, — адказала Язьмінка. — А ты хто?

— А я тут жыву, толькі выходжу рэдка, — сказаў Дабад. — Разумееш, у мяне такая праца, якую выдумалі, каб ёю лаяцца, адылі ж яна й насамрэч ёсьць.

— Што ж гэта за праца?

— Разумееш, я... ракар.

— Хто? Хакер?

— Не. Я здабываю скуру вядзьмаркам на чаравічкі. Урэшце, калі ты ня ведаеш, то лепш і ня ведай. Можа, гэта для ўсіх, апрача мяне, проста слова, дык няхай і для цябе гэта будзе проста слова... Ты ня будзеш мяне баяцца?

— Ня буду. Ты мне падабаешся, хаця дзіўнае нешта кажаш. Хочаш, заўтра пабачымся? Я ўвечары адна буду.

А Схаваная Дзеўка рагоча — ажно ня можа. Уяўляе сабе, што будзе заўтра ў лесе! Аднак жа й на гэты раз не забыла Язьмінцы на макаўку падзьмуць.

А Язьмінка, выходзіць, кола наўкруг усёй вёскі зрабіла і цяпер дадому вярталася. Але вырашыла яшчэ зайсьці да палясоўшчыка Шуляна. Ён спаў, а дзьверы ў хаце былі адчыненыя. Язьмінка туды толькі зазірнула, а Схаваная Дзеўка са сваім малатком у сярэдзіну заскочыла — і прысыніўся Шуляну сон, быццам закахаўся ён у Язьмінку, якая жыве побач адна, і што сказала яму Язьмінка, каб ён да яе ўвечары заўтра завітаў. А Язьмінкі там даўно ўжо й блізка не было.



Прыйшла яна дадому і таксама спаць легла. І нічога ня памятала, што нядаўна было. А ў суседняй вёсцы быў у яе знаёмы хлопчык, падпасак Цюнік. Ён і бязь Дзеўкі Схаванай (ды не, зь Дзеўкай, вядома ж, але гэта ўсё нашмат раней адбылося) быў у Язьмінку закаханы і якраз зьбіраўся да яе ў госьці зайсьці — у той жа вечар, што й усе госьці астатнія. Але Язьмінка пра гэта ня ведала.

На другі дзень, як ён ужо да вечару схіліўся, пайшла яна па ваду на рэчку. А там на беразе сядзеў незвычайны чалавек Сёмачка. Ён там заўсёды сядзеў, і заўсёды яму пятнаццаць гадоў было. У вёсцы казалі, што гэта яго калісьці Схаваная Дзеўка зачаравала за тое, што ён неяк яе пакрыўдзіў[2]. З тых часоў Сёмачка на беразе рэчкі сядзеў нерухома, быццам і не чалавек. Язьмінка абышла яго, каб да вады выйсьці, а тут зноў Схаваная Дзеўка аднекуль выскачыла і Язьмінцы малатком па галаве лясь! Так яна пажартаваць вырашыла. Язьмінка ж нават не зразумела, што здарылася, толькі вельмі захацелася ёй зачараванаму Сёмачку свой дом паказаць.

А дом у Язьмінкі быў незвычайны. Ня дом нават гэта быў, а высачэзная каменная заля. Пабудаваў яе нехта калісьці паміж елак, а хто й на-

[2] Пра яго ёсьць гісторыя асобная. Калі яму было 15 год, закахаўся ён у дзяўчыну, сваю равесьніцу. Наважыўся ёй сказаць пра гэта, а яна адказвае: «Малы ты яшчэ. Скажы мне тое ж праз год, тады паглядзім». Ён прыйшоў праз год, але аказалася, што яму зноў пятнаццаць. І яшчэ, і яшчэ праз год тое ж паўтарылася. Бо Схаваная Дзеўка, шалапутка вядомая, чамусьці яго не ўпадабала. Тады ён раззлаваўся, пайшоў у лес, пабачыў там камень, да якога штодня ўся вёска дарункі прыносіла, і схадзіў на тыя дарункі па-маленькаму. А Гаспадар каменя яго за гэта жорстка пакараў: зрабіў самым разумным. І думкі ў хлопца сталі такія доўгія, што ён ані есьці, ані спаць ня мог, ані нават зь месца сысьці, а ўсё сядзеў іх дадумваў. Адну дадумае — другая прыйдзе, і так да бясконцасьці. А з выгляду — быццам звычайны хлопчык сядзіць.

вошта — ліха яго ведае. Тут бацькі Язьмінчыны жылі, пакуль ня зьніклі, і іхнія бацькі, і тых бацькоў бацькі таксама. Ад іх у доме засталіся сякія-такія рэчы. Засталася дзяжа вялізная, у якой можна было пірагоў на тры вёскі расчыніць. Яшчэ засталася печка, якую Язьмінчын дзед склаў, — невялічкая і ад сьцяны адсунутая, каб вуліцу ня грэць. Каля печкі быў ложак, побач зь ім — куфар вялікі ў кветачкі, а за куфрам кросны стаялі, на якіх маці Язьмінчына цуды рабіла. А Язьмінка, калі маці зьнікла, накрыла іх апошнім ейным цудам і з тых часоў да кроснаў не дакранаЛася. А яшчэ, па другі бок ад дзяжышчы, былі там прыступкі, якія вялі наверх, але куды — невядома. Побач зь імі, бліжэй да ўваходу, стаяла каменная баба вялізная. Язьмінка бабу тую ў дзяцінстве вельмі баялася. А больш у Язьмінчыным незвычайным доме нічога й не было. Нямнога зусім, здаецца, але ж усё такое цікавае!

І ўбілася Язьмінцы ў галаву думка Сёмачку да сябе прывесьці. Узяла яна яго за руку і павяла. Пакуль яны йшлі, ужо сутоньне спусьцілася, а пакуль правяла Язьмінка Сёмачку ад бабы да лесьвічкі, ад лесьвічкі да дзяжыны, ад дзяжыны да печкі, ад печкі да ложка, а ад ложка да кроснаў, зусім вечар настаў, і пачула Язьмінка грукатудзьверы. Пакінула яна Сёмачку ў куце цёмным і пайшла госьця сустракаць.

Гэта быў Аверка-мастак, і прыйшоў ён ня так, а з агромністай дошкай, каб маляваць на ёй Язьмінчын партрэт. Паставіў сваю дошку за кроснамі дый зразумеў, што не маляваць Язьмінку хоча, а абдымаць і цалаваць. Але ледзь ён падышоў да яе з абдымкамі, як зноў грукат у дзьверы — новы госьць:

— Адчыні, — крычыць, — гаспадынька!



Напалохаўся й Аверка, і Язьмінка. Хутчэй схавала Язьмінка Аверку за дзяжу. Адчыняе дзьверы, а там — бачар Бембель з бочкай. Закаціў бочку ў кут, за мастакову дошку, абняў Язьмінку й кажа:

— Ну што, пагуляемся ў ладачкі? Язьмінка разгубілася, а за дзьвя рыма зноў шоргат нейкі. Язьмінка бачара ўпрасіла стаць за каменную бабу. Але Бембель падумаў, што гэта ненадзейна, і перабег за таемную лесьвічку. Язьмінка толькі дзьверы адчыніла, бачыць — за імі судзьдзя Павіргон стаіць, укленчыўшы, і ледзь ня плача:

— Мілая паненачка! Не магу чакаць болей! Будзь маёй жонкай!

Вось так адразу й жонкай!

— Пачакай, — сказала Язьмінка, правяла яго ў дом. Але за дзьвярыма зноў, чуе, хтосьці — а дзьверы ж не замкнёныя!

Язьмінка запхала свайго навасьпечанага жаніха за печку. Толькі судзьдзю за печкай падалося няўтульна, і ён перапоўз пад ложак. А ў хату якраз жабрак Парошка ўвайшоў. І з парога прызнаўся:

— Ня трэба мне грошай, прыгажуня. Падары мне адну ноч гэтую, і я навек шчасьлівым буду!

Язьмінка нічога не разумела, але на гэта ў яе й часу не было: зноў нехта да дзьвярэй крочыў.

— Пачакай тут, пакуль усе сыдуць, — сказала Язьмінка і завяла жабрака за дзяжу, толькі забылася, што там ужо мастак Аверка стаіць.

— Усе-е?! — зароў Парошка: ён раўнівы быў жахліва й адразу раўнаваць пачаў.

— Ціха, ціха! — папрасіла Язьмінка, а Парошка ўжо адчуў, што нехта ёсьць побач. І Аверка адчуў, што яго нічога добрага тут не чакае, таму перабег за печку далей ад граху. Ды наступіў судзьдзю на нагу, якая з-пад ложка тырчала.

Судзьдзя напалохаўся і перапоўз за куфар. А ў дзьверы ўвайшоў фэльчар Нязіпер.

— Як здароўе маёй прыгажуні?

— Добра, — адказала Язьмінка.

— А нешта я нашага Сёмачку ля ракі ня бачыў. Мусіць, і ён у цябе закахаўся дый у раку скокнуў.

— Напэўна, — сказала Язьмінка й падумала: вось бы ён сапраўды ў мяне закахаўся! А Нязіпер разважаў:

— Я даўно казаў, што ён чалавек хворы і яму лячыцца трэба.

Язьмінка паглядзела ў цёмны кут, дзе Сёмачку пакінула, і думае: «Трэба й яго схаваць, каб ніхто не заўважыў». А ля ўваходу зноў нехта зашкробся.

— Пачакай тут, — прапанавала Язьмінка Нязіперу, паказваючы на месца за Бембелевай бочкай. Яна патроху прыгадваць пачала, што было ўчора, і разумець, што адбываецца. Пакуль не ўвайшоў невядомы, яна схавала Сёмачку за таемную лесьвічку. Ня ведала Язьмінка, што там ужо сядзіць бачар. Той напалохаўся, што да яго злы дух завітаў, і перабег за дзяжу. А там ужо стаяў Парошка, трасучыся ад рэўнасьці. Сутыкнуўся ён з Бембелем, учапіўся ў яго, і пачалі яны адзін аднаго валтузіць. Пакаціліся па падлозе, лаючыся шэптам, і апынуліся ажно каля вялізнай мастаковай дошкі. І там памірыліся, бо абодва зразумелі, што нельга давярацьжанчынам. Яны схаваліся за дошкай, а з-за суседняй бочкі да іх фэльчар далучыўся. Парошка дастаў з рызманоў карты[3], і ўтрох яны ўсю ноч у дурня гуляліся.

[3] Парошка быў вядомы картыжнік. Ягонае адзінае вока нічога ня бачыла, а карты бачыла, нават калі яны да яго плячыма павернутыя.



А да Язьмінкі ўвайшоў Шулян, палясоўшчык, і засьпяваў:

— Мая хваіначка, мая бярозанька...

А за дзьвярыма яшчэ нехта. Язьмінка ўжо заблыталася, дзе хто схаваны, і запхнула палясоўшчыка за печку. Давялося Аверку вярнуцца за дзяжыну, але Шулян за ім пагнаўся, і Аверку давялося ратавацца пад лесьвічкай. Шулян туды сунуўся, але пабачыў Сёмачку, вырашыў, што гэта прывід, і адступіў, спалоханы, за дзяжу.

У дом увайшоў Дабад, зьзяючы прыгажосьцю. Сярод зімы здабыў ён недзе кветкі. Але чуў ён, што сьледам яшчэ нехта йдзе, таму аддаў кветкі Язьмінцы і сам схаваўся за кросны: ён наагул пазьбягаў людзей.

А ў пакой ужо ўвайшоў ганчар Кірык з прыгожай глінянай лялькай. Ён нават сказаць нічога не пасьпеў, бо за дзьвярыма тупалі, быццам конь бег. Язьмінка схавала Кірыка за Бембелеву бочку. У дзьверы ўбег падпасак Цюнік і ўсклікнуў:

— Язьміначка!

А з двара яшчэ нехта зашкробся. У Язьмінкі галава кругам пайшла. Яна схавала Цюніка за каменную бабу. Адчыніла дзьверы, а за імі аўчарка Цюнікава, Магда, прыбегла за сваім гаспадаром.

Язьмінка пачакала яшчэ трохі і ўздыхнула з палёгкай: здаецца, ніхто больш ня прыйдзе. А на дварэ ўжо ноч. Тады й дацяміла Язьмінка, навошта ўсе тыя людзі прыйшлі, і зразумела, што настаў ёй час выбраць, з кім зьвязаць свой лёс. «Мастак Аверка малюе прыгожа, — разважала Язьмінка, — бачар Бембель добрыя бочкі робіць, у судзьдзі грошы ёсьць, у фэльчара — лекі розныя цікавыя, Парошку шкада вельмі, ён жа добры чалавек, і Шулян добры чалавек ды жыве недалёка, Дабад пры-

гожы вельмі, хоць і гаворыць дзіўнае, Кірык цудоўную ляльку прынёс, Цюнік таксама добры хлопчык, адно што малы, а ў Сёмачкі нічога добрага няма, але сэрца да яго так і горнецца...» Ня ведала Язьмінка, на кім спыніцца. Усе добрыя, нікога пакрыўдзіць ня хочацца. Але ж і ўсім адразу не дагодзіш! Да таго ж, Язьмінка зусім ня памятала, хто дзе схаваны. Вырашыла яна ўвайсьці кудынебудзь наўздагад. Прыкінула на пальцах — папала пад таемную лесьвічку. Язьмінка ўвайшла туды. Там было два чалавекі, але адзін сышоў. Язьмінка засталася з другім, і яны прабавілі ноч разам.

Уранку Язьмінка прачнулася й не знайшла ў сваім доме нікога. Яна пайшла ў вёску і ва ўсіх пыталася (толькі ў Сёмачкі Язьмінка не спытала, бо ён быў ля рэчкі):

— Прызнайся, ты, з кім я была сёньня ноччу, і я буду тваёй назаўжды.

І ўсе мужчыны адказалі:

— Са мной.

Язьмінка ня ведала, каму верыць.

Праз патрэбную колькасьць дзён нарадзілася ў Язьмінкі дачка Руня, і ўсе мужчыны дружна абвясьцілі сябе ейнымі бацькамі. Язьмінка падумала, што, мабыць, так яно й лепей, і засталася жыць з дачушкай адна. Чужым на пытаньне, адкуль дзіця, адказвала: «Накалядавала». Здавалася б, пытаньне й вырашана.

Але часам здаралася ўвечары, седзячы на ганку зь дзіцяткам, Язьмінка задумвалася:

— Хто ж, Рунютка, усё ж такі твой бацька? І сапраўды: хто?

*Надрукавана ў НН З 38 у 2003 годзе*



# Ірэна Ікс



## Гарт

*Беларускаму збройнаму чыну пачатку 1920–х прысьвячаецца*

Дзень добры. Мяне завуць Ірэна. Разам са сваімі прыхільнікамі я стварыла суполку «Гарт», каб разам загартоўваць целы і душы, каб ня зьнікнуць у правінцыйным балоце. Пакуль суполка існуе таемна, інакш нас пахапаюць, як куранят. Балазе, за часамі СССР сыстэма дасканала адпрацаваная, а за апошнія гады грунтоўна палепшаная. А тэза «перамога любым коштам» для Беларусі вельмі шкодная. Бо надурніцу лёгка галаву злажыць – а які з гэтага толк?

Чальцамі «Гарту» сталі: я, мае дачушкі, бібліятэкарка мясцовае школкі і яе 14– гадовы сын, настаўніца нямецкае мовы і яе 13–гадовы сын, паштарка і яе 14– гадовы сын, 33–гадовая лекарка, 65–гадовая пэнсіянэрка (яшчэ моцная кабе-

---

Твор Ірэны Ікс – літаратурная містыфікацыя з рэдакцыйнае пошты газэты Наша Ніва.

та!), яе 45–гадовая, 40- і 32–гадовыя дочкі і 10-гадовы сын апошняй, 19– гадовая дзяўчына (маладая настаўніца пасьля пэдвучэльні) і 30–гадовая прадавачка крамы.

У паўсядзённым жыцьці мы не афішуем сваіх стасункаў, размаўляем па- расейску альбо на трасянцы. Спачатку трэба паўстаць, замацавацца, а потым ужо рэпрэзэнтаваць сябе.

Асноўныя мэты нашае суполкі: дасягненьне выдатнай фізычнай формы (загартоўка, абліваньне вадою са студні і купаньне ў рэчцы, абціраньне сьнегам, ёга і сучасныя сыстэмы: шэйпінг, калянэтык і інш.); духовае разьвіцьцё (агульначалавечыя каштоўнасьці, беларуская гісторыя, сьвяты, адраджэньне мовы); псыхалягічныя трэнінгі (добры настрой, як пазбавіцца стрэсаў і інш.). Акрамя таго, ладзім дыскусіі па розных палітычных падзеях у нашай краіне і за мяжой, слухаем беларускамоўнае радыё («Свабода», «Рацыя» і інш.), вывучаем ангельскую мову. Рэлігійнага пытаньня мы вырашылі не закранаць, бо да праваслаўя ў нашай мясцовасьці ставяцца абыякава, а каталіцтва не распаўсюджанае.

Фізычныя практыкаваньні (яны адбываюцца на сьвежым паветры ў любое надвор’е) выконваем цалкам аголенымі, як хлопчыкі, так і дзяўчыны ды жанчыны. Лічым, што гэта не супярэчыць ні агульначалавечым каштоўнасьцям, ні нават нормам хрысьціянства. Аб «традыцыях» тутэйшых жыхароў лепш не ўспамінаць.

Першае мерапрыемства нашае суполкі было праведзена на 80–я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну. Але прысьвечана яно, скажам так, Беларускаму збройнаму чыну 1920–х г. Бо змагаліся супраць бальшавікоў ня толькі на Случчыне, а па ўсёй Беларусі. І сьнежнем 1920 г. змаганьне ня скончылася. На жаль, у гэты час і выявіліся адмоўныя якасьці беларусаў: амбіцыёзнасьць, зайздрасьць, абыякавасьць да навакольнага жыцьця, абмежаванасьць інтарэсаў. Вось чаму Чырвоная армія спачатку загнала войска Булак-Балаховіча ў Польшчу, а потым туды ж адступілі чальцы Слуцкага збройнага чыну... А калі б балахоўцы і случакі дзейнічалі разам, то, магчыма, нашая гісторыя XX стагодзьдзя была б іншай...

Першая акцыя «Гарту» працягвалася каля 30 гадзін запар: з 0 г. ночы 25 лістапада да 6-й раніцы 26 лістапада. На працягу 30 гадзін мы абыходзілі навакольныя лясы з паходнямі, сьпявалі патрыятычныя і народныя песьні. Наперадзе шыхту — бел-чырвона-белы сьцяг. Падчас мерапрыемства цалкам распрануліся і вось так, зусім голыя, зьдзейсьнілі гэны даволі цяжкі пераход. Акрамя таго, адмовіліся ад ужываньня ежы. Пілі толькі крынічную ваду ў абмежаванай колькасьці. А далей – невялікі дзёньнік.

0.00 — Шыхт! Зважай!!! Суполка сабралася ў мяне на падворку. Ноч. Цемра. Аголеныя целы працінае вятрыска. Запальваюцца паходні. У маіх руках трапечацца наш сьцяг. А ва ўсіх на галовах бел-чырвона-белыя стужкі. Сьпяваем «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Потым ушаноўваем сьцяг — суполка нерухома стаіць на працягу 5 хвілінаў (а мо і больш).

0.15. Мы выпраўляемся. Я са сьцягам наперадзе. Каля мяне хлопчык з паходняю. Яшчэ два хлапцы з паходнямі ідуць па бакох калёны. Апошняя ў шыхце — прадавачка, таксама з паходняй.

1.00. Прадзершыся скрозь алешнік, выходзім да рэчкі. Ужо ўсе ганяюць дрыжыкі, а баба Соня

(65 год) нават не зважае на сібер. Гэтакай трывушчай жанчыны я яшчэ ня бачыла. Пераходзім рэчку. Старэйшы хлопец бярэ на плечы 10-гадовага, а я — дачушку (малодшую). В-о-о-о-й, халодная вада, здаецца, цалкам захопіць у свае абдымкі. Глыбока – ледзь не па шыю – плынь зьбівае з ног. І ўсё ж ідзем. Ды яшчэ й песьню сьпяваем. Галоўнае — паходні ня згасьлі. Нарэшце вылазім на бераг. Крыху адпачываем і зноў у рэчку. Плаваем даволі доўгі час, акунаемся з галавою. Далей — ёга. Робім самыя складаныя практыкаваньні, аж пакуль не становіцца цёпла.

Нарэшце можна крыху адпачыць. У зацішным месцы раскладаем вогнішча, насьцілаем хвойнік. І сьпяваем, сьпяваем, сьпяваем...

4.00. Выпраўляемся ў далейшы шлях. Цяпер прадзіраемся скрозь амаль непраходны гушчар. Босыя ногі трапляюць то на шышкі, то на вострыя галінкі, то ў нейкія ямы. У большасьці чальцоў падрапаныя целы.

А перашкоды не сканчаюцца. Пераходзім вялізную канаву па паваленым дрэве. Задзіраем ногі ледзь не да галавы, каб пралезьці празь бярвеньне. Нечакана перад намі вырастае шчыльны ельнік. Ажно некалькі шнуроў. Адшукваем шчыліну, па адным паўзем на другі бок. У выніку сьпіны моцна паколатыя іголкамі.

Але паходні гараць.

Але сьпяваем (па магчымасьці).

Гушчар скончыўся. Плянавалі выйсьці да возера, дый не атрымалася. Улезьлі ў нейкую багну. Пакуль зь яе выкараскаліся, дык запэцкаліся так, што ніхто не пазнаў бы. Адно вочы блішчаць. Галоўнае — сьцяг застаўся чысты.



Нарэшце дапаўзьлі да возера. Пераправіліся.

Купаньне, ёга, руханка. Памылі бел-чырвона-белыя стужкі. Адпачылі.

6.00. Выйшлі на добрую мясьціну. Далей бег. Беглі па лясной дарозе. Спачатку ўсё добра. Сьцяг трапечацца, жарты і нават размовы. Хутка яны аціхаюць.

Чуваць толькі цяжкае дыханьне.

19-гадовай настаўніцы бегчы нялёгка. Здаецца, вось-вось яна спыніцца. Але ж трывае.

Зноўку зьдзіўляе баба Соня. Яна бяжыць наперадзе! Са сьцягам. Вось вам і 65 год.

Наперадзе круты пагорак. Ледзьве бяжым. Пераадольваем апошнюю перашкоду і спыняемся. Дзяўчына дабягае да дрэва і са стогнамі абхоплівае яго.

8.00. Раніца. Марозік невялікі, але вецер значна ўзмацняе ўзьдзеяньне холаду. Сонца няма.

Ідзем на каленях. Навакольле даволі маляўнічае, нават у такую пару. Сьпяшаемся. Бо такі рытм выпрабоўвае целы і душы.

Вой, гэта ўжо нават для мяне цяжка. Мы стомленыя. Вочы закрытыя. Горача! Ажно ўспацелі! У такое надвор'е!

Нарэшце, дапаўзьлі да невялічкага хлеўчука. Зашываемся ў сена і імгненна засынаем.

У гэты хляўчук мы ўлетку складвалі сена. Даволі далёка ад вёскі, але бліжэйшага сенакосу ня маем.

Спалі вельмі доўга. Прачнуліся пасьля 21.00 вечара. Руханка, мэдытацыя каля вогнішча.

І зноў пераадоленьне перашкодаў. Так да 6-й гадзіны раніцы. Дамоў вярнуліся канчаткова стомленыя, зьмерзлыя, з падрапанымі целамі і зьбітымі да крыві нагамі, галодныя.

Але моцныя духам. Упэўненыя ў сабе. У тым, што многае можам.

Незабыўнае ўражаньне другое начы — марш са сьцягам і паходнямі. Ішлі страявым крокам. Падчас маршу выканалі ўсе вядомыя нам беларускія патрыятычныя песьні.

Такім чынам, суполка «Гарт» дзейнічае!

На гэтым пакуль.

Жыве Беларусь! Посьпехаў!

*Надрукавана ў НН № 8 у 2001 годзе*



# Паўліна Качаткова



## Лясное

І загадка стала перад загадкай.
Мы ізноў тут няпрычым.
Мы разумеем: лес — раздольле,
І зь дзікай таямтцай сьпім.
*Янка Юхнавец*

### Ранак

— Час перад сенакосам — найлепшы час, — гаворыць гаспадар хутару. Які жах — час перад сенакосам! Трава высокая, густая, у ёй раскашуюць земляныя жабы; ніводнаму філятоваму званочку яшчэ не адсеклі галавы. Падумаеш пра ўсё гэта й міжволі ўзгадаеш сваю хваробу, якая зёлкамі ня лекуецца.

— Мне таксама даспадобы час перад сенакосам, — адказваю я, — але, здаецца, летась трава тут была вышэйшая...

---

**Паўліна Качаткова**

нарадзілася ў Воршы. Літаратарка, журналістка. У Нашай Ніве друкуецца ад 1994 году.

Роўна год таму тут, на хутары я згубіла каханага. Згубіла назаўсёды — ён ператварыўся ў зьвярка і ўцёк у лес. Звярок быў белы й пухнаты. Вось і ўсё.

## Дзень

Праз год мы вярнуліся на хутар, каб адзначыць вясельле нашай сяброўкі. Пакуль я тут адна — трэба падрыхтавацца да прыезду гасьцей. Яны думалі — буду баяцца. Чаго? Што тут страшнага? Ведала аднаго хлопца, ён пісаў цудоўныя вершы пра каханьне й свабоду, боль і нянавісьць. Я бачыла, як ён праваліўся ў ліўневую каналізацыю... Гэта ўсе ведаюць! Што з таго?

Думаю, майму каханаму добра ў лесе. Ён заўсёды пачуваўся няўтульна сярод людзей, было ў ягонай істоце штосьці цяжкое й панурае:.. Ваду, каб мыць падлогу, цягаю вёдрамі ад стаўка — «чароўнага возера». Іду зь вядром па лесе й думаю, што амаль нічога апошнім часам не чытаю. Затое памяць палепшала, калі ўжо што прачытала .— не забуду. Напрыклад: «Істота з абліччам чалавека, пазбаўленая ўсялякай духоўнасьц й маралі... Вы ня хочаце ведаць і чуць пра яго? З жахам уяўляеце, што ваша дачка можа сустрэцца з такім? Не заплюшчвайце вочы! Ён ёсьць!» Гэта з артыкула пра маладую беларускую літаратуру. Я згодная з аўтарам: нашмат больш прыемна напаткаць чалавека ў аблічча лясной істоты. І бацькі ня будуць у жаху.

Букетам палявых званочкаў у цёмна -зялёнай пляшцы з-пад алжырскага віна ўпрыгожваю пакой для маладых. Пляшку адмыла ад пылу ў стаўку.



Ня ведаю, можа там сапраўды чароўная вада? А пляшка засталася зь мінулага году. Помню, як набывалі алжырскае ў мястэчку, у краме каля жыдоўскіх могілак.

Выношу з хаты й раскладаю на траве матрацы — хай прасохнуць, пакуль сонца...

Вось так.

## Час зьмярканьня

Змрок паўзе да хаты зь лесу. Уяўляю: у гэты час мой каханы выходзіць на лясную сьцежку, прыслухоўваецца, прынюхваецца й выпраўляецца ў начныя паходы. Праз вакно бачу нашых сяброў, яны праходзяць адзін за адным у густой, высокай траве. Прыехалі. Нарэшце. Зараз пачнецца сьвята.

Сьвята на хутары.

Уеё будзе добра.

## Ноч

Што там ляснула?

Гэта мае сябры Сава з Казлом саскочылі з шафы. Шафа — ня печка, на ёй ня кожны спаць можа. А што рабіць, калі месца ўсім не хапае? На стале дагарае зялёная сьвечка. Хочацца паліць, ды няма чаго. Казёл паказвае на мяне пальцам:

— Паглядзі, я яе зь дзявятае клясы ведаў. Тады яна здавалася мне анёлам.

— Я й цяпер анёл.

— А дзе твае крылы? — пытаецца Сава. Совы ведаюць: у каго павінны быць крылы, у каго — не. Разьбіраюцца.

— Пачакайце, зараз прадэманструю, — я выходжу з хаты.

Хто ня быў хворы — ня ведае... Хвароба, як неадчэпны сьцень.

Цёмна, зусім цёмна. Крапіва каля ганку — увасабленьне мужнасьці, уся зьмятая й прытаптаная. А на забытым у траве матрацы сядзіць зьвярок — брудны й калматы. Выйшаў зь лесу. Цяпер сядзіць на матрацы й мыецца: цярэ лапкамі пысу, вушкі, абтрасае поўсьць. Так хутка-хуценыса чысьцցца, нават не зірне на мяне... Ні разу.

Час перад сенакосам — цудоўны час, той час, калі спаўняюцца жаданьні.

*Надрукавана ў НН № 2 у 1994 годзе*



## Пра адну кабету

Удалечыні ад Радзімы шмат думаю пра адну кабету.

Гэта ўспамін пра прывід.

Народжаныя морам хвалі набягаюць на скалы, каб разьбіцца і зьнікнуць; маладыя крабы ў змроку караскаюцца на мокрыя камяні; рыбкі поўзаюць па дне. Чырвонае сонца правальваецца ў ваду, наступае цемра — самы час уявіць пахавальную працэсію: катафалк на львіных лапах з балдахінам, харугвы з гербамі і дэвізамі, чорныя штандары.

Вельмі марудна цягнецца жалобная працэсія да зацішных могілак — месца супакаеньня і апошняга прытулку. Баюся пахаваньняў, але хочацца зірнуць на трунны партрэт нябожчыцы. Партрэт, створаны пасьля сьмерці. Хочацца праз срэбны туман шасьціфаннай цынкавай пласьціны сустрэцца позіркам з пані Ядвігай.

Часта жадаеш таго, чаго няма.

Дзеля такіх жаданьняў і ствараюцца трунныя партрэты.

Ня хочацца сонца, ня хочацца мора, ня хочацца крабаў зь мідыямі — паляцелі думкі на Радзіму.

Удалечыні ад дому ўяўляюцца закінутыя могілкі і пах вільготнай зямлі, срэбны туман цынкавай шасьціграннай пласьціны і позірк пані Ядвігі.

***

Яна стала гаспадыняй фальварку пасьля сьмерці брата. Мела мужа зь невядомым лёсам (усе чулі пра яго, але ніхто ня бачыў).

Пасьля заканчэньня асабістага жыцьця вярнулася дадому. Дом стаяў на гары, пад гарою — вёска. У фальварку — яна ды арандатары.

Вакол лясы.

Па ўзгорках — сосны. Абапал дарогі — клёны. Паміж клёнаў — крыж, на яго — фартушкі вешалі. Бога баяліся. Каля крыжа ляжаў камень, вычасаны, каб можна было сядзець.

Можна хадзіць на шпацыр: вакол фальварку, да чыгуначнай станцыі, паглядзець на цягнікі, у нядзелю — да касцёлу. Мела зашклёную шафу з кнігамі.

З крыніцы цякла вада ў сажалку. Стаў быў добры, але бяз рыбы. Гаспадыня не хацела гадаваць рыбу.

На панадворку расьлі каштан, акацыя і бэз. Пад вакном яе пакою — гарэх, які даваў мала прыплоду. Пасьля моцнага марозу ў 1939 ня стала ні гарэха, ні каштана.

На што спадзяваўся той, хто будаваў гэтую сядзібу, хто садзіў дрэвы? Ці ведала яна, што за ёй усе сочаць? Ці здагадвалася? Кожнаму цікава, што робіцца за фіранкамі панскага дому. Хочацца зазірнуць.

Пра гаспадыню, якая стала прывідам, можна даведвацца са слоў сына арандатара:

«Кабета. яна была... Толькі сама, як бы гэта сказаць, «не ўладацельная». Патрэбная была ёй



дапамога вялікая. Яна казала так: карміце яе і сабаку, і больш нічога ёй непатрэбна.

Яго звалі Рэн. Ён жыў у яе пакоі. Яна сьпіць на канапе, ён унізе — на кіліме. А днём у нагах у яе кладзецца і ляжыць. Як завурчыць на каго, то пані ня любіць такога чаявека, якога ня любіць сабака.

Яна наогул не арыентавалася, што навокал робіцца. Ня ведала, што ў 1939 пачалася вайна, што тут ужо не палякі, што была савецкая ўлада, потым нямецкая акупацыя. Яна жыла мінулым. Такі перапад памяці ў старых часта бывае. Даўняе памятаюць, а што было гадзіну таму — не. Ведала свой радавод.

Яна казала: «як я здохну, то мой сабака памрэ». Праўда. Сабака — гэта такая жывёліна, што разумнейшая ў сто разоў за чалавека. Калі яна памірала, сабака быў у хаце ў яе. І як пачне яна стагнаць, мучыцца, надта ж сабака выў. І ўсё гэта ў хаце адной. Дзе ж дасі рады, каб слухаць! Ён не даваў ей памерці. Узялі сабаку вывялі, на склеп пасадзілі. І да таго ж сабака вые... А як яна памірала, мы думалі — звар’яцела сабака.

Яна памерла пасьля Новага году. Мусілі яе хаваць. Паехаў бацька да касьцёлу. Пытаецца ксёндз у бацькі: «А ці праўда, што яна з сабакам жыла?» Вось так і сказаў: «з сабакам жыла». А бацька адказвае: «Не яна з сабакам жыла, а сабака жыў у яе». Ксёндз кажа:

— Калі яна з сабакам жыла, тады ня будзем хаваць.

— Дык што яна — скаціна? Павязу і закапаю яе?

— А што рабіць?

— Скажыце вы, што рабіць, бо прывязу яе ў касьцёл. Хай будзе сорамна вам!»

Буду шчырай: пры ўсім маім жаданьні ствараць трунны партрэт пані Ядвігі ён ніяк не атрымаецца поўным. Студзеньскай ноччу 1942 году ў халодным пакоі пацукі адгрызьлі ў нябожчыцы шчаку. «Ну, што ж зробіш, — сказаў арандатар, — назад не прыклееш».

Кажуць, што яе пахавалі побач з братам.

* * *

У кавярні, перарobленай пад італьянскую, гавару з блізкім мне чалавекам, скарджуся на лёс і слухаю парады:

— Табе проста трэба адарвацца ад усяго...

— Як ты гэта ўяўляеш?

— Паглядзі, — маю ўвагу зьвяртаюць на сьцяну. Там плякат — марскі краявід. Вельмі празрыстая зялёная вада і скалы. — Ты хутка зьедзеш і ўсё будзе добра.

— Калі кажуць «усё будзе добра», бывае кепска. Да таго ж я еду не ў Італію.

— Усё роўна, ты едзеш на Міжземнае мора, а там паўсюль аднолькава — вось так. — Мне зноў паказваюць на плякат.

— Вада надта зялёная.

— Там менавіта такая вада. Проста ты яшчэ ня ведаеш.

— А старажытныя філёзафы сьцьвярджалі, што падарожжы ня маюць ніякага сэнсу.

— Чаму?

— Таму, што ты паўсюль возіш з сабою самога сябе.

— Дык не вязі сябе, паспрабуй узяць каго-небудзь іншага!

Вось я і ўзяла. Паспрабавала ўзяць.

*Надрукавана ў НН № 11/12 у 1997 годзе*



## Чужое гняздо

Заалягічная крама «Прырода». Вось акварыюмы — 30-літровы, 60-літровы, 120-літровы і на 200 літраў — з падсьветкай і падагрэвам. Каб было ў мяне ўсё добра, я б купіла сабе стодвaццацілітровы, падрыхтавала б грунт, пасадзіла водарасьці ды запусьціла б у празрыстую ваду рухавых і мірных рыбак. Рухавых — каб яны хутка плавалі і здавалася, што іх больш. А мірных — бо бываюць і драпежныя, яны ядуць іншых рыб, а я так не хачу. Па дне майго акварыюму поўзалі б залацістыя сомікі...

Вось пацукі, хамякі, папугаі. У адной клетцы сядзіць шмат папугаяў і яны танныя, а ў другой — мала і дарагія. Тыя, што танныя, — самкі, яны каштуюць амаль у тры разы меней за самцоў. Іх амаль ніхто не набывае, бо «ня ўмеюць гаварыць». Але ж вось гэтая самачка — пяшчотна-блакітная зь белай галавой — такая кранальная істота! Ашчасьлівіла б якога-небудзь зялёненькага хвалістага, калі б яе купілі... Усё адно — наўрад ці каму спатрэбіцца. Тыя, хто трымае гэтых птушак дома, ведаюць: ледзьве зьяўляецца самка, папугайчык перастае гаварыць.

А вось сабачыя ашыйнікі. Прыгожыя — мяккія, скураныя — і «строгія» — мэталёвыя з шыпамі. Каб быў сабака, ніколі б не надзела яму на шыю «строгі». Купіла б прыгожы — плецены са сьветлай скуры.

Зноў вяртаюся да акварыюмаў з празрыстай вадой і мірнымі рухавымі рыбкамі — вось што трэба. Згадваю, што ўжо мела акварыюм, але маленькі — 11 літраў (вядро вады). Там жылі кардыналы і сомікі. Гэты акварыюм нават адлюстраваны ў беларускай паэзіі — адна паэтка напісала верш пасьля таго, як заначавала ў нас дома каля акварыюму. Верш такі: «У водарасьцях схаваўся слон, мне цёпла». Праўда жыцьця вымагала б напісаць «сом», а ня «слон». Але што тады рабіць з праўдай вымыслу і паэтычным успрыманьнем? Паэтка пасьля сварылася са мною, папракала, што я «жыву на Зямлі» ў адрозьненьне ад яе, што «жыве ў аблоках на Небе», — так мэтафарычна намякнула яна на мой бедны духоўны сьвет. Акварыюм з сомікамі я падаравала дзяўчынцы, у якой не было бацькі, а маці сьпявала ў царкоўным хоры.

Вада, вада. Не заўсёды яна спакойная, як у акварыюме, бывае хуткаплынная, бурлівая — тая, што ўсё зносіць, як у вершы Максіма Багдановіча — «Яно забудзецца, умрэ, з вадой сплыве». Але забываецца і сплывае хутчэй вясёлае і бадзёрае. Застаецца смутнае і змрочнае.

Ля заалягічнай крамы «Прырода» я сустракаюся з чалавекам, які казаў мне: «Нягледзячы ні на што, ведай, што ёсьць на зямлі той, хто цябе заўсёды памятае і любіць». Я чакаю яго. Сёньня па тэлефоне ён паабяцаў мне сказаць яшчэ штосьці істотнае. Што можа зьмяніць маё жыцьцё.



Памятаю, як аднойчы трапіла да яго ў госьці. Апынулася ў чужым гнязьдзе. У ванным пакоі вісеў халат ягонай жонкі — паркалёвы, у дробныя ружнакаляровыя кветачкі — у такім зручна завіхацца на кухні: ня страшна, што зьявяцца плямы, — сыдуць за новыя кветкі. Кветкі трывалага каханьня, вернасьці і дабрабыту. Што там было яшчэ? Шампунь «Крапіва», крэм «Ласкавыя рукі», дэзадарант «Сакрэт». Сакрэты ёсьць у кожнага. І тут я зьніякавела, прачытаўшы на парфумэрным фляконе «дзярмо». Лацінкай. Не адразу сьцяміла, што гэта «*Derma*» — скура. Дэзік рабілі ў Грэцыі, туды выпраўляў ён сваю сям'ю на адпачынак.

Пасьля мы пагаварылі:

— Бачыла ў вас дэзік зь вельмі цікавай назвай. Вам яго...

— Так, падаравала жонка — «намажашся гэтым зранку, мілы, і хадзі так цэлы дзень». А цяпер уяві, як яна выбірала падарунак, як зь сяброўкамі гігікала...

— Адарвіце назву.

— Хай будзе. Як ёсьць, хай так і будзе.

— Садамазахізм?

— Не, жыцьцё такое. Ведаеш, на дваццацігодзьдзе нашага шлюбу я кінуў аб падлогу паднос з шасьцю чэскімі крыштальным келіхамі. І ты ведаеш, што зрабіла мая жонка на мой дзень нараджэньня?

— Адпомсьціла Вам! Таксама нешта пабіла?

— Падаравала мне дакладна такія келіхі. «На твой дзень нараджэньня, — сказаў я тады ёй, — я падарую табе сьпінінг».

— Добра Вам.

— Што добрага?

— У вас склаўся жыцьцёвы пасьянс: Дама адпаведнай масьці легла на Караля. У мяне так не атрымаецца, як ні круціся.

— Чаму?

— У мяне быў момант прасьвятленьня. Памятаеце, як я езьдзіла адпачываць у Баўгарыю? Тады яшчэ прывезла Вам у падарунак запальнічку з выявамі трох рознакаляровых рыбак з хвастамі? Там я выразна зразумела, што мяне чакае, акурат у той дзень, калі вырашыла наведаць былую дачу Тодара Жыўкава — «Пэрліна» ці як яна там звалася. Дзень быў змрочны — цёмнае неба, страшнае мора. Высокія хвалі налятАлі на бераг, разьбіваліся і пускалі белую пену. Толькі жоўты пясок цешыў вока, але перашкаджаў ісьці — ногі патаналі, таму я хутка стамілася і прысела адпачыць на рэшткі ахоўнага збудаваньня. Азірнулася і пабачыла далёкія постаці. Мужчына і жанчына, вакол іх скакаў сабака. Аўчар. Яны набліжаліся. І тут я зразумела: вось яно, шчасьце — шчасьлівы мужчына, шчасьлівая жанчына і шчасьлівы сабака. Ім ніхто не патрэбны тут, на жоўтым пяску пад цёмным небам. Можа, яны маўчаць, можа, гавораць... Ім усё адно добра. І яшчэ я падумала, што мне ня дадзена будзе ні з кім ніколі прайсьці вось так, як ідуць яны. У адным я памылілася — вакол шчасьлівай пары скакаў ірляндзкі сэтэр, а не аўчар. Чырвоны ірляндзкі сэтэр. А можа, я памылілася ня толькі адносна сабакі...

Выходжу з крамы «Прырода» на верасьнёвы праспэкт Скарыны, дзе мяне чакае мужчына з экзатычнай фіялетавай кветкай, назвы якой я ня ведаю.

— Я ўжо пачаў думаць, што ты ня прыйдзеш.

— Разглядала рыбы.



— А да мяне ўжо падыходзілі маладыя прыгожыя дзяўчаты. Пыталіся: «Мужчына, ці ня нам Вы хочаце падараваць гэтую прыгожую кветку?»

— І што Вы адказалі?

— Не, гэтая кветка не для вас. А што я яшчэ мог сказаць?

«...забудзецца, умрэ, з вадой сплыве, ды потым у спомінах устане, ажыве...»

*15 лістапада 2001 г., Менск*

*Надрукавана ў НН № 52/53 у 2001 годзе*

Крысьціна Курчанкова



## Што-кольвечы пра гарадзкіх эльфаў

*«Выйшаў сейбіт на нівы свая...» — думаю штораз пра дворнікаў, якія ад душы засяваюць першы лёд пяском. Быў бы ў мяне маленькі брацік, можна было б расказаць, што з гэтага насеньня ўзыходзяць гарадзкія будынкі. Але ў мяне няма браціка, і я ведаю: з марожанага пяску вырастаюць гарадзкія эльфы.*

*Дзе ў шкляных шарах сьпеюць электрычныя семкі, дзе аранжавыя выпарэньні вулак падымаюцца ад чорнага асфальту ў фіялетавае неба між слупоў каштанаў, што спляліся са ствäламі ліхтарня ў, — там, калі ты станеш у цёмным дворыку тварам да праспэкту, то абавязкова ўбачыш яго — нэонавае дыханьне майго гораду.*

*Яно мяне атруціла. Вібруе аконнае шкло а палове ночы. Чуеш? Гэта растуць абсечаныя пальцы дрэваў ды цагляныя рыфы дамоў. Абдымі мяне, не пусьці. Яно ўцягвае мяне ў сябе, я не хачу, каб яно дыхала мною.*

*Электрычны агонь ліхтарняў не растапляе ледзяных крышталікавых матылёў, але абпальвае крылы начным сьняжынкам. Зімовыя сьвятлафоры выдыхаюць каляровую пару. Зьвіняць тралейбусныя драты, хоць транспарт даўно ня ходзіць. У нэонавым дыханьні гораду гушкаюцца гарадзкія эльфы.*

— Як пачуваесься? — пытаецца Недапанк Гоблін.

— Пачуваюся — крышталёвай вазай! Якую выставілі на гаўбец. Спачатку ў мяне натрэсла лісьця, зараз — сьнег!.. Мне празрыстапразрыста! І сьняжынкі падаюць на самае дно, на самае дно мяне!

Міра — з гарадзкіх эльфаў. Гэта лёгка пазнаць па кароткіх фіялетавых валасах вожыкам, троху даўжэйшай спадніцы з шыкоўным скураным пасам ды сапраўдным завостраным кордам на ім і даўжэзных ботах з заклёпкамі.

— Што рабіцьмеш сёньня? — закахана пытаецца Гоблін.

— Шукацьму вочы сьцяны. Ну, вушы ў сьценаў ёсьць, значыць, шукацьму вочы.

Яны ідуць у пераход, садзяцца на кукішкі да сьцяны й чакаюць Эўку. Эўку, якая ў футры й белым фартушку зьбірае грошы «на православное просвещение». Міра вітальна ўзмахвае кордам, Недапанк Гоблін уздымае джынсавую пальчатку з абрэзанымі пальцамі. Эўка ўсьміхаецца. Га! Яна насамрэ ч радая іх бачыць!

Міра расказвала б гэтую гісторыю так. Па дарозе са школы чалаве чых ёлупняў (дзе я вучуся

---

**Крысьціна Курчанкова**

нарадзілася ў Менску. Скончыла журфак БДУ, працуе літаратурным рэдактарам. Хрысьціянка.

засяроджвацца ў нірване, не зважаючы на вонкавыя раздражняльнікі) у падземных калідорах, як заўсёды, забітых зданямі, што пруць празь цябе, нібыта й ты бясплотны, — я заўважыла двух п’яных оркаў, якія чапляліся да... я не разгледзела, да якога віду (людзей, эльфаў, зданяў...) належыць паненка. Хоць жыцьцё сьмяротных толькі трохі даўжэйшае за ўзмах крылаў начнога мятліка, парушаць яго гармонію... Карацей, Гоблін пачуў баявы крык Міры, убачыў, якая яна каляровая й тоненькая ў прыцемках пераходу, нібы карцінка зь японскага анімэ... П’яныя боўдзілы, што пераконвал і Эўку пазычыць грошай са скарбонкі, утаропіліся ў бліскучы Мірчын корд. Ну, тут і падышоў Гоблін, сказаў ім... што належала (...паганая орская гаворка — прашыпела Міра), боўдзілы звалілі...

Давялося знаёміцца.

Не, ён не ралявік. Не, ён ня супраць ралевікоў. Не, ён дакладна ня эльф. Не праваслаўны. Не праваслаўны эльф. Не, калі б ты згаліла валасы, а пад імі — шышакі, а вушы такімі лапырамі, цябе не назвал і б эльфам, толькі Гоблінам. Так, Эўку трэба правесьці. «Дзякуй, я сама...» Так, я пачакаю.

Міра й Гоблін сьпявалі ў пераходзе. Гэта было жахліва. Гэта было сьмешна. Грошы аддалі Эўцы. Толькі набылі піва. Стаміліся.

— Ад таго, што ў брук утапталі лісьце сотняў восеняў, ён ня стаў мякчэйшым, — кажа Міра.

— А ты стала б, кааб у цябе ўтаптвалі лісьце?..

— Я стала б жорсткай...

— А ён рассыпаецца...

— Дык гэта ж ад абцасаў, не ад лісьця!

— Як дарэчна, што брук, і лісьце, і абцасы — анічога не адчуваюць, — пасьміхаецца Гоблін.



— Як недарэчна, што за іх адчуваюя!

Ну вядома, Эўцы больш пасуе першае імя. Дэльаран. *Эльфійка* (выгукнула Міра). *Узбэчка* (папправіла Эўка). Яна мала размаўляе, яна слухае. *(А табе не патрапіць, што ты з намі? —Мяне бацюшка дабраславіў... —Ну ў цябе й бацюшка! — А мо ён са страчанага эльфійскага калена?..)* Але ўжо ўсе ведаюць, што маленькая Эва жыла ў горным Эдэме, які нейк сутоньнем перакінуўся ў Пекла. Яе выправілі да стрыечнай бабулі, сюды, дзе яна й білася ва ўспамінах, як мятлік між шыбамі, — што пісаць на паштоўках ДАДОМУ: Эдэм ці Пекла. А калі бабуля памерла, здаецца, так і не заўважыўшы мятліка ў шыбах, і знайшліся яе ўнукі, суседка прапанавала Эўцы прытулак пры царкве й імя Эўка.

У Эўчыным сьвеце гэты гарадзкі гул б’ецца аб царкоўны ганак. Цябе абступаюць і вядуць сьвятыя з фрэсак — і калі падымеш вочы, убачыш: ты стаў на самае дно сусьвету. На розных яго паверхах праведнікі між рыштаваньняў вітаюць стварэньне Зямлі. Словы пахнуць сьвежай фарбай.

(А сьвятыя, ж дзеці, выглядаюць у акенцы, прыклаўшы рукі да ўнутранай паверхні абразоў!) У трапяткім дыханьні сьвечак струменяцца твары жывыя й маляваныя, тыя, што застылі ў мядовым бурштыне, у сотах німбаў. Гусьцее мядзьвянае золата, і на вуснах Эўкі — кроплі салодкай вечнасьці.

Вось гэтага Гоблінавы бацькі Эўцы дараваць ня могуць — аёй! — яна *адмовілася* ад Радзімы. Гоблін сказаў ім: а што, так складана адмовіцца ад Пекла? Ну і сам патрапіў у такі *Чысьцец!*.. Нібыта ўжо даўно прадаў і тату, і маму, і аднаклясь-

нікаў з *нацыянальнай* гімназіі, і дзядулю, і сваю няісную Радзіму, бытта яе хтось купляе, няісную...

*Калі б Міра апраналася трохі... інакш* (сказала мама). *Калі б Эўка хоць бы размаўляла па-нашаму* (скрывіўся тата). *У цябе хоць ёсьць сябры-хлопцы* (схамянуўся дзед)?

Міра размаўляе — *па-іхняму*... Яна так і сказала аднойчы на ўроку *ў школе ёлупняў:* гэтая мова—эльфійская, і ў вашу арганізацыю я не пайду,бомы, эльфы... (Настаўніца паклікала дырэктара. Дырэктар паклікаў Мірчыну маці. Мірчына маці запрасіла дырэктара на каву... Дырэктар паклікаў настаўніцу...)...І Міра засталася ў школе афіцыйнай эльфійкай.

А Гоблін ня стаў тлумачыць бацькам, што *эльфійская* мова ўваходзіць у *гульню,* што несьмяротных эльфаў не турбуюць праблемы *сьмяротных ёлупняў,* што Міру ніхто ніколі ня ўбачыць на *пляцы,* бо эльфы хоць і гуляюць, ды не прайграюць, а ён, ідыёт Гоблін, ізноў пацягнецца туды *сьцьвярджаць мужнасьць без надзеі на перамогу...* за ручку з мамай (каб не забралі *злыя міліцыянты).*

Дзядуля Гобліна змагаўся за незалежнасьць, бацькі Гобліна змагаліся за незалежнасьць (таму яны й пабраліся, таму й нарадзілі Гобліна, згубіўшы недзе па дарозе *змаганьня* сваю любоў: сёньня яны нават не глядзяць адно аднаму ў вочы, бо ня могуць бачыць, ня хочуць верыць у *паразу недакаханьня),* цяперака Гоблін мусіць біць тое *залатое яечка* (знутры?). А ён ня хоча.

Яго прыпляснула тым *чорным квадратам* пляцу. *Чорным квадратам* страху з чорнымі ж фігуркамі ў скуранках па пэрымэтры (яны маюць рацыі, а мы ня маем). Гоблін ня хоча быць нацыяналістам, ня хоча гадаваць нацыяналіста, ня хоча вучыцца нелюбові. Ён хоча быць панкам. Ён хоча да Міры й Эўкі, таму што яны жывыя й каляровыя. Ён хоча піва.

— Што новага?

— Учора якая зьліва! Між буйкоў ліхтароў ледзь дагнала Ноеў аўтобус! Уяўляеш — на воглых крэслах дрэмлюць залюляныя стомай зьвяры, і толькі мне да пары няма пачвары. Зьнічка шаснула ля самага твару — па той бок шкла — Ноеў недапалак. Ной кіруе да іншай зоркі — адной зь пяці, што на этыкетцы над Араратам. А мне ўсё сьвярбіць пытаньне: што сказаць кантралёру — у мяне ж ні квітка, ні пары. «*Таварыш, панімаецяя, патоп.* А што калі за дажджом, на зялёным пагорку, хтось чакае мяне з парасонам. Уявіце ягоную пысу, калі аўтобус прыедзе, а мяне няма».

«Я чакаў бы цябе з парасонам», — хацеў сказаць Гоблін, але ненатуральна вялікія, анімэшныя вочы Міры глядзелі не на яго, міма.

Таму што ў клюбе паляцеў комп. Да каханай, у электронны вырай. Маці не дала спадніцу на новы эльфійскі строй. Дырэктар чырванее, калі Міра праходзіць побач. А яшчэ ёй не падабаецца сцэнар гульні. Клюбнікаў да халеры, эльфаў — няма. І той хлопчык — такі мілы, думала — эльф, добра, што ён сам усё зразумеў. Калі эльфійка пакахае гобліна... во гэта будзе сцэнар. Яны, ёлупні, не зразумелі, хоць — ге-ге — «оркі» ажывіліся!.. Дый не пацягнеш у клюб Гобліна й Эўку — яны сапраўдныя, а тыя — цьфу! —плястылінавыя.

— Ведаеш, што такое палімпсэст? — пытаецца Гоблін.

— Ыгы, праходзілі, — буркае Мірка.
— Сьляды на брудзе — калі здымаць адбіткі ўсіх, хто прайшоў з адзень...
—... атрымаеш набор падэшваў.
— А адбіткі твараў, якія міма, штохвілю?.. Яны адлюстроўваюцца на табе, вось бы іх зьняць!
— Людзей усё адно ня ўбачыш, а анёлы, — Міра хіснула на Эўку, — сьлядоў не пакідаюць.

Зь цёмнага дворыку можна ўбачыць нэонавае дыханьне гораду. Самае складанае — убачыць анёлаў. Калі гадзінамі стаіш у пераходзе й больш ня можаш ні чытаць, ні маліцца... і абрастаеш іхнімі адбіткамі, пражываеш чужыя імгненьні ...*матузок, мабільнік, пудранка, яцябекалькічакала*... недапалкі абарваных дыялёгаў... ведаеце, за кожным крочыць анёлак, а я ня бачу... разводы ў гразюцы — сьляды крылаў?.. Я згубілася ў чужых тварах: гэта я — я сыходжу — утрымай мяне зараз! Прыбой цягніка мэтро прыносіць новых мяне, і я танчу на паверхні елачнага шарыка — у перакуленым дэфармаваным шкляным сьвеце вечнага пераходу (на сьвяточным стале паміж гадамі).

*і раптам за два крокі як той выбух пад вокнамі хаты* ***паўзабытая мова пасьміхаецца мне ў вочы маімі вачыма*** *й гэтае татава ўлюбёнае слоўца й як цябе клічуць красуня й кідае ў скарбонку скамячаную паперку й твой язык нібы абуўзамалыя чаравікі й пракульгаў адно Эва добраславі Божа (Гоблін, ты ведаеш: гэта здрада ці вернасьць?) імалітваза жывых і малітва за памерлых* ***верую памажы майму нявер'ю*** *й у малітвах тыя самыя імёны*



* * *

Я думаю, Гоблін не вінаваты, ён проста праглынуў атрутную сьняжынку. Ён ня ведаў, што нельга запіваць гэты горад півам.

Інакш бы ён ніколі не сказаў Міры, што эльфы — сьмяротныя, аднойчы яны робяцца пераходнымі зданямі й пруць праз цябе — і ад кожнага сьмярдзіць дохлым эльфам, ж ад Гоблінавых бацькоў, — і Міра хутка абрасьце чужымі адбіткамі, а калі пачне здымаць іх лушпінка за лушпінкай, скурка за скуркай — то знойдзе там яшчэ аднаго дохлага эльфа. Гэта, пэўна, Гоблін надыхаўся хваробнымі нэонавымі выпарэньнямі: таму ён сказаў Эўцы, што яна — скамянелы мятлік у мёртвым бурштыне, што ёй ня вылузнуцца, бо яе вера — толькі **ролевая гульня,** а яму, Гобліну, **гуляць** абрыдла...

Ён яшчэ шмат сказаў бы, але ж... гэтае *ўсёдараваньне* ў празрыста-чорных Эўчыных сьлязінах... Ды гэтыя акварэльныя вочы Міры, што больш ня бачаць сьмяротнага ёлупня Гобліна, бо ўзіраюцца ў цямрэчу новага Ліхалесься.

Гоблін пабег, штурхаючы мінакоў, усьведамляючы, што раз яны не бясплотныя, значыць, ён стаў часткай іх сьвету. Ён думаў, што заўтра зможа прыдумаць гісторыю сабе ў апраўданьне... але Эўкі й Міры ў пераходзе больш ня будзе. Дома ён выхапіў з шафы вялікую дзядулеву крышталёвую вазу й некалькі разоў кінуў на падлогу. Але яна не разьбілася, адляцеў толькі малы аскепак, і бясьсілы Гоблін паставіў вазу на месца, адвярнуўшы пабітым месцам у цень...

*Сонца лізнула маю шыбу й прымерзла. Так да самай каляднай адлігі: умяне на акне — язык сонца, а над табою — сонца нямое.*

*Не пусьці мяне. Я ўздых майго Бога («... І дзьмухнуўу твар чалавеку дыханьнем жыцьця...»), у якога патрэба — дыхаць людзьмі. Таму гэта так важна — утрымай мяне — каб мой атрутны горад ня дыхаў мною зноў. Бо я згублюся між людзей-іскрыпак, лю дзей-смыкоў, людзей-там-тамаў, людзей-арфаў, людзей-дудак, людзей-сьвісткоў... Я буду зноў зазіраць у твары, шукаючы...*

*Як добра, што туды нельга вярнуцца. Хтосьці новы блукае ў зарасьніках лядзяных пальмавых галінаў тралейбуснага шкла. Якая палёгка, што я т вярнуся туды. Мне не давядзецца адвярнуцца, праходзячы паўз Эўку, не павітацца, сутыкнуўшыся з Гоблінам. Я ніколі ня ўбачу ДАРОСЛУЮ Міру.*

*Я імкнуся да дасканаласьці. І сьтжыті на маім паліто ператвараюццаў шарыкі вады: прыгожае набывае форму дасканалага. І ўсё-такі, калі ласка, дазвольмне застацца сьняжынкай.*

*Надрукавана ў НН № 48 у 2005 годзе*



# Марта



## Ліст пра каханьне

Набліжаецца Дзень сьвятога Валянціна, і з гэтай нагоды я хачу напісаць вам ліст пра каханьне. Не зусім звыклы, аднак. Магчыма, ён троху ня вашае тэматыкі — але ж у нас пакуль няма сапраўдных беларускіх жаночых часопісаў. А для мяне акурат гэты момант вельмі істотны: хацелася б пагаварыць зь людзьмі, якія будуць разумець мяне найбольш.

...Чамусьці так здаралася, што хлопцы, да якіх я ў маладосьці мела нейкія пачуцьці, заўсёды жаніліся не са мною. І наадварот — тыя, якія прапаноўвалі ўзяць зь імі шлюб, не цікавілі мяне ані. І вось аднойчы, дарэшты змучаная чарговай сваёй безнадзейнай прыгодаю, я стала ў касьцёле на калені перад абразамі і папрасіла: Божа, пашлі мне добрага чалавека, сьвядомага беларуса, які быў бы клапатлівым бацькам нашым будучым

---

Гэты твор прыйшоў у рэдакцыю Нашай Нівы па электроннай пошце. Аўтарка адказвала на мэйлы, але імя свайго не раскрыла і па ганарар не прыйшла.

дзецям! Не хачу я больш гэтага вар'яцтва, называнага каханьнем...

Малюся. А ў галаве блюзьнерская думка: Бог, вядома ж, усёмагутны, але цікава, як ён будзе выкручвацца? Гэта цяпер беларускіх асяродкаў — у параўнаньні з маім часам — мора, а шаснаццаць год таму? Нас была жменечка, і кожны кожнага ведаў, як аблупленага. Ну, пераржаніліся многія паміж сабою, а што было рабіць тым, каму пары не хапіла? Выйсьці замуж за мэнтальнага расейца і выхоўваць яго на беларуса? Некаторым і гэта ўдалося. Што ж да мяне, дык мне адразу рабілася млосна, калі са мною знаёміліся пры дапамозе фразы: «Девушка, а почему вы разговариваете по-белорусски?». Ня вабіла мяне роля настаўніцы пачатковых клясаў, выбачайце.

...Аднак высьветлілася, што Бог усёмагутны сапраўды. (Ня памятаю, хто сказаў: бойцеся сваіх жаданьняў — яны часам збываюцца...) У хуткім часе я выпадкова пазнаёмілася з хлопцам. Ніколі ні да якіх беларускіх суполак ён не належаў, але рэгулярна слухаў «Свабоду» і сакрамэнтальнага пытаньня мне пры сустрэчы не задаў. Палітычныя погляды ў нас зь ім супадалі, размаўляць па-беларуску ён навучыўся амаль адразу, і праз чатыры месяцы мы зь ім ажаніліся.

Далей — як ува ўсіх: дачка, праца, сын, іншая праца... Нягледзячы на тое, што шлюб наш утварыўся цалкам рацыянальна (а можа, якраз дзякуючы гэтаму?), сябрам ён падаецца ідэальным. Расказаць, чаму мы ня сварымся? Калі муж злуе ці кажа штосьці для мяне непрыемнае, я заўсёды кажу сабе: ты ж ведала ад пачатку, што ён далёкі ад цябе душою? Ведала. Ты згодная, што сама не заўсёды разумееш ягоныя ўчынкі? Згодная. Ну, а на чужых і на тых, каго не разумеюць, — ня крыўдзяцца.

Ціха я жыла ўсе гэтыя гады, ціха і спакойна... не раўнуючы, як у магіле. Толькі часам сны сьніліся нейкія дзівосныя. Я прачыналася ад пачуцьця неверагоднага шчасьця... і йшла на кухню варыць дзецям аўсянку.

І вось яно здарылася насамрэч. Як пішуць на карцінках ад жуек «Love is...» (мая дачка зьбірала іх, як была меншая) — «...like a bolt from the blue». Менавіта як гром зь яснага неба, бо ўсяго я ад сябе чакала, але ж не таго, што раптам закахаюся ў чалавека, якога ведаю ўжо шмат гадоў. І жонку яго добра ведаю, і дзяцей бачыла. Заўсёды ставілася да яго прыязна, але спакойна. Адносіны ў нас зь ім былі — як у шафы з тэлевізарам, што выпадкова апынуліся ў адным пакоі. Цяпер жа я на яго і глянуць баюся. Усё тое ж насланьнё, як і ў маладосьці — рукі дрыжаць, ногі падгінаюцца, сэрца млее. Ды што тут апісваць доўга, на гэтую хваробу ў любым веку хварэюць аднолькава.

Мы досыць рэдка бачымся. Але часам абмяньваемся электроннымі цыдулкамі. Зазвычай яны вельмі кароткія — здароў, як маешся, бай. Але каб жа хто ведаў, як я іх чакаю і колькі разоў перачытваю! Уключаю кампутар і, яшчэ не дайшоўшы да паштовае скрынкі, ужо неяк ведаю, ці прыйшоў мне новы ліст ад яго. Кампутар тады гудзе інакш.

...Можа, камусьці падасца, што мая праблема ў тым, што я выйшла замуж за чалавека, якога не кахала. Раней і я так думала, цяпер — не. Сямейнае жыцьцё — штука досыць жорсткая. «Мне абрыдла гэтая бульба з макаронаю. Ня можаш прыдумаць чагосьці цікавейшага?» — «Я ня маю часу

гатаваць табе, як у рэстаране. Я таксама працую, на мне дом і дзеці...» Выйсьці замуж за каханага, на якога ты ледзь не малілася, аб кім думала ўдзень і ўночы — а потым паміраць на канапе ад кожнага неасьцярожнага слова (ці нават і наўмыснай крыўды), залівацца сьлязьмі і піць валяр'янку? Дзякую за такую рамантыку. Лепей ужо так, як я, — ад пачатку без ілюзіяў...

...Вонкава нічога не зьмянілася ў маім жыцьці. Але я адчуваю, што сьвет зрабіўся цалкам іншы — як быццам раней ён быў чорна-белы, а цяпер зрабіўся каляровы. Упершыню за шаснаццаць год мне стала ня ўсё адно, як я выглядаю. І яшчэ я стала значна менш ураўнаважаная — то мне сьпяваць хочацца, то плакаць, то ўваччу чорна ад скрушных думак, то я люблю ўвесь сьвет і кожнага паасобку.

Вось у гэтым апошнім настроі і пішу гэтую «валянцінку» для свайго каханага (які нават не здагадваецца, што ён ім ёсьць, а таму не пазнае ў гэтым лісьце ні мяне, ні сябе). Ну, ды ўсё роўна — са сьвятам, найвялікшая мая радасьць!..

Дарагія мае кабеткі сярэдняга і сталага веку, пяшчотныя маці і маладыя бабулі! Летуценна захопленыя, безнадзейна закаханыя і ўзаемна шчасьлівыя! Ніколі ня прыйдзе да галавы павіншаваць нас з Днём сьвятога Валянціна. «Наша сьвята» — 8 сакавіка (і як я яго за гэта ненавіджу!). Але 14 лютага — таксама наша сьвята. Сьвята, якое мы носім у сабе і так проста ўжо не аддамо. Бо надта добра ведаем, як гэта — жыць, не кахаючы.

Зрэшты, чаго ж я толькі пра жанок... А колькі іх вакол — мужоў і бацькоў са стажам, прыгнечаных тым, што закахаліся ня ў тую і не тады...



Дарагія мае людцы, павіншуйма ў гэты дзень самі сябе і адзін аднога. Мы ніколі не паразмаўляем з вамі пры сустрэчы на гэтую тэму — хаця, магчыма, зь некаторымі з вас я знаёмая асабіста. Мне няма чым суцешыць вас, але прынамсі ў тую хвіліну, калі жыцьцё будзе падавацца вам зьдзекам, ведайце, што вы не самотныя. І што пакуль мы кахаем — мы жывыя, ці ж ня так? Падпісваюся, вядома, псэўданімам, але электронны адрас сапраўдны.

marta2000@pisem.net

*Надрукавана ў НН № 7 у 2001 годзе*

Алена Пушчына



## Каханьне і мальвы

*Маёй маці Зосі Самовіч прысьвячаецца.*

Сьвята з нагоды сканчэньня гімназіі займала думкі радаснымі мроямі і нэрвавала адначасова. Гэты дзень быў асаблівым — менавіта сёньня ўвечары ім дадуць атэстаты, якія пацьвердзяць права на дарослае жыцьцё, а для яе гэта доўгачаканая магчымасьць зьехаць вучыцца сьпевам у кансэрваторыю. Яна заўсёды сьпявала — і ў касьцёле, і ў хаце. Сьпявала і цяпер падчас працы ў гародзе:

Заходзе сонейка,
За лес каліновы,
Дробны дожджык пада,
Дробны дожджык пада
На садок вішнёвы.

---

**Алена Пушчына**

нарадзілася ў Друі. Працуе мэнэджарам у доме гандлю «Копцева» ў Полацку. Доўгі час жыла ў Рызе, скончыла там Латвійскі дзяржаўны ўнівэрсытэт імя П.Стучкі, потым вярнулася на Радзіму. Замужам. Мае дзьвюх дачок.



І раптам пачула, як да яе далучыўся чыйсьці барытон. Яна азірнулася і ўбачыла хлопца ў вайсковай форме, высокага зь пяшчотнымі шэрымі вачыма і сьветлымі валасамі. Ён ласкава пасьміхнуўся і гучна запляскаў. Саромеючыся, яна схавалася за плот з мальваў і адтуль ледзь чутна прамармытала: «Дзякуй». А ўсё таму, што ў маладым чалавеку яна пазнала брата сваёй каляжанкі Барбары — Віктара Целяжынскага. Вясёлы і элегантны Вітак толькі што вярнуўся зь Вільні і ўжо прымусіў хутчэй біцца сэрцы мясцовых дзяўчат. Нягледзячы на маладосьць, Марыля ня мела ілюзій наконт Віктара, стоячы ў сваёй паркалёвай сукенцы перад гэтым прыгажуном. Яе вочы былі блакітнейшыя за неба, а валасы колерам нагадвалі лён, але яна ведала, што яна толькі дачка беднай удавы, а ён... Дый што там думаць, лепш не псаваць настрою, і яна з радасцю зьбегла дадому, як толькі малодшы брат паклікаў яе.

Якім жа было яе зьдзіўленьне, калі пасьля ганаровага ўручэньня атэстатаў пад гукі палянэзу Барбара падышла да яе, каб пазнаёміць з братам — Віктарам Целяжынскім, які прыехаў з інспэкцыяй у вайсковую часьць, што знаходзілася ў маёнтку на беразе Дзьвіны, па якой праходзіла мяжа з Латвіяй. Віктар беражліва ўзяў Марылю за талію, і яны далучыліся да пар, якія, быццам восеньскае лісьце, кружыліся ў танцы. Аркестар іграў і павольныя танцы, і тыя, што прымушалі рухацца хутчэй і хутчэй.

Адна мэлёдыя зьмяняла другую ў музычным вянку, робячы на фоне аксамітнай ночы бясконца прыгожым непаўторны для гэтых маладых людзей момант. Усе прысутныя, у тым ліку і Ма-

рыля зь Вітакам, адчувалі гэта. Музыка чаравала, стварала для іх казачную хвіліну хараства і каханьня. А потым узышло сонца, зазірнула першымі прамянямі ў твары. Дубы, што стагодзьдзямі стаялі ў гэтым парку каля гімназіі, усьцешана паглядалі, як надыходзіў новы дзень 1939 году.

А потым былі сустрэчы, шпацыры, лісты, шмат лістоў — бо кожнаму ведама, як тое, чаго ня скажаш падчас сустрэчы, саромеючыся позгляду закаханых вачэй, само пішацца на паперы, адкрываючы самыя патаемныя думкі, мары і пляны на будучыню. Вось і цяпер, трымаючы ў руках лісты, яна чытала і перачытвала іх.

«Каханая! Я знаходжуся так далёка ад цябе, хвіліны як дні, дні як стагодзьдзі. Усе думкі толькі побач з табою. Ня можаш сабе нават уявіць, як моцна я сумую, бо няма тут тваго погляду, усьмешкі... Мне не хапае цябе як паветра, безь якога немагчыма жыцьцё. Я сьніў цябе ўчора, сёньня і буду сьніць заўтра. Сумую. Кахаю. Вітак».

«Марыля! Няма і хвіліны, каб я ня марыў пра наша спатканьне. Увесь час я перажываю, думаю і баюся за цябе. Разумееш, цяпер, калі вайна ўварвалася ў наша жыцьцё і мы так далёка адно ад аднаго, адчуваеш, які ненадзейны гэты сьвет. Праз два дні я адпраўляюся на фронт, я буду думаць пра цябе, пра маіх родных і маю зямлю, якая так цяжка пакутуе. Невядома, як доўга мы ня ўбачымся яшчэ. Мае сябры па зброі таксама ўжо даўно падрыхтаваліся сустрэцца тварам да твара са сьмерцю і забойствам. Гэта будзе наша пакута — пакута дзеля вызваленьня нашай зямлі. Кахаю цябе. Вітак».

«Мая адзіная! Сёньня была апошняя імша перад адбыцьцём на фронт. Я доўга стаяў перад Маткай Боскай і маліўся ў інтэнцыі нашай перамогі і хуткага спатканьня з табой. Увесь час прыгадваю нашу першую сустрэчу, ніколі на яе не забудуся. Я вельмі, вельмі, вельмі...»

«Марыля! Пэралка мая! Сёньня быў наш першы бой. Танкі паўзьлі на нас, быццам жудасныя пачвары. Але мы падарвалі два зь іх. Я амаль аглух ад грукату, але ня згасла маё жаданьне перамогі. Хлопцы пасьля казалі, што яны будуць бараніцца да канца. І мы будзем, хоць з шабляй на кані... А цяпер, калі ў мяне ёсьць вольная хвілінка, вырашыў напісаць табе некалькі слоў. Мае думкі зноў з табою і пра цябе. Як мне хочацца хутчэй пацалаваць твае пальчыкі, зазірнуць у вочы, зноў пачуць водар тваіх валасоў і пачуць слова «каханы». У марах і думках я заўсёды з табою».

Марыля чытала і перачытвала гэтыя лісты бясконца. Іх ужо была цэлая шуфляда. Як раптам яны перасталі прыходзіць. Адзіная нітка, якая зьвязвала два іх Сусьветы, зьнікла.

Не было жаданьня выходзіць на вуліцу, не было жаданьня піць, есьці, углядацца ў твары знаёмых і незнаёмых, колькасьць якіх павялічвалася з кожным днем. Вайна ўжо распасьцерла свае чорныя крылы над гэтым мястэчкам, і ўсё часьцей можна было пачуць чужынскую гаворку.

Зь места вярнулася нездаволеная стомленая маці. Знаёмы солтыс расказаў ёй па сакрэце, што ўжо сфармаваны сьпісы маладых людзей, якія павінны зьехаць на працу ў Германію. Гэты раз быў пятым. Маці не магла даваць больш падарункаў, каб не павезьлі яе дзяцей. Яна затрымала паветра ў грудзях, а потым сказала тое, што сказаць даўно ўжо намагалася, але не хапала моцы:

— Марыля, рыхтуйся да замужжа.

— Але я нікога не кахаю.

— Ведаю, нікога, акрамя Віктара Целяжынскага. Але ад яго тры месяцы няма аніводнай весткі. Можа, не жыве ён ужо. Дык што, да старасьці ў дзеўках сядзець? Пра сябе думай, пра брата свайго Рамана. Мяне пашкадуй! Я ноччу спаць не магу — думаю: вось зараз, зараз пагрукаюць у дзверы і забяруць вас не на працу, дык у лягер. Што, думаеш, лёгка? І ня плач, я не ў дамавіну цябе кладу. Вось Міхал ужо зараз можа ажаніцца з табою — яго маці мне так і казала. І Ян ужо тры разы сватоў засылаў. А зобач які, зобач — ня п'е, ня паліць, адзін на гаспадарцы, а яна не маленькая — зямлі пятнаццаць гектараў, жывёлы колькі. Зь сям'і — нікога, адна толькі маці, Яну ўжо даўно гаспадыня патрэбна. А што на сямнаццаць гадоў старэйшы — дык што, людзі і з большай розьніцай жывуць. На фронт таксама ня возьмуць — забраніраваны на чыгунцы.

Марыля чула словы маці, быццам у сьне. Усё жыцьцё — такое маленькае — пранеслася перад вачыма — шчасьлівае дзяцінства, пакуль не памёр бацька, сьвята, надзеі, зьвязаныя з вучобай у кансэрваторыі, і яшчэ чамусьці прыгадвалася засохлая мальва, што стаяла за акном...

Яна думала, што страціла прытомнасьць, і спадзявалася — мо гэта толькі сон? Але адразу зразумела, што памылілася, — удава ўжо адправіла брата Марылі да Яна перадаць згоду нявесты на замужжа. А раніцай ксёндз з амбону сказаў пра заручыны. Вясельле было назначана на другога лютага, пакуль яшчэ не надышоў пост.

Для маленькага места гэта было вялікай падзеяй — браліся шлюбам добра знаёмыя людзі. Ян быў вядомым чалавекам, адукаваным, размаўляў на некалькіх мовах. Нявеста была прыгажуняй з добрым характарам. У працы не было ёй роўных — на гародзе ці за швейнай машынкай. Марыля сьпявала ў касьцельным хоры, і яе сьпеў «Вітай, Марыя» выклікаў радасьць і слёзы ва ўсёй акрузе. Здавалася, што душа ляціць да самога Айца Нябеснага.

Ян прыехаў па яе на трох канях, якія літаральна танчылі ля дзьвярэй Марылі, і псаломшчык Стэфан тлумачыў усім прысутным, што жаніх, напэўна, напаіў іх гарэлкай. На яго ніхто не зьвяртаў увагі, але потым многія прыгадалі яго словы.

Падрыхтоўка да вянчаньня заняла доўгі час — раскаталі чырвоную дарожку, каб падкрэсьліць важнасьць падзеі, уздоўж яе ўжо стаялі кошыкі з разаліямі і ружамі Марціна. Сьвяточна гудзеў арган, хор разьліваўся мноствам галасоў, сонечныя прамяні зазіралі ў вокны.

— Марыля, — гучна пачаў самы старэйшы са сьвятароў, — у цябе ёсьць тры хвіліны, каб падумаць — ці правільна ты зрабіла: твой нарачоны нашмат старэйшы за цябе, а ты — маладая, прыгожая, ты добра падумала?

— Так, я ўжо дала слова маці і магу даць слова Богу.

Імша доўжылася каля дзьвюх гадзін. Ян з Марыляй стаялі ля аўтара, але яна, нягледзячы на вялікую колькасьць людзей, адчувала сябе, быццам у пустэчы. Падавалася, што раптоўна патрапіла на чужое вясельле, а яе шлюб павінен быў адбыцца толькі зь Віктарам, ні з кім больш. А гэты чорнавалосы мужчына з карымі вачыма, які так пяшчотна пагдядаў на яе, быў чужым.

Быццам праз туман яна пачула яго голас: «Я, Ян, бяру ў жонкі цябе...» — і свой адказ: «Я бяру

Яна сваім мужам, пакуль сьмерць не разлучыць нас...» — і з жахам падумала пра тое, што толькі што сказала. Вянчаньне скончылася, калі на поўную моц загучаў марш Мэндэльсона, і прысутны натоўп пацягнуўся віншаваць маладых.

Яны выйшлі на сходкі, дзе з усіх бакоў іх пачалі абкідваць зернем — сымбалем шчасьця і згоды. Ян, схапіўшы Марылю за рукі, пасадзіў яе ў вазок. Коні, адчуваючы волю, панесьліся рысьсю і, калі на іх шляху сустрэлася толькі што зробленая брамка для затрыманьня маладых, перамахнулі церазь яе і панесьліся далей. Сьціхлы натоўп ахнуў і яшчэ доўгі час абмяркоўваў жаданьне жаніха прывабіць да сябе маладую. А ён чакаў гэтага моманту ўсё сваё жыцьцё — назіраў, як яна з даўганогага, няскладнага дзяўчаці ператварылася ў чароўную паненку зь пяшчотнай усьмешкай. Падчас выпадковых сустрэч ён хацеў пагутарыць зь ёй, расказаць нешта, але стрымліваўся, баючыся напужаць. Вось і цяпер, паглядаючы на Марылю, думаў, што патрэбен час, каб яна магла прызвычаіцца да свайго новага становішча, але ён і падумаць ня мог, што яе сэрца належала іншаму.

Паміж тым вясельная працэсія пад гукі скрыпак і альтоў паволі рухалася да Марылінай хаты. Маладых ужо чакалі маткі — абедзьве ўдавы, абедзьве сівыя, вельмі падобныя, толькі маці Марылі больш усьміхалася, а Янава маці падавалася маўклівай з вострым халодным позіркам шэрых вачэй. Яны блаславілі маладых хлебамсольлю і прымусілі іх увайсьці ў хату пад вышытым ручнікам па кажусе пад сьпеў традыцыйных вясельных песень. Перад іх вачыма зьявіўся багаты па ваенных часах стол — смачна прыгатаваная і па-мастацку аздобленая зяленівам рыба. Тут быў і вялікі жэрах у алеі, фаршыраваныя шчупакі, якія зьдзіўлена пазіралі на прысутных вочкамі-гузікамі, апэтытныя ліні ў тэсьце і складзеныя колцамі заліўныя вугры.

Усе гэтыя стравы адбіваліся ў халодным бляску потных бутэлек, якія хаваліся ў склепе з даваенных часоў, а цяпер нарэшце ўбачылі сьвет. А вясельныя караваі з выявай маладых запрашалі да танцаў. Ды і як было ня танчыць, калі музыка напоўніла ўсю прастору. Потым з маладой зьнялі вэлюм і падаравалі хустку зь пеўнямі, а надалей стомленае вясельле разышлося хто куды.

Іх правялі ў самы далёкі пакой. Марыля не магла стрымацца ад ускрыку, калі ўбачыла вялізны ложак, які займаў амаль палову пакою. Да таго ж ён быў вельмі высокі — перад тым як пакласьці пярыну, на дно насыпалі прагрэтае збожжа. Ад яго ішла цеплыня, распаўсюджваючы навокал сябе пах лета, хаця ж на дварэ ўжо даўно стаяла восень. Побач зь печчу на палічцы зьзялі пакладзеныя на чырвонае лісьце явару хлебіны.

Марыля азірнулася, саромеючыся. Як паводзіць сябе цяпер? Ян адчыніў печ, паварушыў вугольле, падкінуў яшчэ паленьня для падтрыманьня агню. У дзьверы пагрукала Янава маці, і ён выйшаў. Марыля ўмомант скінула сукенку і схавалася пад коўдру. Ян заходзіў некалькі разоў, выносіў хлеб з пакою. Цікава, для каго? Толькі потым яна даведалася, што гэта было для нейкіх людзей, што хаваліся ў лесе.

Яна намагалася зразумець, пра што размаўляюць за дзьвярыма, але патрохі да яе падбіраўся сон, і, як ні супраціўлялася, яна нічога не магла зрабіць. Раптам яна адчула пацалунак, нехта

абдымаў яе і яшчэ нешта, разам з чым раптам стала цёпла-цёпла і яна ператварылася ў іншую, зусім іншую... Немагчыма было зьбегчы — Ян моцна трымаў яе ў абдымках, сон і стомленасьць былі яго саюзьнікамі.

Калі надышла раніца, Марыля прачнулася ад вясёлай музыкі — гэта музыканты прыйшлі праведаць маладых у новую хату, дзе павінен быў прайсьці другі дзень вясельля.

Якім жа было яе зьдзіўленьне, калі яна села ў вазок і раптам яе быццам нешта адштурхнула. Чыйсьці погляд... Такі знаёмы... Яна пазнала схуднелага з забінтаванай рукою, але да болю знаёмага і каханага Віктара Целяжынскага.

Спазьніўся — зразумела яна яго погляд. Спазьніўся — грукала ў грудзях. Спазьніўся — крычала ўсё навокал, і сьлёзы зьбягалі на бок саней, быццам наўмысна размаляваных мальвамі; яны ўсё беглі і беглі, ператвараючыся ў маленькія крышталікі на паверхні кветак.

Так і зьехалі Ян і Марыля насустрач сваёй будучыні, пакідаючы пасьля сябе натоўп і пасярод яго — Віктара Целяжынскага, які толькі што вярнуўся са шпіталю...

*Надрукавана ў НН № 25 у 2005 годзе*



Марыя Роўда



## Вырві гэта зь мяне

Ды, можа, і не было ўсяго гэтага. Можа, і не яны ўтварылі заўсёднае балота з кіслай кавы, попелу, печыва й ліпкіх костачак чарнасьліву на стале. І хіба пазяхала сьпінай да іх ноч і глядзела ў паўпаварота са стомленым зьдзіўленьнем у адвешанае вакно. І няўжо ты думаеш, гэта сапраўды Ён сутуліўся ў кутку, заціснуты паміж хлебніцай, слоікам узвару й талеркамі, што нахабна тарэшчыліся сваімі замежнымі відамі са сьцяны.

Яна адшчыквала вэнджаную рыбу, як хлеб, і ненаўмысна запіваа яе гарбатай. Зацята, панікліва шкрэбла вачмі донца філіжанкі, але глей чаінак не ператвараўся ў словы. Тыя ж, як гарэзь-

---

**Марыя Роўда**

нарадзілася ў Менску. Друкуецца ў Нашай Ніве з 1993 года. Літаратарка, перакладчыца з ангельскае мовы. Працуе ў МДЛУ дацэнтам кафедры гісторыі і граматыкі ангельскай мовы. Кандыдатка філялягічных навук. Карыятыда беларускае жаночае прозы.

лівыя чарцяняты, скакалі па закорках сваіх гаспадароў, тузалі за доўгія ў абаіх валасы, дзьмулі ў вушы, казыталі скрыўленыя вусны й недаўменна ўздымалі бровы, калі іх, нячысьцікаў, удавалася злавіць за пяткі, падалі, зьвешвалі галовы, як кветкі-званы на плоце, і храплі самым подлым чынам.

Яго ужо амаль нудзіла. «Божа! Калі яна навучыцца ня есьці цукеркі з салам і піць расол у прыкуску з шакалядам. Такія звычкі, такі характар, такі твар. Як агідна! Суцэльнае

Павуціньне навокал, усё зламана, нават магнітафон — цяпер маўчаць, чакаць, трызьніць першым тралейбуса-ам...» Ён здрыгануўся, і сіні сполах пляснуў яму рукой па сумных вачох. «Ну вось і зноў: нашто запускаць лыжку для гарчыцы, як маятнік, між зубоў і малаціць ёю, быццам гэта «працяг справы бацькоў». Дзіця-а...»

«... Я б хацела жыць, як немаўля, у калысцы ягонай моцы. Можа, тады б ён не пакідаў мяне так надоўга адну — кожны ж ведае, што маленькія дзеці баяцца цемры. А тут... А ў гэтым склепе жах капае са столі й ліжа мой мозаг няўцешнасьцю бяссоньніц. Я кожную раніцу апранаю бутафорскія строі гусара (памятаеш, у такія любяць прыбіраць дам на ўсялякіх урачыстасьцях) і йду на цябе са сваім барабанам, але ж туга...»

«... Простасьці, простасьці... Мы ніколі ня будзем «марацца» простасьцю. А я ўжо зьнямог. Як абліты ў трыко дрысэроўшчык, з удаванашчасьлівым павіскваньнем паганаю свой лёс, а той шалёна выконвае «па», рагоча, матляе кветкаю за спацелым вухам. Зазірні гэтаму коніку пад павекі — няўжо ты бачыш што-небудзь, акрамя круга й маёй самоты?»



... Машына прашаргатала пакрыўджана й высунула знадворку ў кухню сьвятло фараў, быццам кіроўца — локаць у адчыненае акенца. Напружаным ад блізарукасьці вострым тварам, Яна пацягнулася цераз стол, зачапіла слупок печыва, акунула варсінкі швэдра ў сочыва на скібачцы адкусанага батону, нарэшце зло плюхнулася на зэдлік, і храпкі Яе зарухаліся ненасытнымі зябрамі. Ён усьміхнуўся, заўважыўшы, што Яна капрызьліва спадзяецца на здагадку, адкінуў важкія валасы й суцешыў: «Ня трэба завешваць. Дарэмны страх, супакойся. Эх, гора ты маё, гора...»

«Гора, гора. Калісьці ты сачылася ў мае прыстанішча, прыжмурыўшы легкадумнае вока, і вада сьвістала праз ўсе шчыліны. Ты абкручвала мае ногі хітраю хваляй і загадвала ў мэгафон з крэсла ля прайгравальніка: «Дождж і затапленьне! Дождж і затапленьне!» І тады мы прымалі суровы выгляд і дэманстравалі адзін аднаму стылі плаваньня. А ты патэтычна крычала: «Мы маем шанец супраць паражэньня: нас папярэдзілі, што паводка ўсё ж спадае, таму мы дасягнем мора загадзя». Я пярэчыў у адказ: «Яно забітае мясцовымі аўтарытэтамі, а нам так добра ў сваім схованшчы. Але. Пасьпешлівасьць загубіла й нас з табой: цяпер вось варушым пясочак ды пускаем бурбалкі за нясьцерпным шклом».

Яна шчоўкнула пазногцем па слоіку і прапанавала, нібы паскардзілася:

— Куплю сабе рыбак. Усё ж нейкая забава. Раты круглыя.

Ён згадзіўся, выпусьціўшы дым:

— Купі. Яны будуць дохнуць з голаду, і ніводная не пасьпее цябе абразіць сваім маўчаньнем.

І без таго тонкія вусны Яе зусім запалі ўсярэдзіну, скранулі рэзкае падбародзьдзе, што вытыркнулася, бы груваскі прас.

«Маўчаньнем. Як растлумачыць яму, што ён адзіны, хто прыходзіць сюды? Як вытрымаць? Мяне ўдарылі кійком пад калені — я звалілася, але пасьпела сказаць: «Напэўна, гэта сэрца». Цяпер глебу размыла, і вось ужо чужыя абцасы топчуць мяне, а я — то тварам у гразь, то з тварам у гразі. І нікога, каб дапамагчы, і тэрмін убірае ў сябе новую вільгаць, і выйсьце — толькі ў дзьверы тваёй бязвыходнасьці. Зачыні іх, дружа, бо я не дапаўзу!»

«*... Марнасьць, поўная недарэчнасьць дзеяньня. Куды ж яна так сутаргава імкнецца, нашто кратаецца, калі ведае, што ня ўмее больш хадзіць? Час спыніцца. Сядзь побач, сонца, — ля маёй вады, адчуй, як нябесная кропля драпане цёплую скуру, аблізьніся на грымоты — усё роўна навальніца пройдзе бокам. Няўжо ты ня хочаш гэтага заспакаеньня? Хаця... Ты маеш рацыю: мы задушылі тваю радасьць, цяпер валочам яе за горла й цябе ж вінавацім у вечным адчаі. Але ж... Я ім ня вораг*».

«Ведаеш, на іх марудна-адсутнае «як справы» так і карціць пахваліцца: «У мяне добры сон апошнім часам, калі-нікалі я сплю нават удзень...»

Ён нечакана голасна пазяхнуў, і раптам стала заўважная лянівая шчэць, якая раўніва адштурхнула ад поўных вуснаў Яе дбайную далонь. Ен расслаблена засьмяяўся, і шорсткае брыво Яго выгнулася, як разварушаны кот, якога паклікалі есьці:

— Не зьмянілася. Усё клапоцісься аб дробязным прыліку, а ў кватэру тваю небясьпечна пускаць дзяцей: нейкі вядзьмарскі прытулак.



— Затое ў лазьніцы чыста. У сястры рамонт — зрэдку забягае сюды. Я ўсе астатнія пакоі зачыняю, яна й не зазірае — сьпяшаецца.

Шляхетныя пальцы Яго затрэсьліся, і попел таннай цыгарэты прагна й раздражнёна заглынула гарбата.

— А зрэшты... Хутка вернуцца бацькі, вось тады сапраўды пачнеш марыць аб чараўніцтве. Цесната, пыл выціраць, галёканьне. Зноў блукаць па горадзе. Шукаць... І нічога ўжо ня знойдзеш.

Ён задуменна схаваў пяшчоту агню запалкі, а Яна зайздросна захінулася ўласнымі рукамі, учапіўшыся імі ў плечы.

«Немагчыма ажыцьцявіць. І ты, і я ...»

Яна пашкрэбла па кнопачцы настольнае лямпы, разгублена падняла галаву — сьветлыя валасы гультаявата папаўзлі ніжэй да рамяня... «Новага...»

— Слухай, Дзіна... — прадчувальна-недаверлівае мычаньне абмылкам сьлізганула па языку.

— Слухай, давай заўтра. Заўтра ўсё вырашыцца. Павер, так лягчэй.

Ён вымавіў гэта ненатуральна бадзёра, быццам бы паўтараў показку, якую яна не магла зразумець, а толькі вінавата-разгублена запіхвала блізкі плач за каўнер.

«Заўтра... Заўтра тут будзе трупны пах ад дыму й ніхто ня прыйдзе. Санлівасьць захныча аб літасьці, а я безь перапынку буду ўставаць з канапы й адказваць на памылковыя званкі па аб’явах, якіх ніколі не давала. Ах, як Ня трэба, ня трэба прадвызначанасьці...».

... Ён старанна супакоіў на грудзях шалік, прыструніў паліто, самавіта пабразгаў кішэнямі.

— Ну, пакуль.

— Паку-у-уль.

Запаволены й вызвалены, Ён расьцьвялі- ўсьцішаныя прыступкі, учадзела тыцнуў няўважлівую руку. Белыя дзьверы адчужана замуравалі адыход, заспаная электрычнасьць замармытала правілы адзіноты, а Яна забаўлялася ся сваім злавесным сёрбаньнем, каб не адляцець у цішыню. І толькі ў кутку, на банкетцы, крыўдаваў змораны Гасподзь і ўмудрана ўзіраўся ў сваё змучанае, непрыкаянае дзіця.

*«Эх, Божа. Схапіць бы цябе за крысо і папрасіць: «Не ўцякай, застанься са мною, пакуль мне будзе страшна. А я абавязкова засну. Да таго ж потым прыцягнецца ранак, і я не затрымаю цябе колькі-небудзь даўжэй.*

Няхай ніхто цябе тут ня знойдзе, але ж заставайся...»

*Надрукавана ў НН № 17 у 1993 годзе*



## Няма Соні паратунку.

*Памяці Соф'і Сымонаўны Роўды.*

Калі б я, як мая бабуля Соня, жыла ў век чорна-белых фатаздымкаў, я б магла зманіць сваім унукам, што ў маладосьці была брунэткай. Але на самой справе, у мяне зараз даўгія сьветлыя валасы й твар ня вельмі даверлівай коткі. У мяне зялёныя, з жоўтымі кропінкамі, вочы й ледзь заўважны знак на левай шчацэ: чырванаватыя адбіткі кончыкаў пальцаў. Калі мая маці была цяжарная, яна наступіла на качку й зь перапуду схапілася за шчаку — праз гэта я й жыву цяпер з адмецінай. Шчыра кажучы, яна мне больш за ўсё падабаецца: ува ўсіх ёсьць галава, вушы, вочы, нос, рот і ўсё астатняе — гэта звычайна й ненадзейна. Ненадзейна ў тым пляне, што толькі знак супакойвае мяне, калі раптам вынырвае з нутра самага глыбокага страху сумненьне: «Ці я — гэта я, альбо я ёсьць некім іншым?« Праз свой знак я магу ўспрымаць сябе ўсур'ёз. Калі здараецца нешта жахлівае: няшчасьце, не шанцуе альбо яшчэ якая брыда, — і думаеш адразу: «Так не бывае.

Гэта не са мною. Гэта занадта дрэнна, каб быць праўдай,« — дастаткова ўзяць люстэрка, паглядзецца ў яго й зразумець, што ўсё насамрэч, што ўсё гэта са мной. Але тое й добра: са мной здараюцца рэальныя непрыемнасьці, якія патрабуюць рэальнага рашэньня ад мяне, як ад рэальнай асобы. Я сапраўдная — я ня цацка ў нечых нягеглых руках альбо сон бадзялага пудзеля. Я адметная, а значыць, я йсную.

І хаця ў сенцах зараз цёмна, і ў якім-небудзь палоніку сябе ня надта што разгледзіш, я ведаю дакладна, што я ёсьць: я гляджуся ў сэрца засьмяглага страстнага ветра, які разьбіваецца грудзямі аб дах, каб дапасьці да мяне.

А я вару ў сенцах каву й меланхалічна разглядаю апельсін на паліццы. Сярод нажэй, драчак і закатвальных машынак. Засохлы й закінуты, непатрэбны цяпер ужо нікому. Вось так і каханьне хоць-калі, як апельсін, які своечасова ня йззелі. Спачатку адкладалі на потым альбо пакідалі іншым. А затым ён загніў, але выкінуць было шкада, і застаўся ён засыхаць, каб аднойчы нечакана напоўніць сенцы незабыўным пахам цэдры. У пятнаццаць хвілінаў на шостую, калі я звычайна п'ю каву (вясною — у дварышчы, як зараз), калі няма каханьня й нянавісьці таксама няма. І толькі аблокі ладзяць у небе нейкую няўцямную батлейку ці то пра мінулае, ці то пра будучыню. Але мне ўсё роўна: я не хачу ведаць ні аднаго, ні другога, - няхай сабе плывуць. Я й сама плыву цяпер праз свае дні, як вялізны пусты—пусты шар. І ў самай сярэдзіне — маленькае—маленькае сэрца... Не, зусім ня гэтак: раздутае, набрынялае сэрца, абторканае стрэламі Купідона, дзідамі помсты, шпількамі крыўды й падобнае да тоўстай гультаяватай падушкі для йголак.

Пастаянства непастаянства аблокаў — гэта я й маё жыцьцё.

Хаця на самой справе я не жыву — я толькі расстаўляю й разглядаю дэкарацыі свайго жыцьця й распытваю пра іх суседзяў. А для астатніх я — эўфемізм на задворках чужых пастскрыптумаў. Для іх я прайграла, як толькі прыехала на вёску. І тым больш — калі запрасіла іх на Каляды на нашу п'есу.

Я напісала яе ў самым пачатку кастрычніка, калі ўсталявалася тут. У мяне нават хапіла вар'яцтва чытаць яе па вечарах Віктусю з Махмудам і дзяўбці потым: «Зразумейце, мае героі — гэта я, але я — гэта не мае героі. Мае п'есы як яшчаркі, якія споўдаюць па маім целе, і калі да іх нехта дакранаецца, яны пакідаюць на мне свае хвасты...« Мае слухачы па прымусу ваgaліся паміж пашанай да мяне й палутаралітрамі самагонкі ў бутэльцы з—пад кока-колы. - «Вазьмі больш!« І мы бралі.

А п'еску гэную мы паказалі перад сваімі й гасьцямі на Новы год. Гралі ў ёй я, Віктуся, Махмуд і цётка Каця. Цётка Каця хацела сабе галоўную ролю, бо ў дзяцінстве пела ў хоры й мела «найвыдатнейшы артыстычны талент», але ніяк не магла стрымаць слёзы, калі прамаўляла словы. Па-праўдзе, я таксама плакала, калі пісала ўсё гэта, але нічога ня зробіш — прыйшлося ратаваць сітуацыю й загартоўваць характар: сыграць саму сябе яшчэ раз.

На спэктаклі прысутнічалі:

— 5 бабак і 2 дзяды зь вёскі Зарэчча (усе, хто меліся там у наяўнасьці);

— 2 п’яныя пастухі зь вёскі Статкі — бацькі выканаўцаў мужчынскіх роляў;

— пачэсны камбайнёр калгаса - Дрыла;

— мае бацькі з выразам абсалютнага жаху на тварах і надзеяй, што Бог на мяне не забудзецца;

— мая чырвонашчокая сястра ў дарэмным пошуку кумпяку;

— мая сяброўка-рэжысёр: « Вялікі дзякуй! Гэта так шчыра, так натуральна ! Сапраўднае жывое мастацтва!«

Дзіва што: Віктусявы мэталічныя пярэднія зубы — гэта ня грым, а сумная рэчаіснасьць...

...Тым ня менш, я да самага сакавіка пісала Віктусю лісты. Азяблыя, яны ляжалі халоднай кіпай у блакітнай скрыні з надпісам «Пошта», бо паштарцы не было як хадзіць зь вёскі ў вёску праз сьнег. А Віктуся штодзень сядзеў у мяне за вячэрай і распавядаў пра лясьніцтва, пра лес, пра лісічкі ў 55 квартале, і па колькі прымаюць чарніцы ўлетку. А я ўсё тлумачыла ў сваіх пісьмах пра сябе, пра былое жыцьцё, пра Кірыла, пра тое, што было да яго. Але што — нашыя прызнаньні? Усё роўна яны падаюць, як камяні ў ваду. Нехта бугае іх абдумана й трапна. Нехта пускае каменьчыкі рыкашэтам. А я ня ўмею ні так, ні гэтак. У мяне яны сыплюцца й сыплюцца бяз глузду скрозь пальцы, і я ніколі ня ведаю, што значаць гэтыя прызнаньні для тых, каму я іх раблю...

І калі Віктуся нарэсьце начытаўся маіх недарэчных споведзяў, ён прыехаў на ровары, у лясьніцкай форме, і злосна, але справядліва сказаў: »Я, канешне, за любоў, але гэта ужо бл — ства.« Баюся, ён меў рацыю: я, здаецца, так і не змагла забыць Кірыла, і я ніколі не была свабоднай за ўвесь гэты час. Канешне, мне было добра



й я спазнала натуральны лад жыцьця, але ўсё часьцей і часьцей я адкрывала п’есу на тым месцы, дзе Соня адчыняе на ноч фортачку й бачыць, як выяжджае з двара таксоўка. І кожная машына за занавешанымі шторамі потым здавалася Соні таямнічай утульнай таксоўкай. І не было гэтай Соні ніякага паратунку...

***

...Ня ведаю, чаму я вырашыла, што Зіна зьяўляецца адзіна магчымай суперніцай. Увогуле, я ніколі асабліва й не зважала на яе, маленькую, рыжую, разяватую. І таму Зіна абсалютна бязбольна ўпісвалася ў сцэнар майго будучага замужняга жыцьця як бяспечная штатная палюбоўніца. Я выключна лёгка ўяўляла сабе, як мы ажэнімся зь Кірылам дзе—небудзь у чацьвер, ускладзем кветкі на магілу Паўлюка Труса й у лепшых традыцыях Міхася Стральцова вып’ем тамака зь вясельнымі гасьцямі па чарцы гарэлкі. А потым я, у белым строі, павяду сваю старэнькую машыну, і ня дам ДАІшнікам ніякай нагоды ні аштрафаваць мяне, ні пазбавіць мяне правоў, бо калі я вып’ю, то станаўлюся па—агрэсіўнаму засяроджанай. А ў шлюбную ноч я буду танчыць танга на прыступках падвальнай майстэрні свайго мужа, і а трэцяй гадзіне раніцы да нас прыедзе на таксоўцы Зіна й скажа: «Ё... вашу маць - мне сумна.« Не, Зіна не вульгарная — проста яна любіць гуляць у словы дзеля праўды характару. Да таго ж Зініны лялькі ўпарта маўчаць, і яна мусіць размаўляць за іх у рэальным жыцьці. Так што я амаль заўсёды магу здагадацца, каго Зіна ваяе сёньня. Ды доўга думаць нават і ня трэба, таму што ледзь ня ўсе Зініны лялькі — гэта я, і,

што самае цікавае, ніводная зь іх не сьмяецца, ніводная ня мае спакойнага выразу твару, але ўсе яны толькі пакутваюць і плачуць. Здаецца, цяпер я разумею, адкуль у маім жыцьці бяруцца раптоўныя, неабгрунтаваныя няшчасьці. Так што, мая вам парада: не заводзьце сабе сябровак—лялечніц, тым больш прафесійных. Мужы—сцэнографы — таксама не найлепшае выйсьце, але гэта ўжо лёс (альбо ня—лёс, як у маім выпадку). Пры гэтым у мужа—сцэнографа могуць мецца лішнія квадратныя метры ў выглядзе бацькавай майстэрні, што, хаця б у першыя месяцы, стане залогам шчасьлівага сямейнага жыцьця. Вы будзеце цягаць у гэтай майстэрні рамантычныя напаўпразрыстыя сукенкі, а ваш муж — таемна марыць стаць драматургам. Вы будзеце захлынацца ў прыгодах, выпрабаваньнях і проста прыколах свайго жыцьця (у некаторай ступені, усё ж такі асабістага, бо гарбатага магіла выправіць) й скардзіцца на іх мужу (у межах разумнага). Ён будзе «выдумляць« файны сюжэцец, а Зіна... Зіна забяспечыць яго патрэбнымі словамі. І гэтак вы ўтраёх пражывяце ў згодзе доўгія—доўгія гады з аднэй толькі агаворкай, што гэта ўжо будзеце ня вы. Па—першае, вы ўжо будзеце ня Соняй Дзядзінец, а прэтэнцыёзнай Соняй Атрамант, а па—другое...

А па—другое, я думала, што калі гэта сапраўды лёс, то, можа, усё мусіць адбыцца само па сабе? Чаму я павінна зараз прымаць нейкае рашэньне, тэлефанаваць Кірылу й казаць: «Я згодная«? Калі б наша аб’яднаньне было непазьбежным, яго ня трэба было б абмяркоўваць і тым больш рэгістраваць. І потым, адкуль мне ведаць, ці зьяўляецца Кірыл маім суджаным і ці прызначаны ён мне Богам? І што такое Бог, і што — лёс? І як вырашыць, дзе памылковае дзеяньне й дзе правільнае? І ці трэба дзейнічаць увогуле? І ці вартыя памылкі тага, каб іх зьдзяйсьняць? І ці стане маё каханьне лічыцца памылкай, калі я дзеля экспэрымэнту вазьму й адмоўлю Кірылу? Ці абясцэніцца яно тады й ці будзе лічыцца не сапраўдным? І ці ёсьць маё пачуцьцё каханьнем, калі я сумняваюся? І ці ёсьць гэтае пачуцьцё? І ці ёсьць у нас насамрэч выбар?

Кіравацца наказамі сэрца, сыходзіць з вопыта, прыслухоўвацца да інтуіцыі. Розумам ацэньваць сітуацыю, патэнцыял дзеючых асобаў, магчымыя вынікі. - Я як быццям бы гуляю ў найскладанейшую гульню й баюся прайграць. Але хто сказаў, што мужчына — гэта мая самая галоўная партыя на шахматным полі жыцьця? Хто сказаў, што гэта — маё прызначэньне? І што калі зараз, калі я разлічваю хады, захопліваю пазыцыі, радуюся альбо пакутваю, крычу ад адчаю альбо задавальненьня, я прадуваю па поўнай праграме?

Тым больш, што я абсалютна выяўна адчуваю, што зайсьці зараз замуж за Кірыла — гэта тое самае, што апрануць сабе на галаву кошык: гэтак жа дарэчы й натуральна. Не, як ні круці, але ў замужжы ёсьць нешта ад забабонаў, ад суседзяў, ад... ня ведаю, яшчэ ад чага. Мне здаецца, што калі сапраўды кахаеш чалавека й знаходзіш зь ім паразуменьне, схіляць каханага да шлюбу — гэтае амаль тое самае, што грашыць ахвярапрынашэньнем. Так што я не магу. Я не магу ўзяць на сябе такую адказнасьць. Я не хачу каб за мяне плацілі мае дзеці, бо вядома, што мы не заўсёды самі разлічваемся за свае грахі. Я не магу адступіцца ад сябе. Маё прызначэньне — свабода, сва-

бода быць самой сабой. І я люблю яе й Кірыла таксама люблю, але па—за межамі сваёй свабоды й свайго жыцьця.

...І ў рэшце рэшт я ужо зусім заблыталася. Я захліпалася ва ўласных разважаньнях, пальтала да ўсіх знаёмых і сяброў, да Кірыла, ажно пакуль мяне не пачалі папракаць загадзя купленымі вясельнымі падарункамі, ажно пакуль Кірыл мяне ня кінуў. Ён сказаў, што будзе заўсёды чакаць мяне, што ён ня верыць, што ўсё, што паміж намі было, можа зьнікнуць ушчэнт праз які — небудзь феміністкі артыкул у жаночым часопісе. Накшталт: «Вызвальцеся з гэтага рабства!« А на наступнай старонцы — гаданьне: «Як знайсьці свайго адзінага.« (Няпраўда. Не было там ніякага артыкула — гаданьне было, але артыкула не было.) Яшчэ ён дадаў, што ягоная майстэрня — заўсёды ў маім распараджэньні, і што, калі я прыду туды са сваімі рэчамі, ён мяне прабачыць. Але ці варта было гэта рабіць?

Канешне, я магла спакойна сабраць свае пажыткі й пераехаць да Кірыла. Я магла адчыніць сваім ключом майстэрню й, стоячы на самай верхняй прыступцы падвальнай лесьвіцы, сказаць якую — небудзь гарэзьлівую прамову. Я пасылала б паветраныя пацалункі Кірылу й, магчыма, нават тым жабам, якія б таўкліся ў яго ў маю адсутнасьць. Я б нават не павыдрапала ім вочы. Пра мой гуманізм пісалі б у газэтах. Мы былі б парай тысячагодзьдзя. (Па—тэатральнаму раскінуўшы рукі: « Тут, на заранку дваццаць першага стагодзьдзя, я ўжо не Пенелопа — я Уліс, і ты дачакаўся мяне, каханы.«) Толькі, як высьветлілася, ты мяне зусім не чакаў. Ды й я, насамрэч, ніякага спакою не адчувала.



Бо я так і не змагла для сябе нічога вырашыць. А зьнікненьне Кірыла - толькі пераканала мяне ў бессэнсоўнасьці якіх-небудзь рашэньняў увогуле й нашага шлюбу ў прыватнасьці. Хаця мне й хацелася, каб усё было, як раней... Але гэта, пэўна, тая адзіная ўмова ў сьвеце, якая ніколі не прымаецца, калі трэба, - і наадварот. І я толькі пакутвала. Сядзела па вечарах ля вакна, пад фортачкай, у абдымку з цацачным груганом і глядзела, як выяжджаюць з двара машыны. Я зайздросьціла тым, каго яны везьлі. Яны ехалі да сваіх каханых, яны ўдыхалі пах скураных сядзеньняў у таксоўках і слухалі апантаныя перамовы дыспэтчара. Яны ехалі насустрач мяккасьці й пяшчоце, а магчыма, сваркам і расставаньню, але яны ехалі *насустрач*. І хоць—калі мне здавалася, што я таксама змагу апрануцца, сесьці ў аўто й прыехаць да цябе. І ты мяне зразумееш і прамовіш тое, чага не здагадаўся сказаць раней: што гэта лёс, і што Бог ёсьць любоў. Але я так нікуды й ня выйшла з кватэры, таму што больш за ўсё мне хацелася, каб ты мучыўся гэтак жа, як і я. Каб ты піў мяне павольна—павольна, як сонны сабака хлябтае ваду з лужыны ў чыімсьці сьне. Ты, чорны, рыжым сабакам піў бы ваду з жоўтай лужыны й бачыў бы ў ёй сваё рыжае адлюстраваньне, якое распаўзалася б кругамі й якое ты ніяк ня мог бы схапіць. А я... А я зразумела, што ў маім жыцьці няма нічога, акрамя яго самога, і што я мушу ЖЫЦЬ СВАІМ ЖЫЦЬЦЁМ.

*Маё* жыцьцё завяло мяне тады ня надта што далёка: усяго толькі ў глінтвейную, разам зь Мізэрыяй. Мізэрыя — гэта мой антыпод. Яна рэжысёрша й абсалютна цьвёрда, без мітусьні,

(сама!) распараджаецца сваім жыцьцём. Яна перакананая, што шчасьце — ва ўменьні ўдала запаўняць арганайзер і разьмяркоўваць ролі. Яна кажа, што трэба проста бачыць усю карціну цалкам і абдумана ўпісваць у яе дэталі. У гэтым якраз і справа: сама я раблю мультфільмы, мне ўсё прыходзіцца раздрабняць, разбіраць на часткі. Для мяне маментальны рух мае большае значэньне, чым якая—небудзь канцэпцыя ў цэлым. І, напэўнае, таму я й прайграю ў побыце, у той час як Мізэрыя, кульгавая на адну нагу, худая, з хлапечай чорнай стрыжкай, жыве зь італьянцам—дызайнэрам у пяціпакаёвай кватэры на вуліцы Кульман. Так што я падпарадкавалася Мізэрыі, падпарадкавалася як пэрсанаж, калі яна загадала мне йсьці да Кірыла — так бы мовіць, зрабіць разьведку боем, высьветліць, якое становішча там у нас на фроньце. Трэба было бачыць, як п'яная Мізэрыя ваяўніча скікала наперадзе, а я самааддана круціла сьцёгнамі (што заўсёды здараецца пры хуткай хадзе й маёй непамернай задніцы), натхнёная новай ідэяй пра тое, што «свабода — свабодай, але мы яму так не дадзім сысьці!.. »

...А на фроньце ўсё было да сьмешнага проста: цёмныя вокны майстэрні й зачыненыя дзьверы. Пусты двор з абыякавай да маіх ідэй і канцэпцый дзіцячай пляцоўкай. Два мянты, якія чамусьці наважылі выпіць з намі гарэлкі, разьлітай у пластмасавыя кубкі. Маленькая карусель, на якой мяне круцілі ў кампэнсацыю за тое, што мне не было ўжо як піць, бо, здавалася, ажно зь веяк капаў глінтвейн. Цыгарэта, за якую я трымалася, адзінае каб ня выпасьці зь сядзеньня. Забытыя дома ключы. І ніякага жалю, ніякага,



акрамя тага, што мне прыдзецца адной цягнуцца дахаты ў такім стане. Я *прыклала* намаганьні. Я *дзейнічала*. Маё сумленьне было чыстым: я нарэсьце зрабіла тое, што залежала ад мяне. І я мусіла цяпер выбіраць. Дачакацца Кірыла й атрымаць яго на некалькі гадзінаў, на год альбо не памыляцца йзноў і атрымаць Кірыла назаўсёды? Пры гэтым ніколі яго ня бачыць, ніколі ня быць зь ім побач, ніколі яго ня мець. Кахаць яго вольным, кахаць яго самога па сабе, а не ў дачыненьні да маіх асабістых пэрспэктываў. Глядзець яго як кіно. Назіраць за ім, як за любімым акторам — што з тага, калі ў абдымках розных жанчынаў? Самае разумнае, што я магу зараз учыніць, - гэта адмовіцца ад Кірыла. Ад Кірыла, які прачынаецца па раніцах, майструе макеты, магчыма, сьпіць дзе—небудзь зараз зь Зінай. Гэта адзінае, напэўна, што дазволіць мне захаваць таго Кірыла, што ў маёй душы. Яна - мой адзіны тыл, і мне няма куды адступаць, акрамя як да самой сябе...

...Мне трэба было тады тэрмінова адасобіцца, схавацца, залегчы на дно, выгадаць час. Мне трэба было ўцячы ад тэлефонаў, ключоў, майстэрняў. Ад абавязкаў, абяцаньняў, сяброў дзяцінства, мультфільмаў. Ад тых, хто чакаў, як я буду выкручвацца са свайго становішча, як наладжу сваё жыцьцё. Мне трэба было цяпер соўкацца з гэтым сваім жыцьцём, таму што яно было адзіным, што ў мяне засталося. Мне варта было хаця б крыху пабыць самой сабой, а не дзяўчынай, якая вечна жыве ў прадчуваньні будучыні. Я павінна была зразумець, што ўяўнае шчасьце — гэта няшчасьце. Што будучыні можа й ня быць, але што яна немінуча надыходзіць. Што мінулае — гэта вопыт, а не параш-

кода. Што яно зямля, на якой я стаю, у той час як будучыня — гэта неба над маёю галавою, і аб'ядноўваю іх я — увасабленьне й шукальніца данага моманту.

І дагэтуль я ніяк не магла атрымаць ад яго асалоду, таму што я толькі тое й рабіла, што балансавала паміж каханьнем і свабодай і ня ведала, што выбраць, ня ведала, ці трэба выбіраць. Я ўсё хацела даўмецца, што ёсьць маёй сутнасьцю: каханьне альбо свабода, - і не ўсьведамляла, што ўсё далей адыходжу й ад тага й ад другога. Я ж усё роўна разьбіла сваё сэрца - дык лепш бы яно ўжо было разьбітае праз пачуцьцё, а не праз глупства й не праз самоту. Таму што, хаця свабода - і высакародная мэта, але вынік яе непрадбачана жахлівы й цана за яе занадта ўжо вялікая — пякучая адзінота. І я ўсё кідаюся са скрайнасьці ў скрайнасьць. У мяне ж заўжды так: спачатку гранічная жаноцкасьць, а потым — бязьмежная туга. Я ужо нават ня памятаю, якія такія моцныя страсьці панесьлі мяне той верасьнёўскай ноччу да майстэрні. Цяпер гэта проста фізічнае адчуваньне суму, а не напружанасьць каханьня. Гэта сум, які сьлізкім асьміногам утульна разьмесьціўся на дне маёй душы. Але потым з гэтай вільгаці й гнілі палезьлі тугія бутоны на полых тоўстых сьцяблінах. Чырвоныя бутоны жарсьці. І хаця я дбайна выдзірала іх, яны прарасталі йзноў, ціснуліся ў душы, цягнуліся праз горла, распускаліся нахабна ў роце й замінялі мне дыхаць...

***

...Так, я заўжды падазравала, што ў душы маёй хаваецца непастаянная, непасьлядоўная котка. Звычайна яна сьпіць, уціснуўшыся ва ўласнае цела, чорная й адчужаная. Але хоць-калі яна прачынаецца, запускае ў мяне кіпцюры й мяўкае ў бясконцасьць, хаця ж дакладна ведае, гадаўка, што ніхто ня здолее яе суцешыць. Вось і зараз, калі я сяджу ля вакна ў прыцемку й слухаю навальніцу, нешта занадта моцна хвалюецца мая котка, намоклая ў сьлізі, што крапае з чырвоных кветак, павылезлых з глыбіняў памяці й прадчуваньняў. Кідаецца, рвецца з грудзей вонкі й просіць у мяне паратунку. Агідная й бедная котка. Дарма ты баісься грымотаў: і гэтая навальніца нас абміне. Дарэчы, бабуля Соня неяк распавяла мне, што ейны бацька быў хворы на сухоты й шукаў сабе сьмерці. Так, аднойчы ён расчыніў у буру вакно й чакаў, што маланка заб'е яго. Але ніводная зь іх не аказалася дастаткова міласэрнай, і дзед памёр сваёй сьмерцю, бо менавіта гэта было ягоным лёсам. Таму кожны раз, калі дзе-небудзь за лесам пачынае бурчэць пярун, мне робіцца неяк спакойна й радасна праз магчымасьць працягу й мудрую дасьвеччанасьць і непазбежнасьць лёсу. І ты не лямантуй, перапалоханая адзінокая котка, - грымоты ня ёсьць прадвесьнікамі ні небяспекі, ні выратаваньня, якое ты ўпарта хочаш бачыць у каханьні. Тым больш, што каханьня няма звонку. Так, яно ёсьць ува ўсім: у траве, у лісьці, у зьбялелым ад страху небе, у навальніцы, у шапаценьні дажджу і ў шаляванай столі, - але таго каханьня, якога ты зараз просіш у мяне, на якое ты мяне падбухторваеш, няма па-за межамі маёй асобы. Лепш кладзіся спаць, мацней уцісьніся ў сваё цела, чорная й адчужаная. І хто ведае, магчыма, заўтра я зразу-

мею, што каханьне й свабода не йснуюць паасобку, а йснуе зусім нечаканая рэч, а менавіта: каханьне ў свабодзе. І, можа, я нарэсьце даўмеюся, што каб быць вольнай ня варта аб'ядноўвацца альбо адасабляцца, а трэба проста пачаць жыць...

***

...Калі я прачнулася, было ўжо трыццаць пяць хвілінаў на першую, і сонца ліўнем уваходзіла ў пакой. Я паставіла на прайгравальнік плыту, і маё адлюстраваньне пакалыхвалася ў ёй, як у рацэ. Кава абяцала мне пазнавальнасьць дня ў напаўзабытым горадзе. (Божа, як добра, што ў нас ёсьць звычкі — яны настолькі палягчаюць самайдэнтыфікацыю ў новых умовах!) Разгубленыя тралейбусы чужаніцамі праяжджалі па праспэкце. Машыны — ні прэч, ні насустрач — проста рухаліся ўздоўж дамоў, тратуараў і прыпынкаў. І таксоўкі — цэлае мора таксовак — пакідалі мяне шчасьліва-раўнадушнай. Відаць, мая невылечная хвароба пераўтварылася ў зайздросную непатапляльнасьць. З такой сілай характару можна ісьці ў любую разьведку боем з поўнай упэўненасьцю ў тым, што цяпер ужо ніншто не прымусіць мяне хавацца альбо ўцікаць. Але, дзякаваць Богу, я пераадолела ў сабе ўсялякія жаданьні ваяваць, і ў мяне зараз (спадзяюся, на гады) мірны час. Так што гэтым разам мы ўжо ідзём зь Мізэрыяй у тэатар. У гонар перамогі над пошукам адказаў на пытаньні я й спала нават на канапе ў залі, што выходзіць вокнамі на праспэкт, а ня ў ціхім сваім пакойчыку зь гіганцкім цацачным груганом на ложку. Няхай жывуць зьнешняя няўтульнасьць і ўяўная недарэчнасьць — гэтак мне лепш адчуваецца мая ўнутраная непарушальнасьць! Бадай што, можна выпіць яшчэ кавы й зьесьці што-небудзь больш значнае, чым бутэрброд, таму што ўжо амаль паўднё...

А недзе каля шостай мы сустрэліся зь Мізэрыяй у маім двары й накіраваліся ў тэатар. Я глядзела гэты спэктакль трэці раз, і калі б ня гэтая акалічнасьць, наўрад ці зважала б на публіку. Мы сядзелі з правага боку, амаль з самага краю, і я ня ведаю, што прымусіла мяне зірнуць праз усю залю ўлева — на яга, на радзімага, у кампаніі з поўнай брунэткай у зялёным швэдры. Першая мая думка была: »Як ён мог так абысьціся зь Зінай, бессаромны монстр! » Але потым высьветлілася, што Зіны ў гэтым сэньсе ніколі не было, таму што Зіна, аказваецца, «жыве цытатамі чужых жыцьцяў.» Я пачула яшчэ тузін сваіх любімых словаў і выказваньняў, але, натуральна, што ягоная брунэтка ўважала ўсе гэтыя перлы за аўтэнтычныя й літаральна ня зводзіла вачэй зь Кірылавага рота, праз што я гэты рот пачала проста ненавідзець, а мая, разбуджаная, чорная котка смяротна на мяне пакрыўдзілася. Было за што: унутры сваёй, такой вольнай, асобы я магла б выпеставаць і лепшае каханьне. І раз я ўжо такая свабодная, то я павінна была адмовіцца, калі Кірыл запрасіў нас на госьці, але я паплялася за ўсімі, як авечка на закланьне, на повадзе абяцаньня, што «мы ёй пакажам, хто мусіць зь ім быць.» І тамака, у майстэрні, поўнай незнаёмых мне жаночых прычындалаў, я й даведалася,

«ЯК МЫ ГРАЛІ РОЗНЫЯ П’ЕСЫ.»

Дзеючыя асобы:

Ніна — брунэтка з карэ й азізлым тварам. Увесь час размаўляе вельмі моцна, амаль крычыць, і ненатуральна, па-конску, сьмяецца.

Мізэрыя — дзяўчына з усходняга тыпу тварам. Сядзіць моўчкі, пацьціснуўшы вусны, альбо паліць і зьедліва ўздымае левае брыво, калі Ніна зьвяртаецца да яе.

Кірыл — малады чалавек гадоў дваццаці васьмі. Чарнавалосы, з рыжаватай барадой і вусамі. Час ад часу стомлена праціpae акуляры, забываецца й трэ потым насоўкай вусы.

Соня — дастаткова бледная худатварая бландынка, ледзь не альбіноска. Увесь час нарвуецца, больш за ўсіх п’е, прычым сама сабе налівае. Здаецца, калі б у яе было па цыгарэціне паміж кожным пальцам, гэта б ёй значна дапамагло.

Дзеяньне адбываецца ў вялізным пакоі мастацкай майстэрні, дзе ўсё, як звычайна: некалькі мальбэртаў, запэцканыя фарбай крэслы й анучы, карціны на сьценах. На стале ў куце — банкі з фарбаю й бруднай вадой, пэндзлі й алоўкі. Дзенідзе стаяць макеты да спэктакляў, напалову разабраныя, на некаторых — пустыя бутэлькі з-пад сьпіртнога. Пасярод майстэрні — складзены мальбэрт на двух табурэтках. На ім — бутэлька гарэлкі, тоніку, пластмасавыя кубкі й нейкае відавочна перасоленае сала з хлебам. Усе чацьвёра дзеючых асобаў сядзяць вакол гэтага імравізаванага стала. Іх гамонку цяжка назваць агульнай, бо гавораць усе адначасова. Да таго ж Мізэрыя ўстаўляе якую-небудзь фразу, толькі калі забывае ўзняць брыво; Ніна гарлае сама па сабе, не чакае й ня слухае адказаў; Кірыл і Соня размаўляюць паміж сабою, але, так бы мовіць, у плыні агульнай неразбярыхі, гудзеньня падвальных трубаў, ляскатньня пад’ездных дзьвярэй і выкрыкаў за вакном пад стольлю. У майстэрні гарыць сьвятло. Адчуваецца, што звонку млява цячэ вясна. Сум, нейкае шкадаваньне й яшчэ не зусім усьвядомленая палёгка ад тага, што самае цяжкае, здаецца, скончылася.

К і р ы л: ...Я, напэўна, адашлю Ніну днямі дамоў: мне трэба шмат працаваць - зрабіць два макеты для Магілёўскага тэатра.

Н і н а: А вясельле мы вырашылі згуляць на вёсцы. Калі ўсе госьці нап’юцца, мы паедзем з Кірылам да ракі, распалім вогнішча й будзем любіцца пад адкрытым небам.

К і р ы л: Ты мяне кінула.

С о н я: Я цябе не кідала — я проста хацела, каб мая згода была праўдай.

Н і н а: Хочаш, Соня, і цябе запросім? Ты зусім зьдзічэла ў сваім Зарэччы, ці як яго там.

К і р ы л: Ты манюка.

Н і н а: А вы ж ведаеце Вадзіма? Дык ён ажаніўся, і ў яго ў кватэры сьмярдзіць катамі.

С о н я: Я толькі хацела, каб гэта быў вольны выбар і праз яго — натуральнасьць і чысьціня пачуцьцяў.

Н і н а: Мне там стала так дрэнна, што мы ад яго сышлі.

К і р ы л: Ты зьехала.

С о н я: Я зьехала, каб зразумець сябе й перанарадзіцца. Як бы я магла жыць з табой і

разумець цябе, калі не ўсьведамляла, чаго мне самой трэба?

Н і н а: А Мізэрыя — гэта прозвішча ці ймя? А Ніна Атрамант, па-мойму, нядрэнна гучыць.

К і р ы л: Ты проста яшчэ адзін парог у тым струмені жыцьця, які з маленства вучыць мяне разлюбліваць.

Н і н а: Слухай, Мізэрыя, а з тым лесьніком, пра каторага яна распавядала, у іх сапрауды нешта было, альбо яна ўсё дзеля сьмеху выдумала?

М і з э р ы я (скрозь зубы): Горшага сьмеху, чым ты ня выдумаеш. І дзе ён толькі цябе падчапіў?

С о н я: Я жыла сярод любові натуральнай і самадастатковай да шаленства. Сярод лісьця, дрэваў, травы й кветак, кожны працэс у жыцьці каторых мае сэнс. Разумееш, яны растуць, пладзяцца, паміраюць, і гэта мае сэнс.

Н і н а: На вясельле запросім маю прыяцельку з Прагі. Няхай будзе маёй сьведкай.

М і з э р ы я (убок): Вядома, хто разумее, што ты вярзеш, сьведкам да цябе ня пойдзе.

К і р ы л: Мары — марамі, а жыцьцё — жыцьцём. Аказваецца, можна любіць адну й спакойна жыць з другой, а з трэцяй піць у майстэрні.

С о н я: Вось зараз мы ўсе гаворым разам, але ці значыць гэта, што мы расьцем?

К і р ы л: Я нічога не адчуваю, калі спускаюся па прыступках у майстэрню, ні пра што не ўспамінаю. Выходзіць, што можна быць нячулым, што можна жыць не па сэрцы.

Н і н а: У мяне сэрца разрываецца, калі я думаю, што яшчэ так доўга да вясельля. Я так хачу жыць у майстэрні й пасля падарожжа, але Кірыл кажа, што гэта будзе перашкаджаць ягонай працы. Як такое можа быць? Я ж яго натхня-ю!

С о н я: Мы адчуваем адзін аднага праз прастору стала, мы задушваемся ад спакушальнай парфумы, але мы ўжо не прыродныя стварэньні, і для нас гэта ня мае амаль ніякага сэнсу.

К і р ы л: Ну, чаму? Сэнс ёсьць. Я толькі й думаю зараз, ці можна нашае становішча неяк зьмяніць. Ці можна разьвязацца з усімі гэтымі людзьмі.

Н і н а. Мой бацька супраць тага, каб мы з Кірылам жылі тутака разам. Ён кажа, што я паводжу сябе, як прастытутка. І чаму ён ня хоча зразумець, што гэта мой лёс - быць з Кірылам ?

С о н я. Хацела б я ведаць, ці ёсць усё *гэта* нашым лёсам.

К і р ы л. Гэта было б занадта жорстка. Лепш ужо думаць, што ўсё гэта вынік нашых дзеяньняў. Калі б сапраўды было нешта накшталт тага, што ты называеш лёсам, я думаю, я нарадзіўся б для лепшай долі.

Н і н а. Соня, табе трэба пастрыгчыся й пафарбаваць валасы ў цёмны колер. Гэта было б так па-дэкадэнцку.

С о н я. Хаця... Нашто даваць усяму нейкія азначэньні? Жыцьцё — гэта жыцьцё, а ня холст, які трэба нацягнуць на падрамнік, запэцкаць фарбамі, а потым абавязкова запіхнуць карціну ў рамку.

Н і н а (крычыць да Мізэрыі, пасля тага, як краем вуха — праз свой віск - пачула словы «рамка» й «карціна»). Дарэчы, палядзіце на Кірылавы новыя работы. Я думаю, яму трэба паслаць свае рэчы куды-небудзь на Захад. Яны мусяць мець там посьпех ! Мы паедзем у Францыю! Кірыл

будзе працаваць там у якім-небудзь тэатры! Мы будзем есьці іхныя даугія батоны й гарачыя круасаны з маслам!

Узбуджаная сваімі праектамі, Ніна зрываецца з зэдліка, хапае за рукаво Мізэрыю й імчыць у кут, дзе, відаць, састаўленыя новыя карціны. Мізэрыя абачліва затрымлівае Ніну тамака, і яны сядаюць на падлогу, каб пагаварыць. Цяпер ужо Мізэрыя не сьціхае: гамоніць, вельмі імпульсіўна жэстыкулюе, нават сьмяшыць Ніну, што той выяўна даспадобы. Відавочна, Ніна ганарыцца тым, што яна змагла зачараваць хаця б адну зь сяброваk свайго кавалера. Празь нейкі час Ніна падбягае да стала, каб узяць Мізэрыі цыгарэтаў, і потым ізноў вяртаецца ў кут. Кірыл і Соня зараз пачуваюцца крыху болей разьняволена, але іхная гутарка становіцца значна менш сентыментальнай, але больш агрэсіўнай і зьедлівай.

Кірыл. Як добра ты, Соня, навучылася паэтычна выказвацца! Якая ўзьнёслая асоба! Ніхто й не паверыў бы, што ты добраахвотна нарабіла такога паскудства!

Соня. Цікава, якога?

Кірыл. Ня трэба прыкідвацца й строіць зь сябе анёла!

Соня. Я нічога зь сябе ня строю. Я сапраўды ні ў чым перад табой не вінаватая.

Кірыл. Канешне. Асабліва, у тым, што разладзіла вясельле, пасьмяялася зь мяне.

Соня. Я не сьмяялася зь цябе, Кірыл. Я цябе кахала. Я ж табе нават ня здрадзіла за гэты час.

Кірыл. Ай-я-я!.. І бывае ж такое! Проста фантастычная вернасьць! І за які доўгі час! О навяўленая Пенелопа, дазволь мне прыпасьці да тваіх каленяў!

Соня. Прыпадай да каленяў сваёй суджанай. Да таго ж я не Пенелопа.

Кірыл. Божа, якая нечалавечая здагадлівасьць!

Соня. Я — Уліс.

Кірыл. ..?

Соня. Хаця — не. Усё ж такі Пенелопа. Пенелопа памежкаў Усходняй Эўропы канца XX стагодзьдзя. Толькі нязрэлая — таму й мітусілася гэтак. Наступным разам я ўжо буду кіравацца цьвёрдымі, ясна аформленымі, выпакутванымі цяпер жыцьцёвымі прынцыпамі.

Кірыл. А-а, дык усё ж такі наступны раз будзе? Ну, і разбэшчаныя сёньня Пенелопы пайшлі!

Соня. Што зробіш. Жыцьцё, дзякаваць Богу, працягваецца.

Кірыл. Я бачу, што й ты спыняцца не зьбіраесься.

Соня. Нашто?

Кірыл. Правільна. Нашто талент марнаваць? Можна стаць прафесійнай шлюбнай аферысткай.

Соня. Слушная думка. Вопыт ёсьць — я ў дзіцячым садку два разы замуж заходзіла.

Кірыл. Два разы на дзень пасьля ежы?

Соня. Не. *Усяга* два разы: адзін у ясьлях, а другі ў старэйшай групе.

Кірыл. А-а. Можна сказаць, няшмат. З тваім тэмпэрамэнтам і здольнасьцямі. Толькі глядзі — не кідай практыкі, а то пашкодзіш здароўе. — Усе гэтыя нерэалізаваныя памкненьні... Празь іх людзі й гінуць.

С о н я. Ты маеш рацыю. Я таксама думаю, што трэба прыняць сябе, свае жаданьні. Прымірыцца з сабою й быць такою, якая ты ёсьць, інакш сам Бог пакарае.

К і р ы л. Ён цябе ўжо пакараў, бо адняў розум.

С о н я. Ня розум, а стэрэатыпнае мысленьне. З розумам у мяне пакуль што ўсё ў парадку, а тое я б ужо даўна тваёй ненагляднай сяброўцы ў патлы ўчапілася.

К і р ы л. Нашто гэта табе? Дарма чалавека пакрыўдзіш, а мне зь ёю яшчэ жыць.

С о н я. Ах, так. Я й забылася. Нядрэнны набытак. А! Папрасі яе выразаныя з фаньцікаў зорачкі на макеты налепліваць. У яе ж мусіць быць калекцыя фаньцікаў?

К і р ы л. Не рабі яе дурней, чым яна ёсьць.

С о н я. А, дык усё ж такі яна дурная?

К і р ы л. Не чапляйся да словаў. Калі на тое пайшло, яна ў нечым разумнейшая за цябе. Яна б ужо напэўна ня кінула свайго жаніха й не панеслася б на вёску любіцца зь лесьнікамі.

С о н я. Я не любілася зь лесьнікамі.

К і р ы л. Мані болей! Пра гэта ўжо ўсе даўна кажуць.

С о н я. А ты болей слухай — праўды начуесься-а-а. Гэта ўсё плёткі. Трэба ж людзям неяк забаўляцца, вось яны й выдумляюць абы чага. Проста жыць яны ж ня могуць. Свайго жыцьця, лічы, няма.

К і р ы л. Затое ты можаш — «проста». *Найпрасцей*: чыкі—брыкі — і лесьнікова жонка.

С о н я. Прычым тут жонка?

К і р ы л. Ну, каханка.

С о н я. Што ты вярзеш? У нас зь ім чыста плятанічныя адносіны. Нават творчыя.



К і р ы л. А-а, ну вядома. З прафесіяналамі ж ты болей ня водзісься. Ты ж усіх тутака насьмяшыла сваімі экспэрымэнтамі з гэтымі бяззубымі пачварамі! Ты што, сапраўды думаеш, што яму п’есы твае патрэбныя?

С о н я. Можа быць.

К і р ы л. Ды яму толькі адно ад цябе патрэбнае!

С о н я. Цікава —што?

К і р ы л. А ты ўжо забылася? Здаецца ж, сярод песьцікаў і тычынак жыла...

С о н я. Яму *я* была патрэбная, а ня ўсё такое.

К і р ы л. Гледзячы, што разумець пад «я».

С о н я. Гэта слушна.

К і р ы л. Ой, я й забыўся. Мы ж сталі філосафамі. Дарэчы, я б з тваім «я» як-небудзь ахвотна пафіласофстваваў.

С о н я. Цішэй кажы, а то сяброўка зараўнуе.

К і р ы л. Нічога тамака не чуваць. Слухай, а ты мяне раўнавала?

С о н я. Не.

К і р ы л. Як так?

С о н я. Ты гэтага не зразумееш.

К і р ы л. Дзе там! Куды мне бедненькаму! Я ж сем месяцаў духоўнымі пошукамі не займаўся.

С о н я. А й праўда — што ты ўвесь гэты час рабіў?

К і р ы л. Працаваў. — «што?» Што й заўсёды. Дарэчы, я сцэнар мультфільма напісаў. Для цябе, дурніца, стараўся. Думаў, гэта будзе маім вясельным падарункам табе. Хацеў спаліць рукапіс, але Ягор пераканаў не рабіць гэткай бязглузьдзіцы, тым больш, што ўжо да таго часу паабяцаў дапамагчы з грашыма. Прыйшлося далей змагацца. Ірынка ваша й сам Ягор малявалі. А Ніна... Мы якраз тады й пазнаёміліся. У яе кам-

путар добры ёсьць. Яна сцэнар рэдагавала й набірала. Потым мы ў яе тое-сёе па творчай частцы рабілі.

С о н я. Цуды. А калі ўсё гэта адбылося? Я яшчэ тут была?

К і р ы л. Ня ведаю. Можа, у канцы верасьня...

С о н я. Яшчэ тут...

К і р ы л. Ну, што ты?.. Ня будзеш жа ты зараз плакаць па мінулым?

С о н я. Як ты адразу разумна загаварыў!

К і р ы л. Ты сама ўва ўсім вінаватая.

С о н я. Ні ў чым я не вінаватая! Я ўсё правільна зрабіла...

К і р ы л. Ну, канешне! Гэта я подлы — нявесту кінуў.

С о н я. А хіба не? Мы ж толькі ў сярэдзіне верасьня разышліся! Ты й тыдня не патрываў!

К і р ы л. Можа, мне сто гадоў трэба было трываць?

С о н я. Бог з табой... Што ўжо зараз праз гэта вадзіцца? Але сам падумай — ты б зь ёю ўсё роўна сышоўся, каб да вясельля сцэнар надрукаваць. Значыць, я мусіла зрабіць тое, што зрабіла, таму што гэта быў лёс.

К і р ы л. Не кажы глупстваў. Я б тады інакш да яе паставіўся. Лёс - ня лёс. Што ты йзноў пачынаеш? Мы самі ствараем жыцьцёвыя сітуацыі.

С о н я. Не. Не здарма ўсё гэта са мной ні з поля ні з лесу пачалося. Я, відаць, інтуітыўна прадчувала, што ты іншую сустрэнеш, проста не магла гэта напэўна ведаць, але дзейнічала правільна.

К і р ы л. Ну, што ты выдумляеш? Я тады ніякі да яе йшоў. Я пра цябе толькі й думаў, толькі што пакрыўджаны быў. Але я спадзяваўся, што мы



яшчэ памірымся. Што я табе нараніцу яешню смажыць буду...

С о н я. А-а. Ну, так. Яешня — гэта, канешне, незабыўнае.

К і р ы л. Вось бачыш — ты толькі зьдзекваесься. Для цябе нічога сьвятога няма. Ніякія пачуцьці цябе не кранаюць!

С о н я. О так! «Тваё «я», « яешня« — гэта суперпачуцьці, супердоказы каханьня!

К і р ы л. Што ты ўсё са сваімі доказамі? Што ты ўсё розумам жывеш? Ты б хаця б раз сэрца сваё паслухала! Мо, не нарабіла б столькі недарэчнасьцяў!

С о н я. Як чалавек можа нарабіць недарэчнасьцяў, калі ён жыве розумам?

К і р ы л. Ой, я цябе прашу! Пакінь мяне ў спакоі!

С о н я. Ну вось. Першая твая просьба да мяне, пасля тага, як мы столькі ня бачыліся, - пакінуць цябе ў спакоі. Гэтак я, значыцца, табе патрэбная! А дарэчы, паглядзі, як я цябе разумею й люблю: я здагадалася, чага ты хочаш ажно за сем месяцаў да тага, як ты сам уьсвядоміў, што табе ад мяне трэба.

К і р ы л. Ну ты й вар'ятка! Усё пераверне́ш з ног на галаву! Як бы мы яшчэ з табой жылі?..

С о н я. Хвалюйся лепш пра тое, як ты зь ёю жыць будзеш. Гэта яна зараз свой «Always Plus» па ўсёй майстэрні раскідала, а потым будзеш ты ёй на кватэру грошыкі зарабляць. Забудзесься й на тэатар, і на мульцікі! Будзеш комівояжорам!

К і р ы л. А ты? Далёка зайшла? Хутка станеш лезьбіянкай, калі гэтак ад мужыкоў лётаць будзеш. Будзеш за Мізэрыю зь ейным італьянцам біцца. Ха —ха!

С о н я. Пакуль што ў мяне з гэтым усё ў парадку.

К і р ы л. А-а! А казала, што не спала зь лесьнікам!

С о н я. Ну ты й сьвіньня!

К і р ы л. Ня горшая за цябе!

С о н я. Так. Сто гадоў ня бачыліся — ёсьць пра што пагаварыць. Цёплыя сяброўскія адносіны. Уяўляю, што было б, калі б мы разам жылі!

К і р ы л. Нічога гэтага не было б! Як ты не разумееш? Інакш бы ўсё было!

С о н я. Ня веру я ў гэта, Кірыл.

К і р ы л. Слухай, мы знаёмыя сем гадоў, чатыры зь іх былі разам, а зараз, праз нейкіх сем месяцаў, ты ўжо нічога ня памятаеш, ні ўва што ня верыш. Няхай. Я разумею: ты пачуваесься зьняважанай праз Ніну. Але чаму ты ня можаш быць шчырай? І нашто ты тады маніла ўсе гады?

С о н я. Я не маніла.

К і р ы л. Не маніла? А памятаеш, мы адпачывалі ў санаторыі, і ты сказала: «Гэта нейкая бязглуздзіца: мы ядзём трускаўкі зь вяршынамі, а потым ходзім у драўляную прыбіральню на двары. Адзінае, што мяне суцяшае, - дык гэта тое, што мы з табой назаўжды разам.» Чаму ты тады зманіла?

С о н я. Наконт прыбіральні?

К і р ы л.Наконт трускавак!

С о н я. Думаеш, гэта насамрэч былі буйныя суніцы?

К і р ы л. Думаю, што трэба ўсіх папярэдзіць, што ты не жанчына, а акула. Альбо рэкамендаваць цябе сваім ворагам.

С о н я. Для гэтага ты занадта раўнівы. Ты ня вытрываеш тага, што жанчына, якая ад цябе сышла, - з тваім ворагам.



К і р ы л. А-а, усё-ткі *ты* ад мяне сышла! Толькі што плакалася, што гэта я перакінуўся да Ніны.

С о н я. Так і ёсьць. Слухай, мне ўжо ўсё гэта абрыдла. Мы пайшлі па другім крузе. Можаш напісаць усё, што ты маеш сказаць, і даслаць мне па пошце. Абяцаю табе, што ўважліва пастаўлюся да ўсіх канструктыўных прапановаў.

К і р ы л. Дзякуй. Я лепш увасаблю свой негатыўны вопыт у якім-небудзь творчым праекце. Напрыклад, у п’есе пад назовам «Горшай гадаўкі за Соню я ня ведаю.» Альбо зраблю на радыё аналітычную праграму «Асьцярожна: Соня Дзядзінец.»

С о н я. Загадзя магу табе сказаць, што твае задумкі праваляцца.

К і р ы л. Чаму?

С о н я. Ты ня ўмееш абагульняць. Да таго ж людзі мусяць пазнаваць сябе ў героях, а я выключэньне з правілаў.

К і р ы л. Выключэньні правілы толькі пацьвярджаюць.

С о н я. Слухай, Кірыл! Ну, нарэсьце я апраўдаюся! Справа ў тым што ты — правіла, а я - выключэньне. Я тады не зманіла: мы заўсёды будзем разам, але пры гэтым ніколі ня сыдземся. «Мы з табой два берагі ў адной ракі...» Песьню чуў?

К і р ы л. Якой ракі?

С о н я. Я ведаю, якой. Як-небудзь потым распавяду. Лепш скажы, ці дарабілі вы мультфільм.

К і р ы л. Соня, ты проста неверагодна пасьлядоўны чалавек!

С о н я. Дзякуй.

К і р ы л. Хм. Не. Не дарабілі. Ягор ужо зьбіраўся цябе зь вёскі выклікаць. Сказаў, няма цэласнасьці, няма стылю.

С о н я. Хацелася б паглядзець. Калі дазволіце, канешне. Не пужайся — аўтарства мне ня трэба. Так — прафесійная цікаўнасьць.

К і р ы л. Можна было б. Толькі ты ўсё, глядзі, гвалтоўна не перарабляй, а то я цябе ведаю.

С о н я. Нашто мне? Гэта ж ваш праект.

К і р ы л. Што праўда, то праўда. Але цябе не бракавала б да яго прыцягнуць. Толькі ты загадзя павінна ведаць, што там своеасаблівая канцэпцыя. Ды ты й сама мусіш адразу пабачыць. Дарэчы, калі?

С о н я. Што «калі»?

К і р ы л. Сустрэцца па гэтай справе мы калі маглі б?

С о н я. А-а. Ня ведаю. Заўтра падыдзе?

К і р ы л. Давай, пакуль згаджаесься. Але глядзі — Ірынка за кожны малюнак біцца будзе.

С о н я. Гэта натуральна. Але я ня думаю, што там шмат чага прыдзецца перапраўляць. Я Ірынцы ў гэтым пляне давяраю.

К і р ы л. Добра. Тады дакладна: дзе й калі?

С о н я. Як вам зручней — я ж чалавек вольны.

К і р ы л. Тады а сёмай, пасьля працы. Прыходзь да Ягора на студыю — я з усімі дамоўлюся.

С о н я. Добра.

К і р ы л. Сонь!

С о н я. Аў?

К і р ы л. А ты ўпэўненая, што цябе да заўтра ніякі лясьнік не зьвядзе?

С о н я. Ды ну цябе! З табой па-сур’ёзнаму ніяк нельга! Сачы лепш за сваёй прыгажуняй, а то прыдзецца потым яе зь італьянцам разьнімаць, а не мяне. Дарэчы! Мізэрыя! Мы сыходзім!

М і з э р ы я. Нарэсьце! (Схамянуўшыся.) Хаця шкада: Ніна, напэўна, пакрыўдзіцца, што я не перамагла яе ў нашай спрэццы. (Ніна сьмяецца.) Нічога. Наступным разам. Галоўнае, запомні асноўны тэзіс: »Гэта ня тое, што ты думаеш.»

Цяпер ужо сьмяюцца ўсе. Соня й Мізэрыя (Соня - нацягнена) цалуюцца зь Нінай. Мізэрыя штурхае Кірыла на разьвітанне кулаком у плячо. Соня глядзіць уверх на вакно й відавочна, што ёй не на жарт сумна, але гэты сум яна будзе падаўляць, падаўляць і яшчэ раз падаўляць. І, магчыма, дарма.

Соня й Мізэрыя, дзівацкія, у пацёртых джынсах і майках у абцяжку, падымаюцца па лесьвіцы да дзьвярэй. Соня думае, што Кірыл ніколі ня бачыў яе з даўгімі валасамі, і што ўсё здарылася, магчыма, таму, што яна не брунэтка. Кірыл, з напружаным тварам, паліць унізе, ля выхаду з пакоя, і думае, што ніколі не глядзеў у майстэрні на Соню як старонні назіральнік, ніколі ня бачыў, каб яна сыходзіла сама па сабе альбо з некім, акрамя яго.

Наверсе Соня дастае з сумкі ключ і машынальна адчыняе дзьверы. Раптам яна амаль перапалохана паварочваецца да Кірыла, паказвае на сумку й апраўдваецца: « Яна вісела ў калідоры яшчэ з тых часоў — я зусім не планавала нічога такога...» Кірыл, дагэтуль са ськівіцамі, сьціснутымі ўспамінамі, адразу ўсьміхаецца й кажа: « Магла б і зманіць. Добра, не сярдуй. Прыходзь заўтра а сёмай.»

«Пакуль», »шчасліва», »бывайце», сьмех... Дзьверы ляскаюць, і знадворку Соню з Мізэрыяй прымае ў абдымкі вечар. Мяккім ветрам, бы рукою, гладзіць іх па галовах і, як паджылы бацька, дакарае: «Дарослыя, а жывяце, як дзеці...»

«І сапраўды! Што мы, як малыя? Пойдзем да мяне! Мой зьехаў дадому, а ў нас ёсць бутэлька «кампары», і поўна ўсялякай смакаты. Пойдзем! Няхай сабе тутака сядзяць і плеснеюць! «Ні-іна». Хіба гэта ймя? Не бядуй!..»

***

А я й не бядую: стаю сабе на балконе ў Мізэрыі й пыхаю дымам у кручоныя вочкі കратаў. Я ведаю, што ўсё яшчэ наперадзе. Што ўсе мужчыны, якія былі ў мяне дагэтуль і будуць пазьней, - гэта проста цягнікі на шляху да майго суджанага, і я толькі час ад часу мушу рабіць перасадкі, каб дапасьці да яго. Я як вынаходнік і даследчык карысных выкапняў: адкрываю мужчыну й рухаюся затым далей. Але няўжо маё жыцьцё мусіць стаць бясконцай экспэдыцыяй, зь невялікімі прываламі на стаянках падчас распрацоўкі месца пакладаў? Няўжо ж я так і буду шукаць сабе аб'екты страсьці замест тага, каб знайсьці ўзаемную страсць альбо... роднасную адасобленасьць? І ці ёсьць ён, гэты суджаны? Ці не атрымаецца так, што калі Бог дасьць мне *той самы*, «бяспройгрышны», варыянт, я не змагу затрымацца з гэтым мужчынам, а ўсё роўна ўцяку, як і раней, каб пазьбегнуць неабходнасьці канчатковага выбару? *Канцовасьці. Ахвярнасьці. Кампрамісу.* І чаму я так сьвята веру ў неабходнасьць сям'і, але разумею, што маё жаданьне аб'яднацца зь некім — гэта насамрэч гульня ў хованкі са сваёй сутнасьцю? Чаму я разрываюся паміж прагай свабоды й у той жа час застаюся звычайнай жанчынай, якая ня можа пражыць сама па сабе? І чаму я так зашмат кахаю, і кожны раз назаўжды? Хаця... Чаму «зашмат»? Можа, ува мне заўсёды жыло толькі адно каханьне, дадзенае мне спрадвеку? Можа, яно рухалася ўва мне цэласнай плыняй і толькі аказвалася накіраваным на тага, хто ў гэты струмень ступаў?

А цікава было б даказаць, што каханьня няма? Тага, якое людзі ўважаюць за нейкую зьнешнюю сілу. Даказаць, што каханьне — гэта індывідуальная ўласьцівасць кожнага чалавека, а ня нешта наканаванае, непазбежнае, на нябёсах вызначанае. Патрэба арганізма ў эмацыянальным узрушэньні, прага стварэньня, творчасьці, самаздзяйсьненьня. І жахліва было б даказаць адваротнае: што каханьне як вышэйшая моц існуе, прычым незалежна ад нашых жаданьняў, памкненьняў, волі. Жахліва й прыгожа адначасова. І дзіўна, што людзі так просяць сабе каханьня, а потым прыніжаюць яго, як могуць, альбо наадварот гвалцяць, як заўзятыя некрафілы, старое, памерлае, пачуцьцё, бо «так трэба»...

Не, ня трэба, Мізэрыя. Дзякуй. До мне ўжо піць «кампары». Пасля яго мне заўсёды хочацца сьмяяцца, а ў мяне ж зараз такі адказны, сур'ёзны момант у жыцьці — трэба трымаць марку. Што зробіш — узрост. Цягне ўжо на пасьлядоўнасьць, сталасьць, стабільнаьць. Ну, што ты? Няватра плакаць! А што болей рабіць? Ды нічога. Ну вось хаця б намаляваць цыгарэтай у паветры вялікую літару Z і спакойна пайсьці спаць. А назаўтра ...

*Надрукавана ў НН № 22 у 1998 годзе*

## Мы ідзем на пахаваньне

Шпаркімі крокамі, намоклыя й зьмерзлыя, ідзем мы ўздоўж ракі на пахаваньне. Дождж, нібы дарваўшыся, абсмоктвае шэрыя дамы — тыя цямнеюць і гарацъ чорнымі плямамі, быццам чырваньню сораму. Ты трымаеш мой клятчасты парасон, а я вісну на тваёй руцэ. Дрыжу й прыціскаюся як мага мацней, а ты сагнутай рукой падцягваеш мяне бліжэй да сябе. Пакрыўленыя, павыбіваныя ліхтары надламанымі макавымі галоўкамі невідушча зазіраюць нам у твары. Каля самай ракі, абжыргаўшы адно аднаго, мілуюцца на лаўцы мясцовыя падлеткі — паляць, а потым цалуюцца, цалуюцца, а потым паляць.

А мы ня маем часу ні на адно, ні на другое, бо сьпяшаемся на пахаваньне. Вось ужо й новыя элітныя дамы, перад якімі бадуцца казьляняты. Побач дзед у чорнай кепцы сузірае праз цыгарэтны дым іхны двубой, а бацькі ваяроў абыякава скубуць першую здыхлявую траўку. Мы спыняемся й прыціскаемся адно да аднаго яшчэ мацней. Вецер халоднай упэўненай далоняй хапае мяне за шыю, лашчыць з залішняй жарсьцю мае мокрыя, кучаравыя ад дажджу валасы. (Празь іх я буду выглядаць занадта прыгожай, як для пахаваньня. Усе скажуць: «Здаецца ж, ня сьвята, а яна вунь як прыбралася».) Кучаравыя ж казьляняты кідаюць біцца й падбягаюць да казла, занятага спажываньнем сумнеўных у гэтым горадзе вітамінаў. Нечага круцяцца каля яго, а потым ізноў бадуцца. Гераічны казьліны лёс.

Белыя казьляняты, чорны дзед, шэрыя каза з казлом, цагляныя блакітна-жоўта-ружовыя новабудоўлі. Надвячорак сьмярдзіць ваўком. Дождж. У вокнах няма сьвятла. Хутка сьвяты. «Ніколі гэткага ня бачыў». «Мне не дае спакою Гамлет».

Мы даходзім да суду, заціснутага паміж цырульняй, кветкавай крамай і фотаатэльле. Спыняемся, таўчэмся, маўчым, намерваемся, баімся, ідзем назад. На другім баку ракі — ні казлоў, ні падлеткаў. Толькі яшчэ больш разбэшчаны дождж і яшчэ непрагляднейшае паветра. Плястыкавыя бутэлькі й сьмецьце ў вадзе, рудая, заржавелая труба. Вада пераліваецца праз трубу, і здалёк здаецца, што гэта плёскаецца нейкая засьмердлая крымінальная кроў. Мне робіцца страшна.

Далей — бамбасхові шча, дзіцячая пляцоўка. Снарады на ёй пафарбаваныя ў крэмавы й ружаваты колеры. Сакавіта і, як для гэтага занядбанага двара, занадта модна. Мы стаім пасярод пляцоўкі й углядаемся ў згвалчаныя дажджом, сьцішэлыя дамы — ты за маёй сьпінай, а я за тваёй. Людзі, відаць, паразьяжджаліся перад сьвятамі: скарочаны дзень — значыць, мы можам спазьніцца. (Чаго мы баімся?) За тваёй сьпінай — абгароджанае высокай сеткай футбольнае поле. Маленькая рэзэрвацыя каля канцавога

прыпынку тралейбуса, дзе неяк не наважваюцца пагуляць у мячык дзеці. Бразгае акно. Нехта вытыркнуўся на дождж папаліць і паназіраць за нашымі абдымкамі. Каб не расчароўваць чалавека, мы цалуемся й сыходзім. Шчымлівая, неадчэпная халадэча.

Па бэтонных дрыготкіх плітах мы скікаем на востраў. На востраве, відаць, раскінуўся сам задыханы вецер. Празь ягоныя частыя ўдыхі-выдыхі я дранцьвею й упадаю ў транс. Я пагойдваюся на кукішках на застылай гіганцкай каменнай лаве. А ты сядаеш побач на высокую каменную сьпінку й прапануеш выпіць віна, прыхопленага на хаўтуры. Па шэрай няўрымсьлівай вадзе, заведзенай ветрам, разьліваецца празрысты блакітны бляск — адбітак надзеі ў «люстэрку маёй душы». Як апошнія аўтсайдэры, мы п'ем з гарла сухое чырвонае віно. У трысьнягу тваіх вачэй я бачу свае срэбныя завушніцы з гранатам. Мне цёпла, і я думаю: калі б пайшоў сьнег, было б яшчэ прыгажэй.

Але сьнег не ідзе. Гэта мы з табой ідзем на пахаваньне. Дый чаго нам баяцца цяпер? Хіба пахаваньне страшнейшае за саму сьмерць? Факт сьмерці. Паведамленьне пра сьмерць. Усьведамленьне сьмерці. Замірэньне са сьмерцю. Можа, усё якраз праз тое, што мы ня ведаем, што намі кіруе — факт, паведамленьне, усьведамленьне альбо замірэньне? Мы нават ня ведаем, з чаго ўсё пачалося: з факту, паведамленьня ці ўсё ж замірэньня?

Усьведамленьне... Няўжо мы некалі будзем на гэта здатныя? І яно ніколі ня будзе аднолькавым для цябе й для мяне. Як Гамлет. Ты кажаш, што разумееш яго, хаця й ня можаш растлумачыць словамі. А я яго зусім не адчуваю. Не адчуваю, але таксама разумею, хаця й інакш, чым ты. І не магу вызначыцца са сваім да яго стаўленьнем. Я расчароўваю цябе сваім Гамлетам. Я засмучаю цябе сваёй прагай пэўнага стаўленьня.

У жыцьці я выбіраю сабе толькі мужчын-гамлетаў. Магчыма, таму, што не магу разабрацца з Гамлетам-пэрсанажам. А яны й цягнуцца да мяне. Ліпнуць быццам мухі да мёду. І яны гэткія розныя. Гамлет не адзін — гамлетаў шмат. У гамлетаў розны век і розныя мовы, у іх розныя гісторыі й розная будучыня. І ўсе яны — эстафэтны ланцуг, які настойліва вядзе мяне да паразы.

Але ці можа мужчына-Гамлет разумець сябе самога? І нашто мне гэтае стаўленьне? І ці абавязкова ты мусіш мяне загубіць? А можа, мы здолеем жыць кожны з чужым Гамлетам? Альбо ахвяраваць сваім? Я б магла. А ты ня зможаш. Ты мужчына-Гамлет, а я — дурніца Афэлія. Нясьмелая пявуха. Мне адна дарога — галавой у раку. Але, відаць, мелка. Дый халодна, брудна. Да таго ж я плаваць люблю — яшчэ захочацца паплёскацца на разьвітаньне. «Ведаеш, што? Ну, хочаш, я буду жыць з тваім Гамлетам?»

Ты мужна хмурыш бровы, але не вытрымліваеш і ўсьміхаешся. А я згадваю, колькі ўсяго трэба будзе напісаць, падзяліць, вызначыць. Можа нават і абдымацца нельга будзе — усё ж пахаваньне, а потым жалоба. «Затое, можа, кінем спрачацца пра Гамлета. Зажывём вольным, паўнавартасным, насычаным жыцьцём... Сумна. Можна мне ненасычаным, але з табой?» Злуеш. І я таксама. Але ж мы людзі прыстойныя — скандаліць ня будзем. Затое потым будзем падтрымліваць адно аднаго візытамі суцяшэньня. Будзем гэткімі чу-

лымі, абачлівымі. А я, можа, не хачу быць чулай — я чуйнай быць хачу! Ды дзе там — з гэтымі мужыкамі-гамлетамі ні засьмяяцца лішні раз, ні заплакаць. Доля.

Тэлефанаваць, вядома, будзем. Імэйлы цывілізавана-спагадлівыя дасылаць. Да супольных сяброў хадзіць. (Можа, усё ж, можна будзе трымацца за рукі?) Вандраваць паасобку будзем — падоўгу й бяз болю, без асьцярогі, бяз боязі расстаньня. Кар'еру сабе зробім. Нават не адну. Жытло асобнае займеем. А зайздросьціць жа нам будуць! Хаця й ня ў тым, у чым зараз. І кахаць нас будуць таксама. А можа, і мы самі — і ўсё ўзаемна. Хаця не. Табе я жадаю непадзеленага каханьня — няхай цябе правучыць жыцьцё. Няхай табе будзе балюча. Няхай засьпявае твой Гамлет. Папляце вяночкі. Як жа, мысьліцель, аўтсайдэр, праўдалюбца — які прывабны пэрсанаж! Інфантыльны, зьбіты з панталыку пакутнік, які ўсіх і самога сябе прыводзіць да згубы. А няхай *пажыве, выжыве* — паспрабуе жыць безь мяне!

Але тады й дзяцей у нас супольных ня будзе. Ня будзе сямейнага ўтульнага побыту, сямейных спрэчак. Толькі часам будуць надарацца супольныя сьвяты. Я з гадамі буду толькі пякнець, а ты мужнець. Па табе будуць млець маладыя дзяўчаты, а ў мяне, як заўжды, ну проста ўсе спрэс будуць закаханыя. Дзеці ў нас будуць самаўпэўненыя выскачкі, а ўнукі — таленавітыя, мілыя зайчаняты. Гады ў рады мы будзем мінаць адно аднаго на сваіх машынах. Раз на тры гады сустракацца ў транспарце. І нам будзе рабіцца млосна. Нам будзе рабіцца няёмка. Нам будзе рабіцца горка. А я буду потым заўсёды плакаць. Я буду, вядома ж, кахаць цябе, а ты мяне.



Увечары на сваіх кухнях мы будзем узірацца ў прагаліну між клятчастымі хвальбонамі фіранак на гэткі ж дождж. Я буду ўсё гэтак жа туліцца да цябе праз холад і шкадаваньне, а ты будзеш зноў прыціскаць да сябе локцем маю руку. Мы будзем гэткія ж маладыя, і ў нас па-ранейшаму ўсё будзе наперадзе. Але мы ня будзем побач адно з адным. Мы проста будзем. Старыя, напаўспраўджаныя, незразуметыя. Гарбата, ці кава, ці белае віно разгоняць камяк у горле. Высокія дрэвы пад вокнамі па-старэчаму павітаюць нас вунь гэнымі самымі галінамі. І пад імі ўжо даўна ня будуць пасьвіць козаў.

А можа, і ня будзе ў нас ніколі свайго кута. Толькі цягнікі, аўтобусы, самалёты, здаваныя кватэры й гатэлі. Усё напракат, усё ў пазыку, усё новае й чужое. Але будзе тады ў нас тое, чаго мы прагнем зараз: свабода, творчасьць і ў кожнага свой асобны Гамлет. Можа, нават здароўе й самапавага. Людзкая пашана і, як камплімэнт, непрыманьне самымі закасьнелымі зь іх. Новыя здарэньні, новыя вынаходніцтвы, новыя сэнсацыі.

Ня будзе толькі аднаго: цябе ў мяне й мяне — у цябе. А ў кнігарнях, бібліятэках, у хатах будзе стаяць на паліцах усё той жа «Гамлет». У старых ці новых вокладках, у старых ці новых перакладах. І новыя закаханыя будуць разгадваць загадку птушкі-Фэнікс і Голуба. Разам — на разгарачаных каханьнем ложках, на скразьняках веснавых кавярняў, на затлумленых днях народзінаў, на гэтым абветраным востраве. Безь мяне й безь цябе. Бо зараз мы ідзем з табой на пахаваньне. Ідзем здавацца — вырашаць канцылярскія справы, торкаць у вочы чужым цёткам свае праштампаваныя пашпарты.

Ізноў суд, рака, бамбасховішча, дзіцячая пляцоўка. Ніяк мы ня прыйдзем на гэтае бязглуздае пахаваньне. Стомленыя, няшчасныя й зьмерзлыя. Раззлаваныя на гэткую недарэчную, заўчасную, разумовую, *незасьведчаную* сьмерць. Сьмерць нашага ўзаконенага каханьня.

*Красавік 2001 г.*

*Надрукавана ў НН № 52/53 у 2001 годзе*



# Натальля Судлянкова



## Сутыкненьне цывілізацыяў

эмігранцкае апавяданьне

Яе фігура пакідала незабыўнае ўражаньне. Са сьпіны Марыяна выглядала як гіганцкі перакулены знак віны на картах: вузкія плечы, асіная талія і азадак. Вялізны і неспадзяваны.

У лягер уцекачоў Марыяна трапіла выпадкова. Яна, чыстакроўная грузінка, жыла ва Ўкраіне, мела нейкі палатачны бізнэс у Расеі і ні ў чым сабе не адмаўляла. Пасьля дэфолту працаваць стала нашмат цяжэй, і Марыяна, начытаўшыся абвестак кшталту «Вы яшчэ пасьпееце прапісацца ў Эўразьвязе!», прыехала ў Чэхію. У выніку — змарнаваныя час і грошы, страчаныя ілюзіі, дэпрэсія і роспач. Калі яна аддала апошнія даля-

---

**Натальля Судлянкова**

нарадзілася ў Менску. Адна з першых беларускіх бізнэсвумэн. Цяпер палітычная эмігрантка. Ейнае біяграфіі хапіла б на пару захапляльных раманаў. Гэтае апавяданьне напісанае на асабістым досьведзе перабываньня ў лягеры для палітычных уцекачоў у Чэхіі.

ры на фальшывы чэскі пашпарт і яе падманулі, нейкі добразычлівец параіў няшчасьніцы падацца ў лягер уцекачоў.

Яна даведалася ў паліцыі адрас, трэслася цэлы дзень у цягніках, прыехала ў карантын, села ля брамы і заплакала ад вусьцішы і безвыходнасьці. Паліцыянту, які падышоў да яе, Марыяна расказала, як на споведзі, усю сваю гісторыю. Той, уражаны яе фігурай, прасякнуўся спагадаю. Ён навучыў Марыяну, што казаць падчас допыту, а пра што маўчаць, і, правёўшы ўсе ўступныя працэдуры, адчыніў перад «віновай дамай» дзьверы ў карантын.

Там, а пазьней у лягеры было спакойна і сыта. Пакуль Марыяна не сустрэла на шляху да сталоўкі Джона.

Джонам яго называлі ўсе, сапраўднага імя ніхто нават вымавіць ня мог. Джон быў цыбатыцыбаты, як чапля, мэтанакіраваны, няўрымсьлівы, ахвочы пагаманіць, забясьпечаны, упадабаны публікай і чорны, як вакса.

У яго родным нігерыйскім племені памер жаночага азадка быў сымбалем дабрабыту і заможнасьці сям'і. Але нават у ягоным племені, што культывавала максымальныя габарыты, не сустракаў ён такога сымбалю, як у Марыяны.

Джон закахаўся адразу, рашуча і незваротна.

Марыяна спалохалася адразу, адчайна і беспрасьветна.

Джон быў «перавозчыкам» — ладзіў нелегальны транзыт уцекачоў празь мяжу. У лягеры ён бываў два-тры дні на тыдзень. Увесь астатні час за Марыянай сачылі ягоныя памагатыя. Праз пару тыдняў Джон зрабіў Марыяне прапанову. Менавіта яе не ставала яму для адчуваньня паўнаты жыцьця.



«Віновая дама» адмовіла.

Праз тыдзень закаханы перавозчык яшчэ раз прапанаваў злучыць лёсы. Марыяна з жахам, калыхаючы ніжняй часткай тулава, уцякла. Джон захоплена глядзеў усьлед закаханымі вачыма.

А потым пачаў дзейнічаць.

Сярод уцекачоў-афрыканцаў у лягеры быў шаман. Джон пайшоў да яго па нагаворнае зельле. Шаман узяў за працу зусім няшмат, але да справы падышоў добрасумленна.

Некалькі дзён запар ён выконваў пад акном Марыяны, якая трымцела ад страху, рытуальныя скокі, падвываў, кідаў у прачыненую (зашчэпка была загадзя зламаная) фортку матылёў, жукоў, пер'е, тушкі яшчарак, абпаленыя галінкі і іншае сьмецьце. Марыяна, хліпаючы, выносіла ўсё гэта ў калідор і марыла ўцячы за мяжу. Але зрабіць такое можна было толькі з дапамогаю Джона. Ён жа прапаноўваў Марыяне зусім іншае замежжа.

Раптам яна пачала сьніць яго. Чорны твар зь сьляпуча-белымі зубамі раптоўна ўсплываў перад вачыма і ўдзень, і ўночы. Празь некалькі дзён Джон падаўся ёй сымпатычным, а яшчэ праз тыдзень яна раптам згадала, што яшчэ ў школе хацела пабачыць Кіліманджара. Часам, ідучы ў сталоўку, Марыяна бубніла пад нос: «А ў Афрыцы, а ў Афрыцы, на сіняй Лімпапо...» Радзейшыя зьяўленьні шамана ўжо не жахалі.

На яе стан пачалі зьвяртаць увагу сулягернікі. Хтось цішком пасьмейваўся, хтось круціў пальцам ля скроні, уцякачкі з Уралу ўпотайкі зайздросьцілі наяўнасьці багатага і пэрспэктыўнага жаніха.

Адна курдзянка Тамара (так яна называлася, не жадаючы, паводле мусульманскай традыцыі,

выдаваць сапраўднае імя) сур'ёзна ўстурбавалася станам сваёй найлепшай прыяцелькі. І ў адзін з момантаў душэўнага прасьвятленьня Марыяны, калі чары ненадоўга страцілі сілу, прапанавала дапамогу.

Тамара вырасла высока ў гарах і ўспадкавала ад бабулі знахарскія таямніцы. Яна паліла нейкія пахучыя сьвечкі ў пакоі Марыяны, кідала ў агонь жукоў і матылёў, нават спрабавала падпаліць хвост здохлай яшчарцы, што згубілася ў куце. Распусьціўшы касу, Тамара нешта бубніла, круцілася, прытупвала, махала рукамі, закочвала вочы і ўскідала галаву. Потым, зьнясіленая, паваліласа на ложак і выдыхнула: «Усё!»

Тае начы Марыяна сьніла Джона апошні раз. Ён быў сумны, нібы працягваў рукі, клікаў здалёк, за ім у далечыні была відаць вяршыня Кіліманджара і плаўна нёс свае воды Нігер з кракадзіламі...

Джон адразу зразумеў, што здарылася, пасварыўся з шаманам і пайшоў на два месяцы ў Нямеччыну. А Марыяна занудзілася. Ёй не ставала ня тое каб самога Джона, але той дзіўнай салодкай зьнямогі, якая апошнімі тыднямі складала самую існасьць ейнага жыцьця.

Убеленая сьнегам Кіліманджара павольна зьнікла за недасяжнай сіняй школьнай смугою.

*Прага.*

*Надрукавана ў НН № 6 у 2003 годзе*



Сьвятлана Сьмірнова



## Купідон

«Усё добра!» — гучна паведаміла я сьценам сваёй кватэры. Сьцены звыкла змаўчалі. Цішыню летняй ночы парушалі толькі шум машын за акном ды ціканьне гадзіньніка на паліцы. Апошні застаўся мне ад прабабулі. Гадзіньнік быў груваcткі й аляпаваты: невялічкі цыфэрблят атачалі медныя вежачкі ды купалы, абвітым пышнай расьліннасьцю, шпілі вежаў вянчалі таксама медныя сэрцайкі, стужачкі, банцікі, а на вяршыні канструкцыі сядзеў тоўсьценькі Амурчык, які нацягваў цеціву свайго знакамітага лука. Нямудрагелісты гадзіньнік, тым ня менш, спраўна паказваў час і ніколі на маёй памяці не патрабаваў рамонту. «І на гэтым дзякуй», — падумала я і стала ўладкоўвацца спаць. Толькі сон усё ня йшоў. Вострае пачуцьцё адзіноты, якое апошнія меся-

---

**Сьвятлана Сьмірнова**

пісьменьніца, жыве ў Менску. Яе «Купідон» заняў першае месца на конкурсе апавяданьняў, што ладзіў часопіс «Cosmopolitan».

цы апаноўвала мяне, настойліва стукала ў сэрца, замінаючы заснуць. «Рабіць няма чаго — неабходна закахацца, — загадала я сама сабе, — узаемнае каханьне ідзе на карысьць фізычнаму, а калі пашанцуе, то й маральнаму здароўю». Прыняўшы рашэньне, я, па сваёй нядаўна набытай звычцы, вымавіла яго ўголас і нарэшце спакойна заснула.

Нехта сьвістаў. Гэты сьвіст будзіў мяне, выцягваючы са сьвету сну. Нарэшце я скарылася гуку і расплюшчыла вочы. Раніца толькі пачыналася. За два мэтры ад мяне, на паліраванай паверхні пісьмовага стала, гайдаючы моцнымі ножкамі ў серабрыстых сандалях, сядзела залатавалосая ЖЫВАЯ істота ростам у дзьве чалавечыя далоні, апранутая ў белую туніку. Яна насьвіствала мэлёдыю.

— А-а-а! — залямантавала я.

«Ціха», — скрывілася істота. Потым паднялася на ногі, з годнасьцю пакланілася і назвалася: «Купідон». Не дачакаўшыся ад мяне рэплікі ў адказ, яна ўздыхнула і, заклаўшы рукі за сьпіну, пачала павольна блукаць па веку стала. За сьпінай у істоты выявілася пара белых крыльцаў і тул з залатымі стрэламі, на плячы боўтаўся лук.

«Я звар'яцела, — з жахам падумала я. — Але ці ж можна вось так страціць розум за адну ноч?»

— Можна, — паведаміла істота. — Але я тут па іншым пытаньні. Табе ж спатрэбілася закахацца?!

— Мне? — уступіла ў дыялёг я.

Істота ўздыхнула і падняла вочы да неба, дакладней, да столі. Вытрымаўшы паўзу, яна спытала:

— Малако ёсьць?

Малака не было. Але я, здаецца, пачала здагадвацца: «Купідон?.. Амур! Бажок каханьня. Ён!.. Ён, з прабабчынага гадзіньніка».



— Падымайся — мы ідзём па малако. Гэта першае. Другое — не Амур і не бажок, я — Купідон. Табе ж зразумела сказалі. Трэцяе — я не з гадзіньніка, я зь нябёсаў.

Ён казаў суха і адрывіста, як гавораць пакрыўджаныя людзі.

— Ты чытаеш мае думкі? — запозьнена зразумела я.

— Я ня ўмею чытаць і думкі проста чую, — адказаў ён. І кусьліва дадаў: — У Купідона на тваім гадзіньніку сапраўды праблемы зь лішняй вагой, а ў мяне іх няма.

Ён уцягнуў круглы жывоцік і кінуў на мяне пранікнёны погляд. Я пастаралася ўстрымацца ад камэнтароў у думках.

— Такім чынам, Купідоны сьнедаюць малаком і мы ідзём у краму? Выйдзеш? Мне трэба апрануцца.

Залатавалосы хлопчык пакладзіста распрастаў крылы і паляцеў да дзьвярэй:

— Толькі чаму ты кажаш у множным ліку? Купідон — я — адзін!

Ледзь ён зьнік, я паглядзела на гадзіньнік. Вежы, ружы, стужкі і астатні дэкор засталіся на месцы. Амурчыка на гадзіньніку не было.

* * *

Купідон прыдзірліва агледзеў прадметы, стоячы на маім кухонным стале. Потым папрасіў сурвэтку, нетаропка заслаў ёю масьлёнку і сеў зьверху. Крыху паёрзаў, устаў, падышоў да цукарніцы, ухапіўся дзьвюма рукамі за яе круглую ручку і з шумам пацягнуў за сабой, прысунуўшы ўсутыч да масьлёнкі. Падумаўшы, папрасіў у мяне яшчэ адну сурвэтку. Атрымалася крэсла,

засланае белым, на якое мой госьць цырымонна ўсеўся і сказаў:

— Можна падаваць.

Самы маленькі кубак, які толькі знайшоўся ў маім доме, здаваўся ў яго руках збаном. Купідон глынуў малака, кіўнуў і закінуў нагу за нагу:

— Вось ты пытаеш, у чым заключаецца тэхналёгія працэсу...

— Я пытаю? — не ўтрымалася я.

Ён толькі рукой махнуў, маўляў, не замінай:

— ...Яна клясычная, без новаўвядзеньняў. Ты паказваеш мне мужчыну, зь якім зьбіраешся пачаць раман... Не падумай варыць каву! Яна ж жахліва пахне. Выпі лепш цёплага малака. Дык вось, паказваеш патрэбнага мужчыну і становішся насупраць яго, а я праціnаю вас абаіх адной стралой. Хутка і не балюча. Далёка ён знаходзіцца? А то на дождж паказвае.

— Хто — ён? — не зразумела я пытаньня.

— Абраньнік, — цярпліва сказаў Купідон.

— Яго яшчэ зусім няма, але за гэтым затрымкі ня будзе.

— Думаеш? — засумнявалася баства. — Ну глядзі...

Дождж усё-такі пайшоў. Я раскрыла парасон, і нябесны хлопчык адразу ўзьляцеў пад яго купал.

— Скажы, калі ласка, каханьне, выклікане тваімі стрэламі, — яно назаўсёды?

— Яно надоўга.

— А што потым?

— Потым... потым. Потым падбяром табе новае каханьне. Трымай парасон раўней, на мяне трапляюць кроплі. Ці далёка яшчэ ляцець?

У мяне быў плян, і я падвяла свайго Купідона да стаянкі дарагіх аўтамабіляў. Выбрала самую,



на мой ня надта спрактыкаваны погляд, шыкоўную машыну, агледзела яе гаспадара — маладога імпазантнага мужчыну з упэўненымі манерамі і засяроджана задуменным тварам, стала насупраць яго, распахнула абедзьвюма рукамі каўнер жакету і са сьмехам крыкнула залатавалосаму богу каханьня:

— Страляй!

На той момант я не ўспрымала сытуацыі сур'ёзна. Яна здавалася мне вясёлай гульнёй, чароўнай прыгодай. Пра тое, што я вырашаю свой лёс, зусім ня думалася.

Купідон ажывіўся. Звыклым жэстам дастаў стралу, нацягнуў цеціву. Я на ўсялякі выпадак заплюшчыла вочы і пасьпела падумаць: «Прынамсі, вазьму ў будучага бой-фрэнда грошай і аплачу рахункі за тэлефон ды за...» У той жа момант да мяне данёсься бесклапотны галасок маленькага бога:

— А няма ў яго аніякіх грошай.

— Стой! — закрычала я так, што спалохала сама сябе. — Стой, не страляй! Як няма?

Яшчэ падчас нашага паходу ў краму я зразумела, што ніхто ня бачыць і ня чуе Купідона, які ляціць побач са мной. Але на мае дзеяньні магічная заслона нябачнасьці не пашыралася. І цяпер мінакі няўхвальна аглядалі мяне з ног да галавы. Імпазантны мужчына, які не падазраваў, што сэкунду назад быў цудам выратаваны ад палкага каханьня, наадварот, паглядзеў зь цікавасьцю. Але я сьпешна ўцякла зь месца здарэньня і, перавёўшы дух, запатрабавала ад бога каханьня тлумачэньняў:

— Ты не пажартаваў? Ты нешта ведаеш пра гэтага чалавека?

— Я не празорлівы Купідон, я Купідон, які чуе думкі. Так, твой мужчына ішоў абедаць ва ўласны рэстаран, але пры гэтым ён увесь час паўтараў: няма грошай. І... Вось у гэтага ёсьць грошы!

Я паглядзела на паказаны ім аб’ект і жахнулася: малады, але ўжо лысаваты шчуплы мужчынка, апрануты ў сьмешныя штонікі і мятую кашулю, таропка пераходзіў вуліцу.

— Па-мойму, ён на галоднай дыеце.

— Ня ведаю пра дыету. А грошы ў яго ў пакеце ляжаць. Ён іх усё жыцьцё зьбірае і з сабой носіць.

— Навошта?

— Хоча напісаць і выдаць кнігу.

— Пра што?

— Пра сябе. Ён думае, што ён Напалеон.

— Ты мне ў такога прапаноўваеш закахацца?

— Ты сама пачала пра грошы. А калі важны выгляд, дык хадзем да тэлецэнтру: падбяром табе кінагероя.

— Мне не патрэбны прыгажун ці багацей. Мне патрэбны чалавек, якога я буду кахаць. Тады я змагу паважаць нават тыя ягоныя погляды, якія ня будуць супадаюць з маімі.

— Дык давай я выстралю ў каго-небудзь, і паважай сабе на здароўе!..

— Не патрэбен мне хто-небудзь. Патрэбна каханьне!

— А я табе пра што кажу?!

— Ты нічога не разумееш!!!

— Ты абяцала, што з выбарам праблем ня будзе!!!

Дома Купідон сплянıраваў у фатэль, запатрабаваў малака і ўключыў футбол.

— Я думала, бог каханьня аддае перавагу лірычным песьням, — зьдзівілася я. У адказ ён агідліва скрывіўся.



— Слухай, а можа, мне наагул ня трэба кахаць, — з адчаем у голасе пачала я. — Ня так гэта проста — даверыць сваё сэрца незнаёмаму чалавеку, разумееш?

Залатавалосы прыгажун узьляцеў на сьпінку фатэля і дзелавіта прапанаваў:

— Давай тады паспрабуем пашукаць сярод знаёмых. Што скажаш пра свайго былога? Ён, вядома, крыху жорсткі, але...

— Крыху жорсткі? Ды ён проста гад! — непаважліва перабіла я нябеснага пасланца, звыкла страціўшы кантроль над эмоцыямі, ледзьве гаворка пайшла пра былога бой-фрэнда. — Ты ж ведаеш, што ён зрабіў!.. Не, хто хочаш, але толькі ня ён!

— Добра, — лагодна пагадзіўся Купідон. — А што скажаш пра цяперашніх сваіх паклоньнікаў?

— Пра каго менавіта? — ажывілася я.

За паўгадзіны мы перабралі ўсіх знаёмых мужчынаў, але так ні на кім і не спыніліся.

— Ты праз Інтэрнэт страляць можаш? — вырашыла не здавацца я.

— Магу, — адказаў бог каханьня, — але аддаю перавагу жывым мішэням.

Ён зьбіраўся вярнуцца да свайго футболу, але, заўважыўшы маё згаслае натхненьне, дадаў:

— Гэй, не сумуй! Калі што, дык я сам з табой ажанюся.

— А колькі табе гадоў?

— Некалькі тысяч.

— Пойдзе. І ты вольны?

Тут пачуўся званок у дзьверы. На парозе маёй кватэры стаяў той самы імпазантны хлопец-зух, безграшовы гаспадар прыгожай машыны і рэстарану.

— Добры вечар. Вы пакінулі свой парасон побач з маёй машынай.

— Добры вечар. Дзякуй. Але як вы мяне знайшлі?

— Я якраз думаў, як вас знайсьці, і раптам убачыў, што вы ўваходзіце ў дзясяты пад'езд. У гэтым доме жыве мая мама.

— Якое цікавае супадзеньне.

— Супадзеньняў не бывае. Вы так ня лічыце?

Ён паглядзеў на мяне вачыма колеру сьпелай вішні, і я адчула, што гатовая зь ім пагадзіцца.

— Праходзьце, калі ласка. Вып'еце гарбаты?

— З задавальненьнем. У вас прыгожа — паўсюль яркія фарбы. Памятаеце, як у Борхеса? — і ён працытаваў радкі з эсэ, якое я цяпер чытала...

Першыя паўтары гадзіны нашай гутаркі праляцелі непрыкметна. Мы размаўлялі як людзі, што знайшлі ў далёкім горадзе чужой краіны кагосьці, з кім можна пагутарыць на роднай мове, мове дзяцінства, сэрца і эмоцый. І кожны паварот нашай гутаркі адкрываў усё новыя і новыя грані. Нічога дзіўнага, што, захапіўшыся, я не заўважыла, як у пакой заляцеў Купідон. Залатавалосы хлопчык быў дзелавіты і сур'ёзны. Але гэтым разам ён дзейнічаў упэўнена, не пытаючы дазволу. І, магчыма, я пасьпела б крыкнуць богу каханьня «Не страляй!», але мне не хацелася. Наадварот, я лічыла, што ў ягонай страле ўжо няма патрэбы. Таму што мне раптам болей за ўсё на сьвеце захацелася падзяліць жыцьцё з мужчынам, якога завуць Алег, мужчынам, што сядзеў насупраць. Я ВЫБРАЛА ЯГО. Купідон меў рацыю — гэта не балюча. Але ўсё-такі, калі страла ўваходзіць у сэрца, яно замірае, а потым б'ецца хутчэй, і робіцца цяжэй дыхаць. Алег адчуў



тое самае. Ён на імгненьне заплюшчыў вочы, а потым працягнуў:

— ... І на новы будынак музэю ў іх няма грошай. Усе страцілі надзею. Я якраз думаў пра гэта, і раптам убачыў цябе. Такую прыгожую, апантаную, зь вясёлым бляскам у вачох...

Купідон паслаў мне паветраны пацалунак, цырымонна пакланіўся, падляцеў да столі і зьнік. Я ведаю, што буду сумаваць па ім. І яшчэ я ведаю, што на прабабчыным гадзіньніку сярод медных вежачак, ружачак і стужачак болей ня будзе пульхненькага Амурчыка.

*Надрукавана ў НН № 20 у 2004 годзе*

Тацяна
Сьнітко



## Курс маладога байца

містычнае апавяданьне

Горад мёрз пад ветрам, у якім чуліся прэтэнзіі на сапраўдную зіму. На зямлю паціху апускаліся прыцемкі з усходу. Пад зямлёй было яшчэ лепш. Цягнікі мэтро не хадзілі. Наверсе на праспэкце валіў натоўп, як на стыхійнай дэманстрацыі ў якім-небудзь Бялградзе. Тралейбусы на прыпынках здаваліся бездапаможнымі й цацачнымі...

Выдатна, чорт бы іх пабраў! Ва Ўстанову цяпер давядзецца ляцець пехам! А гэта, між іншым, пад гадзіну ісьці. У яе няма ні хвіліны. Установа будзе злаваць...

Адкуль, аднак, незразумелы азарт, як пры гульні ў рулетку?

«У дурня пры гульні!» — са злосьцю абарвала сябе Сьветка.

---

**Тацяна Сьнітко**

журналістка, літаратарка, нястомная змагарка. Сталая аўтарка Нашай Нівы, у якой гэтае апавяданьне было надрукаванае пад псэўданімам Яня Ждановіч.



— Ну, не расстраляюць жа яны мяне там! — супакоіла кагосьь услых, выцягваючы цыгарэту.

Прыяцель Сярожка шчыра засьмяяўся. Гэта было ўжо нешта. У іхнай тусоўцы цяпер сьмяяліся мала, жартавалі па-чорнаму. Толькі што літаральна на іхных вачах адбыўся чарговы злом эпохі. Цяпер тыя абломкі лунаалі недзе побач, у паветры, і — трэ было рыхтавацца! — вось-вось мелі абрынуцца. Напэўна, на галовы.

Усё нармалёва! Першая на чарзе — ейная галава. Чаму яна першая? Якая розьніца! Трэба прычына?

— Мо лепш не хадзі? — запытаўся Сярожка. — Што за дзялы? Хай запрашэньне шлюць! Паводле ўсіх формаў этыкету.

Сярожка меў рацыю. Чалавек з Установы парушыў «этыкет». Але розум Сьветцы сёньня захліснула глупства. Гэта была проста злосьць. І хваравітая цікаўнасьць таксама.

— А ведаеш што!..

Яна разрагаталася.

— Н-ну?! — нясьмела (дэпрэсьняк) засьвяціўся прыяцель. — Для сьмеласьці па сто грам?

— Ня выпусьцяць — буду кідацца талеркамі зь ежай. Жалезнымі! У галаву!..

— Су-у-упэр!— замілавана выдыхнуў прыяцель.

Але чым тады будуць кідацца ў яе? Штосьці тады ёй паб'ецца-паламаецца. Цьфу, халера, і думкі!

Прэч, неадкладна прэч!

Горад запальваў агні. Яны ўсё цягнуліся людным праспэктам — ад прыпынку да прыпынку, ад тралейбуса да тралейбуса.

— Спазьняцца на дзьве гадзіны ня добра нават для жанчыны, — сказаў Сярожка весела.

— А дзе тут які тэлефон?

Ну, і голас з Установы! Ён сказаў: «Чаму тэлефануеце зь нечай кватэры? Хаваецеся?»

Голас з Установы — знаёмы голас. Ён можа нават заявіць, што гэта яны з Сярожкам уласнаручна спынілі транспарт. І мэтро, і ўсё што хоч, хоць самалёт прэзыдэнта.

— Праз паўгадзіны буду. Працоўны дзень у вас, здаецца, ненармаваны!

Сьветка баялася мышэй. Яна ня ўмела таксама размаўляць з карнікамі.

— Зайздрошчу табе! — сказаў Сярожка.

— Рэмба сраны! — кіўнула Сьветка на слухаўку.

Было так шкода чагосьці, як каго забіла. Ай, навошта яна йдзе?..

— У мянта нябось закахалася? Паспрабуй, паспрабуй!

І паехаў дахаты, ужо безь ніякага дэпрэсьняку. Цяпер лезьці ў транспарт не было настрою. Нашто там стаяць, калі так і так сядзець. Чорт яго ведае, праўда, за што. За нешта...

Згадваўся студэнцкі інтэрнат, і не хацелася задумвацца, чаму, навошта й каму гэта патрэбна.

***

Шпалеры мышына-маркоўнага колеру. Зь іх усьміхаюцца карцінкі са «Шпігеля».

Прыгажуны й прыгажуні, рэклямныя прынцы й прынцэсы... Аднак гэта лухта. Нешта турбуе. Мабыць, колькі хвілінаў таму яна ў чарговы раз павялася нешляхетна.

Учора ранкам, калі насельніцтва блёку зьбіралася хто на працу, хто на іспыт, яны не заўважылі варожага дэсанту. Трубны голас прыбіральшчыцы Тамары, нядаўна падвышанай у пасадзе да «выхавальніцы», чуўся блізка, і гэтая звыклась падманвала. Тамара жыла непадалёк, на тым канцы калідору, каля Волечкі з Хусамам, зь якімі Сьветчын блёк сябраваў сем'ямі.

Пад вечар Сьветка спахапілася. Выявілася, што адным узмахам пяшчотнай жаночай ручкі прыбіральшчыца Тамара ўчыніла выхаваўчы жэст. Драты Сьветчынай электраплiткі — перарэзаныя. А трэба варыць вячэру.

Заставалася пайсьці падзяліцца пачуцьцямі з Тамарай.

Тамара не разумела словаў і пачала вішчэць на Сьветку нема. Ейны мужык, расьліннае стварэньне з бародкай пад жалезнага Фэлікса, зашыўся за фіранку.

— На трынаццатым паверсе быў пажар! — крычала «выхавальніца».

— У нас ня можа быць пажару! Гэта ў вас можа ён быць!

Сьветка схапіла нажніцы са стала.

— А нельга было бяз шуму? — спыталася, прыляцеўшы з рэдакцыі, Леначка.

Леначка дыпляматычна ўладкоўвала праблемы, спароджаныя сяброўкай. Цяпер яны бінтавалі плітчын дрот ізастужкай. Галовы сямействаў сёньня бавіліся на працы.

— Бедненькі-няшчасьненькі!

Леначка пацалавала рэклямнага прынца са «Шпігеля», які рэклямаваў віскі. Ізастужка згрызла белазубую ўсьмешку, быццам прынцу бразнулі па зубах люмпэны з Чыжоўкі.

Ленка сьпяшалася на выходныя да сваякоў.

— Прывітаньне майму мужу, — сказала яна. — Підмануў, підвёў!

І Волечка таксама на цягнік сьпяшалася. Дамоў, да сына, у сваё блізкае замежжа.

Эх, самота самотай! Жыццё маё — жысьцянка!..

Сьветка захутала ў ручнік рондаль зь ежаю. У тэлевізары паўзла крымінальная кроніка. Стралялі і ў тэлевізары за сьценкай.

Трэба пайсьці ў інтэрнацкі хол ды патэлефанаваць свайму здабытчыку! Ежа халоне.

Прыйшоў сусед Шурык. Той самы, які толькі што «підвёў» сваю Леначку. «Гэта ўсё ты!» — павярнуўся ён да свайго спадарожніка.

— Вядомы беларускі журналіст Г.! — прадставіўся той, хто вінаваты ў спазьненьні.

Сьветка паціснула руку. Чула. Апошні раз чула сёньня ўдзень. Шукала яна яго якраз па дробнай справе. І не знайшла. І вось — сам прыйшоў.

— Лёс, Сьвецік-Сяміцьвецік! — пракамэнтаваў госьць яе скаргу.

Замочваць знаёмства з майстром пяра й паперы яна адмовілася. Трэ было рыхтавацца да здачы крытыкі. Рыхтавацца да экзамэну лепей у ваннай. Замачыць белыя джынсы. Каб у іх пайсьці здаваць... І гэта ўся крытыка на сёньня.

Потым можна выйсьці прагуляцца.

Калі яна вярнулася, Шурык стаяў у коле разявакаў у інтэрнацкім холе. Мільгала нешта плямістае. Шурык вырываўся. Ён не жадаў выконваць загад «гражданін, прайдзёмце».

«Блі-ін!» — перапужалася Сьветка.

— Ён гэта першы раз, хлопцы! Ад радасьці, што іспыты здаў, — схлусіла яна.

Старажылы інтэрнату засьмяяліся. Незнаёмыя маладыя мянты ўтаропіліся ў Сьветку зь непрыхаванай зацікаўленасьцю.

— Хадзем, сонейка нашае, — паспрабавала яна адвесьці Шурыка пад руку.

— Куды? А дзе я жыву? — лыпаў ён вачыма. — Вядомы журналіст Г., вось гаўнюк, пайшоў на двор, ты яго ня бачыла?

— Дзяўчына! Мы шчасьліваму каханьню ня ворагі! — падвялі рысу міліцыянты.

***

— Дзе гэты ваш Г.? — перапытала Волечка Іванова.

Нібыта гэта было галоўнаю праблемаю, а не трапляньне Ленчынага мужа ў мянтоўку.

Гаспадары пакою пакавалі валізы, каб ехаць у Крым, і мала ўяжджалі ў сэнс яе расказу. На экране тэліка імкліва ляцелі нейкія галы, ачкі ды сэкунды. Сьветка нэрвова рушыла на выхад.

— Мы з Івановай зойдзем разьвітацца! — суцешыў усьлед Хусам.

Насустрач плыў маўклівы цень прыбіральшчыцы Тамары. На твары змагаркі з пліткамі Сьветка раптам убачыла спачуваньне. Яна спужалася.

З суседзкага пакою ляцелі выцьцё, рогат і грукат. Па блёку шныпарыў п'яны Вядомы журналіст Г. Зь ягонай курткі зьляталі камякі бруду.

Урэшце за сьценкаю завыла так страшна, што давялося кінуцца туды. Карціна прадстала фантастычная.

На ручаях вады дрэйфавалі рэшткі паліцы для абутку. Валіла пара. Сярод лужыны мок уверх кілем Ленчын выходны чаравічак. З-пад перавернутага тазіка тырчэлі экзамэнацыйныя штаны, бел-чырвона-чорныя, са сьлядамі абутку і крыві.

Цела Шурыка валялася на былым сэрванце, сярод аскепкаў Ленчынага посуду. Сэрвант ляжаў пад ім, як труна, прысыпаная кавалачкамі шкла й парцаляны.

Вядомага журналіста Г. не было.

З рукі ў Шурыка сачылася кроў. Сьветка прынесла ёд. Шурык вырываўся й роў. Прыйшлі Хусам з Волечкай. Маштаб падзеяў іх зьдзівіў. Волеччына торба аж упала побач. Яе нехта тут жа падхапіў і галянтна ўручыў аслупянелай Івановай.

Гэта зноў быў Вядомы журналіст Г.

— Уга! — зьдзівіўся Г. — Што, засынае?

Іванова з Хусамам зьніклі. Асьмялелы Г. гучным шэптам дадаў:

— Хлоп-цы! У яго мусіць яшчэ водка быць. Як чэсныя яўрэі... Падзелім...

Скончыць ён не пасьпеў. У блёк з грукатам уварваліся міліцыянты.

Тыя самыя. Цяпер ужо незадаволеныя. Тактак, ручаі, акрываўленае шкло, сэрвант, замочаныя джынсы. Мянты змаўкаюць і суперажываюць момант. Каб у інтэрнаце магчымая была б некалі цішыня, яна б зазьвінела.

— Як цябе зваць? Я — Вядомы журналіст Г.! — апэратыўна падскочыў да мянта дасьведчаны ў разборках госьць. — Гэта ж сэнсацыя без крыміналу! Пацыент хутчэй жывы!.. Таварышу сэржанце, ён мірна сьпіць!

«Пацыент» пры гэтых словах узьняўся й зароў на мянтоў мацюкамі.

Сьветка ўзяла нататнік з нумарам тэлефона Шурыкавага сваяка. Сваяка звалі Вялікі Чалавек. Нават міліцыянты не пасьмелі б крануць ягоную вялікасьць...

***

Супэргерой замежнага баевіка ліха мачыў мафію.

Пальцы кальнула іголка. Цыраваньне не супакойвала. Ейны мужык таксама «мачыў мафію», толькі бяскроўна: разам з Вядомым журналістам Г. высьвятляў, хто вінаваты.

Антураж баевіка быў родны, як мышына-маркоўныя шпалеры.

— Бах-бах-бах-бах! — а гэта ўжо не ў тэлевізары, а ў дзьверы пакою бесцырымонна грукаюць.

Напэўна, Вялікі Чалавек.

Але на парозе стаяў ня Шурыкаў сваяк. На парозе стаяў Нехта А. Сьветка чула ад Леначкі, што Нехта А. вельмі разумны, летась скончыў суседні юрфак і цяпер ва ўсю мочыць злачыннасьць.

— Ня рухацца! — выгукнуў Нехта А. Кардоннае пасьведчаньне тыцнулася ў твар. «Нехта А. і ёсьць супэргероем. А я — мафія!»

— Пракуратура Партызанскага раёну! — працягваў Нехта А. — Будзем пісаць пратаколы?!

— Якія пратаколы! Тут твой Шурык здыхае!

— Не аскарбляць!... Пры іспалненіі!

— А па мордзе табе не напісаць артыкулу?

Нехта А. ледзь утрымаўся на нагах. Нешта цяжкае ляснула яго па плячы і прараўло:

— Сьвіньня!

Вялікі Чалавек разам з А. пагрузілі Шурыка ў легкавік і зьвезьлі лячыцца. Сьветка й ейны муж паўночы елі халодную вячэру, запіваючы гарэлкай Вядомага журналіста Г.

Пахла крывёй і алькагольным смуродам.

Праз год у краіне пачалася дыктатура.

***

— ...Расейскай мовай валодаеце вольна?

— Так.

Установу Партызанскага раёну цікавіла, з кім яна жыве па названым адрасе.

— З сынам і хамячком, — бесклапотна сказала Сьветка.

Яна зразумела, што Нехта А. яе пазнаў.

— «Не судзімыя», — ужо добразычліва за яе адказаў сьледчы.

— Адзін раз, — сьціпла запярэчыла яна. — Суд Партызанскага раёну. Развод.

Нехта А. шчыра засьмяяўся. Усьмешка была такая самая, як раней, на дні народзінаў, задоўга да...

Якая розьніца! Яна яго ня памятае. Яна яго першы раз бачыць!

На вайне, як на вайне...

Ці ня тое крэсла, на якім яна сядзіць цяпер, былі зламалі аб ейную сяброўку Зіну? Зіна пасьля сустрэчы зь Некім А. выйшла з Установы ў гістэрыцы. Сьледчы сем разоў друкаваў Зінцы адну й тую паперку — падпіску аб нявыезьдзе. Толькі яна ўставала ісьці — ён ірваў падпіску на шматкі. І друкаваў, забаўляючыся, наступную.

І ўсьміхаўся, мабыць, як цяпер.

Яны зь Зінкай ведалі: пару гадоў таму Нехта А. закрыў справу аб забойстве. Пара мянтоў выкінула хлопца з вакна пятага паверху. Доказы меліся. Мянты павінны былі сесьці. А таму Нехта А. мог строіць зь сябе хоць караля на мянінах, хоць Рэмба-Хрэмба. На вайне, як на вайне. Усё дакумэнтальна пацьверджана, дзякуй абаяльнай Зіначцы.

Але пакуль ня А. атрымае кухталя аб Вялікага Чалавека-бацькі. Спачатку яны. Ад «бацькі нацыі».

— Вы такі малады. Чаму вам даручылі такую складаную справу, як наша? — мякка спыталася Сьветка.

Шукае сваяк былога суседа нейкіх тэрарыстаў, якія хацелі «бацьку» падстрэліць! А не інтэрвію ёй дае: Сьветка цяпер ня Сьветка, а — сьведка! Ды яшчэ — на тры гадзіны спазьняецца на допыт.

— Я ўнясу ў ваш «твор» праўкі, можна?

Складзены на яе пратакол успрымаўся як любы нармальны тэкст.

— Ня крэсьліце! Прыпішыце ў канцы, — неяк невясёла сказаў А., працягнуўшы ёй асадку.

І зірк на ейную руку.

А рука — здрада якая — задрыжэла...

А хацелася, каб такіх, як яны, Нехта А. лічыў нахабнымі. Хацелася, каб не шкадавалі, а баяліся.

Не, сонейка, ня ўмееш ты пісаць свае пратаколы. Вось! Усе мы харошыя. Вось... Калі ласка.

А біць, відаць, яе цяпер ня будуць.

— Прабач, А., раней ня змог — мэтро не працавала! — чарнявы малады чалавек з газэтай «Свабода» ў руцэ ўсьміхаўся ля дзьвярэй. — Што адбылося, чуў?

А. маўчаў, асэнсоўваючы. А ён не паверыў, што Сьветка казала праўду пра транспарт.

— Нехта кінуўся ад такога жыцьця на рэйкі, — «патлумачыла» Сьветка таму, што прыйшоў.

— Кінуўся, — нечакана пацьвердзіў чарнявы. — Адзін рабочы, якому не плацілі заробку... А скуль ты ведаеш?! Мо хто бомбу падклаў, га? — жартаўліва запытаў ён.

— Гэта я, — са сьціпласьцю ісьціннага баевіка працягвала Сьвятлана.

Чарнявы зразумеў гэта па-свойму, таму тут жа ўпікнуў, але не яе:

— Бач ты, А., трэба справу рабіць, а да цябе тут дзяўчыны!.. Прыгожыя!..

— Гэта не дзяўчына!!! — выбухнуў Нехта А. — Гэта... Сьві-дзе-цельніца!..

***

— Ну, ты даеш! — аж падскочыла ў крэсьле сяброўка.

Яны пілі каву ў кавярні «Дому Смутку», то бо Друку.

— Сымпатычны чарнявы — гэта сьледчы з гэбэ, зваць яго Бэ... Аб цябе ён не ламаў прадметаў абіходку?

У Зінкі яшчэ пабольвала сьпіна.

— Ён, між іншым, з Каўказу. Зь ім можна гутарыць пра раку Церак.

Сьветка думала паехаць на раку Церак, калі не пасадзяць. Карцела аднавіць свае ўменьні ў стральбе.

— Гэй, дзіця гор, прывітаньне!

За суседнім столікам сядзеў Вядомы журналіст Г. Ён піў гарэлку з калегамі. Сьветка і Г. ужо працавалі разам. Чамусьці згадаўся ягоны апошні матэрыял — пра згвалтаваньне. Паўматэрыялу апісвалася, хто, каго, куды...

— Сяміцьвецік! Праўда, што ты тэрарыстка? — Вядомаму журналісту Г. было весела. — Ну, проста сэнсацыя без крыміналу! А ты ведаеш, што я браў інтэрвію ў самога Дудаева?

На жаль, яна ня ведала.

Кампаніі ссунулі сталы ды кульнулі па пары чарак.

— Слухай курс маладога байца! Едзеш туды, але далей ад Чачэніі. У якую Назрань- Цьмутаракань. Купляеш мясцовую правінцыйную замежную прэсу. Там усё напісана. Вось і ўвесь Дудаеў! І стварӑй сабе шэдэўр! — зарагатаў ён.

Сам ён так, вядома, не рабіў ніколі, дадаў ён, ён жа Вядомы журналіст Г., мэтар...

— Г., а што такое «тры багатыры»?



— Во-ой! Зелень! Гэта крама на плошчы «Мінутка»!

Г. маніў. «Трыма багатырамі» называлі скульптуру Маркса, Энгельса ды Леніна на ўезьдзе ў Грозны з боку нафтакамбінату...

***

Прайшла пара гадоў. З ранейшай працы Сьветку даўно вытурылі — ці то за тэрарызм, ці то з прычыны няведаньня курсу маладога байца ад Вядомага журналіста Г.

Вакол іх зь Зінкай бурлілі ва ўсю інфармацыйныя войны. А ім хацелася інфармацыйнага міру.

Затое аб іх не ламалі крэслаў. Ні змагара з тэрарыстамі сьледчага А., ні чарнявага сымпатычнага «дзіця гор» з Установы, ні Вядомага журналіста Г. Сьветка даўно ня бачыла.

Старой студэнцкай кампаніі таксама не было. У госьці са старых кадраў заходзіла выключна Леначка.

***

Такім жа ветраным надвячоркам, як некалі да сьледчага А., Сьветка ішла на культурніцкую тусоўку. Хопіць дома хварэць грыпамі markdownрознымі. Пятніца, вечар. Сумна перад выходнымі.

— Сьвецік-сяміцьвецік! — узрадаваўся голас паблізу.

Вельмі ўзрадаваўся.

Вядомы журналіст Г. доўга ўпікаў, што «зазналася». Г. даўно сядзеў за ейным былым сталом у ейным былым кабінэце.

— «У Беларусі няма правінцыі...». Памятаеш? — запытаўся Г.

На жаль, не.

— Ды тваё ж! — уразіўся Г. — Я цябе цяпер часта цытую. Я цяпер увогуле хачу музэй твой зрабіць на месцы былой тваёй працы!

Ён доўга глядзеў ёй усьлед.

Сьветка хутка сышла з культурніцкай тусоўкі. Яна ня грэла. Хацелася сьпяшацца на цягнік і кудысьці адсюль зваліць назаўсёды, што, у прынцыпе, не было праблемай.

Толькі спачатку трэ было прыдумаць, куды.

***

Некаторыя людзі даходзілі да мэтро шмат разоў, яны нават маглі дайсьці да цягніка. Але аднойчы не маглі ўзгадаць, куды ім трэба. Нехта падаў пад колы, нехта падаў на прыступкі...

Самагубствы ў мэтро кожнага разу чамусьці адбываліся пры ёй. І яна ніколі не шкадавала ахвяры. Вольнаму воля. Яна зноўку спазьнялася. І так увесь час. Калісьці так не было.

Людзі ў мэтро азірнуліся, не зразумеўшы ейнага сьмеху. Колькі яго ўвогуле, таго жыцьця?..

Сьветка думала паехаць дахаты, але выйшла на вакзале, каб пачытаць расклады цягнікоў за мяжу. Больш за ўсё хацелася на поўдзень, да імклівых горных рэчак.

Было адчуваньне абсалютнай свабоды, калі ніхто ня ведае, дзе ты, што робіш і калі вернесься.

Потым яна павярнулася ісьці ў мэтро, але ногі падкасіліся. Зьдзівіўшыся, Сьветка села адпачыць проста на цёплы асфальт.

У гэты момант у мэтро ля прыпынку тралейбуса перакрывалі рух, каб маглі прайсьці лекары «Хуткай».

*Надрукавана ў НН № 26 у 2000 годзе*



Наталка Харытанюк



## Фурманка сьвятога Міколы

сямейныя ўспаміны пра сустрэчу са сьвятым Міколам на дарозе між Берасьцем і Высокім узімку 1941 году

Так павялося, яшчэ з часоў майго пра-прапрадзядулі (а хочацца напісаць: ледзь не спрадвеку), што ўсю нашу радзіну называлі фурманамі, фурманавымі дзецьмі ды ўнукамі. А ва ўсім вінны той самы, перапрашаю, архетып дарогі. Разварушаны мерным рыпеньнем кола ў адным з маіх далёкіх продкаў, ён так і прачынаецца з пакаленьня ў пакаленьне ў кожным нашчадку, зноў і зноў выпраўляючы «фурманавых дзяцей» гэць зь цёплае хаты, у доўгія шляхі — штосьці везьці, шукаць, ратаваць, вяртаць...

---

**Наталка Харытанюк**

нарадзілася ў Берасьці. Скончыла факультэт замежных моваў Берасьцейскага ўнівэрсітэту, вучыцца ў магістратуры. Моладзевая актывістка, сталая аўтарка Нашай Нівы, сапраўдная прыгажуня.

Нават цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, я ў дарозе — еду разам з братам на сьвята ў нашу вёску. Мернага рыпеньня колаў я (і дзякуй богу!) ня чую, але ж бачу, як бяжыць дарога, забіраючы з сабою мітусьлівасьць, чаканьне, час, а нам наўзаем аддаючы сьветлыя гаі, сажалкі, буслоў, што зьбіраюцца ў вырай, чорныя- чорныя зграі варон ля могілак (яшчэ не крумкачоў, але...), пераезд цераз рэчку Лясная, а далей — і цераз тоненькія пацеркі- ручаінкі былой Лютай, цёмныя бары, пасты, зноў сьветлыя сасновыя гаі ды яшчэ раз буслоў... І мы ўсё гэта стомлена- млява праяжджаем, не сьпяшаю- чыся лавіць, сьмела пакідаючы ў дарозе, у часе (па-за часам?), бо ведаем, што гэты куточак-калідор, гэтае Вялікае Міжрэчча жыве іншым дыханьнем, іншым рытмам... Яго ўжо і так ловіць той, хто едзе па крыху прыхаваных дарогах на поўнач ад Берасьця.

Мой тата, як і яшчэ двое ягоных братоў і чацьвёра пляменьнікаў, — фурман, ці, папросту, дальнабойшчык. Натуральны занятак для тых, хто жыве ля мяжы. А тым болей для майго таты, якому яшчэ ў пяць год да сьлёз карцела сесьці за руль. Мара спраўдзілася — і цяпер дзьве трацiны свайго жыцьця ён праводзіць у дарозе (а можа, і ўсе тры трацiны, калі дарогу разумець мэтафарычна), дзе і спасьціг (хоць і сам таго ня ведае) філязофію Кола. Тата нікуды не сьпяшаецца. Ніколі. Досьвед? Спадчына? Ня ведаю і спытаць цяпер не магу: ён усё яшчэ ў дарозе — сьвідруе эўрапейскія шляхі.

Мой дзед таксама быў фурманам. Усё, што засталося ва ўспамінах радзіны пра гераічнае мінулае дзеда, дык гэта гісторыя пра тое, як ён ратаваў жыдоў на сваёй фурманцы падчас вайны. Ды яшчэ нейкія цьмяныя ўспаміны пра сустрэчу са сьвятым Міколам. Найцікавейшая частка сямейнай сагі, якая, на жаль, не прайшла бабулінай цэнзуры.

Як бачыце ўжо з самага пачатку, ува мне цячэ кроў сапраўдных сарматаў. Хо- чацца верыць, што ўсімі ранейшымі прашчурамі, якія садзіліся на каня ці ў фурманку, кіравала тая ж шляхетная таямніца Кола і спагадлівае адважнае сэрца. Хочацца, але адна вонкавая дэталь замінае — карыя вочы. Скуль яны маглі ўзяцца ў Міжрэччы, калысцы чыстых крыніц і генэтычна закадаванай сьветл іні? Няўжо са стэпаў? Няўжо іх прынесьлі сюды тыя, што, руйнуючы ўсё на сваім шляху, рэзалі й палілі, ірваліся на захад, тапталі, сьвісталі, гелгаталі... і прыпынілі сваіх коней толькі ў завугольлі вялікага калідору... уражаныя? Упершыню замест пустэчы й бязьмежнасьці — пушчы, замкі, вежы, палацы, ізноў пушчы, пушчы, пушчы. І іх акаляюць пяць рэчак: Буг, Лясная, Лютая, Пульва ды Мухавец... І тады весь імпэт, уся нацятасьць руху выліваліся ў гэтыя рэчкі, а рэчкі цярпліва прымалі ўсё, ахутвалі жывою вадой.

А можа, усё гэта дарма — можа, не было ніякага стэпу, проста мае продкі чумакамі хадзілі ў Крым па соль, спыняліся там на доўгі час, а адтуль везьлі з сабою ня толькі соль, а яшчэ й паўднёвую цемнавокую жарсьць?.. Ня ведаю. Але рэч зусім ня ў тым.

Галоўнае тое, што мерны рух, бясконцыя шляхі, роўныя спакойныя рэчкі, якімі набрыналі ўсе мы, вучаць па-свойму глядзець на жыцьцё й сьмерць. Як на дарогу. Як на вяртаньне...

Але пры чым тут фурманка сьвятога Міколы, спытаеце вы. Чвэрць дарогі ўжо амаль пройдзе-

на (напісана ці прачытана), а я нічога яшчэ расказаць пра тую фурманку не пасьпела. Час пачынаць. І вось так, пасьлядоўна, ад разважаньняў пра сьмерць і час я пераходжу да сваёй гісторыі, гісторыі таксама пра час, пра майго дзеда ды пра сьвятога Міколу. Ці будзе ў ёй фурманка, вырашайце самі.

* * *

Старому дзеду Міколу вельмі цяжка размаўляць. Часам ён можа нешта папрасіць шэптам, але часьцей з горла вырываецца толькі няўцямны хрып. У яго рак.

У апошні месяц перад апэрацыяй яму нібыта робіцца лепш: здаецца, голас зноў вяртаецца да старога. Голас слабы, ды ўсё ж дзед можа расказаць родным самае галоўнае — тое, што вярэдзіць душу. Але хатнія цяпер толькі засмучана ківаюць на ягоныя словы. Ці то стаміліся слухаць дзедаву гісторыю пра Юрка і старую фурманку. Ці то баяцца верыць, што стары траціць розум...

Альбо, як баба Тэкля, чуюць ў ягоных словах нешта вусьцішнае...

А дзед шторанку ўглядаецца ў мост над Мухаўцом. Ён бачыць, як на мост падымаецца Юрко — малады белы-белы конь, якога гадоў шэсьцьдзесят таму ён сам і даглядаў... Шторанку Юрко цягне старую фурманку на мост, а на той фурманцы сядзіць чалавек з доўгімі белымі вусамі. На ім цёмная апранаха... Так нам апісвае яго дзядуля, хаця мы нічога і нікога на тым мосьце ня бачылі.

Далей дзедава гісторыя-трызьненьне пераходзіць у самы сапраўдны апокрыф: ён пазнае ў тым, хто кіруе лейцамі, сьвятога Міколу і дужа



яму радуецца. «Хутка, яшчэ да маіх імянінаў, — кажа дзядуля, — ён даедзе да нашага двара, каб...» Вось так, кволым дзедавым голасам, уводзіцца ў мае ўспаміны таямнічая гісторыя пра фурманку сьвятога Міколы, але адразу ж яна й абрываецца: «Ня зьлі Бога, Мікола, — стомлена штораз перабівала яго нагружаная бабуля. — Не чапай сьвятога... Хай сабе едзе...»

Пішу гэта і паглядаю час ад часу на ікону сьвятога Міколы. Ікона заўжды — з таго часу, як я сама сябе памятаю, — вісела ў нашай машыне. Можа, хтосьці і ўбачыць у выразе твару сьвятога суворасьць, але ж для нас з братам (як і для ўсіх нашых дзядзькоў і цётак, бабуль і дзядуль — для ўсіх, каго я пытала) ён быў і застанецца добрым сівабародым дзядулем, самым доўгачаканым, які немінуча штогод прыносіць Мікалайчыкі дзевятнаццатага сьнежня.

Летась перад апэрацыяй дзядуля таксама чакаў Мікалайчыка. Але ўжо паіншаму, так, як чакаюць апошняй, разьвітальнай сустрэчы...

«Не чапай сьвятога... Хай сабе едзе...» На гэта дзед пакрэхтвае нешта, нібы пакрыўджаны, хутаецца ў зімовую куртку ды, шаркаючы па замерзлых прыступках, выходзіць на двор. Ён любіў, яшчэ здаровым, сядзець на ўслончыку ля пад'езду і слухаць рыпеньне тралейбусаў, што даносілася з Маскоўскай. А цяпер, калі моцна захварэў, ён гэтым «ратуецца»: у рыпеньні дзед адчувае і мернасьць, да якой прызвычаіўся за такое доўгае фурмана ўскае жыцьцё, і рух, якога так бракуе хвораму.

Чым бліжэй падыходзіць час апэрацыі, тым часьцей на сваіх шпацырах ён збоч- вае да набярэжнай. Адтуль, ля помніка Шаўчэнку, ён

сіліцца нешта разгледзець на мосьце. Ды марна. Часам ён набліжаецца да самай рэчкі. І тады ў яго пачынае балець галава, падымаецца ціск... Ён дужа хвалюецца.

Кожны свой дзень да хваробы ён пачына ў песьняй... «Рэчанька» стала яму малітвай. Яму было блага — ён шукаў у ёй паратунку... Цяпер, увесь сасьмяглы па гуках, ён зноў хоча яе засьпяваць і ня можа. За гэтыя два гады, калі ён мусіў збольшага маўчаць ды часам размаўляць нейкім невыразным клякатаньнем-шэптам, ён забыў мэлёдыю. Дзед сіліцца прасьпяваць яе хаця б у думках, хаця б першыя радкі, ды нічога не выходзіць.

Цяпер разумею, як гэта страшна — ня мець голасу. Ня выкажаш, ня выкрычыш, ня высьпеваеш ані болю, ані крыўды. Кажуць, што быкам перад карыдаю выразаюць галасавыя зьвязкі, каб давесьці іх амаль да шаленства. І тады застаецца толькі бег, скачок, шум ветру, адчайны рывок на волю... А калі разам з голасам чэзьне й «бег»? Калі сыходзіць Юрко, спыняюцца колы фурманкі? Старасьць, хвароба, за што чапляцца?

Вольнаму воля — найвялікшае шчасьце... Нават вецер не дагоніць каня... На думку старой бабы Тэклі, дзед марне ў з кожным днём. Спачатку было трызьненьне пра фурманку, а пазьней зьявілася яшчэ адна праблема — сіні флямастэр. Тата прывёз яго зь Нямеччыны, для мяне ў школу. Стары ж, амаль гістэрычна, не дае нікому карыстацца флямастэрам, хавае дзесьці ў сваіх кішэнях ды ўсё перажывае, што лінія, якую ён выводзіць, з кожным днём робіцца танчэйшай.

Ён ведае, што хутка яго пакладуць у шпіталь, каб падрыхтаваць да апэрацыі, і вельмі непакоіцца спачатку, што сын зьехаў у камандзіроўку, аж у Нямеччыну, пад самы Гамбург. Як што, дык і вярнуцца можа не пасьпець. А сын, таксама Мікола, і таксама фурман-дальнабойш- чык, мусіў прыехаць... покуль ня зьнікла фарба канчаткова. Мусіў пасьпець да імянінаў, на чаканыя Мікалайчыкі...

У апошні дзень, перад тым як ехаць у шпіталь, дзед адчувае, што ён вось-вось зловіць мэлёдыю. Ён сядае на ўслончык пад помнікам і на маленькім аркушыку аўтаматычна выводзіць ледзьве бачныя лініі блякла-сінім флямастэрам. Выходзяць колы, лейцы... Юрко, фурманка. І вось ён ужо чуе...

Можа, падасца дзіўным, што я вось так проста выкладаю тут дзедавы думкі. Скуль жа мне іх ведаць?.. Гэта ж не мая, а ягоная дарога... Ня можа ўнучка паглыбіцца ў пачуцьці старога перад сьмерцю.

Але ж я ўжо пісала пра сямейны архетып дарогі, які адкрываў пад новым вуглом карціну жыцьця і сьмерці. Тут справа даходзіць да іншага адчуваньня часу і прасторы... Такое пераходзіць ад дзеда да таты, ад таты да мяне — не праз словы, канечне, а празь мернае рыпеньне тых жа колаў. Ніколі не застаесься ў цёплай хаце, але аднойчы выпраўляесься ў дарогу і ўсё жыцьцё вяртаесься дадому... Галоўнае — зрабіць гэта прыгожа...

У дзядулі, я была пэўная, быў густ... І вяртацца дадому ён мусіў гэтак жа выкшталцона, як і ехаў усё сваё жыцьцё. Прыгожа. З канём — дык з самым жвавым, белым Юркам. Апакрыфічна — дык толькі зь сямейным заступнікам сьвятым Міколам, добрым дядзькам зь сівымі вусамі, які ніколі не забываўся прыносіць Мікалайчыкі.

Дык вось, у той свой апошні дзень дзядуля, вядома, чуе, як рыпяць колы. Як Юрко цокае капытамі па замерзлай лясной дарозе на Лышчыцы...

...На свае імяніны ён перавозіць жыдоў праз мяжу, у старой фурманцы пад рызьзём ды ўгнаеньнем. Іх сем'і разьбілі — бацькоў адправілі пад Берасьце, а дзяцей пакінулі ў лягеры пад Высокім. Надта шкада іх было, і ён, фурман з Уладычыцаў, бярэцца іх везьці... Ён толькі сабраўся выварочваць зь лясной дарогі ў поле, як нехта ззаду шэптам загадвае яму спыніцца. Дзед ледзьве пасьпявае пацягнуць за лейцы, каб у час спыніць каня: з-за кустоў відаць, як нямецкая машына праехала па шашы над самым полем.

...Жыды ўсё яшчэ сядзелі ў сваіх схованках. Гэта не яны папярэдзілі. Здаецца, гэта мог быць толькі заступнік Мікола, гэта і быў ягоны Мікалайчык на тыя імяніны. З таго часу дзед заўжды з сабою ў дарогу бярэ ікону сьвятога.

Або ён, у той свой апошні вечар, чуе, як Юрко вязе яго па дарозе на Выстычы, да брата, а малы сын Міколка, зарумзаны, плача каля хаты, што яго з сабою зноў (нават на Міколу!) не ўзялі ў падарожжа... Пакінулі даглядаць нэндзу-Хрыстынку... А яму абрыдла. Ён ужо адчуваў подых вольнага ветру... Яму сьвярбела паехаць, і нават у маленькіх вочках сьвяціўся адбітак кола...

Фурманы-фурманы, малыя ды вялікія, кола ў вас ніхто не забярэ — ні час, ні адлегласьць. Яны ж самі і схаваныя ў коле... Само жыцьцё ваша, як кола, — коціцца ад Міколы да Міколы. Нікуды не сьпяшаецца, бо вы па-за часам...

Можа, таямніца Кола і дапамагала змардаванаму хваробай дзеду перад вяртаньнем...



***

На наступны дзень, дзевятнаццатага сьнежня, апэрацыю дзеду так і ня сталі рабіць. У яго пачаліся мэтастазы...

Яго адвезьлі дадому, дзе было неяк сьветла і ціха-ціха. Толькі зрэдку мерна рыпелі тралейбусы.

Ён памірае? Не, калі ласка, не ўжывайце гэтага жахлівага слова. Тут, у Міжрэччы, яно нічога ня значыць... Што Вы, ён проста прыгожа вяртаецца. Сэрца спынілася, як кажуць дактары, яшчэ ранкам, у шпіталі... Ды мусіла ж яшчэ быць фурманка, «Рэчанька» і сьвяты Мікола...

Каб завяршыць ягонае падарожжа, мне застаецца дамаляваць толькі некалькі апошніх рысаў. І я не магу ня спраўдзіць гэта хаця б на паперы: ён мусіць, хаця б у гэтым тэксьце, дажыць свае апошнія імяніны, сустрэць сваю фурманку, покуль не зачынілася брама за сьвятым Міколам, які перавозіць усіх дадому...

Што ж яму застаецца зрабіць? Што б ён зрабіў?

Ён праверыў бы флямастэр — правёў лінію па тым жа аркушыку, дзе ўжо намалява ў фурманку. Лініі амаль не было б відаць.

«Падарунак ад сьвятога на імяніны — яшчэ адзін дзень. Каб я пасьпеў убачыць сына...» Не-не-не! Памыляецеся — ён такога б ніколі не сказаў (дый гаварыць ён ужо ня мог). «Пасьпеў?» Ён ніколі не турбаваўся пра час — гэта сьмешна... Што ты можаш пасьпець, калі ты па-за часам. Калі ты, твае продкі і твае наш чадкі заўжды ў дарозе.

Дзед бы той апошні вечар не марнаваў на такія думкі. Яму б захацелася прайсьціся, зноў да мосту, зь якога ён так доўга ўжо чакаў свайго Юрка.

Ужо б сьцямнела, пад ліхтарняй над Мухаўцом стаяў бы белы конь і фурманка, а з фурманкі яму памахаў бы сьвяты Мікола, добры дзядзька з доўгімі белымі вусамі.

Надышоў бы час разьвітвацца. З сынам? Але сына ў той вечар не было б поба ч. Ён быў яшчэ ў дарозе (тады ён, мой тата, і даслаў мне бездапаможнае SMS з-пад Гамбургу: «Невядома калі... усё міма...»).

Ды дзед усё роўна адчуваў бы яго поба ч. Што для яго цяпер (тады...) час і адлегласьць? Фурманы вучацца па-іншаму адчуваць іх... Дарога, рух, рэчка... Ты ў часе амаль не застаесься — усё прабягае паўз цябе. Усё міма... і невядома, ніколі не вядома, калі ж ты нарэшце будзеш дома. Зрэшты, ты ж ніколі ня-дома і не бываеш. Ты заўжды ў дарозе... У дарозе дадому.

Я б чакала іх абодвух — двух Мікалаяў, глядзела б на мост цераз вакно, ды — хто яго ведае адкуль — зьявілася б мэлёдыя... Усю гэтую непатрэбную цішыню, нацятасьць ваўчынага месяца я б засьпявала.

Мо так і лепей. Дзеду толькі падасца, што нехта побач сьпявае «Рэчаньку»... Трэба будзе ісьці, прывітаць нарэшце Юрка й сьвятога Міколу, які на сваёй фурманцы адвязе дзеда дадому. Дзевятнаццатага сьнежня Мікола заўжды робіць цуд...

І больш ніхто ня ўбачыць гэтага. Толькі я. Я зьлёгку штурхану дзеда ў левае плячо, як гэта ўжо шмат год (стагодзьдзе? стагодзьдзі?) рабілі ў нашай сям'і — страсалі ўсё цяжкое й нячыстае зь левага плечука таго, хто адпраўляўся ў дарогу... І з акна я буду бачыць тое ж, што і ўсе астатнія, — тую ж халодную рэчку, тую ж засьнежаную шэрую набярэжную, чуць тое ж рыпеньне тралейбусаў... Усё тое ж, толькі яшчэ й фурманку, якую цягне ўздоўж рэчкі белы конь... Пакрыху ад'яжджае, рыпяць старыя колы... Дзядуля нібы сам увесь распусьціўся ў гэтым мерным гуку, у гэтым руху. Я заплюшчу вочы, і ў зрэнках ўсё яшчэ будзе круціцца тое кола.

Я буду ведаць, што і да мяне прыедзе фурманка. Калі-небудзь. Абавязкова. Але перад гэтым далёкім Мікалайчыкам будуць яшчэ ляжаць дарогі. Дарогі, па якіх я ўжо другую гадзіну еду разам з братам... Ды гэта ўжо іншая гісторыя.

Не забягайма наперад. А покуль адчынім фортку і паслухаем, як сьвішча вецер.

Кожнае доўгае падарожжа пачынаецца з вольнага ветру...

*Надрукавана ў НН № 48 у 2005 годзе*